# ПОЛЫМЯ

КНІГА АДЗІНАЦЦАТАЯ І ДВАНАЦЦАТАЯ

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПАЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
1931
БЕЛАРУСІ

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕСЯТЫ



## ЛІСТАПАД—СЬНЕЖАНЬ
## 1931

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ
МЕНСК 1931

Выключнае права пастаноўкі належыць Другому Беларускаму Дзяржаўнаму Тэатру.
22-XI 1931 г.

# „ВАЙНА ДА ПАБЕДНАГА КАНЦА“ *)

*Драма ў 5 актах*

**Якуб Колас**

## АКТ ПЕРШЫ

## Мобілізацыя

Прымаюць удзел:

1. Дзед Мікіта, селянін гадоў пад 60.
2. Бабка Тацьяна, яго жонка.
3. Сямёнаўскі Міхась, сын дзеда Мікіты, 30 гадоў.
4. Алесь, меншы сын дзеда Мікіты, 25 гадоў, вясковы настаўнік, прыехаў на лета да бацькоў.
5. Наста, жонка Сямёнаўскага.
6. Гараська, унук дзеда Мікіты, Міхасяў сын.
7. Цётка Тацьяна, сястра дзеда Мікіты.
8. Аслаў, сусед і прыяцель дзеда Мікіты, заіка, любіць падзівачыць.
9. Марына, гадоў 19. Тутэйшая настаўніца.
10. Думака Патап, 25 гадоў. Шахцёр, прыехаў на пабыўку.
11. Дзяменя Дзямян, бабыль, парабак, 25 гадоў. — Запасныя.
12. Дроб Паўлюк. — Запасныя.
13. Андрэй Гузыр. — Запасныя.
14. Стараста, відны селянін, гадоў 40. — Запасныя.
15. Тэкля, вясковая кабета.
16. Каралiна, дурная валачашчая жанчына.
17. Поп, сярэдніх гадоў.
18. Шышла, старшы паліцэйскі стражнік.
19. Памочнік пісара.
20. Дзесяцкія.

Дзея адбываецца ў вёсцы. Сярэдзіна лета. Вясковая вуліца. Адным канцом упіраецца ў пяшчаны бераг рэчкі. На беразе дзе-ні-дзе стаяць нахіленыя вербы. Недалёка ад рэчкі стаіць хата дзеда Мікіты. Два акны выходзяць на вуліцу. У адчыненым акне відаць галава дзеда Мікіты. Насупроць, каля сваёй хаты, стаіць Аслаў, злажыўшы рукі ў рукавы пільчака, пыхкае люлечкаю. На вуліцы паказваецца Тэкля з сярпом, перавязаным анучкаю і са збаночкам на восілачцы ў руках. Ідзе борзда, сьпяшаецца. Аслаў расстаўляе рукі, як-бы хоча злавіць яе, загароджвае ёй дарогу.

*) Драма „Вайна да пабеднага канца“ пачата ў 1926 г. Тады быў напісан першы акт „Мобілізацыя“ і зьмешчан у № 2 „Полымя“ за 1927 г. Для паўнаты драмы аўтар знаходзіць патрэбным уключыць сюды і першы акт, перагледжаны і дапоўнены ўводам новых персанажаў. Астатнія чатыры акты былі напісаны ў кастрычніку і лістападзе месяцах гэтага 1931 г.

Аслаў (*расставіўшы рукі, заікаючыся*). І-і-і ня ппушчу. (*Тэкля кідаецца ў другі бок, каб абыйсьці Аслава. Аслаў зноў пераймае*). Сказаў ння ппушчу, і ня ппушчу!

Тэкля (*ня прымаючы жартаў*). Ах, адстань! няма калі жартаваць.

Аслаў. Не, ня ппушчу!.. Ччаму ты не сказала мне „дздзень ддобры".

Тэкля. Да адвяжыся-ж ты, слата! Стары чалавек, а робіць чорт ведае што!

Аслаў. Вось-жа і не адвяжуся! Чаму нне сказала дзень добры?

Тэкля. Ну, дзень добры! няхай ты не дажджы!

Аслаў (*не апускваючы рук*). А-а-а цяпер ужо позна! Сскажы куды ідзеш? (*Тэкля злосна плюе, парываецца ў другі бок. Аслаў загароджвае дарогу*). Б-б-рэшаш, Тэкля: і ння пушчу!

Тэкля (*злосна*). А бадай табе, Аслаўка, вочы загарадзіла, як загарадзіў ты мне дарогу! Вось вар'ят чалавек, зусім ужо зьдзяцінеў.

Аслаў. Скажы, куды ідзеш, тады пушчу.

Тэкля. Аслаўка, родненькі, пусьці-ж ты мяне: не да жартаў мне— жыта асыпаецца на полі! І так выбралася позна.

Аслаў (*апускае рукі*). Ччаму-ж ты адразу так не казала? А то і сабе час зводзіць і ад мяне адбірае... Ну, ідзі сабе! (*Тэкля борзда ідзе далей*).

Дзед Мікіта (*са сьмехам наглядаючы ўсё гэта*). Ха-ха-ха! Чуй, дурань-браце: стары ўжо ты чалавек, а ўсё дзівацтва ня кідаеш. Жанчына ледзь з скуры ня выскачыць, на поле бяжыць, а ён запыняе, пытае, куды ідзе.

Аслаў. А хто-ж іх і розуму навучыць, калі ня я?.. Ты, вось, глядзі, Мікіта: замест таго, каб ісьці проста і зразу казаць, куды ідзе, яна пачынае блутацца, перашкоды абмінуць хоча.

Дзед Мікіта. Да як-жа ёй, чуй, дурань-браце, і не абмінаць, калі на дарозе вось такі пень стаіць?

Аслаў. А ты ўмей цераз пень пераскочыць латвей... Вось так і ўсе мы блукаемся, як сьляпыя ў лесе, і ўсё мінаем перашкоды, а яны ўсё стаяць на нашай дарозе, і чуць бяда—мы галавы губляем.

Дзед Мікіта. А кепскі з цябе, чуй, дурань-браце, настаўнік: вучыш ты нас, вучыш, а мы штось не разумнеем. Як жылі ў бядзе і нэндзы вахлакамі, так і жывём.

Падходзіць Думака, адзеты па гарадзкому, з граблямі на плячах. Запыняецца, слухае.

Аслаў. Бо я адзін, а дурняў—як пяску на беразе унь тае рэчкі.

Патап. Дзень добры, дзядзькі!

Дзед Мікіта і Аслаў. Дзень добры, Патап, дзень добры!

Патап (*да Аслава*). Дык, дзядзька, усё вучыш?

Аслаў. А і вучу!

Патап. Дык скажы-ж мне, дзядзька Аслаў: чаму гэта ёсьць мужыкі і ёсьць рабочыя, вось, скажам, я, шахцёр? Чаму адны працуюць, а

жывуць, як кажа дзядзька Мікіта, у бядзе і нэндзы? Другія-ж нічога ня робяць і жывуць у раскошы? Нашто поп і паліцэйскі стражнік?

Дзед Мікіта (*да Аслава*). Ну, чуй, дурань-браце, растлумач!

Аслаў (*вымае з зубоў пілку, павольна, разважліва круціць галавою, падымае ўгору палец разам з піпкаю*). Мудра запытаў, мудра! Ня быў-бы то Думака!

Дзед Мікіта. А што, Аслаў, чуй, дурань-браце, папаўся!

Аслаў. Падумаць трэба, сынку, глуздом паварушыць!

Патап. Падумай, дзядзька, падумай! Ды толькі не кажы, што гэта я пытаў. (*Ідзе далей*).

Аслаў (*да дзеда Мікіты*). Запытаў, злодзей, моцна запытаў! (*З глыбі сяла даносіцца дзылінканьне званка. Дзед Мікіта паварочвае галоў, слухае*).

Дзед Мікіта (*у голасе непакой*). А што гэта, чуй, дурань-браце, за званок там? З воласьці едуць ці што?

Аслаў. А мабыць ужо нейкае ліха вязуць, няхай яны зубамі звоняць! (*Разважае*). Гм! навошта поп і паліцэйскі стражнік? Як на добры лад, то яны і непатрэбны.

На вуліцы замецен рух. Замітусіліся дзеці. З іх чародкі аддзяляецца ўнук дзеда Мікіты, Гараська. Бяжыць узбуджаны, устрывожаны.

Гараська (*запыхаўшыся*). Прыехаў нейкі пан ды на пары коні, са званком! Старасты шукае. Дзе, кажа, стараста? Дзе стараста? Знайсьці яго хутчэй. (*Зноў бяжыць назад*).

Дзед Мікіта. Хіба пайсьці, чуй, дурань-браце, паглядзець? (*Зачыняе акно, выходзіць на вуліцу, Аслаў стаіць у позе глыбока задумлёнага чалавека*).

Аслаў (*сам з сабою*). Навошта поп і паліцэйскі стражнік? Вось, бэстыя, куды загнуў!

Рух на вуліцы павялічваецца. Паказваюцца адзінокія фігуры. Дзесь за сцэнаю крык: „бяжы на поле, гані на сход людзей!“

Дзед Мікіта (*затрывожаны*). Навошта сход?.. Чуй, дурань-браце: хадзем туды!

Аслаў. Гэ, Мікіта: калі што добрае, таго мы не па бачым, не пачуем і не панюхаем. А ліха знойдзе нас само.

Шум за сцэнаю павялічваецца. Выразна чуецца крык: „Сымон! Дзесяцкі Сымон Бадыль! Бяжы на званіцу, звані ў пажарны звон!“

Дзед Мікіта і Аслаў (*разам*). Пажарны звон!.. Вось ліха! (*Паварочваюцца адзін да аднаго сьпінамі, пазіраюць кожны на свой будынак, потым глядзяць на сяло*).

Дзед Мікіта. Нічога ня відаць!

Аслаў. Ні дыму, ні агню!

Дзед Мікіта. Чуй, дурань-браце: тут штось ня так! Склікаць народ пажарным звонам?!

Аслаў *(ускідае плячамі)*. Ня іначай, як трэба нам пайсьці туды бліжэй.

Зьбіраюцца ісьці, але іх увагу затрымлівае кабета ў лахманох з клумкам за плячыма, з доўгім кіем у руках.

Дзед Мікіта (*паказваючы на кабету*). А гэта хто?

Аслаў. Ды гэта-ж Караліна.

Дзед Мікіта (*у зьдзіўленьні*). Жыве яшчэ яна?.. Тфу, згінь ты, прападзі! Ніколі на дабро ня прыдзе гэта ведзьма!

Караліна (*ідзе павольна, азіраецца па бакох. Сьпявае няпрыемным, скрыпучым голасам*).

Эх, з-пад Слуцка ды з-за Клецка
Едзе дружба маладзецка...

(*Падыходзіць да дзеда Мікіты*). Дзень добры вам, мужчынкі. Сьмерць вам нізка кланяецца. Даўно, кажа, чакаю іх у госьці!

Дзед Мікіта (*у злосьці махае рукою*). Ідзі, ідзі. Чуй, дурань-баба! Ідзі, куды ідзеш!

Караліна. Які-ж ты фанабэрысты! А-я-яй! (*Праходзіць далей*).

Чуваць звон, глухі, надтрэснуты. Голас яго дужа нагадвае словы: „Гвалт, гвалт“.

Дзед Мікіта (*перапалоханы*). О божа, твая воля! Што-ж гэта ёсьць такога? У звон пажарны зазванілі! Даўно яго ня чулі мае вушы!. Тут нешта ёсьць, тут нешта ёсьць, суседзе мой Аслаў!

Аслаў (*твар яго раптам мяняецца*). А ведаеш, Мікіта: напэўна лес княжыцкі гарыць!

Дзед Мікіта. О, даў-бы гэта бог! Каб толькі таго ліха. Абы ня нас яно кранула, чуй, дурань-браце! (*Шум, трывога нарастаюць. Зьбяраецца народ, устрывожаны, ніхто нічога ня ведае. Зноў як мага бяжыць Гараська*).

Гараська. Вайна, дзядок, вайна!.. Прыехалі гнаць на вайну! Усіх! Усіх!

Дзед Мікіта (*прысядае*). Дзе вайна?

Аслаў. Вайна? (*выбягаюць на сярэдзіну вуліцы, пазіраюць за рэчку*).

Гараська. Вайна, дальбог, дзядок, вайна!.. Сам пісар з воласьці прывёз такі загад ад цара! І пад званком прыехаў!

За сцэнаю голас старасты: „На сход, на сход! Увесь запас гані на сход! Зьбірацца каля хаты дзеда Мікіты“. Сходзяцца мужчыны, жанкі, дзеці. Усе перапалоханы, растрывожаны. Каля хаты дзеда Мікіты зьбіраецца натоўп. З натоўпу відаць папова галава ў капялюшы. Праз натоўп праціскаецца стараста, за ім памоцнік пісара, адзеты на гарадзкі манер, паліцэйскі стражнік Шышла і дзесяцкія з палкамі. Памочнік пісара ўзлазіць на калодку. Народ замаўкае. Паказваецца Караліна.

Караліна. Ха-ха-ха! Кажуць бо пажар! А тут няма ніякага пажару. Пакідалі на полі работу і выдумалі нейкае вясельле спраўляць... Вось дурныя, а бадай!.. (*Караліну штурхаюць*).

Галасы. Ціха ты, шалёная!

Памочнік пісара (*выраз твару важны. Акідае поглядам народ. Колькі моманту захоўвае маўчаньне*). Слухайце! (*Вымае паперу, чытае адрывіста, націскаючы на кожнае слова*), Высочайшее повеление о мобилизации...

Шышла (*крычыць ва ўсё горла*). Шапкі далоў! Імпэратарскі ўказ, да, собственна-да! (*Мужчыны зьнімаюць шапкі*).

Памочнік пісара (*чытае*). Государь император, повелеть соизволил привести армию и флот на военное положение. Первым днем мобилизации назначено 12 часов ночи на 17-е июля.

Во исполнение высочайшего повеления о приведении армии и флота на военное положение:

1. Нижним чинам запаса с увольнительными билетами, а неимеющим таковых с видом на жительство или удостоверениями о личности явиться на сборный пункт уездного воинского начальника в г. Минске на другой день мобилизации в 6 часов утра.

2. Все учреждения и лица, у которых запасные служат, обязаны немедленно выдать увольнительные билеты, если таковые находятся у нанимателей (*паўза*).

Бабка Тацьяна (*ціха да жанок*). А што-ж гэта ён, мае любачкі, вычытвае? Якая-ж гэта аблізацыя?

Тэкля (*уздыхае*). А ліха яе ведае. Век жылі, ня чулі.

Памочнік пісара. Дык так, значыцца, мобілізацыя, скліканьне на вайну. Увесь запас, значыцца, да 40 гадоў павінен ісьці ваяваць.

Шышла (*капорыста*). Зьбірацца зараз-жа, цяпер, безадкладна, да, собственна-да!

Памочнік пісара. Запасным зьбірацца ў воласьці, адтуль на машыну і на зборны пункт, а там—куды пашле начальства.

Шышла (*пацьвярджае*). Да, собственна-да! Палажэньне ня церпіць!

Памочнік пісара і Шышла выціскаюцца з натоўпу. Некалькі момантаў магільная цішыня. Народ прыдушаны грозною весткаю, яшчэ не разабраўшыся ў ёй, пераглядаецца. Месца памочніка пісара займае староста.

Стараста. Вы чулі, грамада, якая навала насоўваецца на народ. Усенародна абвешчана зьбірацца на вайну. Вы чулі, што казаў мне памочнік пісара і чым ён пагражаў, калі запасныя не зьбяруцца ў тэрмін. Дык вось, браткі запасныя, зьбірайцеся хутчэй, бо сёньня-ж усе мусіце быць у воласьці. Дык помніце гэта і помніце, што вайна— ня жарты. Спыняй работу ў полі, кідай гаспадарку, дом і жонку і дзяцей, бацькоў,—усё кідай!

Сямёнаўскі Міхась (*стараецца стрымаць сябе, спакойна*). Вайна... Ну што-ж? ваяваць, дык ваяваць, але каб ад гэтай вайны ня было часам горача ці холадна каму.

Голас з натоўпу. А з кім вайна? Завошта? З якім там чортам ваяваць?

Стараста (*па-начальніцку*). Ня наша дзела разважаць, з кім ды за што, бо гэта разважаньне можа скончыцца вельмі дрэнна!

Наста (*занепакоеная, падбягае да Міхася*). Міхаська, міленькі! І цябе пагоняць на вайну?

Сямёнаўскі. А што-ж? У зубы паглядзяць мне? Ня вышлі яшчэ мае гады, далёка да 40.

Бабка Тацьяна (*галосіць*). А мае-ж вы сыночкі! А мае-ж вы саколікі! А нашто-ж я вас гадавала? А нашто-ж я вас аглядала? На каго-ж вы нас пакідаеце?

Дзед Мікіта. Ціха ты, чуй, дурань-браце! Разгаласілася! Памогуць тут твае прычытаньні, як кашаль у хваробе. (*Загаласілі і другія жанкі: „А божа-ж мой, божа! Ды куды-ж вас гоняць? Ды куды-ж вас забіраюць?" Шум, нічога ня чуваць*).

Стараста. Сьціхніце! ціха! бацюшка сказаць штось хоча!

Поп (*праціскаецца на віднае месца, становіцца на прызбу дзеда Мікіты*). Браціе і сёстры! Вялік гасподзь у гневе справядлівым, і міласьці яго несьць меры і канца. Ня зьведаны гасподнія пуціны, і ня відна нам яго караючая дзясьніца, ня ведаем бо мы, скуль вецер паўстае і дзе запыніцца дыханьне яго ходу. Будзьце-ж цьвёрды, надзейцеся на міласьць божжу, памятаючы, што і ў кары сваёй—вайна-ж ёсьць біч той кары—яўляе нам гасподзь сваю міласьць, бо не да канца прагневаўся на нас і не адхіліў яшчэ ад нас ён свайго твару.

Хто меч падняў—і згіне ад мяча!

Так, браціе, даўно зьбіралася над намі навальніца, і грымнуў першы яе гром. Вайна ўжо пачалася, ужо льецца кроў славянскіх сэрбаў. Наш міласьцівы цар зрабіў усё, што можна зрабіць, каб адхіліць вайну. Ды гордасьць засьляпіла вочы аўстрыяку: у пыхлівасьці сваёй занёс ён меч над блізкім нам па духу і крыві народам сэрбскім. Але заступіўся з божай ласкі цар за нашых меншых брацьцяў, як заступаліся за іх яго дзяржаўныя ўсе продкі. Але нямецкі цар, Вільгельм, затрэбаваў ад нашага цара, каб не даваў ён помачы славянскаму народу, каб не рабіў ён перашкоды зьнішчыць сэрбскую дзяржаву, бо цар нямецкі—саюзьнік аўстрыяку. Нямецкае войска зьбіраецца на нашай граніцы, і ў кожны міг агонь вайны гатоў закінуцца і ў нашу дзяржаву. І вось, браціе, і выбраў вас гасподзь, як зброю свае кары над пагардлівымі адступнікамі яго прамудрай волі. Высока-ж узьнімеце яго караючую дзясьніцу! Пыхлівы, горды быў і цар Навуханадоносар, але сьмірыў яго гасподзь, у зьвера абярнуў яго, і сем гадоў карміўся ён травою і бегаў па лясох.

З малітваю, з надзеяю сьвятою ідзеце вы на суд гасподзень, бо хто вялік, як ён, наш бог? Памолімся, браціе! (*Падымае вочы на неба*). Ты ёсьць наш бог і творыш ты дзівоты! Яві ты міласьць абранаму табою памазаньніку твайму. Маланкаю і громам паразі яго адступнікаў і

супастатаў. Прыхілі вуха да праваслаўнага твайго народу... Разумейце ўсе языцы і пакарайцеся, яко з намі бог!

Жанкі (*плачуць*). Ох, божа наш, божа!

Патап Думака (*ціха*). Ведаем мы, скуль паўстаюць гэтыя твае вятры—з гандлярскіх кішэнь і мяшкоў.

Алесь (*у тон Патапу*). Так, лёгка табе падымаць чужыя дзясьніцы кары, а ты папрабаваў-бы падняць яе сам.

Голас з натоўпу. Пацягаў-бы салдацкую лямку ды паставіў-бы сваю валасатую галаву пад кулі—ня тое засьпяваў-бы.

Другі голас. Дзясьніца кары! А сам нябось па беразе будзе паходжываць ды рыбу вудзіць.

Аслаў. А можна, бацюшка, запытаць вас?

Поп. Ну, што?

Аслаў (*вымае з зубою люльку*). А як-жа бацюшка, вось гэта пагадзіць: любеце ворагаў сваіх, благаслаўляйце тых, хто вас ненавідзіць, адплачвайце дабром за зробленае зло?

Поп (*пазірае на Аслава, з дакорамківае галавою*). Аслаў, Аслаў! Ты мала ў цэркаў ходзіш, злы дух спакусьнік заблытаў табе розум!.. Сказаў гасподзь: „Несьць болей той любові, ашчэ хто жывот паложыць за другі свая“.

Аслаў (*паціскае плячыма*). Дык, значыцца, у бога сем пятніц на тыдні: трэба табе біць—бі. Любіць зажадалася—любі,—усё будзе пабожаму?

Поп. Богахульнік! Што ты сказаў? Ня будзе адпушчэньня твайму граху. Пекла—там тваё месца! (*Выходзіць у абурэньні*).

Аслаў (*у дагонку*). Ня будзе,—і ня трэба... А ты вось што мне скажы: навошта поп і паліцэйскі стражнік? (*Поп ідзе, не абарочваецца*).

Стараста. Хлопцы, хлопчыкі. Ня зводзіць часу—зьбірайцеся хутчэй!

Народ расходзіцца. Чуюцца галасы: „Вось і дачакаліся ліха“. „Эх-хэ-хэ! прышла пагібель на народ!“ „Андрэй! Дзямян! зьбірайцеся—разам пойдзем“. Шум, галасы, аддаляюцца, заціхаюць. Міхась, Наста і дзед Мікіта ідуць у хату. З імі ціха плачучы ідуць бабка Тацьяна і цётка Тацьяна. Астаюцца Марына і Алесь.

Алесь (*журботна*). Вось як яно выходзіць, Марынка. Усе мае пляны і нашы мары разьляцеліся, як дым. І навука і сумесная работа ў школе,—усё пашло прахам.

Марына (*апусьціла галаву, перабірае пальцамі шарфік. Падымае вочы на Алеся*). І ты зараз пойдзеш!.. Прыдзе вечар, і цябе ўжо тут ня будзе!.. І ніколі-ж ня думалі мы, што прыдзецца нам разлучыцца.

Алесь. Разлучыцца надоўга і можа быць... назаўсёды.

Марына. Кінь, Алесь, гэтыя думкі!.. Не гавары гэтага! Можа ты і зусім ня пойдзеш на вайну... Да ты-ж і ў войску ня служыў. Няўжо-ж цябе, неабучанага, пашлюць на вайну?

Алесь. Навукі вялікай тут і ня трэба: памуштруюць месяц—і салдат. І што, Марынка, цяжка мне—нявольнік я цяпер: не чалавек, а пранумарованая рэч, пешка ў жорсткай руцэ вайны.

Марына (*з болем*). О божа, якая недарэчнасьць, якая дзіч—вайна! І людзі, культурныя людзі XX сталецьця, ня могуць знайсьці іншага спосабу, апроч вайны, каб разыйсьціся мірна!

Алесь. Калі-б на вайну, пад першыя кулі, ішлі тыя, хто вайну ўзьнімае і гоніць людзкое стада на сьмерць і вынішчэньне, то можа вайны і ня было-б... Эх, вайна, вайна Марынка... Хто вернецца з яе, а калі вернецца, то як?

Марына (*хватае Алеся за руку*). Не гавары ты гэтак! Толькі вярніся! Вярніся, Алеська, мілы мой!

Алесь (*паволі, як-бы выпрабоўваючы Марыну*). А калі вярнуся я... калекаю... бяз рук або бяз ног?

Марына (*узрушана*). Не гавары так!.. Не гавары. Я не хачу. (*З двара дзеда Мікіты голас Міхася: Алесь! Алесь!*)

Алесь. Клічуць!.. Рвуцца апошнія зьвеньні!.. Марынка, будзеш мяне помніць?

Марына (*горача*). Кожны час, кожны момант! (*Кладзе галаву на плячо Алесю*).

Голас Міхася. Алесь! Дзе ты? Хадзі, брат.

Алесь. Ну, Марыначка, любая мая, прашчай! (*Падае руку, цалуе*). Марына! каб не забыць... літаратуру забяры к сабе... Бацька табе аддасьць. Няхай будзе ў цябе. Калі можна будзе, рассунь патроху. Работы не закідай.

Марына. Шануйся-ж ты, Алеська!.. Да ты вернешся, мой любы! Бывай-жа шчасьлівы і здаровы. (*Прынікае на міг да яго, цалуе*). Пішы-ж мне, пішы, чым найчасьцей (*Бяжыць і зьнікае*).

Алесь (*засмучаны, праводзіць яе вачамі*). Так блізка яна і так далёка... Бязьдоньніца кладзецца паміж намі... А хто кладзе і для чаго? (*Апускае галаву, стаіць момант, задумаўшыся*). Пяройдзена нейкая мяжа!.. Як гэта дзіўна! (*Паварочваецца і борзда ідзе ў хату. Падыходзяць Андрэй Гузыр і Паўлюк Дроб з клумкамі, гатовыя ў паход. Спыняюцца каля хаты дзеда Мікіты. У Паўлюка гармонік*).

Гузыр (*стукае ў вакно*), Міхась! Міхась! (*у вакне паказваецца Міхась*).

Гузыр. Сабраўся ты? Пойдзем разам!

Дроб. Рушым, брат, у кампаніі: людзі ўжо пайшлі.

Міхась. Зараз, брат! Пачакайце трошкі. Чорт яе не забярэ вайну, а бяз нас не абыйдзецца. А то зайшлі-б у хату?

Гузыр. Мы тут пачакаем (*Міхась адыходзіць*).

Дроб. Давай закурым. Сьпяшацца вельмі няма куды. Пасьпеем. (*Дастаюць кісеты, закурваюць*).

Гузыр. Адразу, брат, чуеш, што ты ўжо нейк... як-бы адрэзаны кусок...

Дроб. Агні-б яе спалілі гэту вайну!.. раптам як з грому, у самы рабочы час... (*Выходзіць Міхась з клумкам, за ім Наста, дзед Мікіта. Выбягае бабка Тацьяна*).

Бабка Тацьяна. Дык што-ж гэта мы, як-бы пасварыўшыся? (*Да дзеда Мікіты*). Бацька! Трэба-ж было-б хоць пасілкавацца на дарогу ды па чарцы выпіць (*плача*). Ня ў госьці-ж ідуць!

Дзед Мікіта. І галаву страціў сваю старую!.. Пастойце, дзеткі, чуй, дурань-браце! (*Варочаецца назад. Усё запыняюцца*).

Міхась. А праўда, хлопцы: адходнага шмаргануць трэба для храбрасьці.

Дроб. Ды яно не пашкодзіла-б.

Міхась. Дык зойдзем у хату.

Гузыр. А мы тут, па-паходнаму.

Міхась. Ну, давай тут. Цягні бацькаў варстат. (*Міхась і Гузыр выносяць варстат, на якім майструе дзед Мікіта*). Такога, брат, стала на позыцыях ня знойдзеш.

Міхась, Гузыр і Дроб зьнімаюць клумкі,, вешаюць іх на плоце. Дзед Мікіта нясе бутэльку, бабка Тацьяна—закуску, Наста—абрус. Хутка пакрываюць варстат.

Міхась. Хоць раз маёўку справім... Падыходзь, хлопцы, бліжэй! (*Уваходзіць Алесь. Бабка Тацьяна плача*: „*Забіраюць вас, мае дзетачкі! Ды хто-ж мае вочкі зачыніць? Хто-ж мае костачкі пахавае?*—

Дзед Мікіта (*налівае чарку, п'е першы да Міхася*). Здароў-жа будзь, сынок! Варочайцеся шчасьліва і хутка дамоў! (*Чарка пераходзіць з рук у рукі*).

Гузыр. Што журыцца? Журыся, ня журыся, аісьці трэба.

Міхась. І пойдзем і будзем галушыць ворагаў айчыны. У крыўду не дамося. А вернемся з вайны, пакажам Радзівілам, па чым хунт сушанага ліха!

Цётка Тацьяна. Няхай-жа вас бог сьвяты захавае. Варочайцеся-ж здаровенькія!

Міхась (*разыходзіцца*). А я, брат, не абы што: я — гвардзеец! А цяпер яшчэ падвышэньне дадуць. Тады са мною да трох не гавары. (*Падае каманду*). Ррота справа ва ўзводную калённу стройся!

Дроб. Камандзір з цябе добры.

Міхась. А ты што думаў. Яшчэ, брат, помню салдацкую службу.

Цётка Тацьяна (*выцірае сьлёзы*). Вось гэтыя мужчыны: і вайна іх ня пужае. Усё гатовы забыць, са ўсяго жартаваць!

Гузыр (*да Алеся*). Што, брат, засмуткаваў? Плюнь, брат Алесь! Бяры чарку!

Алесь (*бярэ чарку*). За здароўе тых, каго мы пакідаем (*выпівае*).

Дзед Мікіта (*гаротна*). Ох, божа, божа! Адзін ты, Мікіта, чуй, дурань-браце, застаешся! (*Падходзяць запасныя, з клумкамі, іх праваджаюць жанкі і дзеці*).

Міхась (*Дробу*). А ну, Паўлюк, зайграй ты на дарогу так, каб аж сам чорт нам пазайздросьціў!

Гузыр. Пакажы сябе, Паўлюк.

Паўлюк бярэ гармонік, пачынае вясёлую, заліхвацкую штуку. Усе заціхаюць. Міхась і яго таварышы ў такт музыцы ўскідаюць плечы, ківаюць галовамі, пераглядаюцца з вясёлымі мінамі. Міхась ня вытрымлівае, тупае нагою, пускаецца ў прысядкі.

Галасы. Валі, валі, Міхась!

Запасныя. Малайчына, Міхась! (*на зьмену Міхасю пускаецца ў танцы Гузыр. Заліхвацкі ўскідвае целам, вырабляе плячамі, рукамі і нагамі*).

Гузыр (*плешча ў ладкі, падпявае*).

Затраслася наша хата,
Выпраўляючы салдата.
Тут галосяць і сьпяваюць—
Разам хрысьцяць і хаваюць.
Ідзі, салдат, на вайну
У чужую старану!
Ты ня будзеш там араці—
Стрэльба будзе твая маці.
Стрэльба—жонка, стрэльба—цешча,
Ды яна-ж цябе прыплешча.
Ідзі-ж, салдат, ваяваць
Лоб пад кулі падстаўляць!

Галасы. Брава, брава, Андрэй! (*Бабка Тацьяна, цётка Тацьяна, Наста плачуць. Праходзіць яшчэ грамада запасных і стараста*).

Стараста (*стукае кіем у вароты*). Хлопцы! Хлопчыкі! У дарогу. Пара, браткі!

Запасныя (*з вуліцы*). Гэй, пойдзем разам! (*Музыка абрываецца*).

Дроб (*складае гармонік*). Зьбіраемся, браткі! (*Зьбіраюць клумкі, прашчаюцца. Міхась і Алесь цалуюцца з бацькамі, цалуюць ім рукі*).

Міхась (*бярэ Гараську, высока падымае, цалуе*). Расьці сынок вось гэтакі! Памагай дзеду гаспадарыць, матку шануй і будзь добрым хлопцам.

Галасы жанок (*плачуць*). Ды куды-ж вас гоняць? Ды як-жа мы тут жыць будзем?

Галасы. Бывайце здаровы! Прашчайце! Шчасьліва і скора вярнуцца!

На вуліцы чуваць песьня: „Последний нонешний денечек“. Запасныя выходзяць. Наста малым на руках ідзе з плачам, узяўшыся за Міхасеву руку, вісьне на яго руцэ, замлявае. Працэсія аддаляецца, шум заціхае, моўкне. Каля хаты стаяць—дзед Мікіта, Аслаў

і яшчэ пара старых, панура зьвесіўшы галовы. Трохі далей—стараста, глядзіць усьлед зьнікшых запасных. Ззаду павольна ідуць трохі падвыпіўшыя, пабраўшыся за рукі, Патап Думака і Дзяменя Дзямян.

Стараста. Вы што цягнецеся, як кішкі?

Дзяменя. Бяз строгасьці, стараста! Мы—казённыя людзі, салдаты! Што ёсьць салдат? Абаронец веры, цара і айчыны!

Патап. Вера — папу мера. Цар — па баку жар! Айчына — авечая аўчына!.. Дарогу рабочаму шахцёру і парабку-бабылю! (*Праходзяць. Бяжыць Гараська*).

Гараська (*да дзеда Мікіты*). Ох, дзядок, і многа-ж народу павaліла з сяла, (*з плачам*) і тата і дзядзька пайшлі! (*Дзед Мікіта моўчкі кладзе руку на Гараськаву галаву, пазірае на Аслава і старых. Трасучы галавою.*

Дзед Мікіта. І так: застаўся лом адзін — калекі, нядошлыя, старыя... (*Уздыхае*). Эх-хэ-хэ! Пабралі нашых саколікаў! Пагналі. Куды? Чаго? За што? (*Стаяць моўчкі, апусьціўшы галовы*).

*ЗАСЛОНА*

## АКТ ДРУГІ

### На вайне

Прымаюць удзел:

1. Будан-Рыльскі, падпаручык, ротны камандзір.
2. Жухін, прапаршчык, яго памочнік.
3. Сямёнаўскі Міхась — Салдаты—запасныя.
4. Думака, Патап — Салдаты—запасныя.
5. Гузыр Андрэй — Салдаты—запасныя.
6. Дроб Паўлюк — Салдаты—запасныя.
7. Дзяменя Дзямян — Салдаты—запасныя.
8. Алесь, ранены — Салдаты—запасныя.
9. Гурба, узводны — Салдаты—запасныя.
10. Сястра міласэрдная.
11. Звар'яцелы салдат.
12. Санітары, салдаты.
13. Дзед Нупрэй — Сяляне.
14. Бабка Грыпіна — Сяляне.

Канец лета 1915 г. Ноч. Пусты двор. З мроку вырысоўваюцца пакінутыя сялянскія будынкі. З двара ў поле выходзіць дарожка. Пры дарожцы цьмяна відзен сілуэт крыжа. Дзесь далёка, у бок фронту, пабліскваюць зарніцы. Глуха даносіцца гром, то кароткі, адрывісты, то болей працяглы. Бабка Грыпіна, сухая, гадоў за семдзесят, сядзіць у гаротнай постаці, зложыўшы рукі і апусьціўшы галаву. Нізенькі, сухарлявы дзед Нупрэй з рэдзенькаю бародкаю, у доўгай доматканай кашулі, стаіць трохі на вотшыбе, углядаецца ў змрок, слухае. Дзея адбываецца ў гэтай вёсцы і ў раёне бою.

Бабка Грыпіна (*як-бы сама з сабою*). Дзе яны цяпер, беднянькія? Дзе схілілі на ноч свае галоўкі?.. Ох, божухна! павыганялі нямаведама куды... Пазаставаліся будынкі без гаспадароў. Адны толькі галодныя сабакі выюць па пустых дварох... Што гэта будзе, ой, што яно будзе?

Дзед Нупрэй (*ня слухае бабкі, стаіць, ловіць гукі ў цішыні ночы, паказвае рукою. У галаве страх*). Якое крывавае неба! І там бляск і там бляск!.. Пажары!.. А гэта вось ці не Езавец гарыць?

Бабка Грыпіна (*падымае галаву, жахліва*). Ох, божухна! Што робіцца на сьвеце! І зямля ў крыві і неба ў агні... Колькі дабра і народу глуміцца!.. Сканчэньне сьвету!.. Можа яны і лепей зрабілі, што паехалі!..

Дзед Нупрэй. І ніяк не разьбяру я, што гэта за гром такі: як-бы хто ў кадзь бухае пад зямлёю! Проста—зямля стогне! (*Слухае, настаўіўшы вуха. Чуюцца выразна ўдары гармат*). Во!.. Во!.. Чуеш?..

Бабка Грыпіна (*прыслухоўваецца. Са страхам*). А гэта-ж, Нупрэй—гарматы!.. Ох, божачкі!

Дзед Нупрэй (*ківае галавою*). Эге-ж гарматы! А мне ўсё здавалася, што гэта навальніца! (*кароткае маўчаньне*).

Бабка Грыпіна (*перапалохана*). І кажуць ад іх няма схаваньня?

Дзед Нупрэй (*трасе галавою*). Да дзе ты там схаваешся! Не папусьціць бог, дык і гарматы абмінуць... А як гухкаюць! (*Слухае, пазірае ў той бок, адкуль б'юць гарматы*). І ўсё бліжэй і бліжэй!..

Бабка Грыпіна (*зусім ціха*). А ці добра, стары, схован набытак?

Дзед Нупрэй (*махае рукою*). Як ні схавай, дык усё будзе здавацца—нядобра... Дый які там набытак? Каму ён патрэбен?

Бабка Грыпіна. А ці добра, што над ім пастаўлен крыж, як над нябошчыкам? Можа гэта грэх?

Дзед Нупрэй (*уздыхае*). Ох, многа цяпер крыжоў і ў палёхі па дарогах.

Бабка Грыпіна. Бог сьвяты ведае, ці давядзецца пакарыстацца схованым... (*Памаўчаўшы, жалосна*). Міленькі ўнучак мой Ясечка!.. Пільнуй, кажа, бабка, хату, а мы ў Расію, кажа, паедзем. Прыеду, дык, кажа, гасьцінцу прывязу табе (*Плача*).

Дзед Нупрэй. Охо-хо! Сарвацца з месца лёгка, але дзе потым сядзеш?

За сялом, у бок фронту, чуецца траскатня частых стрэлаў. Паляць з вінтовак і з кулямётаў. Даносяцца надрыўныя, жудасныя галасы: „У-а-а. А-а-а“.

Бабка Грыпіна. А божухна! Што гэта?

Дзед Нупрэй (*перапалоханы хапае за руку бабку Грыпіну*). Уцякайма, старая! Хаваймася!

Бягуць, наколькі дазваляе старасьць, хаваюцца. Дзея пераносіцца за сяло ў поле. Цемень ночы, разрываецца ўспышкамі стрэлаў. З мроку няясна вырысоўваюцца постаці салдат, залёгшых на зямлі ў баявым ланцугу. Групка чалавек у пяць у сьмяротэльным страсе туліцца за каменем, прынікаючы да зямлі. Управа і ўлева параскіданы адзіночныя фігуры байцоў. З правага флангу, крыху па воштыбе залёг прапаршчык Жухін.

Жухін (*ціха, перарывіста, здушана*). Перадаць па цэпі—гатовіцца ў атаку! (*Блізшы салдат маўчыць. Жухін паўтарае, злосна*). Перадавай па цэпі, сукін сын,—гатовіцца ў атаку! (*Салдат не аклікаецца. Жухін падпаўзае да салдата, штурхае*). Чуў каманду? Пойдзем у атаку! Перадавай па цэпі. (*Салдат не варушыцца. Жухін у страсе шарахаецца ад яго*). Забіты!.. *Адпаўзае ад забітага* (*крычыць суседняму салдату*). Перадаць па цэпі—гатовіцца ў атаку!

Голас салдата. Гатовіцца ў атаку!

Па ланцугу ад салдата да салдата перадаецца команда „Гатовіцца ў атаку. „У атаку!.. ...таку“. Збоку чуецца сьвіток. Жухін, зрываецца з месца, выхватвае і махае шабляю.

Жухін. За мною, братцы!.. Ура!..

Салдаты ўсхопліваюцца—некаторыя ляжаць нярухліва,—з дзікім крыкам... „ура-а-а“ кідаюцца наперад, зьбіваючыся ў адзін паток. Трэск стрэлаў мяшаецца з надрыўным, жудасным крыкам „ура“. Крык аддаляецца, глухне, пераходзіць у стогн „а-а-а“, „а-а“. Нарэшце, зусім заціхае, настае цішыня.—Дзея пераносіцца ў ранейшую абстаноўку, у двор дзеда Нупрэя. Дзед Нупрэй асьцярожна высоўваецца з глыбі двара, баязьліва азіраецца, слухае.

Дзед Нупрэй. Супакоілася! І гармаць ня чуваць!.. А можа бог паможа нашым, і вайна ня дойдзе сюды!.. Ох, божа, божа!.. Калі-ж будзе ёй канец? Калі ўжо зьмілуецца бог над людзьмі!

Садзіцца на бервяно, апускае галаву на рукі. Некалькі моманту сядзіць нярухліва. Далёка за сцэнаю чуюцца людзкія галасы.

Першы голас. Да ідзі ты ў нагу!.. Вазьмі нагу!

Дзед Нупрэй (*прахопліваецца, ціха*). Хто гэта?... Ох, ты, горачка наша... (*Прыслухоўваецца*).

Другі голас. Дык чаму-ж ня ідзеш у нагу.. сам? Ну, давай!..

Першы голас (*разьмерана*). Раз—два! Раз—два! Левай—правай! (*Убягае бабка Грыпіна, перапалоханая. Да дзеда*).

Бабка Грыпіна. Нупрэй! Нупрэй! Ці не салдаты ідуць?

Дзед Нупрэй (*падымае палец*). Ц-с-с! (*Слухаюць*).

Трэці голас (*капрызны, плаксівы*). Таргуйцеся, клячы абозныя!.. Стравікі паршывыя!..

Першы голас. Памоўківай, шэрая скацінка: для цябе-ж стараемся.

сы змаўкаюць. Дзесь далёка з процілеглай фронту стараны даносіцца салдацкая песьня. Чуваць голас запявалы:

„Трудно, трудно нам, стрелочки,
Как немецкий город взять!

Хор { Гей, гей, охо—хо!
Как немецкий город взять!

Запявала { А еще того труднее
Нам под пушки подбежать.

Хор { Гей, гей, охо—хо!
Нам под пушки подбежать!

Песьня аддаляецца. Голаса запявалы ня чуваць, даносіцца толькі хор галасоў:

„Гей, гей, охо—хо!
Закричали все ура!“

Дзед Нупрэй. Войска на фронт гоняць!

Бабка Грыпіна (*пужліва*). На сьмерць ідуць, а песьні сьпяваюць!..

Блізка за сцэнаю чуецца капрызны голас: „Ірады!.. Мучыцелі!.. О, калі-ж канец!“ Дзед Нупрэй і бабка Грыпіна падаюцца ў глыб двара. Праходзяць санітары з насілкамі. На насілках пад шынэльлю ляжыць ранены. Санітары ідуць павольна.

Першы санітар (*развconfigurationжліва*). Усяму бывае канец, міляга, ды канцы розныя бываюць.

Другі санітар. Калі галава і тулава цэлыя, то гэта яшчэ паўбяды—жыць будзеш. Горш, калі падправяць ды ізноў на позыцыі пагоняць.

Ранены (*стогне*). Ой, нага... Якая вялічэзная нага! У сьвеце ня тоўпіцца!.. І рукі ня чую... Ой, не трасеце, братцы! (*Мяняе голас, па другому адрасу*). Душагубы! забойцы! крывапіўцы! Паршывыя цары і багі!.. Сволачы!.. Каіны!.. Будзьце вы тройчы праклятыя!.. Ой, матачка, родная!

Першы санітар. Цярпі, Грышка—карчма блізка!

Насустрач выходзіць другая пара санітараў з пустымі насілкамі. З імі сястра міласэрдзя, маладая жанчына.

Сястра. Якой роты?

Першы санітар. 9-й. (*Ідуць далей*).

Сястра. Цяжка ранены?

Другі санітар (*выходзячы са сцэны*). Асколкам паназе дзёрнула... І рука не ў парадку.

Сястра (*з пачуваньнем*). Бедненькі!.. Нясеце-ж яго, нясеце!

Санітары з раненым зьнікаюць у цемнаце. Чуваць голас раненага: „Зьверы!.. Людаеды!“ З другога канца даносіцца голас санітара з другой пары: „Работкі хопіць на усю ноч“. Некалькі моманту на сцэне пуста і ціха. На сцэне зноў выплываюць постаці старых.

Дзед Нупрэй. Раненых цягаюць!.. Божухна!

Бабка Грыпіна. Оё-ей! Глуміцца народ!

На вуліцы чуваць глухі тукат ног, паходны звон кацялкоў і салдацкай амуніцыі.

Бабка Грыпіна (*шэптам, у голасе страх*). А што-ж гэта, Нупрэй? (*Тукат набліжаецца, чуваць выразьней*).

Дзед Нупрэй (*таксама са страхам*). Войска! Немцы ці нашы.

Хаваюцца. За сцэнаю чуваць каманда: „Правае плячо ўперад—аррш!.. Пррама!" Узвод салдат у поўнай амуніцыі, ва ўзводнай колёне, уваходзіць у двор. Салдаты стомленыя, змучаныя, бледныя, у скатках з адзнакамі нядаўна перанесенага бою. На чале ўзводу прапаршчык Жухін.

Жухін (*падае каманду*). Узвод—стой!.. Налево!.. Вольна, братцы! (*Аглядае парадзелы ўзвод*). Ну-с, рабята, тут нам аддышка. Вы яе заслужылі: біліся геройскі, як і належыць салдату. Позыцый ня здалі, на атакі энэргічна адказвалі контр-атакамі. Ваша геройскасьць засьведчана командзірам палка... Узводны!

Узводны Гурба (*падходзіць. Бярэ пад казырок*). Я, ваша благародзіе!

Жухін. Праверыць узвод! Скласьці сьпіскі выбыўшых з строю з розных прычын!..

Гурба. Ёсьць ваша благародзіе! (*Дастае сьпісак*). Забітых 13, раненых 21, прапаўшых бяз весьці 3.

Уваходзіць Дзяменя. Акідае вачыма ўзвод, запыняецца, прыстаўляе нагу і па правілах салдацкага штукарства зьнімае з пляча стрэльбу. Шапка яго, старая, выцьвеўшая, ссунута на патыліцу. Жухін мерае яго з ног да галавы начальніцкім поглядам.

Жухін (*гіранічна*). Адзін з прапаўшых бяз весьці зьявіўся, дзякуй богу! (*Строга*). Ты дзе быў?

Дзяменя. Так што адстаў, ваша благародзіе: нагу дужа нацёр.

Жухін (*злосна*). Дызэртыр!

Дзяменя. Нікак нет, ваша благародзіе!

Гурба. Дазвольце далажыць, ваша благародзіе: ён у мяне ў сьпіску прапаўшых бяз весьці ня значыцца...

Жухін (*да Дзямені*). А патранташ твой дзе?

Дзяменя. Не магу знаць, ваша благародзіе! Як відаць, абраніў.

Жухін. Як так абраніў?

Дзяменя. Так што, ваша благародзіе, патронаў усё адно няма— з голымі штыкамі ў атаку ходзім.

Жухін. Маўчаць! Не разважаць! Транжырыш казённае дабро, мерзавец!.. Узводны! даць яму нарад не ў чаргу!

Гурба. Слухаю, ваша благародзіе!

Жухін (*аддае распараджэньне*). Паставіць руж'і ў козлы. Агню не раскладаць. Разьмяшчацца ў хаце і на дварэ. І не шалацца бяз дзела. (*Паварачваецца, каб ісьці*).

Узводны Гурба. А як, ваша благародзіе, на шчот яды? Салдаты другія суткі сухарамі жывяцца.

Жухін. Ведаеш салдацкую службу? Зацягнуць рэменем тужэй жывот. А калі гэта не паможа—сматкаць свае пальцы! (*Выходзіць*).

Салдаты пераглядаюцца з горкаю ўсьмешкаю.

Дзяменя (*дакорліва ківае галавою*). І каб што людзкае—прапардур няшчасны, а як задаецца!.. Сволач, штыком-бы ў сьпіну!

Гурба. Паставіць вінтоўкі ў козлы!

Аддзялённыя камандзіры (*выходзяць, расстаўляюць рукі*). Аддзяленьне, ка мне!

Салдаты разьбіваюцца на чатыры групы чалавек па пяць-шэсьць, ставяць вінтоўкі ў пірамідкі. Апошнім у трэцюю пірамідку ставіць сваю вінтоўку Дзяменя, прыгаворваючы: „стой тут, супруга наша і прысяга“.

Гурба. Вазьмі сваю „супругу“ ды станавіся ў нарад!.. Служба, брат!

Дзяменя. Ну, што-ж? стаяць, дык стаяць! (*Бярэ вінтоўку, становіцца каля пірамідак, дэклямуе з насьмешкаю*):

Для расійскага салдата
Кулі, бонбы нічаво:
З імі ён за панібрата —
Ўсё бязьдзелкі для яво“.

Патап Думака. Ты, брат, зусім пераняў навуку ад Жухіна.

Дзяменя. Павучыцца калі-небудзь і ён у мяне.

Салдаты разыходзяцца, хто куды, перакідаючыся адным, двума словамі, кароткімі сказамі: „Прывал“. „Адышка, братцы“. „Падцягвай рэменем жывот ды лажыся на зямлю“. „А што-б ім вяроўкі на шыях зацягнулі!“

Дроб (*ходзіць, разглядаецца*). Ах, будзь ты тры разы праклята. (*Шпурляе на дол амуніцыю, садзіцца на скатку*).

Патап. Зьнімай салдацкі хамут! (*таксама кідае скатку вобземлю каля Дроба, садзіцца*).

Сямёнаўскі (*тупа ўставіўшыся ў зямлю*). І так з дня ў дзень, з ночы ў ноч другі год, і ніякай прасьветліны!..

Гузыр (*да Сямёнаўскага*). Давай, брат Міхась, распрагацца!

Зьнімаюць скаткі, далучаюцца да землякоў. На сцэне застаюцца—Сямёнаўскі, Патап, Гузыр, Дроб і Дзяменя каля пірамідак з вінтоўкамі.

Патап. Закурым, хлопцы, для пачатку... Хадзі, Дзяменька, пусьцім дымок!

Дзяменя (*ідзе да таварышоў*). Закурым, каб дома ня журыліся. (*Дастаюць кісеты, скручваюць папяросы*).

Дроб. Было нас ва ўзводзе шасьцёра, стала пяць. (*Салдаты маўчаць панура*).

Сямёнаўскі. Добра, калі толькі бязногім застанецца. А без нагі ды бяз рукі, то ўжо лепей сьмерць... (*Паўза. З горыччу*). Эх, Алесь, Алесь, не захацеў ісьці ў ваенную школу! Усё-ж час адцягнуў-бы і можа гэтага ня здарылася-б. (*За сцэнаю чуваць пявучы, вясёлы жаночы голас*).

Жаночы голас. Ну, што вы кажаце? Не паверу!

Мужчынскі голас. Сур'ёзна, мілая сястрыца! Вы—ангел, пасланы богам у пекла вайны!

Жаночы голас. Фі, пошла гэта!.. І я не дапускаю такіх скораспелых заключэній: яны ня шчырыя!

Мужчынскі голас. А між тым гэта сьвятая праўда, як і праўда тое, што я—падпаручык Будан-Рыльскі!

Дзяменя (*ціха да салдата*). Маўчэце, братцы, а я на варту стану. (*Становіцца каля вінтовак, так, каб быць незаметным*).

Будан-Рыльскі (*за сцэнаю*). Вы можа хочаце довадаў праўдзівасьці маіх слоў? Дык вот яны! (*Некаторая замінка, лёгкія ўздыхі*).

Дзяменя (*салдатам, прыставіўшы далоні да губ*). Камандная вышыня ўзята!

Сястра (*за сцэнаю*). Ах, вашы губы порахам пахнуць!

Уваходзіць Будан-Рыльскі з сястрою пад ручку. Дзяменя робіць выгляд, што ня бачыць іх. Потым раптам выбягае, крычыць ва ўсё горла.

Дзяменя. Уста-а-а-а-ць! Сьміррна! (*Сястра ўздрыгвае*).

Сястра. Ох!

Будан-Рыльскі. Чаго, дурак, гарланіш? У часе адпачынку каманда „Устаць“ і „Сьмірна“ не падаецца!.. Крычыць, асёл, так, што пад Тарнопалем чуваць!

Дзяменя. Нікак нет, ваша благародзіе: Ад Тарнопаля нас на трыста вёрст у тыл загналі. (*Салдаты падымаюць галовы, садзяцца*).

Будан-Рыльскі (*не знаходзячы, што сказаць*). Ты што робіць тут?

Дзяменя. На варце стаю, ваша благародзіе!

Будан-Рыльскі. Нарад не ў чаргу?

Дзяменя. Так точна, ваша благародзіе!

Будан-Рыльскі. За што?

Дзяменя. За тое, што нагу нацёр і патранташ абраніў, ваша благародзіе!

Будан-Рыльскі. Пастаў вінтоўку і заяві свайму непасрэднаму начальніку, што я зьнімаю з цябе ўзысканьне!

Дзяменя. Слухаю, ваша благародзіе, і пакорна благадарым. (*Ставіць вінтоўку*).

Сястра (*да Будан-Рыльскага*). Як гэта міла з вашага боку. Я так спачуваю бедным салдацікам!

Будан-Рыльскі (*у парыве вялікадушнасьці, падыходзіць з сястрой да салдат*). Ну, якаво, рабята, паводзіцца вам тут?

Гузыр. Да нічога, ваша благародзіе: бывае і горш.

Патап. Падцягнулі рэменем жываты і смокчам пальцы.

Будан-Рыльскі. Ну, нічога, братцы! Сёньня як-небудзь, а заўтра бліны!

Дроб. Немец, ваша благародзіе, напячэ сьвежанькіх і гарачых, а мы яшчэ і старых ня вычухалі.

Будан-Рыльскі. Ня падаць духам, рабята! На вайне ўсяк бывае. Адступленьне наша скончылася. Фронт запыніўся і запыніўся моцна. Мы хоць і патрэпаны, але не разьбіты. Нямецкі-ж наступацельны парыў вытахся і мэты свае—вывесьці з строю нашу армію—глаўнае нямецкае камандаваньне не дабілася. Нам цяжка, слоў няма, ды немцу яшчэ цяжэй. Сіла яго слабее, а нашы сілы і сілы нашых саюзьнікаў растуць. Германія будзе разьбіта і на калені пастаўлена... Адпачывайце рабята, а я аб вас паклапачуся!

Дроб. Пакорна благодарым, ваша благародзіе! (*Будан-Рыльскі з сястрою адыходзяць*).

Сястра (*адыходзячы*). Вы ня толькі рыцар, але і дыплёмат. Ĭ нагогул—сымпатычны афіцэрык!

Будан-Рыльскі. Ваша атэстацыя, сястрыца, для мяне даражэй салдацкага георгія. (*Цалуе ёй руку... ва сцэнаю*). Зойдзем, сястрыца, паглядзіце на маю паходную, баявую абстаноўку!

Сястра. Ах, гэта мусі быць цікава!

Сямёнаўскі. Шкура, ты шкура! Чаму-ж ты не каля раненых салдат, калі ты ім спачуваеш!

Патап (*злосна плюе*). Не, братцы, пара задумацца салдату над гэтаю вайною. За што мы пакутуем? За каго? На чые плечы кладзецца вайна? Што яна дасьць нам, рабочаму народу? Ды нас-жа нават і цяпер за людзей ня лічуць:—проста шэрая скаціна! Гарматнае мяса, гной!

Дзяменя. Дзе-ж яны лічуць, калі няшчасны прапар, і той зьдзекуецца з нас.

Сямёнаўскі (*панура*). Мы тут кроўю сьцякаем, голымі рукамі адбіваем атакі, а там паны пад аховаю паліцыі душаць нашых бацькоў.

Дроб. А ты цягні салдацкую лямку, шэрая скацінка, покі не заезьдзяць... Ды што ты, брат, зробіш, калі іх сіла?

Патап (*сярдзіта*). Глупства—іх сіла. Сіла—мы, сладаты. Гэта трэба зразумець і цьвёрда ведаць. Каб кожны салдат гэта ведаў. Канчаць трэба праклятую вайну за інтарэсы багачоў, а іх самых з галовамі павырываць, як кляшчоў, з цела працоўнага народу. Рэволюцыя трэба, вось што! Ĭ зрабіць яе павінны салдаты (*уваходзіць група салдат. Гутарка змаўкае*).

Адзін з увайшоўшых. Пустая вёска, духі з яе вон!

Другі. Хоць воўкам вый, а пажывіцца няма чым!

Трэці. Лажыся тут, салдат галодны!

Патап. А вы раменчыкам жываткі засупоньце!

Чацьверты. Засупоніць бы шыю, каму трэба. (*Салдаты мосьцяцца на зямлі, закрываюцца шынэлямі*).

Гузыр (*кладучыся*). Эх ты, праклятая вайна! Ці думаў чалавек папасьці на край сьвету ды мясіць і грэць сваім целам зямлю, якая табе і ня сьнілася? (*Паўза*).

Дзяменя. А я вот ляжу ды думаю: чаго стаіць там гэты крыж?.. (*Салдаты маўчаць*). Сьпеце тут, арлы баявыя, а я пайду на разьведку. (*Устае, ідзе пад крыж, куды і пераносіцца дзея. Аглядае зямлю пад крыжам і крыж*). Нібы магіла... А ці ня схована тут што. (*Бярэ лапату, намерваецца капаць*).

Голас-прычытаньне з цемнаты. А мая-ж ты дачушачка! Ды мая-ж ты красачка! На каго ты пакінула дзетак?

Дзяменя. Хто тут плача? (*Прычытаньне заціхае. Дзяменя слухае, а потым бярэцца зе лапату, капае. З мроку выплывае дзед Нупрэй, за ім ззаду ў двух кроках нясьмела сунецца бабка Грыпіна. Дзяменя капае, і лапата стукае ў дошку*).

Дзед Нупрэй (*баязьліва*). Салдацік! тут чалавек пахованы.

Дзяменя (*ссоўвае шапку на патыліцу*). Як сьмелі вы аслухацца імпэратарскага ўказу? Чаму засталіся на фронце?

Дзед Нупрэй (*дрыжучы ад страху*). Пакінулі нас, салдацік, старых... Нікому непатрэбны мы!..

Дзяменя (*грозна*). Вы можа нямецкія шпіёны?

Дзед Нупрэй. (*Зусім палохаецца, махае рукамі*). Бойся ты бога, салдацік! Якія мы шпіёны? Няхай нас бог крые!.. Не чапай, салдацік, магілкі: дачка наша пахована тут!.. Перапалохалася...наехалі казакі, пачалі ў высяленьне, у бежанства гнаць!.. Адразу і памерла.

Бабка Грыпіна. Дзетак малых пакінула!.. Зьмілуйся, салдацік, ня трывож яе костачак.

Дзяменя. Прыказана тут акопы капаць, а нябожчыцу па-хрысьціянску на могілкі перанясём, пад ваенную музыку... (*Грозна*). Але глядзеце—калі ашукваеце мяне, кепска будзе! (*Дзед Нупрэй і бабка Грыпіна адступаюць. Дзяменя зноў прыступае да работы, ломіць абшыўку ямы, залазіць туды. Дзяменя з ямы*). Сьцеражыся, стары! (*Дзед падаецца назад. З ямы вылятае таўкач, за ім з шумам выкочваецца ступа. Дзяменя адсоўвае яе. З ямы відаць яго галава і рукі. Дзяменя да дзеда, паказваючы на ступу*). Да тут у вас цэлы склад для артылерыі: гэта-ж—марціра!

Дзед Нупрэй. Гэта—ступа, саколік, куцью таўчы! (*З ямы выкідаюцца розныя рэчы: дупляпка, прылады ад красён, калаўротак, старая прасьніца і нарэшце кубел*.

Дзяменя. Шкода, дзед, што кубел пусты. Хоць-бы дзялянaчку сала палажыў.

Дзед Нупрэй. Дык няма-ж, салдацік!

Дзяменя. І няўжо-ж у цябе нічога няма, каб чарвяка салдацкага замарыць?

Дзед Нупрэй (*да бабкі Грыпіны*), Схадзі, бабка, пашукай чаго-небудзь салдаціку (*Бабка ідзе*).

Дзяменя (*вылазіць з ямы*). Ну, дзед, я табе жыва ўсё ў яму паскладаю. Ды не стаўляй ты крыжа: крыж толькі ў спакус уводзіць галоднага салдата (*Прымаецца за работу. Паблізку, з боку поля, чуецца дзікі, праразьлівы чалавечы крык. Даносяцца паасобныя бязьзьвязныя словы: „Газы!.. агонь!.. братцы!.. атака!.. р-а! Ра-а)*

Дзед Нупрэй (*у страсе*). Што гэта?

Дзяменя. Вар'ят.

Чалавек дзікага віду, бяз шапкі, босы, растрэпаны, у салдацкай гімнасьцёрцы імчыцца пад крыж. Дзяменя пакідае яму, уцякае. За ім трусіць дзед Нупрэй. Бягуць на двор, дзе сьпяць салдаты. Вар'ят з крыкам „ура" набягае на дзедаў хлам каля ямы, спатыкаецца, падае. Усхопліваецца, хватае таўкач, зноў бяжыць, коле таўкачом у паветра, крычыць: „за мною! Рр-аа" Дзяменя прыбягае на двор, а сьледам за ім вар'ят з дзікім крыкам, б'е таўкачом па вінтоўках. Вінтоўкі з шумам падаюць. Звар'яцелы салдат топча іх нагамі. Салдаты прачынаюцца. Перапалох.

Дзяменя. Братцы! Хватайце яго—вар'ят.

Салдаты ўсхопліваюцца. Дзяменя кідаецца на вар'ята ззаду, хватае за рукі. Вар'ят в крыкам „Сьмерць! Сьмерць!" вырываецца. Набягаюць салдаты. Патап кідае вар'яту на галаву шынэль. Яго валяць на дол, зьвязваюць. Убягаюць санітары. Вар'ята кладуць на насілкі, выносяць. За сцэнаю чуваць яго дзікі крык.

Дзед Нупрэй. Даваяваўся бедненькі!

Сямёнаўскі (*ківае галавою*). А ўсё вайна да пабеднага канца!

*ЗАСЛОНА*

## АКТ ТРЭЦІ

### Там, дзе была мобілізацыя

Прымаюць удзел:

1. Марына.
2. Марыся, старожка, дзяўчына.
3. Гараська.
4. Шышла.
5. Дзед Мікіта.
6. Аслаў.
7. Каралін а.
8. Поп.
9. Алесь.
10. Салдат-франтавік.
11. Паліцэйскія стражнікі.
12. Бежанец.
13. Народ.

СЯРЭДЗІНА ВОСЕНІ 1915 г.

Дзея адбываецца каля школы. Шчыток школьнага даху апіраецца на круглыя пабяляныя слупы ганку. Ганак прадстаўляе сабою невялікую адкрытую веранду, атуленую пярылцамі з двух бакоў. Паўздоўж пярылцаў, простыя дзярвяныя лаўкі, каля аднае з іх стаіць стол. Перад школаю даволі прасторны двор. У канцы двара—пералаз. Шырокі від на поле і лес, рог якога няясна вырысоўваецца з сіняватай смугі. На стале стаіць чарніліца, раскідана папера, газэты. На ганку Марына і Гараська.

Марына (*да Гараські, перадаючы яму пакецік*). Вось гэты пакецік перадай салдату. Але глядзі, каб ніхто ня бачыў... Ён будзе чакаць цябе за мастком. Ты толькі сьвісьні там... Умееш сьвістаць?

Гараська. Дзіва, што ўмею. (*Кладзе пальцы ў рот, громка сьвішча*).

Марына (*усьміхаючыся*). Дасканала! Ну як Салавей-разбойнік. (*Паніжаным голасам*). Глядзі-ж, Гараська, не пападзіся стражнікам!.. Будзе дужа ня добра. Разумееш?

Гараська (*горда*). Я пранясу так, што вецер не пачуе і сонца не пабачыць!

Марына (*цешучыся з Гараські*). Ну, малайчына!

Гараська (*яшчэ з большаю гордасьцю*). Я так шыбка бегаю, што мяне і на кані не дагоніш! (*Зьбягае з ганку, паказвае, як шпарка ён бегае*).

Марына. Маладзец... А калі-б цябе злавілі і запыталі, хто табе даў гэты пакецік, што-б ты сказаў?

Гараська. Сказаў-бы—знайшоў.

Марына. Ну, зусім маладзец!

Гараська. Цёценька! А чаго гэты Шышла тут пакручваецца?

Марына. А ліха-ж яго ведае... Ну, проста хоча знаёмства мець са мною.

Гараська. Плюньце вы на яго: ён такі мардасты!

Марына (*сьмяецца*). Да я і плюю. Але ня гнаць-жа яго... Ну, дык ты-ж ідзі, Гараська... Усё ведаеш?

Гараська. Усё.

Гараська бяжыць у бок пералазу. Стаўшы ў патаемнае месца, разглядаецца, пазірае на ганак. Марына ўваходзіць у дзьверы. Сцэна застаецца пустою. У весьнічках паказваецца Шышла. Запыняецца, а потым ідзе на ганак. Хоча ісьці ў дзьверы, але яго ўвагу запыняе стол і пісьмы. Шышла глядзіць на іх, азіраецца і цапае з стала, суне ў партфэль.

Шышла. Каму і аб чым піша мая няпрыступная краля, да, собсвенна-да?.. А з візытам мы і потым зойдзем.

Борзьдзенка накіроўваецца ў весьнічкі, выходзіць. Некалькі момантаў на сцэне пуста. Уваходзіць Марына, садзіцца, бярэ газэту, праглядае. Потым адкладае газэту, задумваецца.

Марына. Два месяцы ніякіх вестак ад яго. Што-б гэта магло значыць? Напэўна-ж нешта здарылася... Ох, горачка маё!... Калі-ж ён пісаў апошні раз? (*Пазірае на стол, шукае пісьма*). Дзе-ж яно? (*Перабірае

*паперы, шукае*). А дзе-ж маё недапісанае пісьмо? (*Пераглядае зноў усё на стале. Выходзіць у дзьверы. Праз хвіліну варочаецца назад, затрывожаная. Бяжыць Гараська*).

Гараська (*ціха, таемна*). Цёценька! А сюды нядаўначка Шышла заходзіў і нешта ўзяў са стала і ў сваю раменную торбу палажыў ды борзьдзенка вышаў!

Марына (*палохаецца, камянее, хапаецца за галаву*). Ах, матачкі родныя! Што-ж цяпер будзе? (*Стаіць занямеўшая*).

Гараська. Што ён, цёценька, украў?

Марына. Ох, Гараська! Пісьмо дзядзькі Алеся і маё недапісанае пісьмо... Бягай-жа ты, Гараська, бо там цябе чакаюць.

Гараська. Ну, пісьмо! А я думаў—грошы! (*Бяжыць*). На ганку застаецца адна Марына.

Марына. Аб чым-жа я пісала? (*Прыпамінае*). Пісала, што работа ня зводзіцца, што тут праходзіць многа салдат... Не—здаецца, з майго пісьма ён нічога ня вывудзіць. А вось Алесяў ліст... Як-жа я апраставалосілася... Што-ж тут рабіць?... (*Задумваецца*). Прыдзе ён сюды ці не? Як завабіць яго сюды? (*Адчыняюцца весьнічкі, уваходзіць незнаёмы, худы, змучаны, у абтрэпанай сялянскай вопратцы*).

Незнаёмы. Паненачкі ці пані? Падарэце чым ваша ласка!

Марына. Хто-ж вы?

Незнаёмы. Адно імя, паненачка, цяпер маюць мільёны такіх, як я—бежанцы мы, з Горадзеншчыны. Другі месяц у дарозе... Хату пакінулі, гаспадарку. Нават старых бацьку з маткаю пакінулі... Конь прыстае, карміць няма чым, самым нечага ў рот узяць. Дзеці хворыя... Адну дзяўчынку ў дарозе пахавалі... Ох, божа мой, божа. (*Зьвешчае галаву*).

Марына (*адчыняе дзьверы, кліча*). Марыська!

Марыся. (*З глыбі школы*). Го!

Марына. Выйдзі, нябога, сюды. (*Уваходзіць Марыся*). Вынесі хлеба і масла палажы ў хлеб. (*Марыся выходзіць*). Куды-ж едзеце?

Бежанец. І самі ня ведаем, куды—у Расію! (*Марыся выносіць хлеб, перадае бежанцу*).

Марына. Выбачайце, што большым ня можам памагчы вам.

Бежанец. Дзякуй, паненачка! Няхай вам бог пашле добрую долю (*Выходзіць*).

Марына (*да Марысі*). Ведаеш, Марыська, якая няпрыемнасьць?

Марыся. А што, Марына Мікалаеўна?

Марына. Тое пісьмо ад Алеся, дзе ён піша пра рэволюцыйны настрой сярод салдат і іншае, папала ў Шышлавы рукі. Зайшоў сюды, як толькі я адвінулася, і спотайку забраў. І маё недапісанае пісьмо таксама забраў... За сваё—я не баюся... Што нам рабіць? Як-бы яго сюды зацягнуць, ды выкрасьці з партфэлю!

Марыся. Вось барбос! І дурны здаецца, а нюх мае. Ня быў-бы такі барбос!.. Ведаеце што? Калі ён толькі прыдзе сюды, заклічце яго да сябе ў пакоі, а я ўжо вытрыбушу яго партфэль. (*З вуліцы даносіцца плач і жаласнае прычытаньне*:

„А мой-жа ты сыночак!
А маё-ж ты сонейка!
Да хто-ж па табе паплача?
Хто-ж тваю магілку пабачыць?“

Марына. Хто гэта плача?

Марыся. Матэвіха-ўдава. Летась мужыка пахавала, а цяпер сына забілі на вайне. (*На кватэры ў Шышлы. Асобная каморка ў сялянскай хаце. Шышла сядзіць за сталом. З боку партфэль. У руках пісьмо*).

Шышла (*самазадаволена*). Дык аб чым пішаш ты, брыклівая красуня, да, собственна-да? (*Чытае*). „Мілы, любы Алесь“. Гм! аказваецца і мілы і любы... Дорага заплаціў-бы, каб мяне ты назвала так, да, собственна-да! (*чытае далей*). „Я так рада, калі прыходзіць тваё пісьмо. Тады для мяне сьвята, тады я бясконца шчасьліва і на момант забываю гэта штодзеннае балеснае, поўнае жаху і жудасьці водгульле вайны. Нявесела, Алеська, тут. Гора, скаргі, бядота! Прыходзяць да, мяне жанчыны, салдаткі, мацяркі. Пішу ім пісьмы, памагаю гараваць, супакойваю, як умею. Заходзяць часам і салдаты—тут паблізку стаяць палкі. Ува ўсіх адно жаданьне, адна думка—калі скончыцца вайна! А жывецца тут цяжка, гаспадаркі апускаюцца—няма работнікаў. Зямля зарастае дзірваном. Па-маленьку вяду работу, і грунт для яе добры...“ Не дакончыла, а шкода!.. „Памаленьку вяду работу; і грунт для яе добры!..“ Да, собственна-да! Мы над гэтым падумаем! (*Бярэ Алесева пісьмо, чытае моўчкі, некаторыя мясьціны ўголас*). „Дурман і чад, у каго яны былі, вытахліся з салдацкіх галоў. Вайна для іх—вялікая школа. Праходзяць тысячы рознага народу, народу сьвядомага, палітычна граматнага. Погляды на вайну мяняюцца ў корані—вайна паўстае ў зусім іншым асьвятленьні“. Да, собственна-да. Гэта—матэрыялец!.. (*Чытае далей*). „Стан рэчаў і ўся абстаноўка няўхільна вядуць да катастрофы ўсёй паліцэйскай сыстэмы, а мы ў гэтым дапамагаем“ (*Кладзе пісьмо ў партфэль. Шышла сам-сабе*). Шчасьлівы ты, брат Арцём! Матэрыяльчык!.. Пагутарым з айцом Мітрафанам: хоць ён і ў расе, але яму шынэль прыстава болей да твару, да, собственна-да!.. А ты, халодная красуня, у маіх руках... Цяпер можам і з візытам пайсьці. Да толькі, Арцём, будзь чуйным! Не прамаж! (*Дзея пераносіцца на школьную вэранду. На ганку Марына і Марыся*).

Марына. Ах, Марыська. Якое гэта было-б шчасьце... (*Палохаецца*). Нехта ідзе! (*Каля весьнічак на вуліцы чуваць голас*).

Голас. І вы, Арцём Іванавіч, сюды?

Другі голас. Да, собственна-да!.. Здрастуйце, а. Мітрафан.

Марына. Няўдача, Марыська! І чаго іх чэрці дваіх нясуць? (*Марыся хаваецца. У двор уваходзяць поп і Шышла*).

Поп. Дзень добры, Марына Мікалаеўна!

Шышла (*без партфэлю*). Наймілейшай Марыне Мікалаеўне маё ніжэйшае, да, собственна-да! (*Галантна падходзіць, твар расплываецца ў усьмешку, падае руку*).

Марына (*ветла, іграе ролю*). Сядайце, сядайце, дарагія госьці. (*Поп і Шышла садзяцца*).

Поп. Я, Марына Мікалаеўна, прышоў сказаць вам, што сёньня я зьбіраю тут сход. Трэба трохі падняць дух народу, падбадзёрыць яго, разьвеяць панылы настрой.

Марына. Вы, а. Мітрафан, мастак на гэта!

Шышла. Да, собственна-да: а. Мітрафан—прыклад духавенству ва ўсёй эпархіі.

Поп (*задаволена*). Ну, што вы?

Шышла. Неспакойная, знаеце, да, собственна-да, мая служба. Усялякія даручэньні ад начальства, разьезды... адным словам, дзе толькі патрэбен здольны, сьмелы і энэргецічны выканаўца, да, собственна-да, дык Арцём Іванавіч, будзь ласкаў, прымайся!

Марына. Ну, начальства ведае, каго пасылаць!

Шышла. Прыемна чуць з вашых каралевых губак такія словы, Марына Мікалаеўна! (*На вуліцы праходзіць Караліна, у лахмоцьцях, з доўгім кіем. Ідзе з подскакам, сьпявае песьню:*

„Куды, куды, зайчык, скачаш?
Чаго, чаго, дзеўча, плачаш?
Зайчык скача ў чыста поле,
А ў дзяўчыны злая доля“.

Поп (*заварушыўся, да Марыны*). Яна заходзіць да вас?

Марына. Ніколі ня мінае.

Поп. Ну, я пайду. Ня хочацца з ёю сустракацца: ляпне што-небудзь няпрыемнае для майго сану! Зайду, калі народ зьбярэцца. (*Да Шышлы*). Арцём Іванавіч! Мне хацелася-б з вамі аб сім-тым пагутарыць. Ці не зайшлі-б да мяне?

Марына. Ах, нашто вы забіраеце ад мяне Арцёма Іванавіча?

Шышла. Прыемна гэта чуць!.. (*Куражыцца*). Я да вас як-небудзь зазірну, да, собственна-да! (*Разьвітваюцца, выходзяць, накіроўваюцца ў бок пералазу*).

Караліна (*адчыняе весьнічкі, запыняецца, пазірае на папа і Шышлу*). А-а-а! Уцякаеце? І знацца са мною ня хочаце? Аля-ля-ля-ля. (*Стукае кіем*). Пачакайце! Праўду скажу!.. Ох, як затрос кудламі!.. Жанішок мой з траплом пры баку! Доўгія гады цябе шукаю!.. Гу-ля-ля-ля-ля... Пашлі!.. Ну, ідзеце к чортавай мацеры! (*Паварачваецца ў бок ганку, падходзіць бліжэй Караліна да Марыны*). Дзень добры табе,

паненачка!.. А на сэрцы цяжка?.. Мала што я дурная Караліна, але я бачу... Дай мне есьці, мая мілая!

Марына. Сядай, Каралінка, а я пайду, пашукаю чаго. (*Марына выходзіць. Караліна садзіцца на ганак, кладзе кій. Разгортвае далоні рук, разглядае іх з вялікаю ўвагаю. Марына выносіць міску і лыжку*). Зьеш крупнічку, пасілкуйся, Каралінка! (*Караліна бярэ міску, ставіць каля сябе, есьць прагавіта, моўчкі. Марына таксама стаіць моўчкі, задумаўшыся*).

Караліна (*апаражніўшы міску*). Вот цяпер і добра!.. Пайду-ж я. (*Устае, бярэ кій*).

Марына. Адкуль-жа ідзеш ты, Каралінка?

Караліна. Ад імпэратара!.. Го, мой імпэратар. Малады, харошы!.. Але кажаноў многа. Проста—рады няма з імі!.. Ну, бывайце здаровы. (*Выходзіць, потым абарочваецца*). Я вярнуся яшчэ. Я іх, гэтых кажаноў, паразганяю, па-раз-га-ня-ю! (*Выходзіць*). За весьнічкамі на вуліцы чувань яе песьня:

Я не такая,
Як тая другая:
І высокая, і прыгожая,
Толькі-ж доля мая злая".

Марына стаіць задумаўшыся. Дзьверы з шумам расчыняюцца, убягае Марыся.

Марыся (*радасная, узрушаная*). Быстра разглядаецца, кідаецца да Марыны. Наце вам пісьмы!

Марына. Марыська, міленькая ты мая! (*Абнімае яе, цалуе*). Як-жа ты гэта так спрытна?

Марыся. Вох, Марына Мікалаеўна! Яшчэ сэрца калоціцца! (*Кладзе руку на грудзі. Рагоча*). Ха-ха-ха-ха... Як толькі пабачыла я, што з ім няма портфелю, дык я кулём праз кухню. Выбегла агародамі на сьцежку... Прыбегла аж у самы той двор. І ўсё добра! Нікога няма. Аж гляджу—замок вісіць на дзьвярах!.. Ось, думаю, хітры Барбос! Што тут рабіць? Хацела ўжо каменям замок зьбіваць, блага няма нікога. Шукаю камень... Падняла вочы—акенца на гары, бяз шкла! Я на хлеўчык і шабултых у вакно, на гору! З гары ў хату. Забегла ў яго будку—тфу! Казлом сьмярдзіць! Бачу—партфэль на стале. Я за партфэль, а там і пісьмы ляжаць. Цоп іх — запазуху! (*Заліваецца сьмехам*). Ведаеце—злосьць мяне ўзяла... Вытрыбушыла ўвесь партфэль, усе яго пратаколы—у прыпол, дастала з балькі псалтыр і часаслоў старыя і ўпхнула ў партфэль! (*Марына і Марыся заліваюцца сьмехам*).

Марыся (*хватаецца за жывот*). Ой, ой, не магу!

Марына. А куды-ж ты пратаколы яго падзела?

Марыся. У гной затаптала! Згніюць яны там, ніхто ня нойдзе.

Марына. Ну, і маладзец-жа ты, Марыська!.. Цяпер-жа трэба быць асьцярожнымі, а пісьмы гэтыя лепш за ўсё спаліць. (*Марына і Марыся*

*выходзяць. Пачынае сходзіцца народ. Першымі прыходзіць дзед Мікіта і Аслаў).*

Дзед Мікіта. Да тут яшчэ, чуй, дурань-браце, і няма нікога! (*На ганак выходзіць Марына*).

Аслаў. Як-та няма? А гэта-ж вось настаўніца. Дзень добры, гаспажа настаўніца!

Марына. Дзень добры!.. Сядайце, калі ласка, вось тут, на ганачку!

Аслаў. Ня турбуйцеся—нойдзем сабе месца.

З двух канцоў школьнага двара сходзіцца народ. Пераважна старыя і пажылыя мужчыны і кабеты. Сталыя людзі займаюць месца бліжэй да ганку. Маладыя разьмяшчаюцца воддаль, разьбіваючыся на невялікія групы. У гэтых групах пападаюцца адзінокія фігуры салдат. Сям-там сярод натоўпу чарнеюць мундзіры паліцэйскіх стражнікаў. Натоўп гудзе прыглушана і стрымана.

Дзед Мікіта (*да Марыны*). Што добрага чуваць? Можа прышлі якія навіны?

Марына. Добрага покі што нічога ня чуваць. Наша войска адходзіць і адходзіць. Варшава здана, Асавец пакінулі і Коўну аддалі.

Аслаў. Заўзяты-ж гэты немец! Ї рады з ім няма. Столькі нашых гарадоў пазабіраў!

Дзед Мікіта (*трасе галавою*). Так, добрага нічога... Ї Коўну пакінулі! Да гэтага ўжо ня так-та і далёка... Праклятая вайна! Ї хто яе на сьвет пусьціў? Хто яе выдумаў?

Аслаў (*энэргічна вымае з зубоў люльку*). Хто яе, кажаш, выдумаў? Ніхто вайны ня выдумляе: яна жыве з людзьмі, яна ёсьць у кожным чалавеку!..

Дзед Мікіта (*панура*). А я вам скажу, чуй, дурань-браце; народу многа распладзілася на сьвеце, і стала цесна жыць. Куды-ж народ падзець? Гані яго пад нож, як быдла на разьніцу! Ї ня будзе каму крычаць: зямлі! заработкаў! Зробіцца прасторна, а паны маёнткі захаваюць.

З натоўпу. Чаму-ж ім не захаваць маёнткаў, калі закон стаіць за іх?

Другі голас. Паліцыя апякуецца над імі. Чуць дзе што, дык зараз вобыскі, пратаколы, суды і штрафы. А ты ваюй, чорт ведае за што і за каго. (*Паліцэйскія стражнікі выцягваюць галовы, слухаюць*).

Аслаў. Ї на чорта яны тут, гэтыя стражнікі? Няхай-бы ваявалі там. Нашы сыны, браты па два, па тры разы раненыя, зноў на пазыцыі ідуць, а яны жывуць сабе тут бяз клопату, нагульваюць сала, вартуючы і ахоўваючы паноў.

Паліцэйскі стражнік (*падходзіць да Аслава*). Ты што сказаў?

Аслаў (*сярдзіта*). Тое, што ты чуў!.. Праўда вочы коле?.. Їдал ты!

Стражнік. А ну, хадзі за мною! (*цягне Аслава за рукаў. Аслаў вырываецца. Натоўп эмаўкае. Салдат-франтавік з рукою на пераьязі борзда падходзіць да стражніка*).

Салдат-франтавік (*грозна*). Адставіць! (*Стражнік выпускае рукаў, да салдата*). А ты хто такі? Прад'яві дакуманты! (*Салдат-франтавік паказвае на раненую руку*). Вот мой адзін дакумант! (*Расхіляе шынель, на грудзях блішчыць георгіеўскія крыжыкі*). Вось мае другія дакуманты! А калі ты будзеш чапляцца, дык я табе вось гэтым дакумантам (*паказвае здаровую руку*) у рыла дам!

Галасы. Маладзец салдат! Малайчына! (*Стражнік падаецца ўзад, адступае. Уваходзіць поп і Шышла. Поп стараецца прыдаць свайму твару лагодную міну. Зьнімае капялюш, кланяецца*).

Поп. Здрастуйце, браціе! (*Натоўп гудзе штось няўразнае. Поп ідзе на ганак, Шышла астаецца на дварэ. Поп садзіцца за стол, дастае газэты, паперы. Кідае погляд на народ*). І нашы доблесныя воіны тут ёсьць! (*Паўза*).

Аслаў. А як, бацюшка, немцы: маюць яны што есьці ці не?

З натоўпу. Скарэй мы за немцаў падохнем з голаду.

Поп (*да Аслава*). А ты што клапоцішся так аб немцах?

Аслаў. Да вы-ж, бацюшка, даўно казалі нам, што немцы хутка павымiраюць з голаду, бо іх заціснулі з усіх бакоў, і нават сам Вільгэльм высах у скурат, бегае, як кот з падсмаленым хвастом.

Поп (*сярдзіта*). Вільгэльм ёсьць цар, і сам гасподзь закліча яго да адказу! А табе хто даў права гаварыць з такою зьнявагаю аб цару, хоць ён і вораг нам?

Аслаў. А калі-б я пашоў на вайну ды спаткаў яго, то што мне тады рабіць? (*У натоўпе сьмех*).

Поп. Ты любіш плявузгаць, Аслаў! Гасподзь, аддаўшы яго ў твае рукі, навучыў-бы цябе, што з ім рабіць.

Дзед Мікіта. Я ня ведаю, чуй, дурань-браце, як навучыў-бы Аслава бог, але калі-б у мае рукі папаўся Вільгэльм, то я абедзьвюмі рукамі ўплёўся-б у яго кудлы (*згортвае кулакі*), вось так бы, гада, трос!

Аслаў. А з цябе, Мікіта, быў-бы ня кепскі ваяка!

З натоўпу. Біў-бы нямецкага цара да пабеднага канца.

Голас. Скажы лепш, бацюшка, калі кончыцца вайна.

З натоўпу. Можа чуткі ёсьць аб замірэньні?

Другі голас. Казалі—больш паўгоду вайна не працягнецца. Тымчасам даўно пачаўся другі год, а немец кладзе нам па карку ды кладзе.

Поп (*падымаецца, адкідае назад кудлы*). Браціе! Праваслаўныя хрысьціяне! Зразумела ваша жаданьне, каб кончылася вайна. Але жаданьне грэшнікаў ня сходзіцца з сьвятою воляй божай. Вайна — вялікае і цяжкае выпрабаваньне. Хіба можа ведаць чалавек сьвятую волю божжу? І тое, што сёньня гнецца, як трава пад ветрам, заўтра можа стацца моцным, акі камень, яго-ж ўрата адавы не адалеюць. Ці вы забылі міласьць господню к нам, калі войнства наша зьмятала цьвярдыні ворагаў, і гром яго ваяцкай славы грымеў па ўсіх Карпатах і аклікаўся ў сэрцы нашых супастатаў, акі гук арханельскай трубы ў час вялікага

і страшнага дня суднага? Ня можа быць іншага канца ў вайне, як толькі перамагчы ворага, зьнішчыцеля сьвятынь. І наш гасудар так і пастанавіў: не гаварыць аб замірэньня з супастатам, дондзежэ хоць адзін яго салдат застанецца на нашай зямлі.

Цярпеньне, браціе мае! Цярпеньне, малітвы і ахвяры! Няхай ня смуціцца сэрца ваша аб тых, хто палажыў жывот на полі брані. Аб іх апякуецца сьвятая царкаў, за іх узносіць яна малітвы богу (*Натоўп маўчыць панура, нездаволены*).

Аслаў (*уздыхае*). І богу нямаведама што рабіць: тыя сабе, а тыя сабе просяць яго памагчы... хоць вазьмі ды разарвіся.

Поп. Богахульнік! Выйдзі вон!

Аслаў. Гоніш мяне вон? Вот-жа не пайду! Не пайду, покі ня скажаш, навошта поп і поліцэйскі стражнік?

Поп (*у абурэньні*). Г. Шышла! Вы чулі што ён сказаў?

Шышла. Бунтаўшчык крамольнік, да, собственна-да!.. Стражнікі, сюды! (*Пяць стражнікаў напорыста выціскаюцца з натоўпу. Зьбіраюцца ў кучу. У натоўпе рух*).

Шышла (*да стражнікаў, паказвае на Аслава*). Арыштаваць яго!

Дзед Мікіта. За што? За што арыштоўваць яго? Дакала ты! За што?

Шышла (*паказвае на дзеда Мікіту*) Забраць і яго!

Салдат-франтавік (*энэргічна выступае*). Няправільна! Не законна! Адставіць!.. Салдаты, ка мне! (*салдаты становяцца між стражнікамі і Аславам з дзедам Мікітам*).

З натоўпу. Дык вось чаго паклікалі сюды народ! А яшчэ бацюшка! Горш за паліцыю! Не дапусьцім арышту! (*Шум. Стражнікі наступаюць*).

Марына (*голасна*). Спынецеся! Што вы робеце? Ці мала яшчэ людскога гора, сьлёз і пакуты? Пасаромцеся! Тут школа, а не поліцэйскі вучастак для расправы!.. На каго падымаеце рукі? Ганьба вам! (*Весьнічкі з шумам расчыняюцца, улятае Гараська, моцна ўсхвалёваны*).

Гараська (*заглушаючы звонкім крыкам шум натоўпу*). Дзед, дзедка, дзядок! (*шукае вачамі дзеда Мікіту*). Дзядзька Алесь прыехаў! (*Плачучы*). Пакалечаны! (*Усе заціхаюць. Стражнікі падаюцца назад. Узрушаная Марына ў зьнямозе апускаецца на лаўку. Дзед Мікіта, трасучыся, працягнуўшы рукі, выходзіць з натоўпу*).

Дзед Мікіта. А дзе, дзе-ж ён? (*У весьнічках паволі прасоўваецца постаць Алеся. Ідзе, моцна кульгаючы, апіраецца на кастыль. Худы, змучаны, даўно ня брыты. Пракульгвае некалькі крокаў, запыняецца, азірае грамаду, ківае галавою*).

Алесь (*ціха*). Дзень добры, землякі і чэснае грамадзянства. (*Да бацькі*). Здароў, тата!

Дзед Мікіта (*кідаецца да Алеся, з болем у голасе*). Сынок ты мой! Што з цябе зрабілі?.. І рукаў пусты абвіс, гайдаецца, як вылушчаны колас!.. (*схіляе сівую галаву на плячо сыну. Заціхае. Потым*

*выпускае Алеся, выцірае сьлёзы, да стражнікаў*). Што-ж, дзеткі, слугі царскія! Забірайце мяне, няшчаснага бацьку!

Аслаў (*ідзе да Алеся*). Алеська, родны ты наш! (*Абнімае яго цалуе ў галаву*). Не цябе я цалую, а наша адвечнае, цёмнае мужыцкае гора! (*У натоўпе цішыня. Потым жанкі пачынаюць плакаць у голас, прычытаць: „А будзь-жа ты, вайна, праклята! Ды няхай дарогі твае палыном зарастуць“. Уваходзіць Караліна, блукае вар‘яцкім паглядам, вапыняе вочы на Алесю*).

Караліна (*круціць галавою. Да Алеся*). А мой-жа ты міленькі! Які-ж ты балесны!.. І замуж за цябе ня пойдзе ніхто! (*Пераводзіць вочы на папа*). А-а-а! Уцякаеш ад мяне!.. Маліся, маліся за вайну! Прасі бога, каб множыліся калекі!.. Гані іх (*паказвае кіем на дзеда Мікіту і Аслава*). Гані іх на вайну! Гані ўсіх! Усіх!.. Кажаны, кажаны! (*махае кіем*). А ты-га! Гэта яны, яны абселі майго імпэратара!

Народ расходзіцца. Поп нырае ў натоўп, прабіраецца ў бок пералазу. Стражнікі выходзяць. Караліна гоніцца за імі, бяжыць на вуліцу. З вуліцы даносіцца яе крык „Кажаны, кажаны! А ты-га!.. А-ля-ля-ля!“ На сцэне застаюцца—салдат-франтавік, Марына, Алесь, дзед Мікіта, Аслаў, Гараська і Шышла. Марына сядзіць, апусьціўшы галаву, у глыбокім горы. Дзед Мікіта і Аслаў стаяць, панура схіліўшы галовы. Гараська журботна пазірае на Алеся. Алесь стаіць зьбянтэжаны, з горкаю ўсьмешкаю. Шышла, насупіўшы бровы, назірае за Марынаю, зрэдка кідаючы злы погляд на Алеся. Салдат з падвязанаю рукою падходзіць да Алеся.

Салдат (*са спачуваньнем*). Па чыстай?

Алесь (*ціха, журботна*). Па чыстай, брат!

Салдат. А мне скора зноў на пазыцыі. (*Па прыяцельску стукае Алеся па плячы*). Жыві, брат! (*Выходзіць*).

Алесь (*як-бы сам з сабою*). Народ разышоўся, а блізкія маўчаць. Нічога не разумею! Ці-ж я такі пачварны і праклятый?

Гараська (*кідаецца да Алеся*). Дзядзечка, любенькі! Я цябе шкадую і люблю, як ніхто! (*Прынікае да яго тварам*).

Марына (*борзьдзенька сходзіць з ганку, ідзе да Алеся*). Алесь! А мяне ты не заўважаеш?.. ці ня хочаш заўважыць? (*Глядзіць яму ў вочы, падае руку*).

Алесь (*бярэ руку*). Марынка!.. Вось я і вярнуўся!

Марына. Я-ж хацела і маліла, каб ты толькі вярнуўся. Абапрыся-ж на маю руку! (*Вядзе яго на ганак*).

Шышла (*абурліва, з пагрозаю*). Шышла яшчэ скажа сваё слова, да, собственна-да! (*Выходзіць*).

Дзед Мікіта (*нізка зьвесіўшы галаву*). Былі, нядошлыя, павал стары... лом... Цяпер ён папаўняецца маладым бураломам!

Аслаў (*павольна, чотка*). Бура яшчэ будзе, пройдзе, прагрыміць навальніца, і тады ачысьціцца гаротніца-зямля.

*ЗАСЛОНА.*

## АКТ ЧАЦЬВЕРТЫ

### Бура

Прымаюць удзел:

1. Будан-Рыльскі, капітан, камандзір батальёна.
2. Паручык Жухін, ротны камандзір 9 роты.
3. Падпаручык Кандыга — Ротныя камандзіры.
4. Падпаручык Камоцкі — Ротныя камандзіры.
5. Падпаручык Галандовіч — Ротныя камандзіры.
6. Патап Думака — Салдаты.
7. Сямёнаўскі — Салдаты.
8. Дроб — Салдаты.
9. Гузыр — Салдаты.
10. Дзяменя — Салдаты.
11. Верамеенка — Салдаты.
12. Гурба, фэльдфебель.
13. Салдаты, афіцэры.

МАРАЦ, 1917 г.

Падзеі адбываюцца на фронце, у афіцэрскай зямлянцы і ў салдацкіх акопах. У прасторнай зямлянцы адбываецца нарада афіцэраў батальёна на чале з камандзірам батальёна капітанам Будан-Рыльскім. Удзел прымаюць ротныя камандзіры і малодшыя афіцэры. Будан-Рыльскі сядзіць на калодцы. Афіцэры разьмясьціліся, дзе хто.

Будан-Рыльскі (*устае*). Вам вядома, гаспада, што мы пастаўлены перад вялікім і грозным фактам: монархія пала!.. Наш глаўны штаб і высшае командваньне прызналі гэты факт, таксама як прызналі і часовы ўрад... Гаспада! мы не палітыкі, мы—ваенныя людзі. Наша задача—захаваць бояздольнасьць арміі, іначай ня будзе ні перамогі на вайне, ні свабоды. Салдаты стомлены вайною, адказнасьці і абавязкаў перад айчынаю адчуваюць слаба і лёгка паддаюцца на агітацыю розных політычных авантурнікаў. Сярод-жа іх ня мала ёсьць шпіёнаў і агэнтаў нямецкага штабу. У іх інтарэсах—давесьці нашу армію да поўнага распаду і развалу, а краіну кінуць у цёмнае разводзьдзе анархіі. Мы павінны не дапусьціць заразы ў армію, захаваць яе здароваю, дысцыплінаванаю і баяздольнаю. Давайце, гаспада, абмяняемся думкамі. Новае палажэньне прымушае шукаць і новых спосабаў. (*Будан-Рыльскі садзіцца. Некалькі момантаў офіцэры маўчаць*).

Паручык Жухін (*насьмешліва*). Эпіграфам да мае прамовы могуць служыць два радкі з романсу (*дэклямуе нараспеў*):

„Я угасаю з каждым днем
И злобы в сердце нет моем“.

А самую прамову можна выказаць так:

„Все это было-бы смешно,
Когда-бы не было так грустно!“

Будан-Рыльскі. І гэта, паручык, усё, што мелі вы сказаць?

Жухін. Пакуль што ўсё.

Падп. Кандыга. Сказана мала, але закавырыста.

Жухін. Закавырыстае, дружа, і наша становішча!

Будан-Рыльскі. У самым крытычным становішчы, паручык, павінен быць выхад.

Жухін. На гэта я вам вось што скажу, г. капітан. Экзэменаваў генэрал афіцэра. Пытае: „Два флангі вашай роты атакованы пяхотаю праціўніка. Сьпераду на вас налятае коньніца, з-заду б'е артылерыя, а над галавою ў вас аэропляны скідаюць бомбы. Якую падасьце каманду?“—На малітву шапкі далоў!

Афіцэры. Брава! Маладзец!

Жухін. Як бачыце, г. капітан, і тут знайшоў выхад сьмякалісты ваяка.

Будан-Рыльскі. Вы, паручык, занадта песімыстычна глядзіце на рэчы.

Жухін. Я цьвяроза расцэньваю сытуацыю, што складаецца на фронце ў сувязі з рэволюцыяй і з тымі ідыёцкімі прыказамі па войску, што зыходзяць ад людзей, не разумеючых ні ваеннай абстаноўкі, ні дысцыпліны, ні псыхолёгіі салдат.

Галандовіч (*у тон Жухіну*). Або ад людзей, сьвядома паставіўшых сабе задачу,—разбурыць рускую армію.

Будан-Рыльскі. Ах, гаспада! Вы ломіцеся ў адчыненыя дзьверы. Ясна, што рэволюцыя пераблутала ўсе карты, што яна ў вышэйшай меры ўскладніла наша становішча. Да не сядзець-жа нам, злажыўшы рукі. Раз мы бачым, якая небясьпека пагражае Расіі і арміі, мы павінны перасеч яе і не дапусьціць анархіі. У імя той-жа свабоды нам трэба захаваць армію.

Жухін. Я не кажу, гаспадзін капітан, што мы не павінны змагацца за парадак і дысцыпліну ў войску. Я толькі хачу падкрэсьліць, што змаганьне пры такіх умовах, як склаліся яны цяпер, будзе змаганьне Дон-Кіхота з ветракамі.

Будан-Рыльскі (*нездаволена*). Дык што-ж па вашаму рабіць?

Жухін. Разагнаць штыкамі савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, спаліць прыказ № 1, а аўтараў яго павесіць!

Камоцкі. Проста, коратка і ясна. Але тады, г. паручык, ад рэволюцыі і свабоды не асталося-б і трыбухоў.

Жухін. Калі свабода зачалася з развалу арміі і з прынцыпу выбарнасьці ў войску, то асінавы кол у сьпіну такой рэволюцыі і такой свабодзе!

Будан-Рыльскі. Вы, паручык, добры баявы афіцэр, але вы не політык. Ня можна сеч з пляча там, дзе дрэвы стаяць густа. Трэба раней расчышчаць прастор для тапара. А для гэтага патрэбна іншая тактыка. У нашым арсэнале цяпер ёсьць покі-што адна толькі зброя—слова. З якім-жа словам падыйсьці да салдат?

Жухін. Ах, г. капітан, памогуць тут словы, як мёртваму кадзіла.

Камоцкі. Паручык Жухін—чалавек рашучых і крутых мер, але ён ня лічыцца з фактамі. Рэволюцыя выбіла яго з сядла, і ён упаў у адчаяньне. Становішча ня так ужо і страшнае. Мы павінны перш за ўсё растлумачыць салдатам сэнс рэволюцыі, што і рэкомэндуецца вышэйшым ваенным командваньнем, і ў рэволюцыі павінны знайсьці струмень жывучай і гаючай вады, каб ёю зьлячыць салдацкія болі.

Жухін. Аква дысілятум—выпрабаванае лякарства, ды толку з яго мала.

Камоцкі (*гаворыць далей*). Калі раней салдаты не разумелі задач вайны, то цяпер ён будзе ведаць, што ён ваюе за сваю зямлю, за сваю свабоду, за права быць вольным грамадзянінам.

Будан-Рыльскі. Правільна!

Камоцкі. Затым, г.г., трэба зьмяніць і свае адносіны да салдата, зжыць тую адчужанасьць, што адасабляла афіцэра ад салдата, стаць з ім на роўную нагу...

Жухін. Дэмагогія, падпаручык!.. Да ён і сам скора асядлае цябе!

Будан-Рыльскі. Паручык Жухін, будзьце цярплівы!

Камоцкі (*да Жухіна*). Не, паручык! Калі чэсна і шчыра падыйсьці да салдата і прызнаць у ім роўнага чалавека, то ён чэсна і шчыра прызнае ў табе кіраўніка і начальніка і ўсюды пойдзе за табою.

Жухін (*іранічна*). Як гэта лібэральна!.. А з рэшты ўсё цяпер пайшло па-іншаму. Амаль ня ўсе сталі соцыялістамі-рэволюцыянэрамі. Знайшліся генэралы, якія сталі даводзіць, што іх дзяды былі прыгоннымі.

Камоцкі. Ня ў лібэралізьме, не ў соцыялістых-рэволюцыянэрах, паручык, тут справа, а ў той правільнай лініі, якую павінны заняць афіцэры ў інтарэсах утрыманьня за сабою арміі (*садзіцца*).

Кандыга. Далучаюся да слоў падп. Камоцкага, хоць і ня цалкам. Ня трэба так песыместычна глядзець на рэчы, як глядзіць паручык Жухін. Уляжацца шквал, і жыцьцё пойдзе сваім парадкам. Трэба-ж, гг., верыць і ў здаровы салдацкі розум, а наш абавязак—прыйсьці яму на дапамогу. Аб зьмене адносін да салдата гаварыць ня прыходзіцца: яны зьмяніліся бяз нашага жаданьня і волі. Мы павінны толькі прызнаць гэта, як факт, і ня супярэчыць яму. І выбарнасьць ня такая ўжо страшная рэч. Трэба толькі, каб гэтыя выбары праходзілі пад нашым кіраўніцтвам і пры нашым контролю. Тады гэтая выбарнасьць будзе нашаю надзейнаю апораю.

Камоцкі. Правільна!

Галандовіч. Дай божа нашаму цяляці ваўка зваяваці!

Жухін. Ну, што-ж? Камэдынства таксама заняцьце.

Будан-Рыльскі. Паручык Жухін, умейце памаўчаць!

Жухін. Цяпер свабода, г. капітан!

Будан-Рыльскі. І для свабоды ёсьць пэўныя граніцы (*да ўсіх*). Дык так, гг., палажэньне сур'ёзнае, але не безнадзейнае, і наша задача, яшчэ раз паўтараю—захаваць парадак і дысцыпліну ў войску. Бліжэй будзьце да салдата. Растлумачвайце яму сэнс перавароту і расказвайце аб палітычных партыях. Бярэце курс на партыю соцыялістаў-рэволюцыянэраў. Партыя с.-р. пагодзіць усіх: яна—за вайну, за дысцыпліну ў войску. На яе і трэба апірацца. Праводзьце тую думку, што свабода застанецца свабодай тады, калі мы будзем усьведамляць свае грамадзкія абавязкі перад айчынаю, абавязкі воіна і грамадзяніна. Дык з богам, гг! (*афіцэцы кланяюцца і выходзяць*).

Жухін. І так: пачынаем камэдыю. Камэдыя пяройдзе ў трагедыю, дзе будуць іграць другія артысты.

Дзея пераносіцца ў салдацкія акопы. На сцэне адрэзак акопаў 9 роты. Два канцы іх расходзяцца ў бакі і губляюцца ў воддалі. У акопах мільгаюць зімовыя салдацкія шапкі-кучомкі. У цэнтры група салдат, абступіўшых чарнявага салдата. У групе—Сямёнаўскі, Дзяменя, Гузыр і Дроб.

Сямёнаўскі (*ціха, сур'ёзна, узрушана да Верамеенкі*). І гэта ня хлусьня, Верамеенка?

Верамеенка. Праўда, братцы,ісьціны бог праўда! (*Панізіўшы голас*). У штаб дывізіі прыяжджаў з Петраграду нейкі з штацкіх, ня то амісар, ня то камісар з самай рэволюцыі... Дзялоў, братцы, там наварочалі! Міністраў усіх павыганялі!..

Сямёнаўскі. Да ну?

Верамеенка, Яй-богу. Генэралаў, каторыя былі ня ў меру строгія,—пад рабро!

Дзяменя (*рухамі ўсяго цела выказвае радасьць*). І самому Міколку, кажаш,—халэмус?

Верамеенка (*махае рукою*). Халэмус!

Дроб (*абводзіць поглядам салдат*). Скінуўся бацька з гары—і чорт яго бяры!

Верамеенка. Адрокся, кажуць сам прастолу!

Дзяменя. Калі прыпруць, дык ня толькі прастол, а і штаны згубіш!.. Ну, братцы вы мае: за цара ўжо ваяваць ня трэба! Асталіся яшчэ вера і айчына. Вось-бы яшчэ і іх пусьціць у трубу.

Дроб. Ня надта цешся: ня будзе цара, веры і айчыны, дык выдумаюць іншае ліха.

Скептычны голас. Было-б балота, а чэрці знойдуцца. Але вось чаму дагэтуль нічога нам ня кажуць?

Верамеенка (*пераконана*). Скажуць, ня дзе дзенуцца!

Сямёнаўскі (*б'е сябе па ілбе*). Я-то гляджу, што нашы афіцэры прыціхлі, як мухі ў дождж, і ўсё нешта шэпчуцца.

Дроб. Стойце, братцы! А немец, аказваецца, ведаў раней за нас: учора вывешваў з сваіх акопаў нейкае паведамленьне і ўсё крычаў: „Рус! Рус! рэволюцыя!“ Ды наша артылерыя адкрыла агонь.

Галасы. Праўда, праўда!

Гузыр. І што-ж яно цяпер, братцы вы мае, будзе?

Дроб. Нічога ня будзе: сядзелі ў акопах—і будзем сядзець.

Дзяменя. Ня дрэф, Паўлюк: наша бярэ!.. Адно можна сказаць—дом цяпер на палавіну дарогі бліжэй. (*Падходзіць фэльдфэбэль Гурба. Салдаты прыціхаюць*).

Гурба. Што вы тут зьбіліся ў кучу і падымаеце гармідар?

Дзяменя. Чуў навіну, г. фэльдфэбэль?

Гурба (*строга*). Што за навіна?

Дзяменя. Эх, г. фэльдфэбэль! шкода, што няма гарэлкі: выпілі-б за ўпакой душы царскай фаміліі і за здароўе рэволюцыі!

На твары Гурбы страх і непакой. З другога боку борэьдзенка прабіраецца Патап. З той стараны, адкуль ён прайшоў, чуюцца салдацкія галасы, асобныя словы: „свабода“, „рэволюцыя“, „даваяваўся Міколка!“ Патап вясёлы, узбуджаны, сьпяшаецца.

Патап. Таварышы! Царскае самаўладзтва пала! Салдаты і рабочыя Петраграду скінулі крывавага цара і перадалі ўладу народу!

Салдаты. Ура!

Гурба. Што вы—звар'яцелі? Пад расстрэл хочаце?

Патап. Ня бойся, таварыш Гурба! Даволі нас расстрэльвалі. Мы цяпер і самі можам стрэльнуць!

Гурба. Цішэй, рабята! Прыказу ад начальства ня было яшчэ ніякага.

Сямёнаўскі. Начальства! Што начальства!

Патап. Не начальства, а рэволюцыя піша цяпер свае прыказы і законы.

Дзяменя. О, брат, рэволюцыя! Яна напіша!.. Люблю я, хлопцы, рэволюцыю! Пачынае рабіцца весела.

Дроб. Каб гэта вясёласьць да сьлёз не давяла.

Патап. Калі хто і будзе плакаць, дык ня мы. Нашы сьлёзы выліліся ў рэволюцыю. І сіла цяпер—мы, салдаты!

Голас з глыбі акопа. А з вайною што будзе?

Галасы. К чорту вайну! Калі свабода, дык свабода!

Патап. З вайною братцы, валынкі будзе многа. Каля вайны вайна то і пачнецца!

Сямёнаўскі. Як гэта так?

Патап. Справа, братцы, у тым, што часовы ўрад, заняўшы месца Мікалая, будзе стаяць за вайну.

Дроб (*песымістычна*). А ці я не казаў.

Дзяменя. Няхай ваюе сам, а я ваяваць ня буду!

Галасы. Дык на чорта-ж такі ўрад?

Сямёнаўскі. А хто такі часовы ўрад і хто яго ставіў?

Патап. Часовы ўрад, братцы—збор-дружына. Там ёсьць князі, памешчыкі, прафэсары і нават соцыяліст-рэволюцыянэр Керанскі.

Сямёнаўскі. Дык Керанскі-ж за народ стаяў.

Патап. Усе яны стаяць за народ. Ї Мікалай другі стаяў за народ—нават тады, калі ўводзіў земскіх начальнікаў і паліцэйскіх стражнікаў.

Гузыр (*недаўменна*). А чаго-ж глядзяць рабочыя і салдаты?

Патап. А яны, брат, і глядзяць: побач з часовым урадам ёсьць савет рабочых і салдацкіх дэпутаў. Ён кантралюе работу часовага ўраду і нашага брата ня дасьць у крыўду.

Салдаты. Во гэта голас! Гэта—дзела!

Патап (*радасна*). Вось іх прыказ № 1 (*дастае прыказ. Салдаты з узросшай цікавасьцю гуртуюцца цясьней каля Патапа. Чытае*). По гарнизону Петроградского округа. Всем салдатам гвардии, армии, артиллерии и флота для немедленного и точного исполнения, а рабочим Петрограда—для сведения.

Совет рабочих и солдатских депутатов постановил:

1. Во всех ротах, батальонах, полках, парках, батарэях, эскадронах и отдельных службах разного рода военных управлений и на судах военного флота немедленно выбрать комитеты из выборных представителей от нижних чинов вышеуказанных воинских частей.

Дзяменя. Братцы вы мае. Начальства сваё будзе!

Галасы. Ц-с-с!

Патап (*яшчэ з большым пад'ёмам*).

2. Во всех воинских частях, которые еще не выбрали своих представителей в совет рабочих депутатов избрать по одному представителю от рот, которым и явиться з письменным удостоверением в здание государственной думы к 10 часам утра, 2 сего марта.

Сямёнаўскі (*з абурэньнем*). А ў нас, трасца іх мацяры, ужо палавіна марца!

Патап. Ша (*чытае далей*).

3. Во всех своих политических выступлениях воинская часть подчиняется совету рабочих и солдатских депутатов и своим комитетам.

Галасы. Во! во гэта голас!

Патап. 4. Приказы военной комиссии государственной думы следует исполнять, за исключением случаев, когда они противоречат приказам и постановлениям совета рабочих и солдатских депутатов.

5. Всякого рода оружие, как-то: винтовки, пулеметы, бронерованные автомобили и прочее должны находится в распоряжении и под контролем ротных и батальонных комитетов и ни в коем случае не выдаваться офицерам, даже по их требованиям.

Галасы. Брава! Правільна!

Патап. 6. В строю и при отправлении служебных обязанностей солдаты должны соблюдать строжайшую воинскую дисциплину, но в частной жизни солдаты ни в чем не могут быть умалены в тех правах, коими пользуются все граждане. В частности, вставание во фронт и обязательное отдание чести вне службы отменяется.

Дзяменя. Вось будуць грызоты генэралам і афіцэрам!

Патап. 7. Равным образом отменяется титулование офицеров: ваше превосходительство, благородие и т. п. и заменяется обращением: господин генерал, г. полковник и т. д.

Дзяменя. Да я проста буду звать его: „Эй, ты генэрал"!

Патап. 8. Грубое обращение с солдатами всяких воинских чинов и в частности обращение к ним на „ты" воспрещается и о всяком нарушении сего, равно как и о всех недоразумениях между офицерами и солдатами последние обязаны доводить до сведения ротных комитетов.

Настоящий приказ прочесть во всех ротах, батальёнах, полках, экипажах, батареях и прочих строевых и нестроевых командах. Петроградский совет рабочих и солдатских депутатов. (*Кончыўшы чытаць, Патап ускідае вочы на сваіх слухачоў*). Чулі, таварышы? Вот ён (*трасе прыказам*) наш салдацкі прыказ! Скасована шэрая скацінка! Салдат стаў чалавекам, роўнапраўным грамадзянінам! Салдат вызвален з-пад афіцэрскага прыгону... Няхай жыве савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў! Няхай жыве рэволюцыя!

Салдаты. Ура! (*падкідаюць шапкі ўгору. Дроб выносіць гармонік, іграе вясёлую, заліхвацкую мэлёдыю. Салдаты з радасьці скачуць, выгукваюць: „свабода, братцы", „рэволюцыя", „ура, савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў", „няхай жывуць браты рабочыя і салдаты"*).

Гурба. Рабяты, рабяты! (*Шум паволі заціхае*). Усё гэта добра. Але не забывайце: вы ў акопах, вы ў страю. А ў гэтым прыказе прадпісваецца найстражэйшая дысцыпліна, калі салдаты пры выкананьні сваіх абавязкаў.

Патап. Не генэральская і афіцэрская, а тая, што азначыць наш, салдацкі савет!

Салдаты. Правільна! Не салдаты загналі нас у акопы!

Дроб. Пастойце, братцы: а пра заміраньне ў прыказе нічога не сказана.

Гузыр (*расчарована*). Так, пра заміраньне ні слова.

Патап. Таварышы, ад нас, салдат, усё залежыць! Трэба, каб уся салдацкая братва, як адзін, сказала: „далоў вайну"!

Дзяменя. Гэта мы скажам!

Патап. І мала сказаць: сказанае трэба падтрымаць організованаю, дружнаю салдацкаю сілаю.

Салдаты. Падтрымаем, як адзін!

Патап (*патэтычна*). Грамадзяне-салдаты! браты мае! за што мы ваюем? За што гніем у гэтых сьмярдзючых, сырых, пранятых крывёю акопах? За чые інтарэсы? За інтарэсы купцоў, прамыслоўцаў і розных багачоў-драпежнікаў. Ім патрэбны рынкі для іх капіталаў. На вайне, на крыві, на сіроцкіх сьлёзах народу яны пухнуць ад золата, а народ пухне з голаду. Мы-ж, сьляпая, ашуканая папамі і казёнымі пісакамі маса,

калечым, забіваем, вынішчаем такіх-жа абманутых, сьляпых і паслушных, як і самі мы. Мы скінулі крывавага цара з яго Распуцінымі, з яго казнакрадамі міністрамі, давёўшымі Расію да краю пагібелі. Мы павінны скінуць і ўсю яго крывавую спадчыну. Мы тут ня чуем яшчэ голасу часовага ўраду, але ён будзе стаяць за вайну да пабеднага канца, бо там ёсьць князі, там ёсьць Гучковы і Мілюковы, якім патрэбны Дарданэлі і Канстантынопальскія пралівы, а разам з імі і наша салдацкая кроў!

Галасы. К чорту такі ўрад! Далоў вайну. Канчаць вайну!

Патап. Запамятайце, таварышы салдаты: хто будзе гаварыць, што вайну трэба весьці далей, да пабеднага канца, той нам вораг, вораг свабодзе і рэволюцыі. Памятайце гэта добра і не давайце ашукаць сябе. Разьвязвайце вочы другім салдатам, за што, за каго мы ваюем і няхай нашым баявым штодзенным клічам будзе кліч: далоў гандлярскую вайну!

Салдаты. Правільна! Праўда! Далоў вайну!

Дзяменя (*выскоквае на бруствэр акопа, надзеўшы на штык белую парцянку*). Браты-немцы! Нямецкія салдаты! гэр! мэр! дунар вэтэр! далоў вайну! Годзе ваяваць! Давайце рабіць мір! (*з нямецкіх акопаў даносіцца голас; „Рус! Рус! гох Рус“! Гурба хватае Дзяменю за шынэль, цягне яго ў акоп. Злазь, сукін сын!)*

Дзяменя (*махае саматужным сьцягам*). Далоў гандлярскую вайну!

У часе гэтай сцэны ў акопе паяўляецца паручык Жухін. Заўважыўшы ротнага камандзіра, салдаты змаўкаюць, становяцца ў струнку. Некалькі моманту Жухін стаіць бледны, узрушаны, абураны. Бровы ссунуты грозна, вачамі пранізвае салдат. Дзяменя стараецца незаметна падаецца далей. Патап, унурыўшыся, украдкам наглядае за Жухіным.

Жухін (*да Гурбы паніжаным павольным голасам*). Гэта што такое? (*Гурба бярэ пад казырок, стаіць моўчкі. Жухін павышае голас*). Я пытаюся—што тут у цябе робіцца?

Гурба. Так што... Рэволюцыя ваша благародзіе!

Жухін (*з халоднай насьмешкай*). Так, так!.. Свабода і рэволюцыя (*да Дзямені*). Ты! шаг наперад—марш! (*Дзяменя выступае на крок уперад, па салдацку чаканячы нагамі*). Жухін (*паказвае на штык з парцянкай*). Што гэта ў цябе матляецца на штыку?

Дзяменя. Парцянка, ваша благародзіе!

Жухін. Ты крычаў далоў гандлярскую вайну?

Дзяменя. Так точна—я!

Жухін. А ты знаеш, што ты ўчыніў пастумак, за які цябе на месьце, тут-жа трэба расстраляць?

Дзяменя. Так, ваша благародзіе, было да рэволюцыі, а цяпер свабода!

Жухін (*запальваецца злосьцю. Да Гурбы*). Адабраць ад яго вінтоўку, а самога адвесьці ў штаб палка! (*Сярод салдат рух*).

Сямёнаўскі. Гэта такая свабода!

Патап (*рашуча выступае наперад*). Г. паручык!

Жухін. А, прыказ № 1, напісаны рукамі здраднікаў і ворагаў Расіі.

Патап. Дазвольце запытаць, г. паручык: што палагаецца салдату за зьвяржэньне цара?

Жухін (*глядзіць зьняважліва і з нянавісьцю на Патапа*). А табе хто даў права ставіць мне такія запытаньні?

Патап. Рэволюцыя, зьмёўшая к чорту цара і ўвесь яго гнілы хлам! Яна дала мне права вольна выказваць свае мысьлі... Ваш прыказ арыштаваць нашага таварыша не законны! Не пазволім арыштаваць таварыша!

Салдаты. Не пазволім! Няма цяпер такога права! Даволі трапалі нашага брата! Вон!

Жухін (*бляднее, падаецца назад. У парыве злосьці*). Здраднікі! Прадажнікі! Шкурнікі! (*Заварочваецца, выходзіць. На хаду запыняецца, Кідае злосна*). Не для вас свабода! Радзіліся рабамі і здохнеце рабамі!

Патап. Рабы паўсталі і будуць вольнымі!

Дзяменя (*на ўздагон*). І тыкацца таксама не пазволім!.. (*Абарочваецца ў бок нямецкіх акопаў, крычыць*). Браткі-немцы! далоў вайну! Вон ганеце сваіх афіцэраў.

*ЗАСЛОНА.*

## АКТ ПЯТЫ.

## Вайна вайне

Прымаюць удзел:

1. Шабура, салдат, прадстаўнік Петраградзкага гарнізону і савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Бальшавік.
2. Сінухін, эсэр, прадстаўнік часовага ўраду і армейскага камітэту.
3. Капітан Будан-Рыльскі.
4. Палкоўнік Ступін, камандзір палка.
5. Патап Думака.
6. Сямёнаўскі.
7. Гузыр.
8. Дроб.
9. Дунейка, салдацкі дэлегат.
10. Гурба.
11. Дзяменя.
12. Гаршкоў, унтэр-афіцэр, дэлегат.
13. Паручык Жухін, ротны камандзір.
14. Салдаты, афіцэры.

Дзея адбываецца ў бліжэйшым франтавым тыле адначасна на пасяджэньні палкавога камітэту і на салдацкім мітынгу. Паседжаньне палкавога камітэту праводзіцца ў штабе палка, у панскім доме. За сталом прэзыдыум камітэту: Будан-Рыльскі—старшыня.

Сінухін, прыехаўшы наводзіць рэволюцыйную дысцыпліну. Унтэр-афіцэр Гаршкоў — сакратар. На лаўках сядзяць дэлегаты. Афіцэры ў першых радох. Сярод іх палкоўнік Ступін і камандзір 9 роты паручык Жухін. Каля прычыненых дзьвярэй стаіць Дзяменя, зрэдка прасоўвае голаў, падслухвае.

Будан-Рыльскі. Пасяджэньне палковага камітэту абвяшчаю адкрытым. На павестцы дня стаяць у нас тры пытаньні: 1. Аб мерах падтрыманьня дысцыпліны сярод салдат. 2. Аб інцыдэнце ў 9 роце і 3. Аб культурна-асьветнай рабоце з салдатамі. Якія будуць зьмены ці дадаткі?

Сінухін (*важна, аўторытэтна*). Павестку дня зацьвердзіць. Унесьці толькі папраўку ў формулёўку першага пытаньня, дадаўшы „рэволюцыйнай" к слову „дысцыпліны".

Палкоўнік Ступін (*сярдзіта*). Я хоць і ня член палкавога камітэту, але я адказваю за полк, да! і таму прыказваю...

Сінухін. Прыказваць палкавому камітэту, г. палкоўнік, вы ня можаце.

Ступін (*іранічна*). Ах, да: я і забыўся, што я цяпер камандзір палка толькі номінальна! Ну, тады я прашу першым пытаньнем паставіць пытаньне аб наглым, здрадніцкім праступленьні, якое тут мякка названа інцыдэнтам, двух радавых 9 роты даручанага мне палка. Такое праступленьне павінна разьбірацца зараз-жа, і паручык Жухін зрабіў таксама праступак, не застрэліўшы негадзяеў на месьце!

Будан-Рыльскі. Вінават, г. палкоўнік: мы цяпер абгаворваем павестку дня. Вы прапануеце другое пытаньне паставіць першым? Я далучаюся да вашай прапазыцыі і думаю, што члены камітэту пярэчыць ня будуць?

Галасы. Не пярэчым?

Будан-Рыльскі. Другіх заўваг ня будзе?

Салдацкі дэлегат. Аб замірэньні-б пагаварыць, таму як салдаты хочуць міру.

Будан-Рыльскі (*строга*). Такога пытаньня ставіць мы ня можам: гэта ня наша справа.

Сінухін. Зусім справядліва. Часовы ўрад сам клапоціцца аб гэтым, у яго компэтэнцыю мы ўрывацца ня можам. (*Афіцэры пляскаюць, салдаты маўчаць*).

Будан-Рыльскі, Тады, гг., прыступім да абмеркаваньня вельмі і вельмі агіднага здарэньня, што мела месца ў 9 роце, здарэньне, якое г. палкоўнік зусім слушна назваў праступленьнем, здрадніцтвам. Палкавы камітэт павінен вельмі і вельмі ўважна да яго аднесьціся і вынесьці адпаведнае суровае пастанаўленьне, каб у корані перасеч заразу паражэнства ў організьме арміі і тым самым адвесьці вялікую небясьпеку для свабоды і лёсаў Расіі... Будзем прасіць паручыка Жухіна далажыць камітэту аб праступным учынку радавых яго роты.

Салдацкі дэлегат. Трэба заслухаць таксама і паказаньне салдат.

Будан-Рыльскі. Калі камітэт пастановіць перадаць справу ў суд, то суд і зоймецца сьледзтвам... Паручык Жухін, ваша слова!

Жухін (*з замахам на красамоўства*). Чорная пляма ганьбы кладзецца на баявую 9 роту. Гг! Мы маем тут прыклад таго, як небясьпечна для войска палітыка і такія дурацкія прыказы, якім зьяўляецца так званы прыказ № 1...

Сінухін (*строга*). Г. паручык! Вам не дано права так адзывацца аб дакуманце, падпісаным часовым урадам!

Жухін. Тым горш для часовага ўраду. Гэты прыказ і кладзе пачатак развалу арміі, адно з праяўленьняў якога і мела месца ў 9 роце.

Афіцэры. Правільна!

Жухін. Радавы мае роты Патап Думака, заражаны бальшавізмам, прачытаў гэты прыказ з адпаведнымі тлумачэньнямі і дадаўшы яшчэ брызантную зарадку агітацыі супроць вайны, салдатам роты, у выніку чаго другі радавы, Дзяменя, ня ў меру разьвязны і недысцыплінаваны, дазволіў сабе дзікую, праступную выхадку: надзеў на штых парцянку, што азначала ў яго белы сьцяг, выскачыў на бруствэр акопа і ўступіў непасрэдна ў перагаворы з ворагамі аб міру, называючы іх брацьцамі і крычучы: „Далоў гандлярскую вайну“. На маю заўвагу, што за такія ўчынкі расстрэльваюць на месцы, ён нагла адказаў мне: „так было да рэволюцыі, а цяпер свабода“. Калі-ж я прыказаў арыштаваць яго, за яго зараз-жа заступіўся названы Патап Думака, заявіўшы дзёрзка: „не пазволім арыштаваць таварыша“.

Голас салдацкага дэлегата. І правільна!

Жухін (*зварачаючыся да прэзыдыуму*). Вы чуеце, гг.? (*Паказвае ў пальцам у бок, адкуль пачуўся голас*). Красамоўней гэтага ня скажаш нічога. (*Садзіцца*).

Палкоўнік Ступін (*абурліва*). І праступнікі ўжо пятнаццаць дзён астаюцца непакаранымі!

Будан-Рыльскі (*мякка*). Г. палкоўнік! вы слова не прасілі.

Ступін. Тады я прашу слова!

Будан-Рыльскі (*нахіляецца да Сінухіна. Сінухін ківае галавою*). Слова даецца камандзіру палка. Г. палкоўнік, ваша слова!

Ступін (*энэргічна папраўляючы вусы*). Армія патрабуе аздараўленьня, патрабуе зараз-жа, неадкладна, іначай мы скоцімся ў бяздоньне анархіі. Кожны дзень, кожны час паглыбляе хваробу мітынгоўшчыны і дысцыплінарных праступкаў. Там, дзе прыказы камандзіраў галасуюцца, ня можа быць пабеды, ня можа быць і арміі (*воплескі афіцэраў*). Свабоду і рэволюцыю салдаты зразумелі, як акты свавольства і беззаконьня, да! Становішча чэснага афіцэрства і верных доўгу перад айчынаю салдат безнадзейна цяжкае. Прыкрываючыся свабодаю і пад яе

сьцягам, на фронт пранікаюць цёмныя, безадказныя людзі і праступныя элемэнты, шпіёны і агэнты германскага генэральнага штабу, вядуць самую наглую агітацыю супроць вайны, навадняюць фронт антыдзяржаўнаю пісанінаю, сеюць нянавісьць і розьнь паміж салдатамі і афіцэрамі, дзе раней была адна дружная баявая сям'я *(воплескі афіцэраў)*. І вот вам, гг., прыклад нячуванай нагласьці. Дайсьці да таго, каб самачынна ўступаць у перагаворы з ворагамі, адкрыта праціўіцца прыказу ротнага камандзіра! Гэта—бунт, і мера пакараньня—расстрэл! (*Уваходзіць у злосьць*). Роту расфармаваць! Вінаватых арыштаваць! Розных-жа агітатараў—шпіёнаў на месьце расстрэльваць! (*Узрушаны, узлаваны садзіцца. Сярод салдацкіх дэлегатаў шум. Чуецца голас: „мала яшчэ салдацкай крыві... расстрэльшчыкі"*).

Будан-Рыльскі. Прашу захоўваць спакой і парадак. Хто яшчэ хоча выказацца?

Салдацкі дэлегат. Прашу слова!

Будан-Рыльскі. Ваша фамілія?

Салдацкі дэпутат. Дунейка!

Будан-Рыльскі. Слова мае дэлегат Дунейка!

Дунейка. Яно, канешне парадак у войску павінен быць. Але-ж рэволюцыя разбурыла ўсякія парадкі, таму як яна рэволюцыя. А раз стары рэжым скінулі, дык аб ім і гаварыць няма чаго. Салдаты хочуць міру, аб ім гавораць і ў дзень і ў ночы і сьняць яго сплючы. І няма нічога дзіўнага, што салдат загаварыў пра мір у голас і крыкнуў з акопу, што ён хоча міру: кожны плача па свайму бацьку як умее. У нас, значыцца, свабода, а калі свабода, дык, значыцца, і можна гаварыць тое, што мы думаем. Камандзір палка казаў, што даўней была дружная сям'я. Яно канешне, калі салдата білі ў зубы, і ён маўчаў, тады была дружная сям'я. А калі салдат сказаў—годзі ўжо мяне біць у зубы, дык гэта—бунт! Каравул! Расстраляць!

Салдаты. Праўда!

Дунейка. Так што ў нас пра мір гавораць. У нас міру ня хочуць афіцэры, генэралы і каторыя імпэрыялісты. І салдаты кажуць—ну, няхай яшчэ пабудзе да пятнаццатага мая і калі ня будзе, дык мы пойдзем самаўпраўна...

Будан-Рыльскі. Гаварыце аб справе. Конкрэтна—што вы прапануеце?

Дунейка. Вось так і корэтна—няхай салдаты самі вырашаць!

Салдаты. Правільна. (*Афіцэры пераглядаюцца і пасьміхаюцца. З іх боку чуецца іронічны голас: „Ну чым не па саламонаўску?"*).

Сінухін (*бярэ слова. Падымаецца, запускае пальцы ў доўгія валасы*). Таварышы! Мы чулі голас афіцэрства і голас салдат, іх погляды, погляды дыамэтральна процілеглыя, на адзін і той-жа факт, на факт бясспрэчнага парушэньня воінскай рэволюцыйнай дысцыпліны. Таварышы! Калі над змучанаю царызмам Расіяй пранёсься радасны ўздых

аблягчэньня і над стомленым народам занялася ружовая зара свабоды, дык ня месца тут, у гэты грозны час, калі вораг пераступіў парог вялікай і вольнай цяпер Расіі і пагражае яе волі, дык ня мясца тут хатнім спрэчкам і раздорам! Грамадзяне салдаты! Будзьце дастойны свабоды і яе вернымі вартаўнікамі! Крапчэй дзяржэце ў руках вінтоўкі! Давер'е часоваму ўраду і вашым начальнікам! Грамадзяне афіцэры! Уважайце правы салдат! У крыўду салдат мы не дамо! Часовы ўрад зволіў шэсьць генэралаў, камандаваўшых арміямі і франтамі, зьняў трыццаць пяць камандзіраў корпусаў і шмат якіх начальнікаў дывізій. Салдаты! вы маеце права праз вашы выбраныя органы контроляваць сваіх начальнікаў. Але не інтарэсы асабістага парадку павінны кіраваць вамі, а інтарэсы вялікай свабоднай Расіі. Адшчапенцам-жа пад фальшывым сьцягам свабоды, агітатарам супроць воінскай рэволюцыйнай дысцыпліны мы не паз-во-лім (*стукае кулаком*) сеяць смуту і ўносіць разлад на фронце! (*Воплескі афіцэраў*). Армія павінна быць бояздольнай, і такою яна будзе! (*Дружныя воплескі афіцэраў*).

Цяпер, тт., адносна праступку радавых 9 роты (*Дзяменя прасоўвае ў дзьверы галаву*) пытаньне яснае: факт парушэньня рэволюцыйнай воінскай дысцыпліны наяўны і пакідаць яго без пакараньня мы ня маем права. А таму—спрэчкі спыніць! Вінаватых-жа ўзяць пад стражу і справу аб іх перадаць у дысцыплінарны суд. Рэволюцыйная ваенная дысцыпліна павінна быць на належнай вышыні! (*Пад воплескі афіцэраў Сінухін садзіцца. Дзяменя бяжыць у роту, дзе ў гэты час адбываецца мітынг*).

Мітынг адбываецца на пустым дварэ. Будынкі на палавіну разбураны. На пярэднім пляне—трыбуна, ёмкая калодка. На трыбуне стаіць Патап. Каля трыбуны—Шабура, Сямёнаўскі, Гузыр і Дроб.

Патап. Тт., да нас, на фронт, прыехаў прадстаўнік ад геройскага Петраградзкага гарнізону, член савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў і член РСДРП бальшавікоў, таварыш Шабура! (*Воплескі*). Слова мае таварыш Шабура! (*Воплескі. Патап сходзіць з трыбуны. Яго мейсца займае Шабура*).

Шабура (*зьнімае шапку*). Ад рэволюцыйнага пролетарыяту, ад слаўнага Петраградзкага гарнізону і ад партыі бальшавікоў гарачае прывітаньне вам, таварышы салдаты! (*Воплескі. Надзяе шапку*).

Таварышы! Пад магутным напорам рабочай клясы і рэволюцыйных мас геройскага Петраградзкага гарнізону палі ланцугі крывавага самадзяржаўя і зьмецены, як сьмецьце, царскія сатрапы і яго фамілія. Капіталісты—эксплёататары, буржуазія, што нажывалася на нашай крыві і нашых мазалёх, усе іхнія прыслужнікі разьбегліся і пахаваліся ў сваіх норах, аглушаныя выбухам гневу рэволюцыйных мас. Але, тт., яны прыбіты, ды не дабіты! Яны пачынаюць разглядацца ды паварушваць, як тараканы сваімі вусікамі, каб намацаць месца, дзе-б можна запусьціць свае капцюры ды зноў залезьці на наш карк. І гэтыя іх вусікі, тт., рас-

кіданы ўсюды: ёсьць яны ў часовым урадзе ў асобе розных Гучковых, Мілюковых. Яны параскіданы сярод салдат, калі пішуцца ўра-патрыётычныя рэзолюцыі аб вайне да пабеднага канца; сярод афіцэрства і генэралаў, калі яны расьпінаюцца за старую царскую дысцыпліну. Гэта, таварышы, іх вуснамі апаганьваецца прыказ № 1, гэта з іх галоў выходзяць байкі аб нямецкіх грошах, на якія быццам-бы робіцца рэволюцыя. Гэта, тт., яны выкідаюць лёзунгі аб згодзе сярод політычных партый, каб закалыхаць рэволюцыйную чуйнасьць. Гэта яны крычаць аб вайне да пабеднага канца.

Тт! Ужо трыццаць два месяцы на працягу многіх тысяч вёрст, куды імпэрыялізм сагнаў дзесяткі мільёнаў сялян і рабочых для іх узаемнага зьнішчэньня ў імя нажывы капіталістычных акул, пажынае сьмерць сваё багатае жніва, а сьвет топіцца ў крыві, у пажарах, у разбурэньні. Але, таварышы, ім яшчэ мала гэтай крыві! Кожны з двух бакоў хоча давесьці вайну да пабеднага канца. Ці-ж можам мы, тт., скінуўшы ярмо нашых прыгоньнікаў эксплёататараў, зноў запрагацца ў гэта ярмо і пакорна ісьці на ўбой за інтарэсы прожараў і акул імпэрыялізму? (*Воплескі, крыкі „далоў імпэрыялістычную вайну“*). Не, таварышы! мы павінны павярнуць нашы вінтоўкі і гарматы і дабіць сваіх імпэрыялістаў! Далоў вайну! Вайна вайне! Вайна палацам! Не капіталісты, не буржуазія дадуць нам мір—мы самі павінны дабіцца міру, міру без анэксіі і контрыбуцыі. Тт., пад сьцяг бальшавіцкай партыі! Яна адна стаіць на варце інтарэсаў пролетарыяту і працоўнага сялянства. Яна адна ня ідзе і ня пойдзе ў згоду з буржуазіяй! Яна, таварышы, за мір. Яна выкінула лёзунг: „Далоў вайну“. (*Гучныя воплескі. На двор убягае, засопшыся, Дзяменя перапалоханы, устрывожаны*).

Дзяменя (*узрушана, громка*). Братцы! Таварышы! рыхтуйцеся! (*Неспакойны рух сярод са д т*).

Галасы. Што здарылася?

Дзяменя. Братцы! палкавы комітэт і гэты кудлаты пашлі за афіцэрамі!

Галасы. Які кудлаты? Куды пашлі?

Дзяменя. На нашу роту!.. Чакайце—зараз у госьці прыдуць, старарыжымшчыкі, зацiскаць свабоду!

Патап. Да ты кажы толкам!

Дзяменя. Грахі, братцы, успомнілі нашы! Памятаеце—выпадак з белым сьцягам? Ну дык вось. На палкавым камітэце і ўспомнілі гэта. А я там стаяў і ўсё чуў і бачыў. Ступа з скуры вылузваўся, расстрэлам пагражаў. А гэта сталічны кудлач, „рэволюцыйная дысцыпліна“, афіцэраў падтрымаў. І пастанавілі—мяне і Патапа арыштаваць зараз-жа, а роту расформаваць (*караткая паўза*).

Дроб. Вось табе рэволюцыя, вось табе і свабода! (*Маўчаньне раптам разрываецца шумам абурэньня. Крыкі; „сволачы! Здраднікі! Старарэжымшчыкі! контррэволюцыянэры. Далоў такі палкавы камітэт*).

Сямёнаўскі (*узьбягае на трыбуну*). Тт. салдаты! з нас хочуць зноў зрабіць паслушную скаціну. Не дапусьцімся да гэтага! Не дамо таварышаў у крыўду!

Галасы. Не даваць!

Сямёнаўскі. З вінтоўкамі выступім! Калі нас караць, то караць і ўсю Расію за тое, што яна зрабіла рэволюцыю і заваявала сабе сваботу!

Галасы. Правільна!

Сямёнаўскі. А гэта значыць, таварышы, варочаць стары рэжым! Далоў старарэжымшчыну! (*Воплескі. Галасы: „далоў“*).

Патап. Таварышы, праўду сказаў Сямёнаўскі. Ня ў тым сіла, што арыштуюць мяне і Дзяменю...

Дзяменя. Ну, дудкі, брат!

Патап. Тут справа горш: гэта першы наскок афіцэршчыны, каб абярнуць нас зноў у гарматнае мяса ды гнаць на нямецкія драты. Далоў контррэволюцыйную афіцэршчыну! Не пазволіць ім узяць нас у рукі!

Дзяменя (*голасна*). І я хачу сказаць, таварышы. (*Узлазіць на калодку*). Братцы, хто мяне ведае, той ведае, колькі я настаяўся з вінтоўкаю і насядзеўся без вінтоўкі за старым рыжымам! Па настаяшчаму мне трэба было-б даць за гэта георгіеўскі крыж! (*Салдаты рагочуць*). Цяпер-жа сядзець, калі мы заваявалі свабоду і трэба біць буржуяў— дзякуй за ласку!.. Далоў вайну! Няхай цяпер ідзе вайна супроць афіцэраў і буржуяў! (*Пад воплескі сходзіць з трыбуны*).

Шабура. Тт! правільна ваша позыцыя, не сходзіць з яе! Даць дружны адпор афіцэршчыне і іх прыслужнікам! Ды трэба, таварышы, цяпер-жа паслаць сваіх дэлегатаў у суседнія роты і палкі, падняць іх на ногі!

Салдаты. Правільна!

Шабура. Вылучым, таварышы, тройку і даручым ёй організаваць пасылку дэлегатаў у другія часьці!

Салдаты. Правільна!

Шабура. Каго таварышы вылучыць?

Галасы. Шабуру, Патапа, Сямёнаўскага!

Шабура. Хто за такую тройку. (*Салдаты падымаюць рукі*). Прынята! На гэтым, таварышы, мы зробім перапынак. Дык помніце-ж, таварышы, стаяць цьвёрда, ні на якія провакацыі не паддавацца! (*Салдаты пляскаюць*).

Дзяменя (*з выглядам дзелавога чалавека*). А я, братцы, зноў пайду на разьведку, сачыць за ворагам.

Выходзіць. Шабура, Патап, Сямёнаўскі тут-жа робяць нараду. Патап дастае запісную кніжку, запісвае. Сямёнаўскі падзывае таго сяго з салдат. Шабура дае інструкцыі. За гоманам салдат слоў іх ня чуваць. Салдаты ўзрушаны, сур'ёзны. Часьць з іх раз-

ходзіцца, другія абмяркоўваюць палажэньне, далятаюць адрыўкі сказаў, асобныя словы: „не даваццa", „ясная справа", „салдаты нябось разьбіраюцца", „годзі ім тут верхаводзіць". Тройка высылае дэлегатаў. У іх групе Гузыр, Верамеенка, Дроб.

Гузыр. Сваю мобілізацыю пойдзем рабіць!

Галасы. Сып, сып, рабята! (*Дэлегаты выходзяць. Зноў бяжыць Дзяменя*).

Дзяменя (*у голасе страх*). Ротны ідзе! Жухін! (*Хаваючыся*). Я не пазволю сябе арыштаваць! (*Салдаты настарожваюцца*).

Сямёнаўскі (*спакойна*). Многа бачылі мы на сваім вяку ротных. (*Да салдат*). Калі скажа строіцца, то выходзіць з вінтоўкамі! (*Салдаты топчуцца, ходзяць, прымаюць звычайнае палажэньне, як у вольны час*).

Патап. Таварышы, не задзірацца, дэмонстрацыі не рабіць! (*Паказваецца паручык Жухін. Выгляд пануры, бровы ссунуты. Выбягае Гурба, займае позыцыю, каб падаць каманду*).

Гурба. 9 рота сьмі-і-і-рна! (*Салдаты застываюць. Жухін махае на хаду рукой, гаворыць „вольна". Гурба да салдат*). Вольна. (*Бярэ пад казырок, аддае рапарт*). Г. паручык у 9 роце ўсё благапалучна. (*Жухін ківае галавой*).

Жухін (*цьвёрда*). Пастроіць роту!

Гурба (*да салдат*). Зьбірайся строіцца! (*Салдаты расходзяцца. Застаюцца Гурба і Жухін. Гурба бярэ пад казырок*). Ваша благародзіе! З вінтоўкамі прыкажаце строіцца ці без вінтовак?

Жухін. Прыказу строіцца з вінтоўкамі ня было!

Гурба. Салдаты ведаюць аб пастанове палкавога камітэту і пастанавілі без вінтовак ня выходзіць.

Жухін (*зьняважліва*). Прахвосты! Думаюць праціўіцца!.. Ну, паглядзім (*Момант развaжае*). Строіцца з вінтоўкамі!

Гурба. Слухаю! (*Бярэ пад казырок, выходзіць. Жухін застаецца адзін. За сцэнаю чуваць голас Гурбы: „ротны прыказаў строіцца з вінтоўкамі. Жухін прыслухоўваецца, зьняважліва пасьміхаецца*).

Жухін. Цяпер пачнуць галасаваць, браць вінтоўкі ці ня браць... Тфу, як гэта праціўна! І гэта войска! І думаць з такім войскам далей весьці вайну! Далёка зайшлі, таварышы дэмагогі! Адна сіла можа яшчэ выратаваць армію—жалезная рука ваеннай дыктатуры!

За сцэнаю падаецца каманда: „Станавісь!" Тупаньне ног, галасы: „жывей, жывей!" „Прымі ў затылак". Каманда фэльдфэбеля: „Рота, сьмірна. На пляче! Справа па аддзяленьням, шагам марш!" Тупаньне ног. Паказваецца першы ўзвод. Роту вядзе Гурба.

Гурба. Ва ўзводную колёну стройся. (*Рота строіцца*). Рота, стой.

Жухін. Стаяць вольна. (*Апускае галаву, потым падымае, да салдат*). Паміж камандзірам і салдатамі павінна быць поўнае ўзаемнае давер'е. Гэтага давер'я цяпер між намі няма. Калі вы чэсныя людзі, вы павінны прызнаць, што ня я быў гэтаму прычына. Маё і ваша разуменьне воінскай дысцыпліны разышлося, і вы ведаеце, на якім грунце.

Аставацца вашым камандзірам я не магу. Маё непаразуменьне з вамі разьбіраў палкавы камітэт, орган, выбраны вамі і афіцэрамі, разьбіраў сумесна з прадстаўніком ад улады, якую мы ўсе прызналі. Мая апошняя да вас просьба—ну, хоць у імя нашага мінулага баявога жыцьця—пакарыцца пастанове палкавога камітэту, вышэй за ўсё ставіць інтарэсы Расіі і да канца выпоўніць свой доўг перад ёю. (*Салдаты маўчаць*). Фэльдфэбэль! камандуйце ротаю. (*Жухін выходзіць. Зьяўляюцца—Будан-Рыльскі, Сінухін і унтэр-афіцэр Гаршкоў*).

Гурба. Рота сьмі-і-і-рна! Раўненьне налева!

Будан-Рыльскі. Здарова, 9 рота!

Рота (*стрымана, ня дружна*). Здравія жалаем, г. капітан!

Будан-Рыльскі. Стаяць вольна!.. Мы прышлі к вам, салдаты, па даручэньні палкавога камітэту. Палкавы камітэт разам з прадстаўніком ад часовага ўраду і армейскага камітэту, г. Сінухіным...

Сінухін. Прашу вас, капітан, прыбаўляць да майго прозьвішча не „гаспадзін, а таварыш“.

Будан-Рыльскі... з г. таварышам Сінухіным разглядалі факт праступнага ўчынку з боку радавых 9 роты, Дзямяна Дзямені і Патапа Думакі. Дзяменя Дзямян дазволіў сабе самачынна ўвайсьці ў нэпасрэдныя зносінамі з ворагамі, звярачаючыся да іх, як да брацьцяў, заклікаючы да замірэньня і называючы вайну гандлярскай.

Голас з задніх радоў. Да яна кругом, на руб дваццаць, гандлярская і ёсьць.

Будан-Рыльскі (*на рэпліку*). Такія галасы выходзяць ад бясчэсных гандляроў сваім сумленьнем... Радавы Патап Думака падтрымаў радавога Дзяменю і адкрыта выступіў супроць законнага прыказу ротнага камандзіра паручыка Жухіна аб арышце радавога Дзямені. Палкавы камітэт пастанавіў (*вымае з абшлагу рукава паперу, чытае*): „прызнаць факт цяжкага праступленьня радавых Дзямяна Дзямені і Патапа Думакі, а таму арыштаваць іх і аддаць пад суд. Даручыць старшыні палкавога камітэту капітану Будану-Рыльскаму, прадстаўніку ад часовага ўраду і армейскага камітэту таварышу Сінухіну і дэлегату ад салдат пятай роты унтэр-афіцэру Гаршкову пастанову гэту выканаць. Ні ў якія ўгаворы, перагаворы і кампромісы не ўхадзіць. Пастанову выканаць неадкладна“. (*Рух сярод салдат*).

Галасы. Ого-го!.. Стары прыжым! (*У часе чытаньня пастановы палкавога камітэту сходзяцца салдаты другіх часьцей у адзіночку і групамі*).

Будан-Рыльскі (*громка, заглушаючы галасы*). Радавы Дзяменя Дзямян! (*Адказу няма. Будан-Рыльскі паўтарае*). Радавы Дзяменя Дзямян!

Голас. Яго няма.

Будан-Рыльскі. Радавы Патап Думака!

Патап (*з першага раду першага ўзводу*). Я!

Жухін (*выхватвае наган*). Заткні глотку, нямецкі агент!.. Шпіён!

Будан-Рыльскі. Пяць шагоў наперад, шагам арш! (*Патап робіць два крокі і спыняецца*). Вы арыштаваны!

Патап. Я не прызнаю вашага арышту! (*Напружаная цішыня прарываецца салдацкім абурэньнем, Галасы: „старарыжымшчыкі“! „жандары“! Салдаты выбягаюць з радоў, засланяюць Патапа*).

Салдаты. Не дапусьцім арышту! (*Бяруць вінтоўкі „на руку“, як для штыкавога бою. Будан Рыльскі стаіць спакойна, зьмяніўшыся аднак у твары. Сінухін баязьліва падаецца назад*).

Будан-Рыльскі. Я многа разоў стаяў перад тварам сьмерці... Спыніць гармідар! З вамі гаворыць палкавы камітэт!

Салдаты. Далоў такі камітэт!

Сінухін (*трасучыся*). Та-ва-ры-шы! ці вы захацелі крыві?

Салдаты. Далоў, буржуйскі паслугач! Гэта вы хочаце крыві, ненаедныя!

Галасы. Вон! Далоў! (*Шум*).

Шабура (*парывіста выходзіць на сцену, падымае руку*). Таварышы! спакой. (*Шум заціхае. Шабура зварачаецца да прадстаўнікоў палкавога камітэту*). Я—член савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Ад імя 9 роты я протэстую супроць арышту і паліцэйскіх прыёмаў палкавога камітэту, а таксама заяўляю аб цьвёрдым рашэньні салдат не дапусьціць гэтага арышту.

Будан-Рыльскі. Палкавы камітэт такіх пасрэднікаў не прызнае, протэстаў і заяў ня прымае! (*Рэзка паварочваецца, дастае сьвісток і сьвішча*).

Здалёк чуецца густы барабаны бой. Зьдзіўленыя і ўстрывожаныя салдаты заціхаюць. Паказваюцца салдаты ў поўнай баявой выправе. Уперад ідзе паручык Жухін. Абарочваецца назад, дае рукою знак спыніць бой барабанаў. Напружаная цішыня. Жухін падыходзіць да Будан-Рыльскага, рапартуе.

Жухін. Г. капітан! Батальён у складзе васьмісот штыкоў пры васьмі кулямётах прыбыў!

Будан-Рыльскі (*аддае прыказ*). Абяззброіць бунтарскую 9 роту, ня спыняючыся ні перад якімі мерамі. Падбухторшчыкаў і няпрошаных дэлегатаў арыштаваць і даставіць у штаб палка!

Жухін (*бярэ пад казырок*). Слухаю г. капітан! (*Адыходзіць*).

Будан-Рыльскі (*да членаў камітэту*). Наша місія кончана. (*Будан-Рыльскі і Сінухін выходзяць. Салдацкі дэлегат астаецца*).

Унтэр-афіцэр Гаршкоў (*да 9 роты*). Таварышы! скарыцеся перад сілаю. Ня ідзеце на пагібель! (*На пярэднюю лінію выкочваюць два кулямёты. Салдаты—усьмірыцелі густа абкружаюць роту. Падыходзіць Жухін*).

Жухін. Прыказываю зараз-жа палажыць зброю!

Шабура (*узрушаны, парывіста да салдат-усьмірыцеляў*), Таварышы! Ці-ж вы падымеце руку на вашых братоў, на свабоду, заваёваную нашаю кроўю?

Галасы салдат-усьмірыцеляў. Даць яму сказаць! Няхай скажа! Будзем бачыць, што за чалавек! Так ня можна!

Салдаты 9 роты. Правільна, братцы! Ён—наш дэлегат!

Група салдат нейтральных (*падбягаюць да Шабуры*). Гавары, таварыш, ды крапчэй! (*Падымаюць яго на рукі, другія падкочваюць калодку; Шабура становіцца на калодку*).

Жухін (*крычыць*). Адставіць... Сволачы! (*Яго крык топіцца ў шуме салдацкіх галасоў. Салдаты адціскаюць Жухіна, прымушаюць маўчаць*).

Шабура. Таварышы, апамятайцеся! На страшнае праступленьне вядуць вас прыслужнікі контррэволюцыі! Вашымі рукамі рашчышчаюць дарогу вашай-жа няволі! Мала таго, што мільёнамі трупаў сялян і рабочых высьцілалі зямлю за інтарэсы нашых заклятых клясавых ворагаў, нашых прыгнятацеляў, дык вашымі-ж рукамі капаюць тут магілу свабодзе! Таварышы! у чым віна 9 роты? У тым, таварышы, што яна заявіла протэст супроць імпэрыялістычнай вайны, у тым, што яна хоча міру, справядлівага міру, без захвату чужых зямель, без грабежніцтва і разбою.

9 рота. Правільна братцы! (*Нейтральныя пляскаюць*).

Жухін (*крычыць*). За шкурніцтва! за здраду Расіі!

Шабура. Няўжо-ж, таварышы, вы супроць такога міру? Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў зьвярнуўся з адозваю да ўсіх працоўных ваюючых дзяржаў аб заключэньні такога міру. Ці-ж пойдзеце вы супроць савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў?

Усьмірыцелі. Няхай жыве савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў!

Шабура. Таварышы! ваш камандзір зажымаў мне рот, пагражаў наганам. Чаму? баяўся праўды, таварышы! Ён называў мяне шпіёнам. Таварышы! я не шпіён, я—ваш брат салдат, прадстаўнік савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў і член РСДРП бальшавікоў. (*Дружныя воплескі*).

Жухін (*падымае руку, трасе наганам*). Слова! Апошняе маё слова.

Салдаты. Далоў! Арыштаваць! (*Жухін страляе ўгору. Шум заціхае*).

Жухін. Слухайце, трупныя чэрві, магільшчыкі Расіі! на вашы галавы падзе яе няслава і бясчэсьце. (*Салдаты кідаюцца на Жухіна. Шум. Голас Жухіна: „Не дазволю брудным рукам дакранущца да мяне. Чуваць выстрэл з нагана*).

Салдат-усьмірыцель. Гарніст, трубі адбой!

Салдаты. Ура! (*Гарніст трубіць адбой*).

Салдат-усьмірыцель (*выходзіць наперад, зьнімае і трасе шапкай*). Таварышы, не падымем рукі на свабоду і на сваіх братоў! (*Шабура кідаецца да салдата, моцна паціскаюць рукі. Салдаты горача пляскаюць, крычаць „ура“*).

Дзяменя. (*Выбягае на сцэну, крычыць*). Рабята! таварышы! хлопчыкі! Вы—героі!

Галасы. Вайна вайне! Няхай жывуць бальшавікі!

ЗАСЛОНА.

# ТАУРЫДА*)

Юлі Таўбін

... Тавриды сладостной поля...
А. Пушкин.

I

Вось ён —
шлях
звычайна фабрычнага падмайстра,
у якога за плячыма ёсьць
клопатаў сямейных кайстра
і галодная
маладосьць.

Дзевяцьсот пяты.
Гэта —
пагромы.
Крывавых рабін крывавыя гроны.
Нікчэмныя атрады самаабароны.
З бабскае хусткі —
чырвоны сьцяжок.
Усеагульная забастоўка.
На небе імпэрыі чорныя столкі.
З чырвонымі плямамі
мяккі сьняжок.
Дзевяцьсот чатырнаццаты.
Гэта —
лісты
са сьмешнымі кручкамі і закаручкамі.
Халодная ноч. Халодныя пасты.
Аплявуха п'янага паручніка.
Пасылкі з сухарыкамі і пачкамі табакі.
Зьвярынае „Ура". Зьвярыныя атакі.
Героі з адсечанаю рукой.
„Вѣчная слава, вѣчный покой"...
Дзевяцьсот семнаццацы.
Гэта —
Пецярбург.

---

*) Працяг, глядзі „Полымя" № 10.

Валынскі полк.
Чырвоныя банты.
З пана палкоўніка
на фронце рвуць
пагоны, мэдалі і аксэльбанты.
„Божаю воляю свой трон
Мы перадаем брату Міхаілу“...
Ва-ай-на да пераможнага!..
Апошні кон...
„Наш-ша воля!
На-ша сіла!“
Гэта шыпіць барадаты салдат,
ён выцягнуў
валасатыя ногі
за вагонную пляцоўку,
у бок адставіў вінтоўку
і сузірае
зялёныя панорамы,
а паненка,—
хоць і моршчыцца,—
а ўсё-ж ткі—
вольны брат,—
тлумачыць яму
„прынцыпы кадзетаўскае праграмы“.
Гарадавыя
калоцяцца на вышках...
Ленін прыяжджае на Фінляндзкі вакзал...
„Вай-на—
вай-не!“
„Закурым, брацішка“...
Па горах
гісторый
„Аўроры“
залп.
Новы пачынаецца кругабег...
— Ня слухайце злачынцаў,
таварышы сяляне!
— Вас
падбухторвае
нямецкі шпэг!
— Агульнае, патайнае галасаваньне...
Інтэлігенцыя
ўпадае ў транс.

Інтэлігенцыя
        б'ецца ў прэфэранс.
— Мы перажываем
            палітычны дэкаданс...
— Даводзіцца на ўсё глядзець станоўча...
— Навука ў загоне! Цукру няма!
— От пачакайце—
            прыдзе зіма
і Ўсеагульны Ўстаноўчы...

Разносіць палацы,
            як заставы плоймай...
Урачысты разгон
            Устаноўчага сойму.
        Савнаркому першы дэкрэт.
— Баль-
        шавікі
            забілі Шынгарова!
... А Керанскі—паскуда
            ўцёк з-пад рукі!..
Генэрал Каледзін хмурыць бровы:
— Верныя казакі,
            навострым клінкі!
Трэба распаліць нам пажар нанова,
ворагаў айчыны разьвеяць сьлед...—
Баль-
        шавікі
            забілі Шынгарова...
        Савнаркому першы дэкрэт.
Кішкін,
        Чхэідзе,
            Цярэшчанка,
                Дан...
Чырвоная гвардыя
            выпроствае стан.
Вершы:
        „Мы ўзрынулі лаваю ўсьпененай“.
— Тава-рышы...
            ўчора...
                есука Каплан...
цяжка параніла...
            таварыша...
                ...Леніна...

І далей.
Знаёма вам гэтая дарога—
Шлях
звычайнага падмайстра
і кожнага з нас.
Сустрэла рэволюцыя каля парога
нашага дзяцінства ўзрушаны час.
Вось яна ідзе —
цераз дым,
цераз полымя,
фанты окупантаў,
калючыя драты...
вось яна бунтуе нямецкія парты...
Вось яна выходзіць
з апошняе вайны...
Вось яна стаіць вартавым невясёлым
каля яго маладой труны.
Вось яна ідзе—
комсамолкай-рабфакаўкай,
рабочым-вынаходцам—
сівыя вусы,
яўрэйскім рамесьнікам
з мястэчка заплаканага
На фоне ім узрошчанай
пшанічнай паласы
Янкелем,
каторы кіруе трактарам,—
(Янкелем,
каторы ў старыя часы
меў сабе крамку,
гандляваў селядцамі—
многа тут возьмеш—
разважце самі...
Янкель у Янкі
скруціць дзьве капейкі,
Янкель Янку —
фунта не дадасьць...
І сьмешна ў Янкеля дрыжэлі вейкі,
калі гарадавы пагражаў:
„У часьць").
... Дарога праходзіць
праз шум канонады,
праз порах і дым,
праз ветры вясны —
і ўсе мы праходзім вялікім парадам
каля яго дарагой труны...

Дарога выходзіць,
заходзіць дарога...
Раджаецца новае зерне з старога,
і новыя травы растуць на шляху,
і новыя хвалі турбуюць раку,
і новыя дрэвы ўзьнімаюцца,
новыя краявіды—
і песьня
выводзіць мяне пад руку
да жоўтага стэпу
Таўрыды.

18-20—IX 1931.

II

Ходзіць лагодным катом
тоўсты біблейны том.
Ведае рабін шмат
даўніх дасьціпных цытат.
Стаў ён стары, як слонь
ерусалемскіх далін.
Дужых гадоў далонь
хіліць яго да зямлі.
Хатка з дзіравай страхой...
Нізкі, малы пакой...
Стосы стагодніх кніг...
Рабін жыве між іх.
Срэбрам быў поўны дом.
Скрыні хаваў дабра...
Плача біблейны том—
„дзе залатая пара?"
Рабінаў дрэнны сон...
Толькі займецца зара,
як прачынаецца ён—
„дзе залатая пара?"
Ломіць чагосьці ў баку...
Верне вантробы мыт...
Трэба схадзіць на раку
грэшнае цела памыць...
Вось ён стаіць у вадзе—
мірна зайшоў па жывот...
Здэцца-ж яшчэ кагадзе...
Здэцца-ж яшчэ от-от...
Ўсё перайшло, як дым...

Ну, акунуцца!..
Сьмялей!..
Дзеці вунь—сьмешна ім...
Дзеці плывуць далей...
Сьмерць глядзіць у вакно...
Рабін гэткі стары...
Выехалі даўно
ворагі і сябры...
Усе яго,
усе пакінулі...
Хто думае аб старым...
Едуць сябры—
ў Палестыну.
Ворагі—
ў Крым.
Тлустым аблезлым катом
крэчка біблейны том.
Зноў ён адклаў у кут
даўні, дурны Талмуд...
Зьлічаны ўсе яго дні—
толькі ляжы ды сьні...
Здэцца-ж яшчэ кагадзе...
Здэцца-ж...
Прарок Майсей!
... Ходзяць кругі па вадзе...
Дзеці плывуць далей.

19-IX 1931

III

Нехта борзды і шыбкі
няпярэдадні дня
падымае удыбкі
маладога каня.
Гэта золак нябачны
ціха травы трасе
і сьляды яго значны
на вясновай расе.

* * *

Нехта лётае лётма
напярэдадні дня...
нехта беліць палотны
там, дзе сьпіць вышыня.

Гэта золак нябачны
    шапаціць парай крыл
і сьляды яго значны
    там, дзе сьніць небасхіл.

* * *

Перадраньнія ўздрыгі
    прыдарожнай травы...
Расхадзіліся крыгі...
    Ходзіць шум баравы...

Золак, золак нябачны
    ціха травы трасе
і сьляды яго значны
    на вясновай расе.

Май, 1931.

IV

Старая апавядае:

Вы хочаце ведаць—
                як гэта сталася?
Выехала нас—
        чатырнаццаць сем'яў...
Вядомая рэч, большасьць хісталася...
Нязвычная справа!
                Яўрэю—
                    сеяць!

Баранаваць!
    Касіць!
        Ды хто-ж там
мог і падумаць, што гэтак здарыцца...
Жывеш сям'ёю.
        І ўсё.
            і навошта
яшчэ выпінацца, каб быць—
                    ударніцай.
Тады і пра ўдарніц ня дужа ведалі.
Проста—
    ня бачылі іншага выйсьця.
Нават пыталіся—
            ці будуць хэдэры?
Ці дазволяць маліцца?

Выехала нас чатырнаццаць сем'яў.
Чатыры дні ехалі мы.
Затым—
далі інвэнтар, бярвэньня, насеньня...
Так мы і патрапілі
ў самы Крым.

Думалі—
Крым,
курорт,
рай—
залатыя горы,
сіняе мора...
А тут пякельны край,
што проста валішся
ад сьпекі і ад зморы.

Папершае—
гэта-ж была зямліца!
Проста сячы ды кладзі цяглінкамі...
Можна было будаваць камяніцы,—
не магілеўская—
суглінкавая.

Падругое—
дазвольце пазнаёміцца з камарамі,
з маскітамі—
думаеце, гэта жарт?..
Ад гэтых маскітаў
мы проста паміралі.
Хоць ты раскладай тут цэлы пажар!

А хаты?
Мала ўзялі яны працы?
І з год пражылі ў салашох усё-ж...
Тое ды сёе...
Пакуль тыя палацы—
мы прычакалі
на крымскі дождж...

Тут пачаліся розныя сумненьні.
Зусім як у біблії—
перад абяцанаю зямлёй...

І трэба вам сказаць,
што Вошчыкаў Беня
выехаў назад са сваёю сям'ёй.

Праўда,
застаўся сынок яго малодшы...
Упарты хлопец—
няма чаго казаць...
Гэта комсамольскі галоўны верхаводчык
і,
папраўдзе кажучы,—
мой зяць.
Ну, так, дачка!..
Будзьце знаёмы.
Даўней-бы гэта здавалася сном.
Яна скончыла тэхнікум
на агранома
і ў нашай комуне—
штатны аграном.

Комуна?
ў комуне мы з самага пачатку...
Скемілі адразу,
што як ні цягні,—
калі кожны паасобку—
за сваю хатку,
дык з гэтага—
не атрымаецца
ані.
Выехаў Беня—
і ўсім было ніякавата.
Але думаеш—
там табе будзе лепш?
Ізноў
у старыя сьмярдзючыя хаты?
Не,
паспрабуем есьці працоўны хлеб.

Ізноў—
гнуць карак
над кравецкаю голкай,
ізноў
над падэшваю
вочы сьляпіць свае?

Не,
  лепей—
          з сярпом на іржышчы колкім,
не,
  лепей—
          за плугам—
                    пабачыць,
                              як сонца ўстае.

Яшчэ быў скандал—
                    ды і чаму-ж?
Таму што ня было дзецям школы.
Ды дзе тую школу
                    возьмеш наўкола?
Горад далёка...
               Глухая глуш...

Бабы нарабілі
              гэткі гвалт—
        каб дзеці нашы расьлі невукамі?
        Дык навошта мы гаруем цяпер
                              і гаравалі некалі?
        Каб сынок мой таксама
                              гараваў?
І гэта называецца новым жыцьцём і
                              правільным ладам?
Каб яе дым задушыў,
                    такую савецкую ўладу!
Каб яе...
        Два месяцы стаяў гэткі гвалт...
Адным словам,—
              гэта быў дзевяты вал.

Пасьля пачало цішэць,
                    пачалі ісьці ўгору.
Прыехаў настаўнік,
                    добра прайшла сяўба...
Адным словам—
              тут была цэлая
                              гісторыя
і, як гаворыцца,
              кля-са-ва-я
                         барацьба.

Што вы думаеце?
Былі і такія...
Уцяклі на горад
і там адчынілі гандаль...
Але...
калі мы гэтых адкінем,—
Дык у нас ёсьць героі—
ня горш за герояў „Гіганта“.

Як наконт рэлігіі?..
Ні так, ні сяк...
Бачыце самі—
жывем без сынагогі.
Калісьці
было-ж, як мой малодшы басяк
сказаў:
„навошта нам тыя богі?“...

А цяпер—
каму гэта
ў галаве?
Трэба выконваць вытворчыя пляны—
і,
разумееце,
вы-ж разумны чалавек—
хіба
гэта ўсё
ня было
падманам?

Ну, зразумела—
царскі лад...
Маліся і цярпі...
Малітвы і
пагромы...
... Можа-б і яе старэйшы брат
быў-бы цяпер за агранома.

Гэта...
было...
ў дзевяцьсот пятым...
Хай іх!..
Пакінем старыя раны...

Бачылі вы наш новы сэпаратар...
Знойдзеце ў горадзе
гэткую сьмятану?

І завяліся-ж цяпер у нас
коні...
Хлопцам найлепшы клопат—
вадзіць на начлег!
Можам яшчэ
пахваліцца перад Масквою—
дадуць толькі трактар,—
дык ёсьць каму быць начале.

Ёсьць!
Навучыліся!
От вам яшчэ
навіна!
Ужо ёсьць—
павыпісвалі
родных з Амэрыкі...
Пра мінулае
ў нас ня любяць ўспамінаць,
але тры гады назад—
гэтаму-б
на паверылі.

Бачыце,
пшаніца,
як важкім волавам напоўнілася...
Курчавыя хмаркі...
Зьбіраецца на дождж.
... Шырокая дарога ідзе па стэповай роўнядзі,
Шырокая дарога ідзе па палотнах гадоў.

Бачылі кіпарысы нясхільныя?
Нашы сыны таксама стаяць,
магутныя.
Галовы высока падняты
і сіла ў плячох.
Гэта брама,
вялікая брама,
вякамі наглуха замкнутая,
наўсьцяж адчынілася
на парозе
шырокіх дарог.

* * *

Гэта простая
і значная
гісторыя
аднэй асобы
і цэлага народу,—
выслухана мною
каля
гораду Еўпаторыя
ў лета
тысяча дзевяцьсот трыццатага году.

18—19-IX 1931.

## ЭПІЛЁГ

... dahin, dahin
geht unser Weg...
Goethe.

... И вновь Таврические волны
Обрадуют мой жадны взор.
А. Пушкин.

Восень...
сталі рабіны ў нязьменны дазор...
Беларуская восень
стаіць за дзьвярыма...
Сёньня доўга і пільна,
да ранішніх зор
буду пальцам вядзіць я па карце
гарбатага Крыма.

І, аблашчанай сьвежым прыбоем марскім,
і таемнай дзяўчынай—
далёкай і блізкай—
разгартаецца севам шырокім сваім
гонар Генуі,
скарбы Эляды—
паўвыспа.
Адчыняецца скалаў суровы абрыс,
б'юць Азоўскія хвалі аб сінія зоры,

налятае на берага
абрывісты брыз—
гэта хмурыцца
цёплае Чорнае мора.

Вось вароты у Крым—
тут сінее Сіваш...
Жылка чорная значыць дарогу Салгіра...
Ці ня тут генуэзцы вастрылі палаш,
ці ня тут адгучэла атэнская ліра?
Там узяты ў стагодзьдзяў стары Хэрсонэс,
там руіны фортэцый ляжаць над скалою,
а затым—
туманом узьнімаецца лес
над царыцаю Крыма—
ўсеўладнай Яйлою.

Чатырдаг—
адзінока маўклівы заўжды.
Для Ай-Пэтры турысты—
ўлюбёная ноша
і вядуць гураганы размову тады
над закінутым кратэрам
на Роман-Кошы.

Восень...
Варта рабін аздабляе паркан...
Беларуская восень
з яе краявідам...
І ўсплываюцца на думку—
стары гураган
разам з новаю славай
пшанічнай Таўрыды.

19-VIII 1930.

II

Ад Еўпаторыйскага прыбою
я цяпер далёка, але ўсё-ж
часта я ўяўляю прад сабою
ўзбуранага мора дрогкі дождж.

Помню дзень—нахмураны і шэры.
Я хаджу па ціхіх берагох...
І, здаецца, грэцкая галера
зараз кіне якар свой у мох.

Вось ужо зьвініць мядзяны .яка..
Хто там, у хітоне, ля старна?
Маладога хлопца—Тэлемака
я вяду з вузорнага чаўна.

—Я ня бачыў, брат мой, Одысэя—
пашукайце ля Колхідзкіх скал...
Мора будзе ціха, ёсьць надзея.
Сьпіць Нэптун—
даўно ён так ня спаў.

Я ня бачыў, брат мой, Одысэя...
Растае ягоны тонкі стан...
Толькі ветразь высака бялее
і ласкава сьцелецца туман...

Толькі хмаркі ткуцца ў анталяжы
і дрыжаць у заценях вады—
толькі млява грэюцца на пляжы
пульхных Одысэяў жываты...

Забяры ў іх, вецер, андрамоны,
рушнікі калматыя разьвей—
пакажы ім морскія законы
і грубыя статуты завей!

Там, далей—ёсьць хатка маладая,
а старая ў хатцы той жыве
і сьмяецца сіняя вада ёй,
залатымі колцамі плыве.

І старая-ж
гэтая бабуля!—
Мо' старэй, як думаеце вы,
а вякі гнілыя не сагнулі
тэй сівой старэчай галавы.

А памрэ—
        на зьмену ўнукі прыдуць,
каб ізноў бяскрайнай паласой
заліло
    Савецкую Таўрыду
новым морам —
            сьпелых каласоў.

19-IX 1931.

---

16—VIII 1930, 22—IX 1931.
Ворша—Амсьціслаў—Менск.

# НАША СОНЦА

## Барыс Мікуліч

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### Голас краіны

*Платону Галавачу*

(Канец)

I

Спэцыфічна пахне гэта. Яно ўцалёўваецца ў безьліч дэталяў. Іх спачатку не заўважаеш, але аднойчы—раніцою—(узыходзіць сонца, і пад ягонымі промнямі ажывае організм вуліц: ідуць трамваі, што адсюль, з вакна, нібы наамальгаваны; жактаўскія дворнікі з вялізарнымі мётламі зьбіраюцца пад вокнамі пакурыць,—гледзячы на гэтыя мётлы, на розум прыходзіць—чамусьці—Гулівэр; гайдаючы буйным сваім тулавам, праходзіць маладая малочніца,—на цукерках (цянучках) намалявана якраз такая самая чырвонашчокая дзеўчына; ля крамы варушыцца зігзаг чаргі; праз шэры натаўп мільганула блакітная майка,—неба апранулася ў такую-ж майку,—але аднойчы раніцою ўбачыш у люстры, што на грудзях пасівелі валасы, новыя зморшчыны за ноч нарадзіліся пад вачыма; ля рукамыйніку чакае няпрыемнасьць: „Одоль“ не ачышчае жаўцізны зубоў, дый вада трапіла ў зуб—вввух!—забаліць зуб, і гэтым вось зубным болем пачынаецца, пачынаецца...

— Што, уласна, пачынаецца?—упарта думае профэсар Шастакоў, трымаючы ў руках махнаты рушнік.—Ну, вядома!.. Гэтае... Як яго? Вядомае ўсім... Старасьць?..

Профэсар Шастакоў апранаецца доўга, зашпільваючы гузікі тонкімі, з барвовай пухлінай, пальцамі: гузікі ўпарта, нібы хочуць ушчэнт раззлаваць профэсара, ня слухаюцца яго.

— Старасьць? Гм... Старасьць пачалася даўно... А гэта... Як яно? Вядома ўсім... Раньне!—Профэсар нават усьміхнуўся ў люстра гэтай новай сваёй думцы.—Проста пачынаецца раньне, дзень...

Апрануўшыся, ён выходзіць у сталовую. На стале чакае яго імбрычак, сьвежы хлеб, малако і масла. Знаёмым голасам вітае яго гадзіньнік—восем гадзін, дакляруючы профэсару смачнае сьняданьне. Хлеб пахне цяплынёй. У эмалевай імбрычкавай паверхні перакуліўся адлюстровак вакна.

Профэсар п'е чай.

— Добры дзень, татусь,—з газэтамі ў руках прыходзіць Анатоль.— Як спалася?—садзіцца насупраць бацькі.—Сёньня хіба ня чытаеш?

— Не, не... Толькі на паседжаньне зьежджу... потым,—да болю марудна пераджоўваючы скарынку, адказвае профэсар.

— А я сёньня са сваімі хлапцамі ў Ждановічы паеду. Культвылазку робім...

— Так, так,—пакіўвае галавой профэсар.

Потым яны разьвітваюцца, разыходзяцца, каб ня бачыцца аж да позьняга вечару. Профэсар ідзе на вуліцу, згаджае рамізьніка, той дапамагае профэсару сесьці, і яны едуць у Інстытут. У дарозе ідзе гаворка:

— Завярнеце направа... Там менш народу... Чаго добрага пад трамвай трапіш...

— Эээ, таварыш, не ўпяршыню еду... Эгэгээ, сьцеражыся там!.. Вось было ўчора такое,—павярнуўся рамізьнік тварам да профэсара—Здарэньне... Ехаў нейкі малады чалавек. А якраз трамвай праходзіў... Чалавек гэты прыпыніў рамізьніка дый—бац!—пад самы трамвай... Весялей, весялей буланы! Так яго і разанула па самай сярэдзіне... З чаго-б гэта яно, таварыш, га?

— Гм,—паціскае плячыма прафэсар.—Можа з голаду...

— Неээ... Цяперашнім часам з голаду не паміраюць... Ціка-а-ава!..

Адыходзіць на Ждановічы ранішні цягнік.

— Хлопцы, хутчэй там варушыся, бяз нас цягнік пойдзе.

— Нічога да пераезду дагонім!—жартуе нехта.

У вагоне—поўна народу. Каля дзьвярэй, курачы, сабраліся культработнікі.

— Гэты начны налёт можна зрабіць у суботу,—кажа Несьцярэнка, прытрымліваючы рукой буйныя свае валасы, у якія трапіў вецер і гуляе, раскідае іх.—Рабкораў заўсёды можна сабраць. Ды ня гэта галоўнае. Трэба-ж неяк організаваць гэты налёт так, каб рэальныя вынікі адчуваліся.

— Санька! а, Санька! Грымані „Гвардыю“, чаго там. Эй, вы! Кіньце хоць сёньня аб сур'ёзных сваіх справах гаварыць, заўтра пасьпееце!

— Не бярэцеся за дзела, як вош за цела!

— Сьпявайма, братва!

Рытмічна ідзе цягнік і ідуць паабапал яго хацінкі менскіх ваколіц, садкі, награмаджанае бярвеньне, штабелі каменю.

Карновіч праціскаецца паміж людзей у вагон. Яму ня дужа весела, бо гарманіст Санька ашчэрвае свае белыя зубы ў Лёльчын зачырванелы твар, нешта жартоўнае кажа ёй, і яны ўдваіх рагочуць на ўвесь вагон. Ня дужа весела Карновічу, бо Лёлька—„ягоная“, бо нейкая няпрыязьнь—чорт-бы яе пабраў!—да гарманіста зубаскала калыхнулася. І каб заглушыць, перамагчы гэтую няпрыязьнь, Карновіч крычыць культработнікам:

— Дапраўды, таварышы, ідзеце ў вагон. А ты, Санька, шпар. Давай „Гвардыю“.

Пасунуліся на лавах, зрабілася цесна і горача. Ірвануў свой гармонік гарманіст Санька, грудзьмі на яго налёг, і гукі гармоніка, увязаўшыся ў лязгатаньне колаў, выrваліся праз вагонныя вокны і паляцелі ў прасьцягі па свае водгульлі.

Плыло навакольнае. Плылі і сьпявалі, п‘янелі, загараліся, мацнелі баявой сваёй песьняю—

Мы маладая гвардыя
Рабочых і сялян—

хмялелі ад песьні, напаўнялі прасьцягі маладымі і моцнымі галасамі сваімі комсамольцы.

2

І—ноч.

Усхапіўся. Прыслухаўся да шуму, што даносіўся з вуліцы. Уздрыгваў пад самым вакном аўто.

— Вось пазванеце, адчыняць,—казаў унізе нейчы заспаны голас.— Пазванеце некалькі разоў, сьпяць-жа...

Усьлед за гэтымі прыхлупленымі адлеглась цю словамі пачуўся—ужо тут, наверсе—званок. Накінуў на сябе халат, засьвяціў электрычнасьць, падбег да стала і ўбачыў разгорнутую тэлеграму на ім.

*„пнкт грошы не патрэбны пнкт“*

Сударгава скамечыў тэлеграму, сунуў у кішэню. Потым вышаў у габінэт і пастукаў у сьцяну.

— Толя... Слухай, Толя! Ідзі там, адчыні, да нас звоняць.

І тады, як пайшоў адчыняць Анатоль дзьверы, мятнуўся ў ягоны акой, выхапіў з паліцы кнігу і ў правал гэты сунуў папяровы пачок. Супакоіўся, вышаў у калідор.

— Выбачайце, профэсар... Мне загадалі зрабіць у вас вобыск... Вось дакуманты...

— Кккалі ласка,—захрасьлі ў горле словы, і Анатоль аж засьмяяўся ад гэткай бацькавай ветлівасьці.

— Пройдзем у габінэт.

Вобыск адбываўся нядоўга, старанна агледзеўшы бібліотэку, профэсару прапанавалі падпісаць пратакол. Дрыжучы ўсім целам, профэсар узяўся за асадку.

— Кнігі, таварыш... ну, вы разумеце? Гэта для навуковай работы... У мяне дазвол ёсьць.

— Не, не,—ветліва засьпяшаўся той.—Кнігі мы вам, профэсар, пакідаем... Яны нам непатрэбны. А там, за сьцяной, жывеце вы?—Вачыма цэліўся ў Анатоля.—Ну, бывайце, спакойнага сну.

У цёмным габінэце чакаў Іларыён Даменікавіч на сына. І не памыліўся. Анатоль прышоў і моўчкі стаяў у дзьвярох, нібы чакаючы ад бацькі тлумачэньняў, нібы ведаў загадзя, што бацька хоча нешта сказаць.

— Гэта непаразуменьне, Толя... Проста непаразуменьне...

— А тэлеграма, татусь?

Профэсар машынальна захіснуў халат і зрабіў колькі крокаў па габінэце.

— Телеграма? Гэта глупства... Грошы...

— Каму гэта вы грошы павінны былі? Дзіўная штука!

Профэсар засьмяяўся. А ўсьлед за гэтым—закашляўся надламаным кашлем.

— Ты, Толя, нібы сьледчы... Сьмешна, ведаеш... Ну, я пайду спаць... Гэта ўсё непаразуменьне, Толя, проста памылка... .

Ён не заснуў. Яшчэ доўга стагналі спружыны ложку. Ён у цемры намацаў на століку бляшанку з мятнымі цукеркамі. Ён сматкаў іх. Ён думаў. Думаў аб тым, што бяда прабіла над імі, над ім, над яго пакаленьнем ракавыя дванаццаць гадзін. Колькі разоў за гэтыя гады намагаўся жыцьцёвы гадзіньнік падцягнуць да дванаццаці вусы стрэлак, але ўсё неяк абыходзілася добра і гладка. Прыехаў профэсар у Савецкі Саюз, атрымаўшы запрашэньне ад ураду, зноў з галавой у навуку—у пыл залістаных стагодзьдзяў—акунуўся ён. Старонка за старонкай пісалася гадамі ягоная монографія аб сярэднявяковых дойлідах, старонкі напаўняліся монускрыптамі памершых геніяў, зьдзівіць увесь сьвет навуковы зьбіраўся Іларыён Даменікавіч гэтай сваёй кнігай. Гады праходзілі ў вятрох, густой страмнінай ішлі яны—гэтыя вятры, і ён, яны, іхняе пакаленьне позірк у вятры кінуць надумаліся, каб мёртвы гені, каб дойлід іхніх жаданьняў, іхніх мараў у жмут скруціў вятры гадоў. Прыблізна так—алегорычна—думаў профэсар аб пражытым.

— Цззын... цззын... цззын...

Дванаццаць гадзін яго, іх, іхнага пакаленьня вызвоньваў гадзіньнік гадоў, гадзіньнік жыцьця—і тады нэрвовая сьцюдзенасьць апаноўвала цела, білася нутраной турботай да болю выразная думка: калі гадзіньнік апошні ўдарыць раз—што тады станецца, што тады будзе?

— Цззын... цззын... цззын...— —

— — круты ягоны лоб перакрэсьліла глыбокая зморшчына, думкі варочаліся з такой хуткасьцю, што выступаў халодны—буйнымі кроплямі—пот.

— Але, профэсар, вы-ж разумееце, што гэта нікому цяпер непатрэбна. Ну, добра. Я напішу сваю работу на тэму, якую прапаноўваеце вы. А што потым? Абразы? Гэта-ж профэсар, усё аджыўшае, спарахнелае... Ну? Непатрэбнае.

Пакіўваў галавой профэсар Шастакоў—„Айяя, айяя!“—усьміхаўся дробненькай сваёй, маладушнай—і журботнай чамусьці—усьмешкай.

— Ах, малады чалавек!—Ах, Бурлак... ээ... таварыш Бурлак!—Пакіўваў галавой і патрасаў тоненькімі—з барвовай пухлінай—пальцамі.—Гэтага патрабуе *наша* навука, этнографія, гісторыя... *Наша* этнографія, ээ... таварыш Бурлак. Як ваш настаўнік скажу вам—і гэта запомніце цьвёрда! у далейшай рабоце спатрэбіцца!—не падыходзьце да навукі нашай, да нашай профэсіі з вузка утылітарнай задачай... Не забывайце... гм... што навука, Бурлак, ээ... таварыш Бурлак, што навука—для ўсіх і для ўсякага.

— Баюся, што з гэтай тэмы нічога не атрымаецца,—сказаў Бурлак, і гэтыя словы—прасьцей—разумець трэба было так: не атрымаецца, бо *ня хочу*, каб атрымлівалася.— —

— — на гардзінах ляжалі сьветлыя чатырохкутнікі, народжаныя сьвітаньнем; рыпела, уздыхала, скуголіла цішыня безьліччу незразумелых гукаў, а праз гэтую тканіну ішлі ў пакой, на ложак, пад коўдру, біліся ў вушы—

— Ццзын... цззын... цззын...—

бомы гадзіньнікавыя.

3

Пасьля таго дню, калі пакінуў Анатоль стаходзкіх сваіх таваршоў, прайшло часу шмат. Скончыўся гадавы водпуск і зноў вярнуўся Анатоль да вучобы, да унівэрсытэту, зноў вярнуўся да партыйных сваіх нагрузак—паслаў райком яго на завод. Быў завод новым, нядаўна пушчаным у ход, і прышло на завод шмат людзей, што ніколі ў жыцьці і не стаялі за варштатамі,—большасьць людзей прышла з палёў: яшчэ млелі гарачынёй рукі, натруджаныя касой.

Былі ў Анатоля два сьветы. Намагаўся ён аб'яднаць, зьлітаваць іх—гэтыя сьветы—у адзін, аб якім дбала развага, дбаў розум, аб якім сьпявала сэрца юнацкае. Як прыехаў у горад, спаткаўся з бацькам—і плакаў пасівелы профэсар на сыновых каленах, скардзіўся на вырок жыцьцёвы свой.

— Памылка была, Толя, марыва... Думаў, спадзяваўся, каб як знайсьці месца, варункі для свайго... для працы сваёй... Ня верыў я ў скіфскі набег гэты... Мужыкоў толькі і бачыў, руйнаваньне, аплёўваньне культуры, скарбаў яе, здабытых стагодзьдзямі... Вось, Толя...—Нэрвічнай чырваньню наліваліся бацькавыя вочы.—Страціў Лёву... Так... А ты, ты таксама пойдзеш ад бацькі?

І—два сьветы ў Анатоля зрабіліся праз яго-ж слабасьць (ён гэта разумеў добра): адзін сьвет быў, праўда, маленькім і нязначным—ён пачынаўся за дзьвярыма Анатолевага пакою, у кватэры бацькі, у габінэце

і сталовай пачынаўся ён. Ня варта было-б і думаць аб ім, але гэта-б азначала—ня лічыцца з бацькам, а крыўдзіць старога профэсара, „татуся“—гэта было-б жорсткасьцю, жорсткасьцю моцнага (—таму што была маладосьць) да слабога. І гэтую слабасьць бацькаву любіў Анатоль, але любіў сваясаблівай любоўю, бо бацьку зразумеў, пазнаў яго толькі цяпер, пазнаў праз уласную сваю-ж слабасьць.

Маладосьцю, віхурнай моцаю, агнямі заводзкіх карпусоў, песьнямі таварышоў і працай, працай, працай п'яніў, хмяліў Анатоля другі сьвет, сьвет ягоны.

У той дзень прышоў Анатоль дадому позна.—Адразу пасьля унівэрсытэту, пасьля гарачай дзелавой сьпешцы чарговага паседжаньня, дзе ён адстойваў свае прынцыпы, ён паехаў у заводзкі клюб. Ішоў кіносэанс. На экране, проста на гледача, ішлі танкі, імчаліся коні, на экране жылі прыгожым сваім жыцьцём, змагаліся і паміралі людзі. Умовіўся аб рабселькораўскім налёце і ўшчэнт зმораны прыехаў дахаты.

Профэсар быў у габінэце. Анатоль прайшоў у свой пакой і быў зьдзіўлены тым, што ў ім—у пакоі—гарэла сьвятло. „Здаецца, удзень не гарэла“... Але новая—праўда, дробная—нечаканасьць сустрэла яго: працягнутая да паліцы рука не намацала патрэбнае кніжкі,—кніжку—том Мэрынга—знайшоў на падлозе.

— Чорт пабяры,—траха што ня ў голас зьдзівіўся Анатоль.—Няўжо тут бацька быў.

У дзьверы пастукала работніца (клікалі яе Марыляй, але стары профэсар упарта называў яе Нэняй,—Марыля прывыкла да дзівака профэсара)—і, бяз дай прычыны зачырванеўшыся, сказала:

— Чай гатовы... Ідзеце вячэраць...

Сядзелі адзін насупраць аднаго. Як толькі зірнуў Анатоль у бацькаў твар, дык адразу прыкмеціў нейкую няёмкую вінаватасьць на ім. Але што мог рабіць бацька ў ягоным пакоі? Не па Мэрынга-ж ён прыходзіў!.. Моцна ў Анатолевай галаве засела здагадка, другі Анатолеў сьвет ён пачынаецца за дзьвярыма ягонага пакою—апанаваў думкамі.

— Гм...—першым падаў голас профэсар, намазваючы маслам хлеб і разразаючы яго на маленькія кавалкі.

— Я чуў, татусь, што арыштавалі профэсара Загржыцкага... Ты гэта ведаеш?

І сын заўважыў, як зьбялелі бацькавы вусны, як на адзін момант, толькі на адзін, перастаў профэсараў рот перажоўваць хлеб. Але потым—ураз—Іларыён Даменікавіч, злавіўшы на сябе Анатоліеў позірк, схаваў глыбака сваю заклапочанасьць, нацягнуў на твар грымасу бяззважнасьці і пуставаценькай зацікаўленасьці.

— Нну? Ня чуў, ня чуў... А я вось грошы...

Позірк быў упартым і профэсар зьлёгку пачырванеў, і гэта канчаткова пераканала Анатоля, што бацька маніць.

— грошы яму вінаваты,—гусьцела чырвань профэсаравага твару.

І таму, што добра разумеў Анатоль бацькаву ману, добра бачыў, што бацька хоча ня выказаць перад ім таго, што прымусіла пасінець губы і потым—усьлед за гэтым—пачырванець—не распытваў яго і, дапіўшы чай, сьпехам пайшоў да сябе.

Адчуваньнем прыкрасьці захлынаўся Іларыён Даменікавіч. А за гэтым усім—за прыкрасьцю, за пакутлівымі здагадкамі, што сын убачыў ягоную раптоўную здэтанаванасьць, за зубным болем—за гэтым усім паўставаў маленькі, туманны яшчэ—але паўставаў упарта—жах. Быў такі выпадак у профэсаравым жыцьці. Пасьля „гістарычнага“ конгрэсу Рады, вяртаючыся з Бэрліну ў Чэхію, ён, Іларыён Даменікавіч Шастакоў, пайшоў у вагонную прыбіральню. Адчыніў дзьверы і паддаўся назад: у прыбіральні ён убачыў два тупыя аблічы мужчыны і жанчыны, занятых сваёй справай. У замяшаньні профэсар бяссэнсава прамармытаў:

— Прабачце, я памыліўся...— —

і паўстала прыкрасьць, што тупыя абліччы не пачырванелі ад далікатнага яго прабачэньня, а вуграстае абліччa, што належала мужчыне, нават ашчэрылася на яго залачонымі грабянямі роту.

Адчуў профэсар Шастакоў тады ў вагоне „Бэрлін—Прага“, што няма на сьвеце нічога больш прыкрага за далікатную ману: профэсар ня думаў памыляцца, ідучы ў прыбіральню...

— Нэня... эээ... Марыля, слухайце,—паклікаў профэсар работніцу.— Адчынеце ў печцы ўюшку...

Уся постаць работніцы Марылі ўдавала з сябе вялізарны пытальнік, а ў вачох быў такі выраз, нібы зьбіралася Марыля сказаць старому профэсару: „Ці не ашалелі вы?“

— Эээ... раматус, раматус, бясспрэчна і ішыяс...—растлумачыў ён раптоўнае сваё дзівацтва.—Халодна, ведаеце, эээ...

Ён пайшоў да дзьвярэй.

— ... Марыля.

А потым праз колькі часу сядзеў перад печкай і кідаў у агонь паперку за паперкай, прыслухоўваючыся да шархатаньня ў Анатолевым пакоі.

4

Над уваходам цьмяна паблісквала, туга аплеценая драцяным каптурком, электрычнаё лямпка. Як адчынілі дзьверы—Анатоль аж зжахнуўся: ён ніколі ня быў у цаху ўначчы, ня прывык бачыць яго маўклівым і мёртвым. Менавіта мёртвым, бо якое-ж яшчэ можа прыйсьці параўнаньне на розум, калі бачыш новыя, нядаўна пастаўленыя варштаты бяз руху, ня чуеш прарэзьлівага стогну, верашчэньня жалеза, ня бачыш заклапочаных людзей за гэтымі варштатамі. І такія-ж лямпкі, аплеценыя драцяным каптуркам, кідалі згары—са столі—мутнае сьвятло, і ў гэтым сьвятле халодным бляскам пабліпраўлі цэлы варштатаў.

— Тааак,—здэтанавана працягнуў Анатоль, уваходзячы ў мэханічны.

— Ніколі хіба ня бачыў?—засьмяяўся сакратар комсамольскай ячэйкі Пятрусь Карновіч, і сьмех ягоны рассыпаўся водгульлем па пустым корпусе.—Вось тут наша і бяда. Завод пусьцілі, а рабочых рук не хапае. Добра яшчэ, што ліцейны ідзе на тры зьмены, а то-б зусім макам селі. Ну, хлопцы, пачынай агляд,—зьвярнуўся ён да рабкораў.

Па два рассыпаліся па цаху. У канторцы—за шклянымі сьценамі яе—засьвяцілі лямпку.

— Малюй, Сімка, плакат. Варштат Стоўпнэра выведзены са строю сёньня. Вінаваты Стоўпнэр, які пусьціў варштат на іншую скорасьць.

— Пачакай, пачакай! А хіба гэта Стоўпнэр вінаваты?

Напаўслове прыпыніўся, зірнуў пытліва на Карновіча і разьвёў рукамі.

— Ну а хто-ж?

Карановіч браў мастака Сімку за плячо і тлумачыў яму:

— Тут ня ў Стоўпнэры адным справа, браток. Гэта-ж трэба разумець! Колькі ў нас Стоўпнэр працуе?

— Здаецца, месяц!

Прыцмокнуў губамі, Карновіч, і гэта зразумелі ўсе прысутныя так, што нешта большае ведае Карновіч.

— Не здаецца, а месяц, галава ты разумная. Адкуль-жа яму ведаць, як з варштатам абыходзіцца?

— А майстар навошта?

— Во, во! Ты так і пішы на плакаце. Майстар Гойка, дзе ты быў?

Спрытна запрацавалі рукі мастака Сімкі і з-пад прымітыўнай яго прылады для маляваньня адно за адным пачалі нараджацца словы: „Майстар Гойка, дзе ты быў? Ці ня ў „Мамы“ піва піў?“

Навокала дружна зарагаталі.

— Абавязкова да Шыхтэра скардзіцца пабяжыць.

Калі плакат прымайстравалі ля сапсаванага варштату, усе адыйшліся ў бок і пачалі разглядаць яго.

— Нечага вось не хапае, хлопцы,—сказаў русявы, апрануты ў дзяжурку.

— Праўду кажаш,—згадзіўся мастак.—Трэба так зрабіць, каб адразу ў вочы кінуўся,—і ён, доўга не разважаючы, вывеў на плакаце вялізарны пытальнік.—Ну, лепш цяпер?

— Хоць у выдавецтва нясі друкуй!

У гэты самы час паклікаў Анатоль. Ён стаяў ля шафы, дзе вешалася вопратка, і трымаў у руках пляцёны кошык. Усе пабеглі да яго.

— Пад якім нумарам вісеў?

— Пад 85. А ў сярэдзіне тут...—ён палез у кошык і ўрачыста выцяг адтуль напоў апарожненую паўлітроўку.

— Ааах, сволачы!—вылаяўся нехта так смачна, што ўсе іншыя нават пазайздросьцілі яму.—Чый гэта 85?

— Саладзенкаў,—адказаў, знайшоўшы ў табельным сьпісу 85 нумар.

Паўлітроўка якраз і дапамагла.

У бутэльку ўваткнулі кій з плакатам, на якім красавалася маленечкае падабенства чалавечка, якога гарачая фантазія мастака пасадзіла ў такую-ж самую паўлітроўку.

— Разарвецца ад сораму!

Анатоль вышаў за Карновічам на двор пакурыць. Над ліцейным цэхам—над шырокім дымаром—стаяла марыва бліскаў дый іскр, няспынная плойма іх—гэтых іскр дый бліскаў—з грозным вурчаньнем выбівалася з дымаровай пасткі, білася аб цёмную палуду неба і, неадолеўшы ў гэтым змаганьні, іскры ападалі, зьнясіленыя, на зямлю, пакідаючы ў паветры вузкую сьцежку сьвятла.

— Дрэнная справа, Шастакоў,—прыкурваючы, сказаў Карновіч.

— Я гэта бачу сам,—намацваючы рукой скрыню ды сеўшы на яе, адказаў той.

Потым яны колькі хвілін маўчалі, услухоўваючыся ў начны шум заводзкага панадворку. Праз верашчэньне дынамо—(дынамо ніколі ня вухкае, ня гудзіць і ня чохкае, як думаюць часта поэты; наадварот: у голасе дынамо ёсьць пяшчотны гук, што чалавечым голасам можна перадаць як нешта сярэдняе паміж „в“ і „ф“, ад гэтага сярэдняга паміж „в“ і „ф“ пачынаецца разьбег галосных,—гэта амаль што стогн, але стогн не адчаю, а стогн рашучасьці),—праз лязг мэханічнага крану, праз зварʻяваныя ад тэмпу галасы чуў—ня чуў, а здавалася, што чуе—чуў Анатоль чалавечы крык. Было шмат чалавечых галасоў у начной музыцы завода, але *гэты* крык быў нейкім своеасаблівым, ён—гэта моцна адчуваў Анатоль—не належаў ніводнаму з людзей, што працавалі ў гэты час.

— Слухай, Пятрусь, хто гэта крычыць так?

— Здаецца... ніхто. Здалося табе... Ты вячэраў сёньня?

Анатолю зрабілася сьмешна ад таварышовага запытаньня, але прышлося прызнацца, што павячэраць не пасьпеў.

— Ну, вось... Змарыўся, і табе здаецца... Але ты лепш парай, што з цэхам рабіць? Рабочых і так няма, а тыя, што ёсьць, не рабочыя, а... Ну, хіба можна выконваць програму?

— Трэба перад Шыхтэрам паставіць пытаньне рубам. Гойку трэба зволіць і справе канец.

— Яно так, зразумела,—паківаў галавой Карновіч і запаліў новую папяросу.—А хто замест яго рабіць будзе? Хіба бяз майстра з гэтымі „новабранцамі“ будзеш працаваць?

— Дык спагнаньне на Гойку накласьці. Ужо досыць Шыхтэру ня бачыць Гойкавых учынкаў. Стаўце пытаньне аб ім на сходзе. А галоўнае—ударніцтва разгарнуць трэба, каб кожны рабочы адчуваў адказнасьць пэўную.

— Прыдзецца паспрабаваць, а то... чорт ведае, што будзе! Мэханічны зарэжа завод, ня йначай.

З цэху вышлі рабкоры. Адзін аднаго перапыняючы, расказвалі аб тых непарадках, што выкрылі пры налёце, аб тым, якія будуць рэальныя вынікі ад гэтага налёту.

— Наўрад ці прашыбеш плакатамі Гойку,—сказаў адзін з рабкораў з сумненьнем.

— Дарма,—перапыніў яго Шастакоў.—Калі на яго ня ўзьдзейнічаюць плакаты, дык моладзь падцягнецца. Хіба ў адным Гойцы справа?

— Гэта правільна. Аб чым казаць.

...Як ішоў Анатоль дахаты, усё чулася яму, што ў начных гуках гораду крычыць чалавечы голас: стогн, хрыпеньне, зазыў да лютасьці і рогат, пераможны рогат былі ў гэтым голасе. Узнэрваваны і ўшчэнт змораны, Анатоль перапыніў рамізьніка, што соладка спаў на фаэтоне, уткнуўшы нос у рукаў, назваў хатні адрас і—паціскаючыся ад холаду—сказаў:

— Гані толькі хутчэй...

Зацокалі капыты аб брук, і ў гэтым цоканьі Анатолю пачуўся халерычны рогат нявідочнага—„Ах, як замарыўся за дзень!“—чалавека. І тады, як пад'ехалі да дому, Анатоль нават не чакаў ад рамізьніка рэшты і падняўся па ўсходцах. Доўга шукаў у кішэнях ключа, увайшоў і—

5

— Гэта небясьпечная рэч, профэсар! Не, вы павінны згадзіцца, што мне лепш заставацца нанач у вас...

— Я вас разумею... эээ... надзвычайна добра разумею, але скажэце на ласку, хіба мая кватэра застрахавана?

— Да вас ня прыдуць... Вы...—голас дайшоў да шэпту, потым пачулася бяссэнсоўнае мычаньне Іларыёна Даменікавіча.

— Ну... і сын...

Ля дзьвярэй, трымаючыся за порт'еру, стаяў Анатоль.

— Добры вечар, доктар!

Вочы былі захаваны пад акулярамі і разгледзіць іх Анатолю не ўдалося. Але па тым, як увабраў доктар галаву ў плечы, як засьпяшаўся, устаючы з-за стала, павітацца і—вось гэта галоўнае, бо доктар заўсёды трымаўся асноўных азоў гігіены—працягнуў руку,—па ўсім гэтым зразумеў Анатоль, што сьпешкай, рухамі хацеў захаваць доктар сваю ўстурбаванасьць.

— А я думаў, татусь, што ты сьпіш... Другая гадзіна.

— Эээ...—адно здолеў прамармытаць Іларыён Даменікавіч.

— Вы так позна...—зазначыў доктар, выцягваючы з кішэні насоўку.

Анатоль наліў шклянку малака і, сёрбаючы яго, рэзка адказаў:

— Для мяне заўсёды рана!..

Доктар стрэліў акулярамі ў профэсараў твар і той пасьпяшаўся ўсьміхнуцца ветлівай і спачувальнай усьмешкай.

— Гэта па вашай маладосьці, Анатоль Іларыёнавіч, вам так здаецца. Есьць анэкдодзец вясёленькі пра яўрэя, які на цягнік апазьніўся... Кхе, кхе...

Піў малако Анатоль, і чуў: крычыць чалавек, стогн, хрыпеньне, зазыў да лютасьці і рогат, пераможны рогат у гэтым голасе нявідочнага чалавека. Ня вытрымаў Анатоль, рэзка ўстаў з-за стала, адставіўшы з шумам крэсла.

— Анэкдот гэты да вас прыстасаваць зусім няцяжка, доктар!

Хваравітай ружовасьцю заліўся доктараў твар, захваляваўся профэсар і заклапочана зазначыў сыну:

— Будзь, Толя, хоць крыху корэктным да госьця... Ты змарыўся за дзень, ідзі адпачні. А мы пасядзім з гадзінку яшчэ... Справы ёсьць.

— Справы?—У Анатолевым голасе прагучэла пагроза.—Справы?— Ракавое пытаньне сваё паўтарыў у другое, ломячы папяросу.—Ведаю вашы справы... зладзейскія! Не схаваеце!..

Профэсар глядзеў здэтанавана на сына, колькі хвілін панавала ў сталовай глыбокая—амаль драматычная—пауза, цішыню першым парушыў доктар.

— Што вы ведаеце?—першым парушыў цішыню доктар, і гэтае неасьцярожнае запытаньне было недарэчы, здрадзіла гэтае запытаньне самому-ж доктару.

— Толя, Толя!—ледзьве чутна акамянелымі вуснамі прашаптаў профэсар.—Ты хворы?

— Так, хворы, татусь!.. Табою хворы!—і вышаў з пакою, адбіваючы гучна—адзін-за-адным—свае крокі.

Пасьля ўсяго гэтага ён сядзеў на канапе, паціраючы спацелы свой лоб, чуў, як там, у сталовай, устурбавана гаварыў профэсар, пярэчыў яму агідным піскнявым фальцэтам доктар, чуў, а слоў зразумець ня мог, улавіць іхны сэнс не ўдавалася.

Думаў Анатоль так:

— „Бязумоўна, я хворы... Нэрвовае нешта... Але бацька? Бацька затойвае ад мяне нешта дужа важнае... А тут... тут гэтыя арышты... учорашні вобыск“...

Поўз у вокны ружовы туман, нібы пенка варэньня, поўз у вокны ружовы туман сьвітаньня. У пакоі — на падлозе і столі — нарадзіліся празрыстыя блікі, і ў трумо—у люстраным ягоным абліччы—убачыў Анатоль бледы свой твар з прыпухлымі кругамі пад вачыма.

— Удзень пагавару з бацькам канчаткова. Або—або,—ён падышоў да вакна і апусьціў штору.

6

*...„У царкве Кірылаўскага манастыру фасады падзяляліся пры дапамозе плоскіх, простакутных у разрэзе лапатак. Такога самага тыпу лапаткі і наогул былі больш пашыраны ў будынках бізантыцкага*

*тыпу, пачынаючы з солунскіх і афонскіх цэркваў і канчаючы ўзорамі славянскіх адменьнікаў бізантыцкага архітэктурнага стылю; у большасьні кіеўскіх будоў, за малымі выняткамі, а таксама ў ноўгародзкай і пскоўскай архітэктуры ўсюды для падзелу муроў ужываліся амаль што выключна“— —*

— Мой новы роман, спадзяюся, будзе адпавядаць нашым надзеям і жаданьням!

— Ооо! Я заўсёды ведаў, што вашае пёрка будзе служыць бацькаўшчыне!

— —*„плоскія лапаткі, і толькі ў некаторых валадзімера-суздальскіх тыпах яны ажыўляліся тонкімі пілястрамі. Тымчасам, у сьмядынскай царкве сьляды надворнае апрацоўкі фасаду маюць крыху іншы“— —*

— Што? Профэсару Шастакову даручыць, не, не! Я катэгорычна протэстую!

— Чаму, доктар? Ён-жа цалкам з намі.

— Вельмі добра, усё вельмі добра. Але пост міністра народнай асьветы ў нашай рэспубліцы—гэта вельмі цяжкая штука. Тут трэба элястычнасьць... а ён гатоў за сваю этнографію дзяржаву прадаць.

— Ну, што вы, што вы! Ён чалавек... ідэёвы.

— Так, так, так! Якраз трапілі пальцам у неба!.. Недалёкі яшчэ той час, калі Шастакоў лётаў з Бэрліну ў Прагу, а з Прагі ў Львоў, шукаючы выдаўцоў для сваёй „Орнамэнтацыі“.... Не, панове, няхай ён будзе вучоны, няхай займаецца гэтай самай этнографіяй. Хіба гэта нам не карысна?

— — *„характар: плоскія лапаткі, як мы ўжо зазначалі, замяшчаліся толькі па рагох, самыя-ж муры падзяляліся лапаткамі, у рагрэзе паўкруглымі, у відзе шырокіх палавінных калюмн на маленькіх плоскіх выступах. Падобная апрацоўка муроў пры дапамозе паўкруглых лапатак, якая толькі як выключэньне“— —*

— Такім чынам, пост міністра народнай асьветы мы даручым Загржыцкаму. А вайсковым міністрам...

— Панове! Успомнім нашага слаўнага Булак-Балаховіча! Ён для бацькаўшчыны паслужыць ніколі не адмовіцца. І замежжа згодзіцца...

— О! Гэта ідэя, за якую варта ўхапіцца!..

— —*„сустракаецца на Украіне, можа лічыцца тыповай для смаленскай архітэктуры XII сталецьця, і ўжываецца, апроч таго, і ў некаторых іншых беларускіх помніках, як, напрыклад“...*

— Што з вамі?

— Вы яшчэ тут? Загржыцкага арыштавалі, у Пэкеліса вобыск, да Шастакова прыходзілі і...

— Забралі яго? А дакуманты?

— Фуу! Замарыўся я! Дакуманты? Дакуманты ён пасьпеў схаваць у сына... Вось яны.

— Давайце сюды. А цяпер разыходзьцеся... Яшчэ чаго добрага сюды...

— Зыгмусь! Садзіся за рояль. Пашлі, пашлі!..

— Спакойнага сна. Не забудзьце паведаміць Носіка, яго чамусьці ня было сёньня...

— Можа і яго...

— Бяз панікі, бяз панікі, таварышы!..

— — ...„У ПЕРШУЮ ЧАРГУ ТРЭБА ВЫСЬВЕТЛІЦЬ ХАРАКТАР НАЙБОЛЬШ СТАРАДАЎНЯГА ПЭРЫОДУ ГІСТАРЫЧНАГА РАЗЬВІЦЬЦЯ“...— —

— Ну, ідзі... заяўляй на бацьку... Табе-ж нічога ад гэтага няпрыбудзе, карысьць невялікая...

Ірвануўся ўсім тулавам да яго, але стрымаўся, бо зразумеў, што рух гэты бясэнсавы. Адкінуў назад валасы, што назальліва лезьлі ў вочы. Крыкнуў:

— І гэта твая чыстая навука? Ах, бацька, бацька! Значыцца, ты і твая навука толькі шыльда для контррэволюцыйнай работы!—У хваляваньні хадзіў па пакоі, адкідаў валасы, сьціскаў сударгава рукі.—Які я дурань, ах, які я дурань! Як гэта я раней ня бачыў, не разумеў, што мы з табой... чужыя, што ты—труп, жывы мярцьвяк...

— Анатоль! Ты... глядзі, каб не шкадаваў потым.

— Чаго гэта?—Абарваў свае нэрвовыя крокі.—Чаго гэта шкадаваць? Хіба ты думаеш, што мерцьвякі, такія, як ты, здолеюць перадужыць жывых людзей, маладосьць? Які ты нікчэмны, сьляпы!..

Вось гэтае хваляваньне, што перарасло ў нянавісьць (у нянавісьць да сына!) раптам акрыяла старога профэсара, сілы надало, і не здавацца, а наступаць, наступаць, наступаць штырхала яно, гэтае хваляваньне.

— Ты не сваімі словамі кажаш, Анатоль, чужымі словамі! Так, мне дрэнна і цяжка жыць, так, нам дрэнна і цяжка. І хіба мы ня маем права стаць на чале нашай нацыі?

— У вас няма нацыі. У вас нічога няма... Разумееш? Нічога! Вы прадажніцкія душы, вы гатовы нацыю сваю прадаць за злоты... Ты зірні ў газэту, ты паглядзі, чым жыве наша краіна. Хіба ёй патрэбна твая царкоўная орнамэнтацыя? Ты, бацька, прызнайся, колькі людзей ты скалечыў у інстытуце, колькі людзей ты выпусьціў, якія ня ведаюць, што ім рабіць у жыцьці, як ім жыць!

Профэсар абціраў вялізарнай насоўкай спацелы свой твар.

— Газэты, кажаш?—Ён усьміхнуўся.—Хто гэта ня ведае, што цыгнікі павінны адыходзіць без спазьненьня. Навошта аб гэтым пісаць у газэтах? А людзей... людзей я не калечу. Я выхоўваю іх так, каб яны маглі заняцца навуковаю працаю...

— І вывучаць заімшэлыя абразы?!

— Эт,—махнуў рукой профэсар Шастакоў.—Вось і асьпірант мой... Бурлак... тое-ж самае кажа. Вы маладыя завельмі, галубочкі мае, і ня

вам вучыць мяне. Так, навуковая праца для ўсяго чалавецтва!

— А выкананьне прамфінпляну?

Профэсар ня вытрымаў. Ён падышоў да вакна і расчыніў яго. У пакой уварваўся вулічны гуд: ішлі трамваі, адзначаючы звонам сваю хаду, крычалі газэтчыкі і рамізьнікі, а здалёк—з рабочай ускраіны—гула сырэна.

— Хопіць, Анатоль. Адно скажу... Калі ты супраць мяне, дык можаш ісьці заяўляць... Можа ўзнагароду і атрымаеш.

Уздрыгануў усім целам Анатоль, кінуў на маленькую бацькаву постаць позірк (—у позірку гэтым была пагарда—) і, выбягаючы з пакою, кінуў:

— Ты—мярцьвяк, бацька... А я жывы, разумееш?—жывы і... буду жыць! Ты—мярцьвяк! Ты да ўсяго—вар'ят! І ты мне не бацька, вораг, мой вораг. Усё!

## 7

Шыхтэр сядзеў у сваім габінэце, чытаў вынікі рабкораўскага налёту на мэханічны цэх, курыў папяросу за папяросай, і яго падмывала хваляваньне. Ён некалькі разоў намагаўся кінуць гэтыя вынікі, заняцца чым хаця іншым, але тон вынікаў быў катэгорычным, трывога была ў іх, і Шыхтэр паўз волю чытаў, перачытваў нанова.

Нарэшце ён рэзка адсунуў крэсла, на якім сядзеў, устаў і падышоў да тэлефону. Выклікаў Карновіча, а яго ня было на заводзе, і дырэктару паабяцалі знайсьці яго. Ушчэнт раззлаваны, ён бразнуў тэлефоннай трбкай і пайшоў у мэханічны. Тут, здавалася, усё было звычайным. Людзі за варштатамі рабілі сваю справу, як ї належала ім. Майстар Гойка хадзіў ад варштата да варштата з заклапочаным выразам твару,— мастар Гойка працаваў, а зусім не прагульваў, зусім ня лодырнічаў, як пісалі аб гэтым рабкоры.

— Добры дзень, таварыш Гойка,—прывітаўся з ім Шыхтэр.—Як справы?

Ледзь прыкметны цень прабег па Гойкавым твары, усьлед за гэтым ён хітраваценька ўсьміхнуўся і ў вачох застыў на момант адлюстровак сьвятла.

— Справы, таварыш дырэктар, эвань як... ідуць. Толькі эвань... перашкаджаюць працаваць, — і ён мігнуў на плакат. Пад вялікім пытальнікам на плакаце тым красаваўся надпісь: „Майстар Гойка, дзе ты быў?“—

— Хто перашкаджае?—нібы не разумеючы Гойкавага паміргваньня, зноў запытаўся Шыхтэр.

Тады Гойка агледзеўся па бакох, бліжэй прысунуўся да дырэктара— Шыхтэр адчуў пах віннага перагару—і ціха сказаў:

— Падшыванцы... эвань... перашкаджаюць. Мне цяпер па цэху прайсьці... эвань... сорамна. Кожны, здаецца, пальцам ткне.

— Ааа!—дырэктар кіўнуў галавою.—Ну, гэта мы праверым.

Ен пайшоў з цэху, і вось каля самых дзьвярэй натыкнуўся нагой на нешта цьвярдое, ледзь не аступіўся і, раззлаваўшыся, паклікаў Гойку:

— Слухайце, што гэта такое?

Гойка падбег да яго і ўбачыў пад дырэктаравай нагой нядаўна зробленую дэталь для агрэгату: майстар Гойка нават пачырванеў ад нечаканасьці.

— Хто гэта кінуў... іх маць!—зароў ён на ўвесь цэх. Але ніхто не азваўся на грозны ягоны вокліч, і Гойка прамармытаў у дырэктараў твар:—Ну, гэта мы праверым...

Абураны Шыхтэр вылецеў з цэху. Абурэньне вырасла яшчэ больш ад таго, што паўтарыў Гойка дырэктаравы словы і ў гэтым паўтарэньні ўчуў Шыхтэр гіронію. Ен бег да ліцейнага, лаючы ўсё навакольнае, як раптам яго перапынілі. Ен адарваў ад зямлі вочы і ўбачыў перад сабою Карновіча і Несьцярэнку.

— Ты мяне шукаў, Шыхтэр?

— Так, я цябе шукаў. Добры дзень, таварыш Несьцярэнка! Да вас яшчэ ходзіць гэты самы?..

— Шастакоў?

— Так... ён?

— А чаму-ж яму не хадзіць? Ходзіць. і райком зусім задаволены ягонай работай.

— Задаволены?—перадзёрнуў плячыма Шыхтэр.—А я не задаволены! І табой, Несьцярэнка, не задаволены, і ўсёй вашай сыстэмай работы.

Постаці Карновіча і Несьцярэнкі ўдавалі з сябе два—аднолькавага памеру—пытальнікі: Карновіч паднасіў да роту папяросу дый гэтак і застыў на палове руху, а Несьцярэнка ссунуў на патыліцу шапку і пытліва ўпяў у дырэктара свой позірк.

— Вы сваім налётам, таварышы, дэзорганізавалі цэх! Вось што. Я буду аб гэтым гаварыць на бюро колектыву.

І хлопцы зарагаталі ў дырэктараў твар, і надыйшла чарга здэтанавана пазіраць за дырэктарам.

— Чаго вы выскаліліся?

Карановіч аж заходзіўся ад рогату. Апаноўвала яго весялосьць. Ен ляпнуў рукой па Несьцярэнкавым плячы і той—нібы ў адказ—зарагатаў яшчэ мацней.

— Ну?

Потым узлаваў, не дачакаўшыся на адказ, і пабег, кінуўшы нахаду:

— На бюро парагочаце! Я вам яшчэ давяду!..

— Гэта ён сур'ёзна?

— А чорт яго ведае!—адказаў Карновіч, абціраючы спацелы твар.— Ен давядзе! Трасцу ён давядзе. Ну, шпарма!

Яны пайшлі ў мэханічны праводзіць з другой зьменай мітынг. І ведалі абодвы, што мітынг будзе бурны, бо стаяла на ім пытаньне аб

ударніцтве і спаборніцтве. Трывожна было, але заспакойвала Несьцярэнку адно: у ягоным блёкноце быў сьпіс тых комсамольцаў, якія організаваліся першымі—яшчэ да мітынгу—ва ўдарную комсамольскую брыгаду.

А Шыхтэр тымчасам, смокчучы кончык алаўка, пісаў тэзісы для выступленьня на бюро парткалектыву. Уласна кажучы, справа была яснай, але моцна ў Шыхтэраву прывычкv ўвайшло пісаньне тэзісаў.

— Чорт ведае, што яны думаюць!—злаваў Шыхтэр.—Дэзорганізацыя, поўная дэзорганізацыя! Вось і працуй тут...

Бралася на вечар, і габінэт афарбоўваўся ў сурык: сонца кідала праз вокны касыя промні.

8

Па хісткіх лесках пайшлі людзі: адзін за адным ішлі яны, паддаўшыся тулавам уперад, а на плячох несьлі яны цэглу,—лескі паскрыпвалі, падкідалі рытмічна чалавечыя целы, цэгла ціснула, а людзі ішлі вышэй і вышэй—на пабудову.

Прайшоў трамвай, перагружаны да максімуму, і калі падыйшоў ён да астаноўкі, захваляваўся паставы міліцыянэр, людзі ў трамваі шчыльна прыцісьнуліся адзін-да-аднаго і шчыльным зрабілася паветра.

Здрыгануўся брук ад хады грузавікоў. Са скрыпеньнем, рогатам, стогнам сырэн паплылі яны—трохтонкі, пяцітонкі—па вуліцах.

Закрычаў на рагу газэтчык, зазываючы праходжых інтрыгуючымі сэнсацыямі: „Вот переварот! Вот переварот!“

Са скогатам прарабілі магазынныя жалезныя шторы ранішні традыцыйны свой палёт угару, каб адкрыць цікаўнаму воку багацьце вітрын.

А над усім гэтым—над лескавым рыпам, над звонам трамваяў, над гудам грузавіковых сырэн, над гаманой, дзелавой заклапочанасьцю, над скогатам, лязгатаньнем, віттавай пляскай жалеза—над гэтым усім вырас:—

усьпешчаны ўскраінамі сталіцы, для жыхароў неад'емны ў жыцьці,
адменны гадзіньнік, што ўведзены цьвёрда ў побыт—
вырас гудкоў—тэмбру густога—гуд: сем гадзін раньня Рэспублікі.

І праз ўсё:—

праз лязг мэханічнага крану, праз звар'яваныя ад тэмпу галасы
чуў—ня чуў, а здавалася, што чуе—чуў Анатоль чалавечы крык,—
а хворасьць прайшла, нэрвы спынілі блёкаду цяглiц, а ўсё-ж такі чуў—
нутром, развагай, розумам чуў гэты крык—

але *гэты* крык быў нейкім сваясаблівым, ён—гэта моцна адчуваў Анатоль—не належаў ніводнаму з людзей, што працавалі ў гэты час.

Купіў газэты. Потым зірнуў на гадзіньнік, нават зьдзівіўся, што так яшчэ рана, зноў у думках—у сувязі з стрэлкай гадзіньнікавай—кранулася: „Лепш так, чым сустракацца, быць побач, пад аднэй страхой бацькам“... Седзячы на сквэры, разгарнуў газэту. І адразу ў вочы гу-

стой друкарскаю фарбай—тое, чаго чакаў, аб чым гаварылі ў горадзе некалькі дзён узапар,—убачыў і нешта адчулася лёгкае ва ўсёй ягонай істоце, адчулася лёгкае, нібы рука нявідочная камень цяжкі—нявідочны таксама—зьняла з яго. Пераканаўшыся ў тым, што газэта чаканьні спраўдзіла, пацьвердзіла чутае ад таварышоў і знаёмых, і—нават!—ня зьдзівіўшыся, што знайшоў сярод іншых імён і прозьвішча бацькі—гатоў быў засунуць газэту ў кішэню, але— —

— —там узыходзіць сонца тым-жа часам, але ўсход сонцавы чысты і празрысты, незатуманены гарадзкой мятусьнёй;

там цьвітуць па-ранейшаму буйныя купавы на хвалях Гайны;

там вечарамі славяць дзяўчаты месяц, падобны на пасыпаны макам кухан;

там стукаюць зынгеры і падпяваюць работніцы калёсцам;

там— —

*Бегла рака, нібы вялізарны статак зьвярыны ад лясного пажару,—вось якраз так, апраўдваючы параўнаньне, вылі, леман тавалі, стагналі, скуголілі хвалі, ішлі над ракой, б'ючы яе, у розных кірунках вятры, ішлі, находзячы адна на адну, нібы крыгі, валатоўкі—хмары, бегла рака, губляючы сваё рэчышча...*

— (Туга зафіксавана ў памяці)—

*У напрамку мосту бег Мікола Длугач, шырака, нібы крылы, раскідаў рукі.—*

*— Павінен вытрымаць. Разумееш?—ПАВІНЕН!*

— —там: Стаход, цэнтр раёну суцэльнай калектывізацыі; комсамольцы—мілыя комсамаляты Патапенкі,—там! Гэта там! А тут—у газэце—кавалак таго, стаходзкага, таго, што „там“, таго, што болем азвалася па ўсёй істоце (—нават больш, чым прозьвішча бацькі—роднаг бацькі!—сярод імён ворагаў рэволюцыі), кавалак чорнага корпусу:

**...„быў забіты пасьля сходу жыхароў м. Стаход, на якім організаваўся колгас „Чырвоная Гайна“ і на якім першым выступіў супраць кулакоў Кранцэвічаў. Кулакі вырвалі з комсамольскіх шэрагаў адданага барацьбіта, радавога героя нашай соцыялістычнай будоўлі, добрага організатара“...**

І боль узмацняўся, павялічваўся, а мацней за яго, дужэй, акрэсьленей—нянавісьць. Ня верыў. Перачытаў яшчэ раз скупыя радкі чорнага корпусу:

**„Мікола Длугач быў забіты пасьля сходу“...**

Ї тады зразумеў Анатоль гэты крык чалавека, што чуў нутром, развагай, розумам, зразумеў гэты крык, бо быў крык—крыкам наваколь-нага, крыкам Краіны, крыкам Рэспублікі, крыкам трывогі:

на франтох Рэспублікі ёсьць прарывы,—мацней, таварыш, паддай плячом, мацней сьціскай у руках вінтоўку і стырно."

Крычыць Рэспубліка маладому свайму пакаленьню:

— Трывога! На франты пяцігодкі!

Усхапіўся. Ї пайшоў праз вуліцы, праз пляцы, праз натаўпы—пайшоў туды, адкуль даносіўся гуд заводзкае сырэны.

9

На трыбуне быў Анатоль.

Ёсьць нешта грознае ў прыхлупленай напружанасьці цішыні вялізарнай аудыторыі: сотні людзей, стаіўшы дыханьне, слухаюць цябе аднаго, і—ведаеш ты—сотні людзей гэтых табе падначалены ў дадзены момант, ты кормчы іхны, ты—іхны стырнавы. Ёсьць вялікая радасьць чалавечая адчуваньні гэтым, і тады—як адчуеш радасьць кормчага, стырнавога—ўтады мацнеюць цяглiцы, тады голас—што сталь тугаплаўкая: скрані, аддолееш!

— Ї ў адказ на інтэрвэнцыю, у адказ контррэволюцыйным нацдэмократам, што намагаліся задушыць маладую нашу Рэспубліку, у адказ клясаваму ворагу, які разьлічваецца перад судом пролетараў, мы яшчэ мацней павінны напружыць сілы на ўзмацненьне таго вучастку соцыялістычнага будаўніцтва, на які краіна нас паставіла, які краіна нам дару-чыла, таварышы!

Яшчэ да мітынгу—раньнем—бегаў па заводзе заклапочаны Карновіч, прыліпала да цела мокрая ад поту кашуля, бегаў Карновіч і—прыпыняючыся каля комсамольцаў—сьпехам казаў ім:

— Хлопцы! Сёньня мітынг будзе, а значыцца—нам выступіць трэба› паказаць, што ўмеем мы (—неадхільна стаялі ў галаве словы любімага поэта—) плянэтамі перакідацца! Во, хлопцы!

Ї тады як скалынулася аудыторыя навалай воплескаў, падышоў да трыбуны Несьцярэнка і папрасіў слова.

— Братцы!—хвалаваўся ён.—Слухайце, комсамольцы, і... наогул усе! Мы ворага клясавага чым пераможам? Пераможам мы нашай зьяднанасьцю, нашай энэргіяй, якую кіньма на фронт выкананьня прамфінпляну. Факт, братцы!.. А ў нас на заводзе што ёсьць? Прарыў ёсьць! Прарыў ёсьць! Мэханічны цэх можа ўгробіць увесь завод.

— Несьцярэнка!—крыкнуў усхваляваны ўшчэнт Шыхтэр.—Гэта не да часу!

— Ціха!—

— Дай гаварыць!—

— Якраз да часу!—галасы пакрылі ягоныя словы, і адчуў раптам

у гэтых галасох Несьцярэнка таварыскае падмацаваньне сабе, адчуў сваю праўду. І дыхнуў ён на поўныя грудзі:

— Шыхтэр нам пагражаў на бюро давесьці нешта. Дармо! Няхай мы—комсамольцы—робім памылку, што выступаем бяз згоды бюро, але тое, што мы кажам, што сыгналізуем—праўда—і гэтая праўда за нас, гэтая праўда нашу памылку рэабілітуе... Што мы маем у мэханічным?

— Развал, чысты развал!

— Панаваньне п‘янага Гойкі!

— А хто ня робіць, як рабіць сьлед, той ня вораг?

— Правільна! Вораг!..

Ішлі да трыбуны—з розных канцоў залі—ішлі да трыбуны комсамольцы. І кожны сказаць хацеў, выказаць сваё, набалеўшае. Агульнае, за што выступалі, за што грудзьмі станавіліся, зьяднала іх, і вырасла з гэтай зьяднанасьці—дысцыпліна масы, дысцыпліна колектыву.

— Рабочых мала. Гэта ведаюць усе,—сказаў адзін з іх.—Але гэта яшчэ не азначае, што трэба рабіць дрэнна.

— Мы патрабуем ад дырэкцыі звальненьня Гойкі, звальненьня і пакараньня прагульшчыкаў, гультаёў,—было слова другога.

— Досыць дырэктару пакладацца на гэтага майстра,—сказаў трэці.

Побач з Несьцярэнкам вырасла постаць Карновіча, гарманіст Санька ішоў на сцэну, крычучы нешта Шастакову. І тады Шастакоў, перамагаючы гуд галасоў, крыкнуў:

— Цішэй, таварышы! Слова даю...

— Комсамольцы мэханічнага цэху абвяшчаюць сябе ўдарнікамі. Каб зьліквідаваць прарыў, які пагражае з кожнай гадзінай павялічыцца,—чытаў Санька,—мы будзем працаваць без выхадных дзён, а дваццаць чатыры чалавекі будуць працаваць тры дні ў пяцідзёнку па дзьве зьмены. Усё!

У роіле чалавечых целаў убачыў Шастакоў расчырванелае дырэктарава аблічча і крыкнуў да яго:

— Калі ўжо я зрабіўся старшынёй сходу, дык прапаную, каб выказаўся Шыхтэр.

Сьціх натаўп. Гарачая цішыня ў жмут зьвязала паветра. І Шыхтэр, ушчэнт зьдзіўлены нязнанай яшчэ на заводзкіх сходах дысцыплінаванасьцю, адно і сказаў:

— Нічога ня маю... Я, прызнаюся, зьдзіўлены ўсім, што чую і бачу. Калі можна, падпішэце маё прозьвішча пад пастановай комсамольцаў.

Адказам былі: усяўладныя воплескі, апісаць якія дужа цяжка, бо слоў ня знойдзеш, а хоць і знойдзеш, дык усё-ж іх будзе мала.

## 10

Першы раз у жыцьці прышлося профэсару кінуць „чыстую“ сваю навуку і заняцца політыкай. І заняўся профэсар ёю—здрадлівай фортунай, заняўся, а целам профэсаравым заняліся хваробы.

— Раматус, раматус... Бязумоўна і ішыяс...

І тады, як пісаў сваё пакаяньне, успомніў на сына—(засмылела сэрца—ад болю, ад сораму?)—і патрэба пільная прышла ўбачыцца з ім.

Ён чакаў позна, але Анатоль прышоў не адзін: профэсар чуў з Анатолевага пакою ўзбуджаныя галасы. Профэсар пазнаў: у Анатоля быў Бурлак. І, адганяючы сорам, шчыльна вухам прыпаў да сьцяны профэсар, прыпаў і чуў:

— Мы разьмеркавалі ў інстытуце ўсе тэмы,—казаў Бурлак.—І вось засталася адна. Аб нацдэмаўскай канцэпцыі гісторыі мастацтва,—і далей нібы растлумачыў:—аб Шастакове.

— Ты бярэш?—азваўся Анатоль.

Пасьля караценькае паузы:

— Не магу ўзяць, бо еду праз тыдзень адсюль. Ніяк не магу. Вось варта-б было...

— Мне?—усхвалявана запытаў Анатоль, і профэсар тут, за сьцяной, захваляваўся таксама.

— Так, табе трэба ўзяць, Анатоль. Кажаш, бацька? Тым лепш, тым больш пераконваць будзе. Бяры.

Адчуў профэсар, што замуціла ў галаве і сьвятло ўваччу затанцавала рытмічнымі кругамі. Ён наважыўся адыйсьці ад сьцяны, ступіў раз, другі і—здрадзілі сілы профэсару.

— „Раматус, раматус... Бязумоўна і ішыяс“...—мільгнула ў слабеючых думках, а ўголас сказаў—вярней: прахрыпеў ён:

— Нэня!..

Разам з профэсаравым целам бразнулася аб падлогу крэсла, і рэхам азвалася гэта падзеньне па прыціхшых пакоях.

Кінуўся Анатоль да дзьвярэй, прабег праз сталовую і..

— Вам тут ня месца, малады чалавек.

— Адкуль вы ўзяліся?

Перад ім стаяла старая жанчына, з пагорбленым крышачку станам, але за ахонам гадоў, за мярэжнай хусьцінкай, ушчэнт накрухмаленай, усё-ж спазнаў Анатоль Эну Карлаўну.

— Адкуль вы ўзяліся?

Старая выпрастала стан, і ўбачыў Анатоль: знаёмым сьвятлом—пагарды і нянавісьці—бліснулі яе вочы.

Я з профэсарам заўсёды ў цяжкія моманты яго жыцьця. Гэта час ведаць, малады чалавек.

З-за сьпіны Эны Карлаўны зірнула на Анатоля перапалоханая Марыля, і тады Анатоль пакончыў са сваёю здэтанаванасьцю:

— Што з бацькам?

Ен зноў наважыўся прайсьці ў бацькаў пакой, але на дарозе стаяла— ня кратаючыся—Эна Карлаўна.

— Малады чалавек, словы раняць сэрца, а нож—цела... Помніце

гэта?—і ў самыя Анатолевы вочы ткнула яна аголеную па локаць руку: на ёй—на гэтай руцэ—быў сіняваты рубец.—Анатоль адхіснуўся.

— Што з бацькам?

— Ідзеце адсюль!—валадарчым голасам—рэзка—сказала старая.— Ідзеце і ня прыходзьце, бацькапрадавец.

І Анатоль вышаў. Вышаў і зразумеў:

калі крычыць Рэспубліка маладому свайму пакаленьню:

— Трывога! На франты пяцігодкі!—

калі б'ецца Краіна за выкананьне плянаў індустрыі—тады мізэрнай павінна быць туга па роднай, сваёй крыві, тады няма родных, сваіх—а ёсьць: кляса.

— Таварыш Бурлак! Ведаеш, неяк цяжка падпісваць прысуд роднаму па крыві чалавеку, але я згодзен... Скажы ў інстытуце, што даклад аб Іларыёне Шастакове буду рабіць я—былы яго сын. Скажы, што— —

## Finis

Старамодны пакрой хмар—

над палямі, над лугамі, над лясамі, над імшарамі, над сыпучым пяском—(вецер павее—і сьцяной ідзе пясок, хіліць сухотны лазьняк, прыгінае да зямлі: і тады здаецца—на пясчаным целе набраклі крывёю вены—лазьняк), над балацьвяньнем, над густым хмельным чорназемам—

старамодны пакрой хмар нязьменны над зямлёй.

І раптам з-за хмар, як расьселіну дадуць яны, выплыве барвовае сонца—і промні на зямлю палятуць, і будзе купацца ў промнях гэтых зямля.

— —будзе для нас—для людзей маладое краіны—сьвяціць сонца мацней і зырчэй: бо промні сонечныя ў нашых цяглідах, у нашых нэрвах, дый намі-ж—насельнікамі *пляноты пролетараў*—усьпешчана гэтае наша сонца!

Чэрвень—кастрычнік, 1931.
Менск—Церахавічы.

# СУПРОЦЬЛЕГЛАСЬЦІ

**С. Нортман**

I

Чатырнаццаць
год.
У іх
Цэлая эпоха.
У Дваццатым
Бралі
Перакоп,
У трыццаць першым
Штурмуем
Будоўлі
Акопы.
Казалі:
Што СССР
Загіне,
Злосьцю пырскалі,
Сьлёзы пралівалі
Меншавікі.
Кіраваць
Пачалі
Краінай —
Бязбожныя
Бальшавікі.
Давядуць
Краіну
Да зьнішчэньня...
На рабоце
гэтакага
Амбарасу!
Усіх,
Усіх
Бальшавікоў
У сутарэньне!
Пачалася
Газэтная
Сьвістапляска.

Брахалі
Жоўтыя
Пісакі.
Ад Лёндану
Да Токіё,
Ад Парыжу
Да Гоанго.
Гаўкалі,
Расьпіналіся —
Небаракі,
Выліваючы
Памыі
У газэтных
радкох.
Пяцігодку
Сустрэлі
Ізноў
Такі
Сьвістам:
Бальшавіцкія
Фантазіі!
Сталінская
Пустая
выдумка.
Гэта
Іхняе
Будаўніцтва!
Што-ж!?
Вядома!?
Азія!?
Мінаюць
Гады
І зьмяняюцца
Словы
Жоўтай
Прэсы.
Бальшавікі
Будуюць
Заводы,
Колгасы,
Нават
Цэлыя
Гарады.

Кажуць —
Пяцігодку
У чатыры
Зьдзейсьняць.

Гэта-ж
Небясьпека
Для ўсёй
Эўропы.

Абкружым
Гэтых
Бальшавікоў
Зладзеяў

Бар'ерам,
Акопамі,
Калючым
Дротам!

Дрыжыць
Увесь
капіталістычны
сьвет.

Крызіс
Пануе
У Амэрыцы,
У Эўропе.

Лопаюцца
Банкі
Штодзень,
Паліваюцца
Вуліцы
Чырвонымі
Кроплямі.
Выходзяць
На вуліцы
Рабочых
Мільёны,
Патрабуючы
Хлеба
І працы!

Тыя,
Хто
Быў
У загоне,

Вышлі
За ўладу
Змагацца.

Сустракаюць
Дэмонстрантаў

Газамі,
Дубінкамі,
Кулямётамі.

Эй! Вы!
Гады!

Усіх
не
Перастраляеце,

Прагавітыя,
Абармоты,
Надыйдзе
Дзень—

У апошні
Бой
Паўстануць
Усе

Аднэй
Нязрушнаю
Сьцяной!

2.

У нас —
Будуецца
Край.

Паўстаюць
Новыя
Фабрыкі,
Колгасы,
Заводы.

Расьцем,
Цьвіцем,
Нібы Май.

Ідзем
Ад аднэй
Да другой
Перамогі

Уводзім
У строй
518
і 1040.
Мы
Шпарка
Будуем,
Мы
Шпарка
Расьцем,
Пускаючы
У ход
Навастройкі
Чатырнаццаць
Год—
У іх
Цэлая эпоха.
У дваццатым
Штурмавалі
Перакоп.
А сёньня
Штурмуем
Будоўлі
Акопы.

## НАМ ТРЭБА!

**Ян. Шапавалаў**

*(Першай конфэрэнцыі МенАПП прысьвячаю)*

Літаратура —
ня кніжачкі проста, —
ня проста вершыкі, —
казачка ці быль.
Гэта —
адна з самых вострых
зброя
клясавай барацьбы.
Нам не да твару
Пільнякоўская гнусь;
нам абрыдзелі
„формы малыя“ халтуры.
Паўстала пытаньне
ва ўсю шырыню
Пра кадры
у нашай літаратуры.
„Мастацтва для выбраных“ —
Да чорта!
Далоў!
Усіх нас
Хай слова вядзе і сьвеціць!
Нам трэба
мастацтва, што кліча ў бой,
а не капацца
ў псыхолёгічным сьмецьці.
Энтузіязм
на дысцыпліну памножыўшы
Рухаем будоўлю, —
ні кроку больш назад!
**Мы самі хочам**
**і мы можам**
пра нашу эпоху
мастацкі сказаць!
Талентаў многа
дасьць кляса мая, —

Яны патрабуюць
пад сонцам месца.
Дзе напісана,
каб працаваў я,
а аб працы пісаў той,
хто ў ёй нічога не разумее!
Домны гігантаў
палаюць ярчэй,
Ударныя брыгады
цьвярдыні будоўлі здужваюць.
А ў літаратуры
ў нас яшчэ
пануе вытворчасьць
мастацка-саматужная.
З бібліотэк
ня выкінута гніль,
Яшчэ Есеніным
(хоць і нямногія)
жыць могуць.
Літаратура сёньня —
фронт у клясавым агні,
Дзе мы ня маем яшчэ
рашаючай перамогі.

* * *

На гэты фронт,
як і на дзесяткі іншых,
пашлі атрады
клясы—гегемона.
Кляса патрабуе
(загад кароткі вышаў)
„Стварыць
літаратуру
мільёнаў“.
І я іду, —
І сотні нас прыходзяць,—
І тысячы
яшчэ ідуць за намі.
Мы—малады!
Нам
партыя
гаворыць.
На добрых мастакоў
здамо экзамэн.

Ударнікі ідуць —
паходні сьвецяць,
Крычыць ня Любім
з драмы Астроўскага.
А нас, каму цесна
ў маленькім сьвеце, —
заўтра
памчыць да зор
Міжплянэтны карабель
Цыалкоўскага.
Гады баёў
прайшлі для вас нядарма,
умеем мы
цаніць красу і шыры.
З мастацтва зьняўшы
ярлык „сьвятога дара“ —
Мастацтва ўзьнімем
на нябачныя вышыні.
Талстой... Шэкспір...
Дай песьню маладую!
(Рука ля малатка
з маленства ўпартасьць вызнала).
Але нам трэба
і мы пабудуем
*Вялікае*
*Мастацтва*
*Бальшавізму.*

Пераклад з рускай С. Л.

# ПОЭМА ДАЛЬНІХ ДАРОГ

**Юрка Гаўрук**

*(Канец)*

## 13. Крыўда

Бялявыя хмары, як госьці, узышлі на прыбранае неба, зіхацелі пуховымі шатамі, абвіваліся крыштальным шлякам і блукалі ў недаступнай далечы сіняга спакою.

Пагоркі і долы жаўцелі жытамі, блакітныя палоскі лёну цяклі, як рэкі. Як чаўны, як караблі, плавалі ў абшарах сялянскія хаты, упіраліся ў сталетнюю ліпу, у калючую грушу, шукалі прытулку ў сецi рэдкіх садоў, прывальвалі і ня дыміліся.

Растопленае ад сьпекі паветра гуло матылькамі нявідных крыл, дрогка ўзважвалася ў вышыні і бруілася к сонцу.

Вадзяныя спады між палёў усочваліся ўніз, выпарваліся ўверх, нішчыліся; іржавая шчэць травы суха тырчала з балотцаў; на па коланы брудзе паміралі чарапашкі.

Апанас Чарнаваты ляжаў сярод пыльнага тракту і чакаў, каб чыенебудзь колы наехалі і раструшчылі яго навекі. Вусны былі зацярушаны прахам, а сэрца сашчэмлена горам.

Плакучыя прысады адыйшліся ад яго і далёка ўцяклі шчарбатаю стужкай. Ні дажджу, ні цяню—прашумець, нахмурыцца над ім.

Адсьвісталі разбоі-жаўнеры, прагручалі падводай, звалакліся і зьніклі утаптаўшы ў пясок сырамятную пугу на памяць.

— Каб вас першая куля ня мінула! Што вы зрабіі, а што-ж вы зрабілі са мною!

---

... Кар-р-р, кар-р-р!..

Чорны грак саскочыў з бярозы, пакружыўся і сеў на дарогу.

Стары ляжаў ніцам, распушыўшы бараду, як труп.

Грак плюснуў вейкамі, надзюбіўся і пачаў пакрысе падбліжацца. Блішчала пер‘е, цыбаціліся гадкія ногі.

— Ціп, ціп, пташачка!

Чарнаваты ветліва падняў галаву.

— Ціп, ціп, ціп!..

...Кар-р-р!..

— А мой божачка, ён ужо на падлу прышоў—мяне есьці.

Гэта-ж грак, а ня пташачка!—

Чарнаваты балесна скорчыўся і барджэй устаў. Вераўчаныя аборы былі разбэрсаны, а бобкі на лапцях панакатваліся каўтлякамі. З калена праз парваную штаніну спаўзала густая кроў.

Ён падняў сваю пугу і паплёўся кульгаючы:

— Хай вас пярун грамавы дагоніць, мо‘ хто вам за гэта аддзякуе! Крадзеным дабром не разжывяцеся, душагубцы!..

Абязьвечылі мяне, абманулі... сьветленькім дзянёчкам проці яснага сонца...

Твар Чарнаватага зморшчыўся, нос пасінеў, брыль скамячыўся, штаны целяпаліся, сарочка целяпалася...

---

...Г-г-г-г-г-г-г!..

Зялёны аўтамабіль, патрасаючы адкідною будкай, мчаўся трактам.

...Гы-гы-гы-гы!—адрывіста брахнула сырэна.

Чарнаваты падцягваў разьбітую нагу і ледзь ступаў.

Сэрца ёкнула адвагаю.

Загледзеўшы аўтамабіль, ён стаў сярод дарогі і замахаў пугаю.

...Гы-гы, гы-гы, гы-гы-ы-ы!..

Аўтамабіль падляцеў і спыніўся.

Польскі генэрал з ад‘ютантам стукнуліся аб сядзеньне і сказалі хорам:

— Д‘яблі!..

Раззлаваны шофэр высунуўся ўсім корпусам:

— Цо тобе, пся крэў?

Пшэпрашам панове!

Чарнаваты зьняў брыль, няўклюжа з болем пакланіўся:

— Будзьце ласкавы, паночкі-енералы, вашыя правасхадзіцельствы, прашу вашай ласкі, вазьмеце мяне на машыну, бо я чыста не магу ісьці.

Паночкі-енералы, вашыя правасхадзіцельствы, буду вам апавядаць вялікую крыўду.

— З якего мроку та почвара? —

Кірпаты генэрал вытрашчыў вочы.

Ад‘ютант у паходным аблачэньні, з картамі, біноклямі, рэвальвэрамі, у белых рукавічках, у бытылачных ботах, зрабіў стойку.

— Паночкі-енералы, ці ня бачылі вы, едучы, майго коніка мушасьценькага, прашу вашага заступніцтва?

— Сконд такі грабя?

— Звар‘ёвал!

— Гэтта-тэ-та, пся крэў, непожондкі!

Чарнаватаму ад храбрасьці заняло дух:

— Абабралі мяне... пакалечылі...

Жалюся вам, паночкі-енералы, каб вы мне што-кольвек парадзілі, пасобілі.

Ад‘ютант пстрыкнуў дзьверкамі і выскачыў з аўтамабілю:

— Іле жыем, а такего, болвана не відзялэм!

Як хорт, схапіў ён Чарнаватага, адвёў і абтрос рукавічкі.

— Дайце ўправу на жаўнераў, дайце ўправу, скамандуйце ім!

Гвалт! Гвалт!

Паночкі-енералы, вашыя правасхадзіцельствы!..

Чарнаваты падбег і сеў перад машынаю адкуль тая сіла:

— Вазьмеце мяне, я ня сыйду, дайце ўправу, дайце ўправу на жаўнераў, тут мая сьмерць, а я ня сыйду!

Шофэр, як бура, зьлез і пачаў таўчы Чарнаватага ботам:

Генэрал грузна падняўся:

— Чэкай, не бій! Цо тобе, весьнячэ?

— Як я адпушчаны абозьнік, то я ехаў на сваім кані, адслужыўшы службу панскаму войску, а яны... гляньце, гляньце!..—

Чарнаваты раскірэчыўся і паказаў крывавае калена.

— Гэтта-тэ-та, пся крэў! Марудэрство, лупество попэлненэ пшэз жолнежы. О, бедна глова, ходзь ту!

Чарнаваты не падышоў, а падпоўз.

Генэрал выняў партманэт:

— Маш една марка вспоможэня, — сказаў ён урачыста, падаючы паперку, як ксёндз прычасьце.

Генэрал у глыбіні душы сумняваўся ў сваім пляне бою і, будучы чалавекам забабонным, праз акты міласэрднасьці спадзяваўся на госпада. Чарнаваты ўзяў марку.

Генэрал выставіў руку і пазіраў, чакаючы пацалунку.

Ад‘ютант і шофэр анямелі ад пашаны.

Анямеў і Чарнаваты.

Генэрал пачакаў, пачакаў і бухнуўся сярдзіты ў сядзеньне:

— Д‘яблі, яка няўдзенчнасьць!

Поехáлі, шофэр, поехáлі!

Аўтамабіль загуў, затрашчаў і пакаціўся.

Чарнаваты кінуўся даганяць, але было позна.

Густы дым, засмуродзіўшы паветра, паплыў паласою на прысады.

---

Пасьля паноў-енералаў адчуваў сябе стары як пасьля лазьні: было яму дужа парна, а ўнутры як сто баб адхадзілі—утома і цяжкасьць.

Навошта магла яму спатрэбіцца тая марка, ён ня ведаў, тым ня менш выняў з-за пазухі крыжык і на ўсякі выпадак прывязаў грошы на вяровачку:

„Дабро і ў бядзе не замінае. Мо‘ спатрэбіцца каму хабара даць“.

— О-ох, як-жа баліць!..

Чарнаваты абмацаў нагу і з нудою агледзеўся, шукаючы ці няма дзе яшчэ якіх сьведак.

Поўднем пятрэла паветра, сонца іскрылася віхрам, перад вачамі сьляпы прастор.

„Пайду ў які роў язык памачу, а тады, значыцца, развважацьму“.

— О-ох!... —

Чарнаваты паклыпаў на балотца.

---

Аеры і асокі павялі ад бяздожджыцы. Пад лапцямі храбусьцела твань і тхнула мляваю гнілотай. У цесную голую яму зьбілася ўся вадзяная жыўнасьць. Страшнае, ціхае змаганьне адбывалася там. Асатанелыя п'яўкі паўшпільваліся ў трыбухатых апалонікаў, езьдзілі на іх верхам і прыемна пасмактвалі, вывіваючы гнюснымі хвастамі; шныпарылі плавунцы, коўзаліся павукі, камары патапалі. Дазорныя жабы, павысоўваліся між крокату, раскашавалі ў цяпле, але, зачуўшы крокі, бурна пырснулі ўглыб.

— Госпадзі, уладыка жывата майго! —

Чарнаваты прыкленчыў на пяткі і чарпнуў далонькаю вады.

— Маіх варагоў такою вадою на той сьвет абмываць. Не вада—бурда! —

Ён выпіў і яшчэ начэрпаў далоньку, выпіў і яшчэ начэрпаў і піў, як селезень, доўга і многа.

— Напіўся, як банька, слава табе госпадзі! Хай там плюхаціць!

Цяпер закушу сьвятадухаўскаю траўкаю.

Ён вырваў аерыну, разлупіў папалам і пачаў жаваць гаркаваты пахучы асяродак.

Па балотцы прабегла жаўна, расчыніўшы зяўластую дзюбу; бяздомная кніга ўзрыднула і зьнікла.

Направа—сенажаць, выстражаная і прыбраная, наперадзе—заліўное мора аўса і сьвірэпы, жоўтае, яркае, бясплоднае, як пажар.

Чарнаваты прысеў на беражку:

— О-ох, як-жа мая ножка торгае, чыста аплываю.

Ён узяў зямлі, папляваў, расьцёр і прылажыў да раны:

— Так хрыстос лячыўся.

Калі на гаючае, то загоіцца, а што каму суджана, таго ня мінеш.

Беднаму чалавеку, як зьверу, заступы няма: хоч жыві, хоч падыхай!.. —

Ён скінуў свой брыль і змоўк, слухаючы.

Па тракце тым часам праехалі сялянскія фурманкі; жаўнерская рота прайшла, узварушыўшы горы пылу; прастракатаў, як з кулямэту, матацыкл.

Бязрадасныя гукі скраблі за сэрца:
„От яно, дзе тое самае!... Пакарала, дык пакарала...
Думка аб кані, прытупіўшыся спачатку абудзілася з новаю сілай.
І што далей, то болей, шырылася перад ім пустата і страта.

---

— А куды вы, а-а-а!.. А туц, а туц, а-та-та!.. А куды, а-а-а-а!..
... Мэ-э-э-э, мэ-э-э-э!.. Бэ-э-э-э!..

Басаногі хлопчык-галаван, бахурок гадоў дзесяці, узагнаў на пакошу авечкі, распусьціў іх пасьвіцца і стаў, як бусьлік.

Чарнаватаму было сумна і зябка ад залішне выпітай вады, ён ушчарэпіўся сяк-так і пашоў памаленьку да хлопчыка: дзе яму дзецца, каго шукаць, ён ня думаў.

— Як цябе зваць, мой хлопчык?

Пастушок з цікавасьцю агледзеў куцую, абдрыпаную постаць незнаёмага і важна адказаў:

— Віцька.

— Дык цябе Віцькам зваць, ага-а!.. От як!..
А твой татка цябе, мабыць, любіць, любіць...

Хлопчык трывожна падняў брыву:

— Няма ў мяне.

— От як, дык ты, значыцца, сіротка, няшчасная сіротка, — Чарнаваты падышоў бліжай. Яму стала весялей, што хлопчык—сіротка:

— Чые-ж гэта авечачкі?

— Вобчаства.

— Ага-а! Дык ты, значыцца, з такіх год, а ўжо сам сабе гаспадар? О, які ты хлопчык!

— Згадзілі, каб зарабіў.

— Хто-ж гэта так?

— Маці.

— Ах, дык у цябе яшчэ маці ёсьць, ага-а! То яшчэ, значыцца, аб табе дбаюць. Калі ня зусім сіротка, то гэта яшчэ, мой хлопчык, рай.

Чарнаваты ўздыхнуў:

— Гэта яшчэ добра, калі ёсьць дзе прытуліцца.

„Які дзед цікаўны, усё выпытвае“.

Пастушок настаражыўся.

— У вас-жа, мабыць, і кароўка якая-небудзь ёсьць?

— Ёсьць адна.

— Мабыць і кабана трымаеце надворнага, або мо' ўжо карміць пачалі?

— Ёсьць двое малых падсьвіначкаў, а больш нічога няма.

— Няўжо-ж такі й каня няма?

— От яшчэ захацелі, каб у нас конь быў. Аж занадта хочаце!
Нашто нам такая раскоша?

Чарнаваты пакачаў барадою:

— Гэта, мой хлопчык, не раскоша, а божая благадаць. Ты яшчэ ня знаеш! Эх-эх-эх!..

— А куды, а каб вас! Га-та-та-та, а-а-а-а!..

От-жа, на іх ліхенька, дурныя, а такія-ж дурныя!

А-та-та!..

Авечкі зьбегліся ў кучу, засаплі і затузалі ножкамі. Праз вялікую сьпеку яны не знаходзілі месца і не маглі есьці, штурхаліся і лезьлі адна пад адну, ратуючыся ад мух.

— Каб я ганяў на ранкі, а то я на ранкі не ганяю.

— Але, але, старанны ты хлопчык, гэта відаць.

А колькі табе плоцяць?

— Маці казала, што грошай браць ня будзем, а збожжам.

— Ага-а!.. —

Чарнаваты ўздыхнуў, успомніўшы пра генэральскую марку.

— А ты, мой хлопчык, вайны не баішся, скажы мне?

Ну от, скажам, каб палякі прышлі ды й забралі ад цябе стадка, што-б ты тады рабіў, скажы мне?

Пастушок разьдзьмуў ноздры і, са злым страхам адступаючы ад Чарнаватага, крыкнуў:

— Я-б ім паказаў як браць!

Скажэце мне, чужы дзядок, чаго вы да мяне прычапіліся? Вы нешта да мяне маеце, што так гаворыце?

— А мой хлопчык, а што-ж я да цябе маю?

Я-б ім паказаў!

Бер-р-рагісь!..

Пастушок выхапіў з кішэні самадзелкавую стрэльбачку і нацэліў у дзеда. Рукі яго калаціліся.

— О-го-го, мой хлопчык!

От і о-го-го.

... Мэ-э-э!.. Бэ-э-э!..—заварушыліся ўзбураныя авечкі.

— Схавай, схавай!

Пастушок ляпнуў курком і стаяў, натапырыўшыся, як вожык.

Чарнаваты няпрыгожа ўсьміхнуўся:

— Эх-эх-эх, мой хлопчык!... Забралі-б яны ў цябе тваё стадка, адабралі-б і тваю цацку, і пабілі-б цябе, і пашоў-бы ты дадому плачучы, гэтак-бы слаўна пашоў, гэтак-бы хорашынька, плачучы... адзін...

Зьбянтэжаны пастушок апусьціў стрэльбачку:

„Гэты сівы дзед нечага мерыцца, ой-ой!“

— Ты хлопчык маладзенькі, у цябе костачка маладзенькая, дзе табе адбараніцца, калі я, а то...

Пастушок зусім перастаў разумець Чарнаватага і пaглядаў з баязьліваю асьцярогай.

Яму здавалася, што той пацьвяляецца з ім і чагосьці хоча.

Чарнаваты падсмыкнуў учкур і пачасаў грудзіну.

Блудлівы зрок яго панікліва мружыўся.

На тракце зноў рыпелі, стукаталі фурманкі.

Жаўнеры падбаўлялі кроку, парушаючы шэрагі; брудныя постаці іхнія грузьлі ў пясок і рваліся наперад з натруджанай упартасьцю.

Задраўшы ўгару насы і казыркі конфэдэратак, павольна прыяжджалі афіцэры, ківаючыся ў сёдлах.

Пастушок пагнаў авечкі ўглыб, падалей ад дарогі і грукату, за ім, матляючы аборамі, паплёўся неадчэпны Чарнаваты.

Унурыўшыся ў свае думы, ён адступаўся і ўздыхаў.

— Чаго ты ад мяне хочаш, гадкі ты дзед? Чаго ты прыстаў?

— А?.. Што?..

Але, але!.. Чыста прыстаў, не магу ісьці.

Ты пасі сабе авечачкі, пасі!..

Пакорлівасьць Чарнаватага крыху супакоіла пастушка:

— Ты, дзед, ня швэндайся, а сядзь! — сказаў ён грубавата.

— Сядзем разам, мой хлопчык, будзе весялей!

— Калі-ж авечкі ня ўрымсьцяцца.

— А мы іх пугаю, а мы іх пугаю...

Сядай, Ванечка!

— Віцька, а ня Ванька.

— Сядай, галубчык Віцечка, паслухай!

Чарнаватаму хацелася ўвесь час выгаварыць сваё гора.

Ён сеў на мяжу і пачаў несканчоную аповедзь.

Пастушок залажыў руку за шыю і наморшчыў лоб, цярпліва слухаючы.

---

Вечарам, калі яны, падружыўшыся, гналі разам авечкі на вёску, адзін да сябе, а другі шукаць прыстанішча, пастушок апусьціўшы вочы долу, сказаў:

— А ты, дзед, абазнаўся, я ня сіротка, я—байструк.

— Нічога, мой хлопчык, часамі й байстручкі ўдаюцца добрыя,—адказаў Чарнаваты і пацалаваў хлопчыка.

---

## 14. Розныя госьці

На акрайне гораду паўз тыя вузкія вулачкі, што, як жылкі ў лісьце, беглі абы-куды і канчаліся куткамі, упёршыся ў новую браму якога-небудзь адстаўнога акцызьніка, за высокімі частаколамі і глухімі дашчанымі платамі ў садох пасьпелі вішні.

Чырвоныя росныя ягады гронкамі зьвісалі з галін, пунсавелі рубінамі ад нізу і да верху: былі тут і спарышы, і патройныя, і па пяць разам, буялі ў такім дастатку, што давілі дрэвы і асыпаліся, чакаючы збору. Над імі лёталі шпакі і галкі, выклёўваючы з мяккага мяса тугія косткі, бязьлітасна марнуючы навалу добра.

І зелень і зямля былі заляпаны крывавымі плямамі і ліпкімі плеўкамі, а вішань усё яшчэ было многа.

Доўгацелы чараваты жаўнер адставіў карабін і палез на вішню.

Зламаўшы адно дрэва, ён палез на другое.

І настаяў на сваім: умасьціўся ў разьвіліне ні ў зад, ні ў перад, як пацук у пастцы.

Праз акно на гэтую работу маўкліва пазірала Марта Юраўна Будзіловіч, былая кухарка, а цяпер насьледніца і гаспадыня саду.

Жаўнер абжыраўся вішнямі, а ў душы ў Марты Юраўны бясьсільна змагаліся гнеў і страх.

Ён хацелася схапіць памяло і спароць шчасьлівага самазванца альбо абліць яго памыямі так, каб ён да самае Варшавы каціўся, скавычучы, але яна ня сьмела і пацяшала сама сябе, прыкідваючыся, што ня бачыць.

Недалёка ад дому на пустыры за гародамі палыхала гумно арандаркі Элі Цымбал. За купамі дрэў агню ня было відаць і будынак таяў, як сьвечка, у сіняй ранічнай яснасьці.

„Бедная Эля Цымбал,—падумала Марта,—навюханькае гумно!“

Яна падперазала хвартух і пашла ў сад дыплёматычна рваць зельле.

Жаўнер сядзеў на вішні і пляваўся костачкамі.

Баючыся прыблізіцца, Марта сагнулася ў маліньніку, крадком з-пад сябе паглядаючы на няпрошанага госьця:

„Як тая вусень усёроўна, жарэ й жарэ, каб яму зарвала!

Тут ім на ногі наступаюць, апошняе падрыганьне польскае, а ён сабе маёўку справіў!..“

— Ай, хто гэта?

У маліньніку, прытаіўшыся, ляжаў чалавек.

Марта Юраўна са спуду кінула зельле і намерылася бегчы.

— Мілая хаджаюшка, ня выдай!

— Хто ты?

— Аль ня відзіш?

Чалавек быў адзеты чырвонаармейцам, абшарпаны і вельмі змучаны.

— Хто ты?

— Я з палону, вунь гарыць, ты відзіш, дык я адтуль.

— Ш-ш-ш-ш!..—

Марта Юраўна падвязала мацней хустку і, махнуўшы рукою, загадала чырвонаармейцу схавацца.

---

— Мой дрогі пане!—
сказала яна, адважна падышоўшы да жаўнера,—
маю гонар бачыць як пан частуецца вішанькамі.
Бардзо пожытэчне!
Вунь там галінка нагнеце, а-ей, якія велькія вішні!
Проша, проша!..
Жаўнер, наеўшыся да аскоміны, ікнуў.
— На здароўе!
От яшчэ галінка, я вам цатрымаю, бардзо пожытэчне, проша!..
Дзісь нам бог урадзіў...
— Тшымай чапку!
Марта Юраўна стала на цыпачкі і падхапіла шапку, поўную вішань:
„От, каб яму зарвала, мала, што сам нажраўся, дык яшчэ і ў запас бярэ“!
— Можа вам столачак прынесьці?
— Не, я так зьлезу.
— А то я ў міг прынясу, то пану будзе на што ножкі паставіць.
Вішня затраслася і затрашчала.
Каб хаця ня гропнуліся!
Марта Юраўна ўвіхалася каля жаўнера, як каля роднага дзіцяці:
— Я вам лесачкі прынясу.
— Дзеньковаць, не потшэбуе.
Жаўнер абняў стрыжань і павіс, як торба:
— О так, проша лесачкі!
— Сюды, сюды, на сучок!
... Трэсь!..
— А-яй!.. Бягу па лескі!
Прэндзэй!..
Жаўнер гропнуўся з дрэва.
Перад Мартай Юраўнай марудна паднялася абмазаная вішнёвым сокам аграмадзіна.
„Як сьвіньню ссаў, так набабоніўся, зараза!“
— Пан се, пэўне, уболіў?
— А як тобе мувіць, пані, бяз працы нема каляцы. Дар за дар а дарма ніц.
— Я-ж пану памагчы хацела.
— Дзенькуе, пані, без помогі ходзон ногі. Дзе моя чапка?
— Ото, проша!
— До відзэня!
„Лепш я на сабаку гляну, як з табою відзэне“.

— До відзэня, муй дрогі!

Жаўнер абцярусіў штаны і накіраваўся нясьпешна ў маліньнік.

Марта Юраўна заскочыла наперад і стала перад ім, як Давыд перад Галіятам.

— Пшэпрашам, мой дрогі! Тут...

Марта Юраўна хітра ўсьміхнулася:

— Мы тут золата закапалі.

— Цо, злото?

— Так, проша пана, ня ўступеце! Тое золата, што пахне.

— Фу! Як-жа тут выйсьці?

— А от за мною, проша пана! Праз фортачку, проша пана!

— А, так, так, бардзо дзенькуе, бардзо дзенькуе!—

Жаўнер адчыніў фортку і апынуўся на вуліцы.

„Ідзі, каб ты наскрозь зямлі прайшоў, ідзі, каб ты не вярнуўся! Хай цябе халера выкаціць!“

---

Справадзіўшы жаўнера і засунуўшы фортку, Марта Юраўна перавяла дух:

„Ну й ну! Чуць не прапала!.. Але я розум бабскі маю, каб такі розум усім бабам, то былі-б камісарамі...

І што мы толькі перажываем... Ох!..“

З хаты, абапіраючыся на рыдлёўку вышаў муж, нездараўчаны Аўдзей Аўдзеевіч. Ён наглядаў праз дзірачку ў кладоўцы і быў у курсе падзей.

Марта Юраўна заклапочана сказала:

— Ты яшчэ, Аўдзей, ня ведаеш, а ў нас нехта ёсьць.

— Хто?

— У малінах чырвоны сядзіць.

— Быць ня можа!

— Сядзіць.

— Як-жа так, я-ж усё чысьценька бачыў?

— Я табе кажу.

— А-я-яй, новая бяда к нашаму берагу!.. А-я-яй, няма супакою!..

Можа няпраўда?

— Ня верыш? Дальбог, сядзіць.

Аўдзей Аўдзеевіч закалаціўся ад страху:

— Дазнаюцца, хату спаляць, а мяне пад расстрэл.

А-я-яй, божачка, божачка, хай бы быў-ж ён да каго другога! Усё к нам ды к нам!

А-я-яй, што-ж цяпер рабіць?

Нямінучы расстрэл!.. Ай!

— Трэба, каб не дазналіся.

— Марта, як ты дапусьціла, каб ён у нашых малінах сядзеў? Пайдзі пратур яго!

— Дурань! Мы яго схаваем у хляве на вышках.
— Не дапушчу!
— Як так не дапусьціш?
— Ты што, ачмурэў? Каб я ды не прытуліла свайго чалавека?
Дзе ты такую гадаўку знайшоў?
— Не дапушчу!
— Э, мне з табою гаварыць не ў пяршыню!
Марш у кладоўку! Жыва!..
Камандзір задрыпаны, марш!
Чаго стаў, як тычка? Жыва! Марш!—

І Марта Юраўна, выхапіўшы рыдлёўку, бяз доўгіх разважаньняў замахнулася на мужа:

— Марш, бо так і зьдзяжу!
— Іду, Мартачка.
— От то-та-ж!
— Ай, ай!
— Прашу не адгырквацца!
— Слухаю, Мартачка.

Аўдзей Аўдзеевіч служыў сторажам у жаночай гімназіі і разумеў упартасьць жанчын.

---

Асьцярожна рассунуўся маліньнік.

— Ну як?—запытала Марта Юраўна ў чырвонаармейца.
— Спасіба, хаджаюшка.
— Вылазь!
— Спасіба.
— Ня туды, сюды, поўзі разораю! Ды гні галаву, каб ня відаць было, бо знаеш?..
— Як ня знаць, знаю.
— Ну, калі знаеш, то гні галаву, я табе кажу!
Гні галаву, калі хочаш, каб была цэлая!
Сюды, сюды ў лопух!
Аўдзе-ей, Аўдзе-е-ей!..
— А?..
— А?..
— Марш сюды! Аддзірай дошку, жыва!
— Ну як я буду тую дошку драць, божачка, божачка!
— Ня божкай, жыва!
Прэч, карпель, я сама. Пільнуй, каб хто не нарваўся.
— Што гэта будзе, што гэта будзе!
Чырвонаармеец падлез пад плот і стаў каля хлява.
— Прыбі гваздом, каб было шыта крыта!
— Ну як-жа я прыб'ю, чым я прыб'ю?..

— Языком прыбі, жыва!

— Ну добра, добра, добра!..

Марта Юраўна паглядзела трывожна на вуліцу і адамкнула хлеў:

— Лезь на гару, маладзец, зашыйся там у сена і сядзі, як на пазіцы! Чуць што, прымячай!

Яна ўпусьціла чырвонаармейца.

Гэта быў сьветларусы хлопец, без гімнасьцёркі і ботаў, у адной шынэльцы.

— Чуеш, ні мур-мур!

— Па гроб жызьні благадаран, хаджаюшка.

Падзякаваўшы гаспадыні, сьсінелы і мокры, ён узабраўся па драбінах на стоўп.

— Калі загарымся, то ты ўжо як-небудзь ратуйся сам. А накрыюць, не наракай: як умела, так хавала.

Марта Юраўна прыняла драбіны і кончыкам хусткі выцерла сьлязу.

Трухлявыя сьцены хлява прасьвечвалі.

Пад шчытом на прутох віселі пыльныя фрэнзьлі павучыньня і ластаўчыны гнёзды.

З аднаго боку было выгараджана месца для каровы, з другога— катух для сьвіней.

Пад вышкамі ляжалі дровы.

Духавітае паветра ўдарыла ў нос і, калі чырвонаармеец сьцішыўся на сене, вострая, салодкая зьнямога скавала яму рукі і ногі.

---

— Аўдзей, стукае нехта, выйдзі!

— Баюся.

— Пасаромейся мяне, выйдзі!

Пара адзінокіх людзей, бязьдзетных і нікому непатрэбных, зашчапіліся ў хаце.

— Ты, Мартачка, лепш умееш з імі, выйдзі ты!

— Малю цябе, выйдзі! Ты—мужчына.

— Хоць рэж, не пайду!

— Дурань, гад, інтрыган! Ты ніколі мяне не шкадуеш. Зірні ў акно, хто там, бо я вачэй не ўзьвяду.

Аўдзей Аўдзеевіч зірнуў у вакно:

— Гэта не паляк.

— Ну то й слава богу, пайду адчыню.

На бязбровым твары Аўдзея Аўдзеевіча павесялелі маршчыны:

— І я з табою.

— Патрэбен ты мне, заткала, як карове пятая нага.

---

На вуліцы сьпіною к браме, пашчыкваючы пальцам губу, стаяў Анрэй Латаш.

Ён толькі што прабраўся ў горад, адмерыўшы пяхтом некалькі дзесяткаў вёрст, і сердаваў чаму не адчыняюць фортку.

Зялёныя сады шаматалі лісьцем.

Дзе-ні-дзе калодзіж альбо дом, нібы выпхнутыя садамі наперад, цямнелі пад косымі праменьнямі сонца.

Там-сям перабітая кладка, альбо яма, загачаная ламаччам, ды замшэлы камень перад варотамі, падобны на сабаку, альбо замшэлы сабака, подобны на камень.

Латаш стаяў хмурны, ні то ад дарогі, ні то ад таемных сваіх згрызот, і толькі барада, што пачала ўжо завівацца ў петлі, рудзела па-ранейшаму. Сваім шырокім целам ён загарадзіў усю вулачку.

— Чаго гэта вы жыхароў беспакоіце, га?—абазваўся Аўдзей Аўдзевіч.

— Ці-ж вам такое беспакойства?

— Ясна, беспакойства.

— А што вам трэба?

— А нічога. Дазвольце дзень перабыць.

— Мартачка, я не дазволю.

— То як-жа будзе?

— Заходзьце, не зважайце, ґэта—мой муж!

Латаш паглядзеў на Марту Юраўну, усьміхнуўся і ўвайшоў на двор.

— Знаеце, цяпер такі час трывожны, суседзі кожны сам сабе, а нас толькі двое. Я рада жывой душы. Паміраем проста. Паляць і трасуць, паляць і трасуць!

— Марта, ідзі ў хату, ня стой тут!

— Я ня вытрываю ў хаце. Паляць і трасуць!

— Трасянуць—галаву расколем.

— Хай яна сама расколецца, што я бедная зраблю адна, у мяне...— але Марта Юраўна, апомніўшыся, змоўкла.

---

— Дзю-дзю-дзю-дзю-дзю!.. Піхцерык, Галітарка, Сіўчык, ежце зельле крышанае, смачна!

Уйсь вы, каб на вас разачка!

Ну як, маладзец, выгодна як у пярыне? Сьпіш?

— Не, мілая хаджаюшка.

— А есьці хочаш?

— Хачу, мілая хаджаюшка.

— Ну, то я ўсім наварыла. Але сэрца ня прымае, лыжка з рук валіцца...

Марта Юраўна памяшала ў карыце і журліва прыхілілася да вушака:

— Ці дачакаю заўтрага?

— Нас, мілая хаджаюшка, гатовілі ў расход, не паілі, не кармілі, паразьдзявалі, дык мы толькі й думалі, каб як уцячы з палону.

Як тое гумно, дзе нас трымалі, занялося, як забушаваў агонь, дык мы ледзь выскачылі.

Адзін мой таварыш, Салабуцін яго фамілія, згарэў.

— Госпадзі!

— Харошы быў таварыш, адданы. Казаў, што са зьдзешніх мястоў: Фёдар Салабуцін.

— Вечная памяць!..

Марта Юраўна села на калодачку:

— Ня выскачыў.

— Ня змог.

Чырвонаармеец працяжна ўздыхнуў і заварушыўся ў сене.

Пад страхою калыхаліся павучынкі.

Парасята чвякалі.

— У мяне каля дроў сякера.

— А?

— Сякера на ўсякі выпадак,

---

Ад моцнага ляску стагнала брама, фортка паднялася на крукох, плот гайдаўся.

Латаш, Марта Юраўна і Аўдзей Аўдзеевіч выбеглі гуртам на двор.

— Млею, млею, Мартачка!

— Прапалі!

— Чакайце, гаспадыня,—я адамкну,

Тры жаўнеры з кулакамі варваліся з вуліцы.

Латаш нейк падняўся ўгару ўвесь і кроў прыліла яму ў скроні:

— Чаго ламаецеся?

Жаўнеры ня мелі зброі, мундзіры іх былі расшпіленыя, валасы ўзлахмычаныя, конфэдэраткі набакір.

Разагнаўшыся спачатку, яны раптам падаліся назад і дапытліва перазірнуліся.

— Латаш быў страшны.

— Тут жыдоў няма?

— Няма.

— А шаўца няма?

— Няма.

— Ну то цо, Янэк, пуйдземы? Жыдув нема, шэўца нема,—здае мі сен, зупэлне, жэ зблондзілі.

— А дзе тут у вас жыды?

Марта Юраўна, зразумеўшы, што справа павярнулася ў яе бок, загаварыла пяшчотна:

— Проша пана, мы ня жыды, мы ест палякі.—Яна перахрысьцілася пецярнёю пакаталіцку.

— А, польска люднасьць!

— Проша пана, ото—шляхціц,—яна паказала на Латаша,—а муй мэнж—касьцельны закрыстыян.

Аўдзей, ну!

— Бл, бл, бл, бл...

— Янэк, пуйдземы, то свое.

— А вы й не спазналі. Такія вочкі ў нас пекныя, ох, ежэлі-б я была млода!..

Латаш, як гара, засланіў Марту Юраўну. Кожная жылка яго напружылася ў нянавісьці.

Жаўнеры паразяўлялі раты, як зачараваныя, і бязвольна задам адступілі...

— Каб ім тыя вочкі палопалі! Каб яны на той сьвет заблудзілі!

— Ой, Мартачка, вернуцца!

— Каб яны так да сваіх бацькоў вярнуліся, як я палячка.

Латаш ад злосьці разьбіў прабой.

---

Позна вечарам Марта Юраўна правяла Латаша ў хлеў на вышкі.

Яна аб'явіла свой сакрэт і пакінула яго начаваць разам з чырвонаармейцам.

У сене было мякка і прасторна.

Страха мясьцінамі прагніла, раскрылася: праз дзіркі відаць было зялёна-багравае неба, значны кавалак саду, суседні двор і гароды.

Халодны ветрык павейваў і сьвяжыў затхласьць.

Зычна сапла карова, адрыгвала, жавала жвайку; парасяты спалі, стогнучы, як чалавек.

Усхваляваны Латаш абхапіў чырвонаармейца:

— От не чакаў друга стрэць! З якіх краёў?

— Ад Уралу. Эшалёнам ехалі. 9 дывізія. 15 крэсьціянскі полк.

Латаш паслаўся і лёг побач:

— Як ты думаеш, Варшаву возьмем, а?

— Праз Буг пярэйдзем, а там і Варшава.

— Далоў буржуазею, хай жыве савецкая ўласьць!

Чуеш?

— Што?

— Паслухай!

Латаш разгарнуў застрэшша: праз змрок здалёку выразна данясіўся гарматны гул.

— Чую.

— Падбліжаюцца.
— Заўтра будуць тут.
— Ну й засмальваюць, чорт пабяры!
Чырвонаармеец сьціснуў Латаша за руку:
— Нашы.

---

## 15. Мітынг

Горад грымеў і трохся.

Першы чырвоны бранявік узьляцеў, як страла, на падпалены мост рынуўся ў віхар агню і дыму, у хрусткі хаос уздыбленых дошчак, парэнчаў, свай, перасек і памчаўся, стракочучы кулямётамі.

За ім другія два, цяжкія, з круглымі пярэстымі вежамі, падкаціліі спыніліся ў нерашучасьці.

Рака Навалач, брудная, топкая, хвалявалася сонна ў сваіх насыпных берагох, абстаўленая камяніцамі крам. Некаторыя з іх яшчэ гарэлі, пазваньваючы бітым шклом, ссыпаючы ў ваду снапы вугальля і кавалкі тынку, закручаныя падосы бляхі, гвазды, гаршкі ды іншы мёртвы тавар. Некаторыя тоўстымі шкілетамі аселі ў папялішча і зіялі паражнечаю. Голыя сьцены, чорныя жаралы люхт, высокія коміны і кахляныя печы тырчалі шарэнгамі абапал мосту.

Вялыя трубы рыштокаў, як кішкі, паспушчаліся на брук.

У канаве, перавернутая дагары, ляжала з коньмі польская павозка.

Ад размаху яшчэ круціліся колы, а коні секлі капытамі, карабкаючыся на бераг.

Зьняжывелы жаўнер, адкінуты ў бок, плюхаўся ў рэчцы.

Яго падхапілі жыхары і зьняважліва выцяглі подручкі.

— Лавіў курэй, а налавіў рыбкі.
— Абдзірала!
— Падушачнік!
— Вуй, гевалдэвэр!
— Пхай, пхай!
— Зладзюга! Падпальшчык!
— Дай яму акяніцаю па галаве!
— Пфэ, паскудзтва!
— Мокры.
— Ці ня ты гэта па Купецкай вуліцы разьяжджаў?
— Людзі, здаецца, той самы!
— Ён, ён! Расьцярзаць зладзюгу!
— Акяніцаю па галаве!
— То ня я, то познанчыкі,—ледзь чутна прашаптаў жаўнер.

— Будуць зараз табе пазнанчыкі, пазнаеш!

— Абліць яго керасінаю!

— Утапіць яго!

— Панове дрогія, то ня я, як пана бога кохам, то ня я, то пазнанчыкі!

— Адзін хаўрус.

— Ша, сюды ідзе Борух Касоўскі!

— Борух Касоўскі! Борух Касоўскі!..

Разьюшаны натаўп радасна прытаіў злабу.

Вядомы на ўвесь горад мясьнік, акраса яткаў, Борух Касоўскі, уразвалку падышоў да жаўнера.

Чорнабароды, нізкі, гузаваты, ён блішчаў, як жук, у нявымоўным цынізьме.

— Борух, нам філей, а табе мазгі.

— Ой, я не магу!—сказала Марта Юраўна, тузануўшы мужа за рукаў.

— Хоць адным вочкам гляну, я-ж ніколі з роду ня бачыў, як чалавека забіваюць. Мне-ж хочацца!—Аўдзей Аўдзеевіч узьлез на бервяно.

— Дарогу, дарогу, чырвоныя!

— А вэг, а вэг!

— Кіньце, грамадзяне, так нельга! Што вы робіце!

Чырвонаармейцы адштурхнулі Касоўскага і павялі з сабою няпрытомнага паляка.

Людзей набягала ўсё больш і больш; вясёлыя крыкі вітаньня загучалі над пажарышчам.

З усіх куткоў павылазілі старыя і малыя, запрудзіўшы вуліцу.

Падпольнікі расклейвалі адозвы, абвяшчаючы новую ўладу.

Перад готэлем „Фляндрыя“, як макі, расьцьвілі сьцягі.

Гарушчы мост тушылі з энтузыязмам. Палівалі вёдрамі, бляшанкамі, абы чым. Адзін, дык нават умудрыўся паліваць дошкаю: стаяў сярод рэчкі і пляскаў з такою сілаю, што пырскі, абмываючы дымныя сваі, прабіваліся праз насьціл і сыпаліся, як дождж.

Быў тут і Андрэй Латаш.

Яго магутная постаць, сама як агонь, не танула ў стыхіі. Ён скварыўся ў полымі і ў поце, колючы сякерай абвугленыя бэлькі, насіўся па рыштаваньнях на прабоіны, адважна лез у небясьпеку і працаваў спорна. Пакуль падасьпелі сапёры, дружнае жыхарства справілася само.

Запыхкалі нецярплівыя бранявікі. Праехала з пікамі коньніца. Дым расьсеяўся, мост ажыў.

Марта Юраўна і Аўдзей Аўдзеевіч Будзіловічы цалаваліся як на вялікдзень, віншавалі на розныя галасы суседзяў і варочаліся дамоў.

Марта, глядзі, дзюрачка ў мосьце!

— А няхай!

— Як так няхай, табе ўсё няхай, не дапушчу!

— Калі-ж яна зусім маленькая.

— Маленькая, а потым конь ногу ўсадзіць.

— От яшчэ!

— Не дапушчу.

Аўдзей Аўдзеевіч знайшоў на бруку прыгожую шыльду з адмысловым надпісам: „Бакалея. Бакаляр". Яна была драўляная і крыху падгарэла.

— Ураз залатаю. Трэба-ж і мне сьлед пакінуць.

Залажыўшы дзірачку шыльдай, Аўдзей Аўдзеевіч абняў сваю худзенькую жонку і засігаў па кладках з лёгкім сэрцам.

Наступленьне перакінулася за горад. Яшчэ рваліся на ваколіцах снарады, выкопваючы неўпапад халастыя лейкі. Чырвоная пяхота рухалася бязупыннымі ланцугамі, хавалася ў шырыні цярплівых палёў.

Андрэй Латаш, узьняты, імклівы, выбраўся з народнага тлуму.

І боты яго занадта грукалі, і вочы іскрыліся залішне.

Каб ня выдаць сябе, ён стрымліваў крок і моршчыўся, калі з ім загаварвалі.

Ён не ўспамінаў ні аб вёсцы, ні аб сваёй хаце, ні аб сваім вандраваньні па той бок, яго радзіма ня ведала меж і бяспрытульная думка лунала.

— Даёш Варшаву!—даносіўся крык.

І яму здавалася, што Варшава ўзята.

— Гэй, гэй!..

Ён гатоў быў крычаць: гэй, гэй.

Але на гэтым заціхеньні яго душы ляжала пляма.

Смутная незадаволенасьць цкавала яго, прымушала ісьці наперад, каб не адстаць і не загубіцца.

Перад паравым млыном ён спыніўся і прачытаў адозву.

На жоўтай закуралай цэгле яна выдзялялася волкаю сьвежасьцю літар, просьценькая, на чацьвяртушцы паперы.

Канец адозвы Латаш запомніў:

...Чырвоная армія, аддаючы сваіх лепшых байцоў на барацьбу з польскімі окупантамі, не прадасьць і ня здрадзіць інтарэсам працоўных.

Да апошняй каплі крыві за ўладу Саветаў, за Савецкую Беларусь!..

І гэтыя новыя, мала зразумелыя, першы раз пачутыя словы „Савецкая Беларусь" разанулі вуха таемнаю праўдай.

Адыходзячы ад млына, Латаш яшчэ раз агледзеўся:

„Да апошняй каплі крыві за Савецкую Беларусь!"

---

Палац графа Вевіороўскага, пабудаваны ў васьмідзесятых гадох мінулага сталецьця, з аранжарэямі, гаражамі, афіцынямі для чэлядзі, стаяў на гары сярод пышнага парку ў ружах і лілеях.

Пад час вайны ружы і лілеі былі паабрываны гарадзкімі дзецьмі, а сам двухпавярховы палац, графскі Нью-Ёрк, абшараны і абшчыпаны. Душыстая ліпавая алея зачынала пад'езд з Магілянскай вуліцы і канчалася чыгуннымі варотамі, расхрыстанымі насьцеж.

За варотамі—парк: калекцыя дрэў і кустоў усяго сьвету. Туі, піхты, мадрыны, Вэймутава сасна, бружмель, барбаркі, акацыі, брызьліны, рабіны—усякая ўсячына. Граф прытрымліваўся ангельскага стылю і дазваляў кожнай расьліне сяліцца і пладзіцца вольна.

Вузкія дарожкі вялі да натуральных альтанак, а шырокія—да штучных. Хмель, плюшч і дзікі вінаград увівалі альтанкі ў каўтун.

Пяшчаныя пляцоўкі на кракет і на лаўн-тэніс пазарасталі травою.

Па дарожках маляваныя лаўкі, са сьпінкамі ў выглядзе зьмей, аблупліваліся і буцьвелі бяз ужытку.

За паркам фруктовы сад з каналам ад ракі Навалач і зялёная плыткая сажалка, у каторай, на графскае гора, і раней падыхалі карпы.

Белы палац дзівіў сьветласьцю. Вялікія вокны бяз лішніх карнізаў і налепак, шыфернага колеру дах з рашоткамі і флюгерам, вінтавыя лескі, усё гэта пасавала між сабою і лашчыла вока спакойнай суцэльнасьцю.

Разумеючы міжнароднае становішча, граф Траян Вевіороўскі ў 1914 г. на ўласных аўтамабілях з сям'ёю і найбольш каштоўнымі рэчамі выехаў заграніцу, пакінуўшы загадваць маёнткамі заслужанага ўлюбенца графіні пана Сэрвацыя Даманскага.

Графіня паплакала на растаньні, прывыкшы да Сэрвацыя больш, як да мужа, але мусіла згадзіцца.

І вось цяпер палац быў пусты.

Уцёк і Даманскі.

Вэранда, падробленая пад мармур, з нізкімі круглымі ступенямі, з круглымі бронзавымі ліхтарамі, калісь абстаўленая агавамі, алеандрамі, пальмамі, была скрозь усыпана лісткамі кніг. Вецер шамацеў імі і качаў па дарожках.

На кветніку, адкінуўшы века, з адбітымі нагамі, валяўся концэртны рояль. Адзін хлопец выдзіраў струны, а другі з захапленьнем барабаніў па клявішах.

Мяшчанкі і чэлядзь хапаліся выносіць плюшавую мэблю; некаторыя патрашылі рэшткі гардэробаў, выцягвалі старасьвецкія шляпы з пюркамі і прымервалі іх да сябе, любуючыся ў абломкі люстраў.

Талеркі, этажэркі вылятаді з вакон, як ластаўкі.

У галоўнай залі нешта шмаравалі напілкам. Асьцервянелыя гукі напаўнялі парк.

У людзях чулася фальш і зайздрасьць, некаторыя сварыліся, некаторыя браліся за чубкі, да зьнемажэньня нагружаліся дабром і з трусьлівай сьцярогай разьбягаліся па хатах, каб яшчэ па разу вярнуцца.

Аўдзей Аўдзеевіч прыджгаў з мяшком.

Але ён спазьніўся і выбраў сабе з усяго толькі лёкаяву люльку ды дзьве стэарынавыя сьвечкі.

Сапсаваўшы з гэтай прычыны настрой, ён пачаў наракаць на савецкую ўладу:

„Траба было запрэт налажыць. Безабразіе какое! Што гэта сьметнік ці што, графскія палацы?

І куды гэта ўласьць глядзіць! Ні міліцыі, ні паліцыі!

Так абчысьціць такі дом. Безабразіе!..“

---

А чацьвертай гадзіне дню ў графскім парку наладзілі дэмонстрацыю і мітынг.

Зборны вайсковы аркестр паважна ішоў на чале, матляючы разразнымі шынэлямі.

Медныя трубы, як скаткі, узьвіваліся на плячох.

Чарнелі, серабрыліся кларнэты.

...Смело, товарищи, в ногу,
Духом окрепнем в борьбе,
В царство свободы дорогу,
Грудью проложим себе!..

Перад палацам рассыпаліся тысячнаю грамадою.

Чырвоныя, гарачыя сьцягі. Мора галоў.

На вэранду падняўся старшыня рэвалюцыйнага камітэту таварыш Дунько, невялікі, жылісты рабочы:

— Ад імя рэвалюцыйнага камітэту вітаю вас, грамадзяне гораду, і наогул усіх рабочых і сялян у дзень вызваленьня нашага краю ад польскае акупацыі, якая нам усім так сказаць, добра ўелася ў косьці. Чырвонай арміі агнявы прывет!

Хай жыве!..

— Ура! Хай жыве Чырвоная армія!

— Ура-а-а-а!..

Прамову заглушылі крыкам; заднія налеглі на пярэдніх і ўвесь натоўп адразу пахіснуўся к вэрандзе,

Нехта немым голасам парадзіў:

— Качаць яго, качаць!

— Ці мы пашалелі? Што вы, што вы!

— Вунь сам камбат, бярэце камбата!

— Качаць усіх!

Аркестр зычна зайграў „Інтэрнацыянал“.

Рэў, музыка, хусткі, скокі зьмяшаліся ў адно шматгалосае бушаваньне. Таварыш Дунько, разгублены, радасны, некалькі разоў адчыняў і зачыняў рот, усьміхаўся і папрасьцецку разводзіў рукамі.

Калі-ж яго ачапілі два дужыя дзяды і ўсур'ёз намерыліся качаць, ён зусім зьбянтэжыўся, аглядзеўся з дакорам і схаваўся ў дзьвярох палацу, пасьпешна прабарматаўшы:

— Слова даецца, так сказаць, Калесьнікаву.

Па ступеньках, спатыкаючыся, узышоў сухотны сутулы студэнт-падпольнік. Ён загаварыў на хаду, няпрыметна, і спыніўся ў куточку каля рашоткі, гаварыў, не зважаючы ні на кога, як-бы сам сабе.

— Гаварэце громка!

— Нічога ня чуваць!

— Ціха, ціха!

Калесьнікаў выпрастаў сагнутую сьпіну, скінуў шапку і пахмура ўзяўся за рашотку.

— Таварышы, я ўмею гаварыць громка. Вы пачуеце ўсё. Але як выказаць словамі тое, што мы ўсе з вамі перажылі ў гэтыя дні...

Ён зірнуў на грамаду і, як-бы ўсердзіўшыся, павысіў голас:

— Знайце, удумайцеся, адчуйце: ад нас адкацілася рабства.

Вы разумееце, што гэта такое рабства, вы разумееце, што гэта такое, калі пан, буржуй і капіталіст сядзіць на карку рабочага і селяніна, выціскаюць апошні наш сок, апошнюю нашу кроў і таўсьцеюць з гэтага? Мы ня скот, мы—бальшавікі.

— Правільна!

— Бяры іх у абарот, хлопец, бяры іх буржуяў пузатых, панкоў—фанабэрыстых пустасьвістаў.

Кабеты ў дальніх радох паўставалі на цыпачкі.

— Крый! Кладзі на лапаткі!

— Дык вось,—

Калесьнікаў яшчэ больш выпрастаўся,—

Мы іх скінулі, мы іх прагналі, мы іх будзем гнаць да канца.

У нас чоткая клясавая лінія і ў гэтым наша сіла. За намі працоўныя масы і ў гэтым яшчэ большая наша сіла, дарагія таварышы! Ці зразумела вам уся безгранічнасьць, уся веліч пралетарскай рэвалюцыі. Той нястрыманы шквал, што выкарчоўвае, здувае ўсю тую мразь, у каторай прасьмердла былая царская Расія. Мы задыхаліся, мы не маглі трываць, нам неба здавалася ў аўчынку і мы пашлі на апошні рашучы бой.

Хай ім неба здаецца ў аўчынку, хай яны паспытаюць таго балючага пракляцьця, у якое заганялі нас!

Мы ідзем пераможным крокам, нашы сэрцы б'юцца аднолькава, у нас адна вялікая задача і гэта дае нам такую бодрасьць, такую энэргію, што ніякі вораг ня страшны...

Голас Калесьнікава то рэзкі, то цёплы, пераліваўся глыбокімі груднымі тонамі і даходзіў да ўсіх.

Ён пакашляў, сплюнуў у хустачку.

— Таварышы, мы верым у сваю перамогу. Мала таго, мы знаем гэта.

Але я вам кажу адкрыта, нават калі нам ня ўдасца, калі мы загінем, калі на трупы нашыя пазьлятаецца сусьветнае груганьнё, мы ўсё адно пераможам, бо мы так узварушым зямлю, што ніякае іншае насеньне, апрача бальшавіцкага, ня прымецца пасьля нас.

— Галубчыкі, родненькія!..

— Ш-ш-ш-ш!..

— Але гэта ня лёгка... Восем лепшых нашых таварышоў расстралялі, восем часьнейшых людзей, адважных камуністаў, маладых, вясёлых, завялі радамі на сьмерць. Вы помніце ўсе гэты дзень?..

— Помнім...

— ... Гэты дзень павінен стаць сьвятам нашага гора...

Калесьнікаў нэрвова скамячыў шапку і на хвіліну сьціх.

Грамада, спахмурнеўшы, чакала.

Ї тады ён прачытаў сьпіс расстраляных ціха і разьдзельна:

АДАМ ПРАКАПОВІЧ.
ІВАН ПРАКАПОВІЧ.
ВАСІЛЬ МЫЛЕЦ.
СЯРГЕЙ КІЕНЯ.
СЯРГЕЙ БЕРАЗОЎСКІ.
МІКАЛАЙ ЧАМЕРКА.
ПЯТРО ЛУГАВЫ.
МІХАСЬ ЦІМКЕВІЧ.

— Прашу ўсіх прысутных ушанаваць памяць.—Ен кашлянуў і згорбіўся.

Усе паскідалі шапкі, хто не пасьпеў, у таго сарвалі, і тужлівая мэлёдыя хаўтурнага маршу паплыла ў прасторы па схіленых маўклівых галовах.

Гукі раскатваліся хвалямі, сьпявалі ў рыданьнях, апушчаліся нізка нізка, кладліся ў зямлю, скоўвалі рухі ў трэпет.

Парк застыў, падгарнуўшы лісьце; вецер растаў, зьнік, баючыся дыхнуць на зьнямелых людзей, і толькі сонца сьвяціла па-ранейшаму, павольна апускаючыся на захад.

Такое магутнае пакоры, такое жальбы яшчэ ніколі не адчуваў Латаш. Сьціскаючы сківіцы, ён глядзеў на аратара.

Калесьнікаў загаварыў далей.

Голас яго страціў сваю ранейшую крыху натужаную бліскучасьць, спакойна, упэўнена ён гаварыў аб становішчы партыі, аб грамадзянскай вайне на паўднёвым фронце і ў Сібіры, аб нацыяналізацыі зямлі і фаб-

рык, аб васьмігадзінным працоўным дні, аб усіх палёгках, якія дае савецкая ўлада працоўным, аб тым, як трэба выкарыстоўваць гэтыя палёгкі, аб Леніне і сацыялізьме.

Ён гаварыў доўга, але гэтага не заўважалі, слухалі ўважна, бо гаварылася якраз тое, што ўсе хацелі пачуць.

Андрэй Латаш, захоплены прамовай, налёг грудзьмі на нейкага балагола і пхаў перад сабою.

— Чалавек, ты слухаеш?

— Слухаю.

— Ну і слухай сабе на здароўе, не рабі мне цесна.

— Ш-ш-ш-ш!..

— ... Сутнасьць нашай перамогі, таварышы, у тым, што мы, даючы волю народу, умеем арганізоўваць яго, зьнішчаем векавую цемнату, прабіваем дарогу ў сьветлую будучыну.

У напружаным гарэньні, у бязьлітасным змаганьні нясём мы над сьветам чырвоны сьцяг — нашу кроў, наш сымболь, наша сэрца. Таварышы, ня стойце пры боку, усе, як адзін, у ногу з пролетарыятам! Шчыльней рады! Вышэй галаву!

За волю, за будучыну, за Вялікі Кастрычнік—ура!

— Ура-а-а-а!..

Загаманілі, запляскалі, заварушыліся...

Латаш рвануў балагола і, як пробка, вылецеў з натоўпу.

Ад нецярплівасьці ён дрыжаў.

Нешта такое дужа прыгожае прасілася на язык і ён ужо ўяўляў сабе ўсю тую безьліч слоў, якія пасылаюцца з ягоных вуснаў усенародна.

„Гэты хлопец нагаварыў, пачакайце, от я нагавару—ня тое будзе,“— зайздросьліва думаў ён і, ня спытаўшыся ні ў кога, узьлез на вэранду.

Натаўп адразу прыціх, чакаючы нязвычайнага.

Латаш стукнуў шапкаю па рашотцы і выцер губы:

— От я, тут перад вамі, Андрэй, вясковы гаспадар нязьдзешняе мясцовасьці, каб кожны з вас ведаў, што я тут перад вамі ў ногу з пралетарыятам, як казаў прадыдушчы аратар, і ўсё такое, гэтакае. Але я тут прысягаю, што ўсё гэтае панства, якое зьяўляецца самым, што ні на ёсьць, наймітам буржуазеі, пабегла ўпрочкі. Туды яму і дарога, каб яно там павыдыхала, я знаю, што гавару, мне гэта не баліць.

Але я тут гавару вам, што ў нас цяпер савецкая ўласьць, каб вы ведалі, што ў нас цяпер савецкая ўласьць...

Латаш засопся.

Хтосьці зарагатаў, кабеты захіхікалі.

— Я гавару вам як казаў прадыдушчы аратар, бо я, вядома, адчуваю ня горш, а можа й лепш, чым прадыдушчы аратар, той, што гаварыў тут перад вамі, як ён казаў, каб вы ведалі, што ў нас цяпер

рэвалюцыоннае ўрэмя, вайна з капіталізмаю, што называецца, от, я й кажу, вайна з капіталізмаю і ўсё такое, рэвалюцыоннае ўрэмя...

Латаш спыніўся, у мазгох пустата, словы, як валы, заселі ў горле,

Рогат павялічыўся.

Нехта сьпераду крыкнуў:

— Злазь, мы самі знаем! Прадыдушчы аратар...

— Ну гавары, ці злазь, высунуўся...

— Дзевачкі, ён рыжы...

Латаш абвёў тупым поглядам грамаду і выцер губы:

— Але я кажу гэта ўсё, бо я можа ня так скажу гэта ўсё, от што я кажу тут перад вамі.

Чаго вы сьмяецеся, я пытаюся, га?

Калі прадыдушчы аратар, то я таксама разумею добра! бо мне ўсё гэта, вядома, зьвесна, бо я зазнаў на сваёй шкуры пісугоў капіталізмы і мне ўсё гэта зьвесна ва ўсіх атнашэніях...

— Што ён гародзіць?

— Далоў з трыбуны! Не займай!

— Адкуль ён вылез, хто яго пусьціў, хто даў яму слова?

— Што гэта мітынг ці камэдыя?

— Дзевачкі, ён зараз ацеліцца, уцякайце!

Латаш гняўліва паглядзеў у натоўп:

— Але я, вы думаеце, калі вы тут гармідар паднялі, ня буду гаварыць? Вам ня зьвесна, што я ад усёй душы хачу гаварыць, і вы думаеце я не скажу пасьля прадыдушчага аратара, бо я ня знаю ці пабаюся чаго-небудзь, а я можа гэта ўсё парашыў, каб у ногу з пралетарыятам і хачу сказаць, каб усе ведалі, а вам сьмешна з мае думкі...

— Чорт знае, што такое!

— Далоў, далоў, далоў!..

— Вуй, а мішугінэ!

Латаш яшчэ раз паглядзеў у натоўп, надзеў на галаву шапку і ўдарыў кулакамі сабе ў грудзі.

У голасе яго празьвінела крыўда...

— Таварышы, ах вы, таварышы, — не таварышы вы! Ды я можа прадыдушчага аратара, калі я ня ўмею так складна гаварыць, як ён, бо ён вучоны студэнт і ўсё такое, гэтакае, калі ён мяне перагаварыў, то я-б яго можа, калі па пазіцыі ды пад бой папаў, на сваіх-бы руках з бою вынес, бо ён мае сілу розуму, а ў мяне толькі рукі, бо я быўшы салдат.

І так как ён казаў праўду і словы яго былі харошыя, то мне таксама захацелася сказаць нешта, але я, зьвеснае дзела, хацеў ня тое, так што дарэмна гэта так мяне абзывалі ўсякімі словамі.

Латаш апусьціў рукі па швох і загаварыў тонам рапарту:

— Я хацеў сказаць, што я парашыў, хоць мае гады не такія маладыя, але маючы намярэньне і любоў да Чырвонае арміі, запісацца

дабравольцам, каб бараніць свабоду да апошняе каплі крыві і не папушчацца паном, а ісьці разам з Чырвонай арміяй на Варшаву і рабіць свабоду сваімі собственнымі рукамі, от што я хацеў сказаць перад усімі адкрыта, які я чалавек...

Хай жыве савецкая ўласьць і прашу прабачэньня!

Сконфужаны Латаш сышоў з трыбуны, абліваючыся потам.

Дружна грымнуў „Інтэрнацыянал“.

Пошчакам пакаціліся пагаласкі.

Уражаная грамада з пашанаю расступілася перад дабравольцам.

---

## 16 Цені на магілах

Марта Юраўна і Аўдзей Аўдзеевіч, з суседам Панглоцкім, павольненька брылі Магілянскаю вуліцаю, абменьваючыся мысьлямі.

— От гэта я разумею, от гэта гаварылі!

Калі гэта іх расстралялі, я забыўся? Ты ня помніш, Мартачка?

— У маі месяцы, у суботу.

— Шкада, што я не хадзіў глядзець, але добра, бо я ня вытрымаў-бы. Знаеце, мая жана мяне замкнула ў хаце.

— Дурань Аўдзей! На такія штукі не глядзяць, я плакала.

— Знаеце, яна таксама не хадзіла глядзець, ёй перадавалі. І чаго тут плакаць, ім-жа ўсёроўна, але, вядома, баба, свайго сына ня мае, то па чужых плача.

— Што ты мяне сынам папікаеш, бяссовесны, хто гэтаму вінават, як ня ты, а?

— Э-э-э-э!.. Кінем гэтую гаворку.

— Знаеце, мне надзвычайна спадабалася як таварыш Калесьнікаў памінаў, гэтак, знаеце, чынна, сур'ёзна. Поп так не памяне, я вам кажу.

— Дурань Аўдзей, куплёны поп за тры капейкі малебен адслужыць, а гэты крывёю харкае.

— Скора памрэ. У нас у гімназіі пэдагог Купрыянаў харкаў, харкаў і памёр.

— Дурань Аўдзей.

— Мартачка, што ты мяне бэсьціш? Перад мітынгам цалавала, а цапер бэсьціш.

Ты—не пастаянная кабета.

— Што ты сказаў? Паўтары што ты сказаў!

Марта Юраўна ўскіпела:

— Недастоін ты насіць чырвонага банта!

Гэта ты так шануеш чырвоны бант? Думаеш, калі ты языком трэплеш, то я дазволю трапаць і маім чырвоным бантам?

Давай сюды!

Аўдзей Аўдзеевіч сашчапіў рукі над чырвоным бантам:

— Супакойся, супакойся, супакойся!..

— Так я табе і супакоюся. Давай сюды.

— Вінават.

— Глядзі...

— Вінават.

— Прашу без паўтарэньняў і каб гэта было апошні раз.

Сусед Панглоцкі хмыкнуў, памацаў свае вусішчы, фасону—ня пры нас кажучы, і пацягнуў да сябе Марту Юраўну:

— Дарагая Марта Юраўна, разрашэце ўзяць вас подруку.

— Што вы, што вы, пры мужу?

Аўдзей, ты дазваляеш?

— Э-э-э-э-э... Цм-цм... Можа я сам, Мартачка, будзе лепей?..

— Нічога ня лепей, адыйдзі!

— Тады, калі ласка.

Аўдзей Аўдзеевіч дазволіў і пашоў адзаду з чырвоным бантам на грудзёх.

Але ён ня ўцерпеў, зараз-жа забег наперад:

— Разрашэце спытацца, таварыш падсусед, а як вам спадабаўся наш Андрэй?

— Хто гэта ваш Андрэй?

— А той, што ў дабравольцы падаўся,—начаваў у нас.

— Да, знаеце, да...

— Меў, так сказаць, гонар прымаць нанач.

— Па-першае ня ты прымаў, а я прымала, па-другое чырвонаармейца хто прымаў,—я прымала...

Хвалько!

— Разрашэце, Марта Юраўна!

— Ах, суседзе, канечне!

А можа мы з вамі пойдзем на клады, паглядзець як расстрэльвалі?

Понглоцкі пакруціў галавою:

— Знаеце вечарком хацеў карову папасьвіць,—не выпадае.

— Малачко прадаеце?

— Не, самі кушаем.

— Ах, у канавах цяпер такая трава павыпстрыквала, ніхто ня пасьвіў, усе баяліся. Я-б ахвотна да вас у кампанію сваю Красульку выгнала— муравачкі пакушаць, але позна.

Аўдзей Аўдзеевіч штурхануў Марту Юраўну.

— Табе што?

— Мартачка, пойдзем са мною.

Мая жана хоча на клады прайсьціся, разрашэце!

— Я не хачу.

— Пойдзем, Мартачка.

— Мне ня хочацца.

— Ага, табе ня хочацца, са мною табе ня хочацца, табе з другім хочацца!

— Адстань!

— Ну то я пайду адзін.

— Ня сьмей, я з табою!..

---

Сонца яшчэ ня страціла свае дзеннае яснасьці: спавітае мярэжкамі хмар, яшчэ здавалася высокім і дыхала сухою цяплынёю,—але ў паветры, на зямлі і на дрэвах ужо залягала чырвань.

Ціхая ласка вечару здувала рэзкасьць форм, прасьвечвала жылкі стамлёнага ліста, пазваньвала сьцяблінкамі траў, закалыхвала на сон некаторыя раньнія кветкі.

Ад магіл і крыжоў распаўзаліся доўгія цені, наступаючы на горад, які шумеў, пераклікаўся нясьціханна.

Марта Юраўна з мужам узышлі на клады.

Чыноўніцкія памятнікі першымі глянулі на іх казённаю гранітнаю раскошаю, выставіліся па рангах як на парадзе, сьпярэшчаныя з верху да нізу многаслоўем надпісаў, абчэпленыя сухазлоцьцем бляшаных вянкоў.

Далей—папоўскія крыжыкі, аналойчыкі, абразкі, калючая славянская вязь, мох і шалудзькі.

Крыжы чыгунныя, крыжы каменныя, крыжы дутыя і нарэшце—цэлы лес крыжоў драўляных, самых апошніх і самых зразумелых.

Вясною тут сьвісталі салаўі, цьвілі суніцы.

Марта Юраўна павяла свайго мужа ў аддзел каталіцкі на горку.

Сярод густых асін і срабрыстых тапаляй панавала гіпсавая готыка і вымучаная фігурыстасьць.

Фамільныя маўзалеі, абнесенныя рашоткамі, абвешаныя ланцугамі і накрытыя дахамі, мураваныя будачкі з аддушынамі, тумбачкі з мадонамі, мармуровыя анёлкі, разьбітыя ўрны, цэмантовыя скляпы,—усюды, скрозь куткі і куточкі, імкненьне адгарадзіцца, схаваць сваю сьмерць у магіле-маёнтку.

Капліца з вузкімі вокнамі дыбілася пасярэдзіне.

Некаторыя за вялікія грошы падлезьлі пад капліцу, паднялі яе на сабе як квочку,—перліся пішчом у рай нябесны.

Ураджоныя адтуль і адтуль, заўсёды кроўныя, заўсёды адборныя, сышліся сюды на водхлань пакаленьні панства і сьмердлі ў мэталёвых трунах.

Закаханыя ў белае, наставілі сабе бялявых надгробкаў і гракі кожны год падбельвалі іх, спраўляючы вясельлі і паніхіды.

Цьвіль, твань, глуш.

Тлустая зямля пладзіла шампіньёны, лебяду і лопух, а ў мокрую восень раскісала і клеілася да ног.

— Мартачка, яшчэ далёка?

— А ты хацеў каб на віду?

Яны спусьціліся з абрыву і апынуліся ў полі ў прысадах, каля сьцежкі паўз вал.

— Тут.

Нізкі дашчаны плот і глыбокі роў аддзялялі клады ад роўнага, як далонь, квадратнага гала. Адзін край рову быў падкапаны і зьбіты. Сьпераду сьвежы насып.

Мурашкі прабеглі па целе. Марта Юраўна перахрысьцілася:

— Тут.

— Ты хаця ня плач!

— Не.

Чыстая і сьветлая румянела даль.

Сонца іскрылася ў лісьці бяроз, гладзіла белую кару.

Шыпшыны, валошкі, чабор густа разрасьліся па цаліне.

І ніхто не касіў тут, ня пасьвіў, не парушаў спакою мёртвых абраньнікаў.

Тут расстрэльвалі.

Зялёны вецер не хадзіў тут гулкім крокам, ня шуршаў зялёнаю травою высокай.

Нявыказная ціша.

Золата пчол калыхалася ў золаце красак.

Марта Юраўна падгарнула ў хустку свае бедныя валасы, Аўдзей Аўдзеевіч аправіў каптан.

Асьцярожна і баязьліва ўступілі яны ў тую высокую траву і, разьдзіраючы пальцы, рвалі ружовую шыпшыну, і сіні чабор, і чырвоныя валошкі, а таксама іншыя краскі, і рвалі да тых пор, пакуль у кожнага не сабраўся вялікі букет.

Тады яны прынесьлі букеты і з любоўю палажылі на брацкую магілу, палажылі і сталі, прытуліўшыся адзін да аднаго.

— Іх расстралялі, а мы жывём...

— На сьвеце няпраўда скрозь.

— Ты бачыш як прыгожа... Якое сонца!.. Бярозкі маладзенькія!.. Зямля!..

Вунь яна праўда, глянь!

— Праўда на крыві, пад намі.

— Хто нашыя спадкі возьме, як нас ня стане?..

— Абы-хто.

— Каму мы патрэбны?..

— Нікому...

— Нам ніхто красак не паложыць, як мы памром...

— А можа хто й паложыць...

— Наўрад.

— Ціха, ціха, дурная, чаго ты плачаш, устыдзіся!..

Марта Юраўна парярнулася к магіле, хустачка на ёй разьвязалася, космачкі валасоў зьехалі, рассыпаліся...

— Эх, Аўдзейка, адзін ты ў мяне, ды й той няўдаліца.

— Марта, устыдзіся!

— Каго-ж мне стыдзіцца, цябе я ня стыджуся, а магіла маўчыць...

— Марта, хадзем дамоў.

— Але, Аўдзейка, завёў ты мяне...

Зьвечарэла...

Дома сьвіньні пішчаць...

— Хай пішчаць, не падохнуць.

Перад імі далёка, далёка ўпала зьнічка.

---

## 17. Дабраволец

Штаб дывізыі зьмяшчаўся ў готэлі „Рэнэсанс“.

Доўгая бляклая камяніца з катушкамі-пакоямі і калідорам пасярэдзіне рыпела на ўсе застаўкі, як сухая бочка.

Уваходзілі, выходзілі, выбягалі, ад‘яжджалі.

Каля ступенчатага ганку туркатаў напагатове спрацаваны стары аўтамабіль. Вышэй пры дзьвярох паставы правяраў дакуманты.

— Ваш пропуск, таварыш?

— Які яшчэ там пропуск!—Андрэй Латаш засьмяяўся, паляпаў паставога па плячу і палез у дзьверы.

— Стой!

— Мне трэба.

— Правалівай!

— Во, незадача...

Латаш сышоў з ганку, пахадзіў перад штабам, паглядзеў у вокны і вярнуўся да паставога:

— Мне да начдзіва.

— Куды, куды?

— Мне да начдзіва.

— Стой, страляць буду!

— Мне ў дабравольцы запісацца.

— Правалівай!

Паставы пазваў начальніка варты.

— У чым справа? Гэта хто?

— Так што, далажу, лезе нахрапам у дабравольцы запісацца.

— Прапусьціць.

Скрыпнулі крывыя лескі, падобныя на седала ў птушніку, заскрыгіталі дзьверы, крэсьлячы на падлозе паўкружжа, Латаш з сілаю пацягнуў іх за сабою і ўвайшоў у канцылярыю штабу.

За сталом на канапе сядзеў пісар і даволі шпарка двума пальцамі друкаваў на машынцы пад дыктоўку загад.

Дыктаваў памочнік начальніка штабу:

...У дадатак да загаду пад № 149-а прымеце № 149-б.

Ад штадыву 17. Разгранічальная лінія на 14 гадзін на 28 ліпеня паміж 265 і 266 палком—Бараўкі, панскі двор Малая Шапетаўка, для 266 палка выключна. 267 і 259 наступаць фарсаваным маршам, адцясьняючы праціўніка на Слатвяны — Міхалапы — Псёл, к 14 гадзінам заняць Псёл...

— Вас хто сюды пусьціў?

— Я... Мне...

— Выйдзіце за дзьверы зараз-жа!

— І ня думаю.

— Вам што?

— Прышоў у дабравольцы запісацца.

— Ах, у дабравольцы!

— Так точна.

— Гэта ня тут, гэта ня тут...

А дзе-ж?

— Ладна, запішу.

Латаш сеў на канапу і разваліўся:

— Ну вось, нашы дома.

— Вы, здаецца, абозьнік?

— Так точна.

— Хочаце ў абоз?

— Пляваць хачу на абоз.

— Пішы, таварыш камандзір, каб на фронт і каб было дзе разгарнуцца.

— Ладна.

---

Латаш, перапоўнены рызыкай, вышаў на вуліцу, пазнаёміўся з чырвонаармейцамі і праз хвіліну разам з кулямётчыкам з гікам і сьвістам памчаўся за горад шукаць сваю роту.

Расьсякаючы паветра, цяжкая набойная скрыня прагрукатала па бруку і, скаціўшыся ў адкрытае поле, патанула ў прасторных пяскох... Надыходзіў вечар.

Кулямётчык падганяў коняй увесь час і нарэшце ўехаў у вялікае сяло.

— Ну, таварыш, злазь і вакой, калі ахвота. Абмундыраваньне тваё толькі таво... беспарцейнае.

— Нічога, заткнём зорку, вінтоўку пад рамень, а выпраўка свая.

— Служыў калі-небудзь?

— Служылі.

— Пападаць у яблыка ўмееш? „Максімку“ знаеш?

— „Максімку“?

Пастраляем і з „Максімкі“.

— Ах ты сукін сын, дзе-ж ты быў дагэтуль, сучая барада, а мы цябе толькі і ждалі.

— Э-эх, мілашкі!..—

Кулямётчык закруціў над галавою лейцамі.

Коні рванулі і набойная скрыня, падскочыўшы, гулка замітусілася па сяле.

...А-я-ях, ях, ях!..—уцякалі падбітыя сабакі.

Гарэлі вогнішчы, сьвіціліся вокны.

— Майго камандзіра знаеш?—спытаўся Латаш.

— Твой камрот—таварыш Васільцоў, з ім не прападзеш, — камуніст ідэйны.

— Пабачым.

— Тпру!.. Злазь!.. Не прасьпі рэвалюцыю.—

Кулямётчык у адзнаку прыязьні сьцебануў Латаша лейцамі і памчаўся далей, наводзячы паніку на сабак сваім вясёлым гігіканьнем.

Насоўвалася ноч.

Празрыста-сіняе неба раздалося ў бязьмежнасьць і ў круглай глыбіні яго азначыліся Стажары, Мядзьведзіца, таямніча-ласкавая срэбная краса.

Чорнае сяло, трывожна-безгалосае, кішэла чырвонаармейцамі. Над стрэхамі з комінаў шугаў дым, вылятала траскучае, цьмянае полымя— пяклі хлеб, варылі гарбату.

Блізка блізка, як-бы над самым вухам, пераклікаліся патрулі.

За сялом у багровых палосах захаду сакавіта бухалі гарматы.

Латаш асвоіўся адразу.

Ён знашоў Васільцова, перадаў прызначэньне і, акружаны чырвонаармейцамі, братаўся з імі.

У людная хаце не прадыхнуць, хоць тапор вешай: нехта пахрапваў дагары на лаве, нехта соп пад лавай, распрастраўшыся ніцма на шынэльцы, нехта ў кутку, сагнуўшыся над сталом, корхаў, паклаўшыся на кулак.

Латаша запрасілі піць гарбату.

— І то праўда, што ня сьнедаў, то ня сьнедаў. Даёш!

— Чудзіла!

— Ад раньня як пашоў, дык і пашоў.

— Тарана хош?

— Дуй і ў хвост і ў грыву.

— Як пашоў, дык і пышоў. Даёш!

Латаш ня піў, а перакульваў у сябе конаўкі кіпнае гарбаты, еў са смакам, чвякаў, пырскаў сьлінаю, сьмяяўся.

На сьцяне капціла невялікая лямпа. З печы па хаце вагаліся водсьвіты, бульбукала вада.

— Па якой такой прычыне рашыўся?

— Паноў ня люблю.

— Толькі?

— Буржуазея душыць пралетарыят.

— Здорава!

— Правільна, таварыш! Самае галоўнае—свабода, во, каб селянін жыў на зямлі, а не зямля на ім.

— За гэта борамся.

— Пачалі—трэба канчаць, а то нейк так гэта ўсё: не ацярэбіш адных—другія лезуць.

Расія вялікая.

— Нічаво, наша бяроць.

— Ды эх, малойчыкі, а ці ня сыграць нам на гармоні—распацешыць душу для рыжага наваўбранца.

— О-ох, нудненька!..

— Сып, Ягорка!

Стамакоў, нясі гармонь!

— Падмахні яму баявое хрышчэньне.

Гнуткі, лёгкі, чырвонагубы хлопец узьвіўся сярод хаты.

Яму падалі гармонь.

...Ва Іорда-а-ні-і-і...—зацягнуў ён пращяжна і раптам заляскаў косткамі, зайграў і засьпяваў фальцэтам:

Маю гонар заявіцца,
Загадала маць радзіцца,
Хлопец малы, маладой.
Мардапышлівай, рудой.

Латаш заліўся рогатам, адкінуўся на сьпіну, заперхаў, давячыся сьмехам.

...Ва садочку-ль цьвецікі,
Двеўкі хлопца стрэцілі,
Кожная клянецца—мой,
Пачынаюць сьмертны бой.

— Каб вас!.. Заржжаце!.. Бокі падарву!..

Хлопец узьвіўся, затопаў нагамі.

Шалёна заляскалі косткі.

...Тапу, тапу, тапу, туп,
Не шкадуй, мілашка, губ!
Як пажэнімся з табою,
Падару шаўковы шаль...

У хату надыйшлі чырвонаармейцы з вуліцы.

Пад вокнамі чуўся шорхат.

Каскады гукаў захліпаліся дыскантамі, раўлі на басох, хлясталі з гармоні, надзутыя мехам, узьвіхраныя гураганам рук.

Засільваўся голас.

І дзенькалі чорныя шыбы пад песьню і пад мерны прыбой канонады, што як гром, даносіліся з ночы.

Ягорка перамяніў лад:

На вайну выступалі паходам,
Сумна ў сэрцы, ніхто ня рыдаў,
І з усімі, кяведамы родам,
Навабранец пакорна шагаў.

Лес зялёны, накрый маё цела,
Шыгальлём затулі ты мяне,
Як памру я за правае дзела,
Як ня стане на сьвеце мяне!..

Штосьці дзіцяча-нясьпелае, адкрытае прамільгнула ў вачох у Ягоркі, расплылося па твары, пасьлізнулася на грымасцы губ і канула з плачам у песьню.

Забражджалі крыніцы ў полі, зашумеў вецер па мокрых чарназемах, хочаш забі, хочаш любі—плакала песьня.

Спакайней, вызваляўся голас, вібраваў шырока і чыста і ў тахт яму, як-бы стомленая, хораша камандвала гармонь.

Паўставалі, хто спаў. Слухалі.

Адзін толькі пад лаваю не падымаў галавы, уткнуўся ў шынэльку і ляжаў там, зьнябыты ў мёртвым сьне, дзіка рэальны, сярод баечных звонаў разварушанай песьняю хаты. Яго ніхто ня бачыў.

— Што кроіш сэрца?

— Адставіць!

— Дуй вясельшае!

— Камарынскага.

Ягорка зайграў „камарынскага“.

Нехта пляснуў даланямі, чырыкнуў, падхапіў сам сябе пад бокі і, дробна адстукваючы абсацам, паплыў па хаце, чырыкнуў, даў нырца і заскакаў—ногі рэсорамі наросхліст, запружыніў, загайдаўся, узьляцеў пад столь, чырыкнуў і пачаў спачатку.

Ягорка сьціснуў гармонь, падбавіў чачоткі.
Абурылі кацялок з гарбатаю, гопнуўся столачак.
Скакалі два. Потым тры. Потым напераменку.

..Йо-х-цім-ціра-ціра-ці-ра-ра,
Ёх-цім—ціра-ціра-ці-ра-ра!..

Мотыў ап'яняў.

Загуляла, загула ўся хата, затраслася ў шпаркіх аднастайных пераборах.

— Таварышы, тавар-р-ышы, дайце заснуць!—
енкнуў чывонаармеец пад лаваю.

Тры ночы ня спаў, ня грайце, ня вытрыв-ваю...

— Дуй, Ягорка, грай!

Чырвонаармеец падняўся, накінуў на сябе шынэльку і з заплюшчанымі вачамі вышаў на двор, паваліўся там і заснуў.

...Й-ох-цім-ціра-ціра-ці-ра-ра,
Ёх-цім-ціра-ціра-ці-ра-ра!..

Пацеха разгаралася...

Праверыўшы пасты, вярнуўся камрот Васільцоў.

Гэта быў плоскі чалавек з валасатымі рукамі ў акуратна абтропаным кажушку і ў акуратна накручаных абмотках.

Граньне спынілася.

Ён паглядзеў на ўсіх, нібы палічыў, і пазваў Латаша:
— Атрымай вінтоўку, станеш на пост.
— Разьведчыкам быў?
— Так точна, людзі бывалыя.
— Атрымай патроны!

Ротны перадаў Латашу новенькую запасную вінтоўку і пачку патронаў:
— Помні: № 1391091,—шануй дабро.
— Зьвеснае дзела. Каб гэта шапку з зоркаю, а?
— Высьпяткін, шапка ёсьць?
— Няма.
— Каб хоць зорку на шапку?
— Заўтра прыклееш. Ступай!

Ротны адлічыў пяць патронаў:
— Залажы.

Латаш сьціснуў вінтоўку:
...Лясь, лясь!..

Злыя вагні заняліся на блакіце вачэй, як зоркі.

Шырокая ноч цясьніла душу.

Латаш вартаваў нядоўга.

Як толькі прасьпявалі другія пеўні, як толькі парадзела неба, паліняла на ўсходзе, падпаленае золатам дальняга сонца, і халодны перадранічны ветрык пракаўзнуўся па траве, сьцярусіўшы першую росу— затрубіў гарніст;

...Тру-ру-ру-у!.. Тру-ру-ру-у!.

Сьвіст, хлюп, рыпеньне калодзіжаў. Чартыханьне, тупат.

— Стр-о-о-ой-ся!..

— Дай-о-ош Варшаў-у!..—

Адчайны, вясёлы, пранізьліва-залівісты крык палаcompletely пласнуў як нажом па вуліцы.

Гэта Ягорка, спазьніўшыся, даганяў сваіх.

Віхрастае цела яго пахла сном; рот разяўлены, як у піскляняці; вочы навыкат. Ён тоўк кулакамі паветра і шумна варваўся ў рады.

— Першы!

— Другі!

— Трэці!

— Чацьверты!

— Пяты!

Латаш абазваўся з флангу.

— Рота-а-а, марш!

Маўкліва рушылі ў паход.

Ад усходу каціласяя сонца.

---

# ПРЫКРЫ ВЫПАДАК

## Цішка Гартны

Пераступіўшы парог майстэрні, Савось Пераклад ажно спыніўся ад нечаканасьці: майстэрня была біткам набіта рабочымі. Не пуставала ніводнага мейсца каля зборачных варштатаў, загруджаныя разнастойнымі часткамі цiскоў, яны ўгіналіся пад імі і засланялі ад рабочых і без таго замурзаныя ды змрочныя вокны. Восенны дзень шкадаваў раздарваць сьвятло і ў майстэрні выглядала адвячоркам. Было заўважана, як з-пад напільнікаў у зборшчыкаў вылятталі сьмелыя іскры, кожная старалася не загаснуць чым найдаўжэй, злучаючы сабою прастор паміж наждакамі і варштатамі. З наждакоў—лікам тры—ліліся джарольцы агню: гушчыня іскраў падобілася пражэктарнаму сьвятлу, якое трубою біла ў столь; пяцісотная электрычка, белая, як малако, расплывалася ў чырвоным абстрэле наждакоў. Пры кожным з іх увіхалася па трое чалавек. У тым-жа ліку чалавек абступала да дзесятку сьверлільных станкоў. На падлозе ляжалі горы жалеза: яго перавозілі на тачках, пераносілі на руках, перакладалі па ланцугу. Майстэрня поўнілася рознастайнымі вычварнымі стукамі, бразгам, піскам, шыпеньнем і дзвэнгам. Рэдкія галасы рабочых танулі не рашчутымі, і майстар, Сілоўскі, на ўсё горла перапытваў:

— Што-а-а? Ння-чу-у-ю! Перакажы!

Сілоўскага на перабой падзывалі то да наждакоў, то да сьвярлільных станкоў, то да варштатаў. Ён увішліва бегаў, разглядаў паасобныя часткі цiскоў і ўжо складзеныя, кідаючы на ўсе канцы распараджэньні:

— Злажэце каля сьценкі! Прыгні на сантымэтар губкі! Пружыну цясьней!

Дзесяткі цiскоў мігаліся ў вачу Сілоўскага канцамі і губкамі, кольцамі і поршнямі. Напрахтыкаваныя ўзрокі майстра наляту абглядалі кожную рэч, немінаючы драбнейшай яе часьцінкі.

Сілоўскага разрывалі: ён непасьпяваў увіхнуцца ў зборачнай, як за ім беглі з кавальні. Шаснаццаць горнаў на перагонкі разгрававалі цурубалкі жалезнага ліцьця, перадаючы яго пад нясупынна ўдараючыя малаты. У кавальні, як і ў зборачнай праца насіла асабісты, баявы характар. Гэта відаць было па тэй рухавасьці і сур'ёзнай сабранасьці, якая справодзіла кожнага рабочага. Нязвычайнасьць падкрэсьлівалася яшчэ і многалікасьцю рабочых: не пуставала ніводнага кавадла. Каля плавільных газовых печаў мітусілася па двое закураных, у кажурыных рукавіцах, з доўгімі абцугамі рабочых. Яны на зьмену: то накідалі жалеза

ў печы, то выцягалі яго адтуль, напаленае да белага і перадавалі пад пнэўматычныя малаты. Іх было двое, кожны стаяў пры ўходзе ў майстэрню па адным з канца будынку і абое несьціхана грукалі. Разгар працы выразна адбіваўся ў пыхаючым агні горнаў і печаў, якія залівалі праменем усё вялікае памяшканьне цэху, чырвонячы вокны і шкляны шчыток. Ад бою малатоў зьвінелі вокны і складзеныя ў стосы часткі продукцыі, уздымалася расьпешчаненая зямля; нават разьлітая ў бляшаных карытах вада паднімала булбанкі і шыкала ад падаючых у яе іскраў.

Густая пара са значнаю часткаю дыму, які не мясьціўся ў камінох, гусьціла пад стольлю лахматае тоўстае пакрывала.

Відаць было з выходу, як па ўсёй кавальні, у розных напрамках, мігалі жалезныя галавешкі. Паўз жалезных дошчак, якія служылі дарожкамі для тачкароў, скірды накладзеных ціскoвых канцоў вышчэрвалі, мэрам біблейскія зьмяі, страшныя вагнёвыя зубы.

— Хвядос! Таварыш Сілоўскі!

Майстар, як і большасьць зборшчыкаў, не заўважаў, што за яго раз'юшаным стараньнем пільна наглядае Савось Пераклад; і ён зьдзівіўся ад зьненацкага воклічу, абярнуўшыся з паўдарогі ў кавальню на дзьверы.

— А-а-а!—разьняў рукі Сілоўскі і на яго замурзаным твары выразна абмаляваліся бялкі сініх воч і два рады белых, здаровых зубоў.

— Да мяне?

Яго прарэзьлівы голас, як і вокліч Пераклада, падняты да верхняга ля, адцягнулі хвілінную ўвагу канцавых зборшчыкаў: справа Міхася Атосы, злава—Апанаса Шамко. Абое прывіталі Савося мяккімі ўхмылкамі і неразгаданымі Савосям, але пра нешта намякаўшымі, мімічнымі моргамі вачоў.

Савось злажыў руку ў трубку і перш Шамко, а за ім Атосу прагукаў:

— Пасьля крыху!

Тыя, як працавалі, з тым-жа размахам і трапятлівымі павертамі ізноў заварушыліся пры ціскох. А Савось працягнуў руку майстру, праводзячы свой сяброўскі гэст гасьціннаю ўхмылкаю. У гэтай яго ўхмылцы плавала столькі дабраты і мяккасьці, уміленьня і радасьці, што Хвядос дагэтуль ніразу не заўважаў гэтага ў таварыша. Ён уцягнуў забруджаны кулак з сантымэтрам у апушчаны рукаў курцiку і падаў у гэным выглядзе руку Савосю.

— Нешта новае маеш?—запытаў Хвядос, чакаючы адказу, як на шарнірах.

— Проста так; зацешаны вашаю працаю. Чаму яно так у вас нязвычайна мэрам-бы?

Хвядоса цягнулі ў кавальню.

— Маўчы...

Ён не дасказаў і абярнуўся да падышоўшага да яго з-заду здаровага шырокаплечага малатабойца з паламаным дзяржаньнем ад молата.

— Ліха ведае што; галавацяпства некае ды годзі... Паглядзі толькі, таварыш Сілоўскі, ужо трэцяе сёньні. Гнілое дзерава... Гэтак стукнуў па назе ўпаўшым молатам, што зоры пасыпаліся. Няхай Косіч пасьведчыць... Або так можна працаваць па-ўдарнаму, ці што? Нэрвуешся ўсяго толькі ды марнуеш час на асадку... Неабчэсанае, мазулі, як арэхі... Галавацяпства-а!..

Хвядос маўчаў і паціскаў плячыма; пасьля выняў з кішэні блёкнот з карандашом і напісаў малатабойцу запіску ў склад:

— Выбірай лепшыя і бяры зараз штук пяць.

Малатабоец несхаця ўзяў з Хвядосавых рук лісток запэцканае паперкі і пашоў, лаючыся ад майстра. Хутка на месца адышоўшага стаяў каваль Косіч з перагараным канцом цiскоў.

— Не разьбяруся,—скардзіўся ён Сілоўскаму:—няўжо не пара было дагэтуль паправіць печы? Угадай ты: так палажы—перагар, гэтак палажы—недагар. Чорт ведама што ня печ!..

— Рукі, а ня печ: твае рукі, таварыш Косіч, нікуды не гадзяцца. Ува ўсіх, як мае быць, а ў цябе перагар. Кінь ужо прытварацца, Якуб, брыдка нават...

З-пад сажы прабілася ўспыхнуўшая на яго твары ружа і ў цёмных вачох бліснулі вагеньчыкі. Каля поўных кавальскіх губ прабегла зьвілістая маршчынка, па якой з кутку шчыльна сьціснутага роту выляцела-

— Чыстае вады опортунізм. Не майстар, а п-парт...

Сілоўскі ў момант выраўняўся ў штангу і ў нахмураным ваччу сабраў горын злосьці, якая крута заварушыла яго праваю рукою:

Але ў локці яе ачулася перашкода да ўзьняцьця: Савось палажыў на ёй сваю руку.

— Кінь! Можна іншым чынам на гэта рэагаваць... Заяві ў ячэйку. Недапусьціма.

Майстар астыў і разуверна паматаў галавою.

— Цяжка прышлося, таварыш Пераклад. Трэба пакідаць пасаду майстра. Апошні час робіцца немагчымым працаваць...

— Чаму?

Савось з цікавасьцю глядзеў на пасмутнеўшыя вочы Сілоўскага, на раптам ахапіўшую яго млявасьць і абыякасьць, рэзка дысанаваўшыя з настроем рабочых і з усім разьбегам працы і адчуваў, што Хвядос скардзіцца не здарма.

— Чаму-ж такі?—перапытаў Савось.

— Сам вінават, бачыш... Давай адыдзем к боку.

Між іх праехала да дзесяці тачкароў з папярэдня сабранымі цiскамі. Задні раптам спусьціў сваю з жалезнае дарожкі; павярнуў яе на бок, выпусьціўшы дзяржаньні і паставіўшы тачку дубам. Гучны бразг рассыпаных цiокоў прабег па зборачнай.

— Ай, ай! Ну, чаго ты, браце глядзіш. Вось гэтак што дня. А акажыся—не адчэпішся: і галавацяпам і опортуністам... Прыбяры з праезда...

Сілоўскі падбег і памог тачкару адвярнуць тачку і адкінуць з дарогі цiскі.

— Сам вінават, браце Савось... Нечага казаць... А цяпер—расхлёбвай... Слабасьць мая, як табе вядома: тыдзень таму вазьмі зграшы і здуру зайдзі ў майстэрню... Ну, што-а ўжо тады з цябе за плянавік, або за інструктар... І не даглядзеў, ведаеш: гэты-ж самы, во, каваль, Косіч, што опортуністым абазваў, цэлыя трыццаць пар цiскоў пусьціў на перагар. Ну, ведама, справа зразу ў цэхком, у ячэйку, у партколектыў, у заводакіраўніцтва... і гэтак далей. Або, як іначай? „Вінават", кажу „поўнасьцю, даруйце таварышы. Непапусьцімае ўпушчэньне з майго боку".

І можа-б яно сяк-так уважылі, каб да гэтага не закруцілася, калі памятаеш, мая ранейшая справа, гэта, бач, з заяваю на маё кулацкае паходжаньне... Завярцелася, заблуталася, дзела набыло такі сур'ёзны характар, што зараз я сам ня свой... Два разы быў у ячэйцы, а пазаўтра ізноў... Працую, ведаеш, а думкі паралюшуюць увесь настрой... Які-ж я кулак? Адкуль яно гэта?.. Хочацца кінуць пасаду майстра, а астацца радавым рабочым... Я-б тады паступіў у брыгаду, у камуну і шчыраю працаю змыў-бы гэту пляму, няпраўда, мо? Працаваць-жа ўмею. Як парадзіш, Савось? Ударны трохдзеньнік, а я сам ня свой...

Пераклад не чакаў гэтай споведзі ад Сілоўскага: яго клапатлівае, увішлівае стараньне на рабоце сьведчыла Савосю аб супроцьлежным. Угледзеўшы Хвядоса, Пераклад заключыў, што вядомая яму справа з Хвядосавым соцыяльным паходжаньнем, напэўна, прыняла дадатны для яго наварот, пра вошта ён зараз і пачуе. Гэты свае дапушчэньні Савось выліў і ў прыветна працягнутай руццэ і ў гасьціннай ухмылцы. Між тым... Вунь яно што...

— Табе лепш вядома, Хвядос... Але з апошнім выпадкам я не чакаў ад цябе... Памятаеш, колькі я папаўгаварваў цябе кінуць гэту сваю прызвычайку, а ты яшчэ як назнарок... Ты-ж справу маеш з заводам, з прадпрыемствам, дзе ты, як і ўсе, гаспадар і... майстар. Табе ўручылі кіраваць працаю ўсяго цэху і наглядаць за якасьцю яе, за паладкамі... Між тым ты не асазнаў, ці занядбаў гэтым... Зразумела, што-а...

Сілоўскі маўчаў і, відаць было, з якою напружнасьцю ён зносіў моцныя, як удары молату і трапныя, цалкія ўкоры таварыша.

Нарэшце, ён не знашоў сьцерпу далей стаяць і раптам, уздрыгануўшыся ўсёй постацьцю, як ад прыступу конвульсыі, завярнуўся і пашоў ад Пераклада.

У кавальні яго пераняло некалькі чалавек рабочых, ад якіх ён адмахнуўся і пасьпешнымі крокамі накіраваў да апошняга горына.

Савось яшчэ загледзеў, як у Сілоўскага руках узьняліся даверху губкамі чатырохкілёграмныя цiскі і сьледам бразнуліся аб зямлю.

— Дзіўны чалавек!—праказаў сам сабе Пераклад і завярнуў да выхаду.

Каля варот яго пераняў Атоса:

— Дрэнна з нашым Хвядосам. Што ён казаў?

— Каецца... Справа заблуталася?

— І здорава. Ячэйка атрымала даведку з сельсавету, у якой ясна акрэсьлена яго кулацкае паходжаньне... Будзем рашаць... І шкада мне яго, як добрага рабочага і разам з тым, зьбегліся гэткія абставіны, што трэба ставіць пад пытаньне яго быцьцё на заводзе... Ведаеш, да першае заявы далучыўся яшчэ Косіч...

— Косіч?

Савось уявіў на момант перад сабою таго каваля, які з адменнаю злосьцю ня так даўно аблаяў Сілоўскага опортуністым.

— Як майстар, ён далей заставацца не магчыме,—упэўнена заявіў Атосеа:—А ў стане рабочага—няхай канчаткова вырашае парткалектыў... Ну, я за тое, каб Хвядоса пакінуць... Ты-ж яго лепі ведаеш, Савось, га?

— Ён выправіцца... А з сельсаветам... тут ужо трудней сказаць...

— Зайходзь пазаўтра на ячэйку абавязкова...

Да іх памкнуўся падыці Шамко, але Пераклад гэтага не заўважыў і вышаў з майстэрні.

II

— Таварыш Пераклад?

Савось азірнуўся.

Яго зваў сакратар ячэйкі Піня Шмуклер.

— Быў у майстэрні?

— Заходзіў. Паскрабеня меўся пагутарыць наконт артыкулу ў Ільлічоўку... Ды няма яго, захварэў ці што?

Піня Шмуклер незадаволена матнуў рукою:

— Гуляе. Чорт іх ведае што з імі чаўпецца, нарэшце. Распусьціліся хлопцы... Пане мой у майстэрні ўдарны трохдзёньнік, работа, можа цікавіўся, як у трывогу; некаторыя рэбяты трэцюю зьмену засаб працуюць—а гэта лодырнічае. Палец застраміў, ці запарушыў вока... Я вунь ужо месяц ступіць не магу—нага разгнілася і суткамі ня выходжу з заводу, а гэта... разгільдзяйства... Таксама і з Сілоўскім. Моʻ чуў?

Сакратар цехячэйкі прыцішыў голас, ажно цяжка было разслухаць з-за гулкага шоламу, які не знаходзіў сабе перашкоды ў сьцяне заводу і бурна выліваўся на двор.

— Так, чуў.

Піня Шмуклер яшчэ болей насторажыўся:

— Ну, цікава, кажы. З ім гутарыў?

— Толькі што: хлопец хвалюецца. Адзнае сваю віну і цяжыцца ёю.

— Падумай толькі, Савось: сукін-жа ён сын, некалькі разоў зьявіўся ў завод, я табе кажу, лабяк лабяком; хістаецца. І раз за разам вазьмі ды трапся сур'ёзны брак. Перш гэты самы, як яго Табайнік зламаў пры коўцы губкі ў дзесяці парах ціскоў, па-другое—Кішын пятнаццаць пар канцоў перагрэў, а ў трэці раз баламут гэты, Косіч... А можна-ж было папярэдзіць, даглядзець... Ну, як пасьля гэтага?..

— Я даў яму натацыю... Хлопец ажно ня вытрымаў і літаральна ўцёк ад мяне... Напэўна, што ўжо ня будзе сустракацца...

— Сапраўды? Гэта ты добра зрабіў... І што-ж ты думаў: каб адно гэта, а то і сельсавет на наша запытаньне прыслаў забойчую даведку. Хвядос таго ня ведае. А згодна гэтай даведкі ў Сілоўскага бацькоў так-такі настаяшчая заможная гаспадарка. Няхай толькі Савось не прыставіць зьмякчальных довадаў—яго нельга будзе пры складзеных абставінах і дню пакідаць на заводзе... На, во паглядзіся...

Піня Шмуклер дастаў з кішэні запісную кніжку і падаў Пераклад невялічкую паперачку з пячаткаю сельсавету.

Пераклад уважліва прабег па ёй узрокамі і [зьдзіўлена, з выразам спагады паглядзеў на сакратара.

— Няцікавая штука. А мне ня верылася... Усё-ж, Піня, пакажы яе Сілоўскаму.

— Бачыш... А я, думаеш, дапускаў... Прыходзь па заўтра на ячэйку—мусім выносіць тую ці іншую пастанову... Прынамсі на гэты конт у рэбят, членаў бюро, пакуль яшчэ, няма аднагодных думак, тым ня менш... Тварыш Атоса, да прыкладу, увесь час адносіцца крытычна к усім матар'ялам на Сілоўскага, а ўжо Шамко—той супроцьлежных думак...

— А ў партколектыве, не намацваў глебы? Што Нахімовіч думае?

— Пайду ўжо з пастановаю бюро ячэйкі...

Ён не дасказаў: з памяшканьня заўкому вылящеў, як куля, дырэктар заводу. Разчырвонены, ён сярдзіта лаяў плянавы аддзел, скланяючы кавальскі цэх. Неўзаважыўшы Піні з Савосем, дырэктар ў подбежкі накіраваў у вароты цэху. Сакратар ячэйкі хутка працягнуў Пераклад руку і пабег за дырэктарам.

III

Савось Пераклад усьпешкі закончыў свае выступленьне на сходзе комсамольцаў і пакінуў памяшканьне клюбу: ён помніў пра сход ячэйкі кавальскага цэху і не хацеў спазьніцца. Вышаўшы на вуліцу, ён уподбежкі накіраваў па Рэвалюцыйнай вуліцы, якая вяла на завод „Сьцяг". На заломе яе, зблізку ад заводзкага тупіку Савось нагнаў каваля Атосу і зацішыў хаду.

— А я ня чуў ног пад сабою—думаў спазьніўся. Ажно... Здароў Міхась!

Савось адсопваўся і рашпільваў гузікі ў паліце.

Атоса ўважліва, як-бы зьдзіўлёна паглядзеў на Пераклада і абыякава адказаў:

— А, думаеш, ве спазьніліся. Глядзі, во, сорак на сёмую... Ды што-ж парадзіш, усюды ў час не разарвешся. Да паловы шостае затрымаўся ў заўкоме; а пакуль зьбегаў на кватэры ды назад—і сёмая... Не пашоў-бы сёньня, прызнаюся,—зьмяніў голас Атоса, пахіліўшы галаў да Савосевага вуха:—нездаровіцца, галава трашчыць, ды справа ўжо даволі казытная. Як ні-як, а вырашаецца таварышаў лёс. Трэба, каб не перагнуць палкі... Ведаеш,—Атоса яшчэ болей пацішыў голас:—хлопца да таго разабрала, што бедны ўжо ўчора не зьявіўся на працу... Як даведаўся пазаўчора, калі ты быў пра даведку сельсавету, зрабіўся, як хмара, на людзей не глядзіць... Трагэдыя... ды калі дарэмна нагнатая—тады... А мне, разумееш, нешта не дазваляе, ды годзі пагадзіцца... Так ужо я ўпэўнены ў Хвядоса, што нават сам баюся, каб гэтая мая ўпэўненасьць ня ўпёрлася ў сьлепату, а то і самому...

— Калі ён многа сам вінават... Яму трэба было папярэдзіць гэта самому. Зайшоў-бы ў партколектыў і на душу, як належыць бальшавіку, усё-б да дробкі расказаў... Пасьля дастаў-бы апраўдальныя дакуманты, калі можна гэта зрабіць. Дык не! А яшчэ замест гэтага—п'яным у завод... Ну, як тут бараніць чалавека...

— А патом—трэба! Шкада яго...

У Атосавым сказе зьмяшалася доза сьвярджэньня з прыкметным сумненьнем, і гэта Савось не ўпусьціў заўважыць. Падобны настрой ён вынес і з гутаркі з Пінам Шмуклерам пазаўчора. Злажыўшы разам настрой абодвых можна было ў асноўным уяўляць сабе наварот вырашэньня Хвядосавай справы. Але магло стацца, што за апошні час ячэйка атрымала яшчэ новыя даныя... Ды і раптоўная адсутнасьць на рабоце Сілоўскага гатова навясьці на тыя ці іншыя падозраньні...

Бадай абудва яны, Атоса і Пераклад, трымаліся роўных думак на таварышаву справу і з гэтымі думкамі, хаваючы іх кожны па сабе, яны моўчкі прайшлі на заводзкую тэрыторыю і апынуліся ў памяшканьні тарыфнага бюро.

Невялічкі пакой быў поўны рабочымі. Ужо з гадзіну, як пачалося паседжаньне ячэйкі і зараз адбываліся выступленьні па дакладу аб праведзеным штурмавым трохдзёньніку. Гаварыў старшыня цэхкому Паскрабеня. Ён паказаў лічбамі на значныя посьпехі трохдзёньніку, якім цэх залатаў дваццаціпроцантны прарыў скончанага месяцу і яшчэ перавысіў на два проценты заданьне. „Рабочыя і адміністрацыя цэху, а таксама партыйная ячэйка паказалі, што яны адзнаюць задачы моманту і могуць змагацца за соцыялізм бальшавіцкім тэмпамі“.

Паскрабеня сьледам адмеціў прыкладную працу некалькіх рабочых і майстра цэху Хвядоса Сілоўскага. Многія з прысутных не зьвярнулі на

гэта асаблівае ўвагі, а Піня Шмуклер вёўшы сход, парэагаваў чуць прыметным кіўком галавы.

Перад тым, як даць слова чарговаму таварышу, ён не прапусьціў адмеціць Атосава запазьненьне.

— Ня мог, таварыш сакратар!—апраўдаўся Міхась.

Яго апраўданьне патанула ў басыстым голасе пачаўшага сваё выступленьне таварыша. Прамоўца спыніўся на мэтадах працы свае брыгады і падкрэсьліў сьвядомыя адносіны да яе з боку ўсіх брыгадзіраў. „Я таксама мушу сказаць, што паводзіны таварыша Сілоўскага ў гэты тры дні былі вышэй усякае пахвальбы“.

Пасьля чарговых траіх прамоўцаў, старшыня сходу спыніў спрэчкі і запрапанаваў рэзалюцыю, якая была прынята сходам аднагалосна.

— А цяпер, таварышы, папрашу астацца членам бюро ячэйкі, а ўсім другім можна ісьці,—праказаў Піня, гартаючы стосам папераў у жоўтай забруджанай справе.

Калі ў памяшканьні асталося сем чалавек бюро, ён адвярнуўся ад папер і паведаміў:

— Вернемся, таварышы, ізноў да справы таварыша Сілоўскага,

Прысутныя зашавяліліся і перазірнуліся адзін з другім; у некаторых на твары бліснулі недаўменныя ўхмылкі.

— Так-так, таварышы, нічога ў гэтым дзіўнага... Справа Сілоўскага сур'ёзная і з бухты-барахты яе нельга вырашаць...

У сакратаровым голасе прагучэла стальная сур'ёзнасьць, якая тут-жа зьмянілася злосьлівай нэрвовасьцю:

— Пашукай! Закіне дзесьці і рыйся паўгадзіны.

Піня Шмуклер падкінуў справу свайму суседу, Марку Млёну і прыўстаў, каб злавіць выляцеўшую з справы паперку.

— На, ня злуйся,—адказаў тэхсакратар, угледзеўшы разам з усіма прабегшы сьмяшок па твару Піні.

— Начном, таварышы.

Усе змоўклі, старэнна пахкаючы, як адзін, разданыя Атосам цыгаркі.

— Ну, вы, таварышы, ранейшае ведаеце ўсе? Ня трэба пачынаць з пачатку?

— Ня трэба.

— Ведаем.

— Дык, вось: да паданых у бюро ячэйкі заяў на таварыша Сілоўскага з боку Грышкі Шчарбака і Ахрэма Кудлы, дадалася яшчэ заява Якуба Косіча. Гэты, бач, Якуб Косіч, адмячае, помеж з іншым і той факт, што на кватэры ў Сілоўскага часта адбываюцца так званыя гасьціны-п'янкі, у час якіх даходзіць да бойкі і сваркі з суседзямі. ...Апроч гэтых заявак, на свой запыт у сельсавеце пра сацыяльнае тановішча бацькоў Сілоўскага, ячэйка атрымала даведку наступнага сьместу... Слухайце.

— Цікава, адкуль Косіч узяў гэты папойкі?—яхідліва ўставіў Атоса-

— Сачыніў пасьля сваркі з Сілоўскім з-за папсаваных цiскоў,— падаў ад сябе рэпліку Млён.

Піня Шмуклер сярдзіта стукнуў кулаком па стале і ўпічліва заўважыў:

— Няўжо, таварышы, вас трэба прызываць да парадку? Пасьля гаварыцьмем... Чытаю...

IV

„У ячэйку кавальскага цэху заводу „Сьцяг“.

На ваша запытаньве маем давесьці да ведама, што гаспадарка Самуся Сілоўскага налічвае восем дзесяцін удобнай зямлі і дзьве, або каля дзьвюх дзесяцін забалочанага куп'я. У 1928 г. С. Сілоўскі меў дзьвюх кароў, каня і жараб'я і пяцёра авечак. Падатку плаціў 23 р. 27 к., што і сьведчыцца подпісамі й прыкладам пячаткі.

Старшыня сельсавету *Тодар Рэпка.*

Сакратар *Хомка Рабінскі.*

— Ну, хто мае што запытаць?—абярнуўся Піня Шмуклер да сяброў ячэйкі, не выпускаючы з рук даведкі.

— Што-ж пытаць, дакумант афіцыяльны,—адказаў Пераклад.

— Зразумела. Пяройдзем да пастановы,—дадаў Шамко і працягнуў руку за даведкай:—на момант,—папрасіў ён у сакратара і, атрымаўшы, паднёс яе к носу.

— Каб зусім зразумела, то нельга сказаць, але... —

Атоса не дасказаў: яго перабіў Шамко.

— Кулацкі элемэнт ня можа аставацца ў сьценах заводу... Во, табе неадмоўны доказ...

Сакратар глыбока зацягнуўся цыгаркаю, прыжмурыўшы левае вока і зморшчыўшы лоб ды разважліва выказаў:

— Шамко, зразумела, правы з свайго пункту гледжаньнн: мы павінны ачысьціць завод ад варожых нам элементаў... У часы абвостранага клясавага змаганьня ад нас вымагаецца бальшавіцкае пільнасьці... Зразумела, кажу, гэта, але...

Піня ізноў зрабіў зацяжку, невыпускаючы на некі час з губ цыгаркі і фармуючы ў думках далейшы свой выказ.

— ...але, таварышы, памятайма тое, што тут рэч ідзе пра стараннага работніка і пра добрага майстра. Вы чулі, як аб ім адгукваюцца? Чулі—ды, нават, вось, Паскрабеня сам не стрымаўся...

— Ня мог не адмеціць факту,—подаў Паскрабеня.

— Бачыце...

— А апошнія выпадкі?—перабіў сакратара Шамко.

— Апошнія выпадкі? За іх Сілоўскі свае атрымае. За гэта мы перавядзем яго к станку...—Гэтага хопіць... Ну, бачыце, Шамко хоча

вырашыць пытаньне, як з-пад сякеры: ён проста, бяз усебаковага разгляду справы прапануе таварыша Сілоўскага выгнаць з заводу... Але, на гэта пайсьці нельга—мы павінны быць падвойчы асьцярожлівы... Трэба не забываць, што кара—крайняя рада, а выправа...

— Можа пазваць яго сюды?—падаў Млён.

— Яго няма ў цаху,—адказаў Паскрабеня:—здаецца і ўчора не зьяўляўся на працу...

Для часткі членаў бюро ячэйкі гэта прагучэла нечаканым.

— Адлажыць!—запрапанаваў Млён.

— Дакуль?—незгадзіўся Шамко: — адсутнасьць Сілоўскага красамоўна кажа, што ён... Я прапаную наступную рэзалюцыю: „Разгледзяўшы справу...

— Які гарачы! Астудзіся!—пераняў яго Атоса.

... Прапанаваць заводакіраўніцтву разьлічыць Сілоўскага з заводу, як кулацкі, клясава варожы...“

Піня Шмуклер падняў разьнятую руку, ня даўшы Шамко дачытаць яго рэзкую прапанову, і паглядзеў на сабраныя твары чула насторожаных сяброў ячэйкі. Было заўважана, і гэта не ўцякло з ваччу разьбітнага сакратара ячэйкі, што большасьць не на баку Шамко.

Аднак водлуг думак Шмуклера і настрой Атосы не адпавядаў сутнасьці і зьместу справы: Міхась імкнуўся замазаць справу.

— Я думаю, што нам правідловей будзе спыніцца на наступнай рэзалюцыі; вось я накідаў як чарнавік,—пазондыраваў Шмуклер.

— Чытай!—запрапанаваў Пераклад.

„Разгледзіўшы справу таварыша Сілоўскага, майстра цэху, аб яго кулацкім пахаджэньні, згодна заяў у ячэйку рабочых і аб чым маецца даведка сельсавету і аб яго компромэтуючых рабочага паводзінах, як у дамашнім жыцьці (даведка Косіча), гэтак і на прадпрыемстве (тры выпадкі зьяўленьня на работу п‘яным, ускутку чаго трапіўся недагляд за працаю і псута продукцыі), ячэйка кавальскага цэху пастанаўляе:

1) прапанаваць заводакіраўніцтву зьняць Сілоўскага з пасады майстра цэху і зноў паставіць пытаньне аб яго прабываньні на заводзе. Аднак, бяручы на ўвагу тое, што Сілоўскі зьяўляецца старанным рабочым і добрым майстрам, і за выключэньнем адмечаных выпадкаў ні чым не засьведчыў адмоўных з свайго боку адносін да працы а таксама і да рабочай дысцыпліны, а наадварот, паказаў прыклад пільнага ўдарніка; 2) што даведка сельсавету павінна праверыцца на мейсцы, бо ёсьць сумненьне ў правідловасьці паданых ёю фактаў і, нарэшце, што сам Сілоўскі ў заяве сакратару ячэйкі і некаторым членам бюро ячэйкі абяцае загладзіць свае паступкі адданаю працаю ў цаху, прасіць бюро партколектыву пераглядзець яго справу ў парадку магчымасьці ўжыць да Сілоўскага лягчэйшыя спагнаньні.

— Я ўстрымаюся ад галасаваньня гэтай рэзалюцыі,—заверыў бюро яго член Шамко.

— Гэта ня кажа за тое, што яна ня будзе прынята,—адказаў яму Атоса.

Шмуклерава рука, узьнятая ўгору паказала на непатрэбнасьць падобных пераклічак.

— Я галасую! Хто-а?.. Адзін, два, тры... За выключэньнем тава-рыша Шамко, які процію, усе за... Запішы, таварыш Млён... Рэзалюцыя прымаецца!—паведаміў сакратар.

— Я не процію, а ўстрымаўся,—пасьпяшыў зьмякчыць свае паводзіны Шамко, не хаваючы настрою, які сьведчыў за трапную дагадку сакратара ячэйкі...

А да разгляду справы партколектывам, Сілоўскі наведацьме на працу?—выявіўся далей Шамко.

— Пра гэта гаварыцьмем з таварышам Нахімовічам. А пакуль, як бачым, ён сам не зьяўляецца.

Намер Шамко яшчэ пасупярэчыць прынятаму рашэньню, Піня Шмуклер пераняў галосным выгукам:

— Бягучыя справы: прыём і пераводы. Чытай, таварыш, Млён.

V

Піня Шмуклер загледзеў з-пад варот цэху накіраваўшага туды Савося Пераклада і падняў угору руку: гэта азначала, каб Пераклад спыніўся і пачакаў сакратара ячэйкі. Праз пару хвілін Шмуклер вітаўся з таварышом, прасіў яго разам з ім зайсьці ў памяшканьне партколектыву.

— Можа па Сілоўскага справе?—дагадваўся Пераклад.

— Якраз. Ідзем, браток. Усё-ж у дваіх ад ячэйкі будзе лепш.

— А Сілоўскі ў цаху?

— Не, хоць кажуць, што ён быў сёньня ў заводзе.

— Мы правідлова пастанавілі, таварыш Шмуклер. Я доўга думаў над гэтым—інакшага выхаду няма... Аднімі ад Сілоўскага яго стараннасьць і дысцыплінавасьць—то Шамкова пропозыцыя ня была-б завострай... Пасудзі сам.

— Праўда... Калі я пісаў проект пастановы, то таксама меў гэты акалічнасьці на ўвазе... Разумееш, чудак такі ён...

— Хто?

Пытаньне, паданае над самым вухам Шмуклера, ішло ад дырэктара заводу, Камякі. Дырэктар, як і яны, накіроўваў да сакратара партколектыву.

— Вы перасалілі, таварыш Шмуклер, у адносінах да Сілоўскага.

На дырэктаравым твары вынікла ўхмылка, але яна не скрадала прагучэўшае сур'ёзнасьці сказу.

— Чаму?—незгадзіўся Піня Шмуклер.

— Справа стаіць пра чэснага рабочага і дасьціпнага вытворцы...

— Мы гэта мелі ў воку, таварыш Камяка. Я мусеў яшчэ стрымліваць некаторых таварышоў з бюро ячэйкі... Запытай у таварыша Пераклада.

— Праўда,—пацьвярдзіў Савось.

— Мала што знайдз...

— Дырэктар не дасказаў: перад самым парогам у пакой партколектыву рашчыніліся дзьверы і ў іх паказаўся сакратар Нахімовіч...

— Нарэшце— ... —упічліва працягнуў ён:—хоць знарочыстага пасылай... Не прывучыць вас, таварышы, да точнасьці.

Усе трое ўхмыльнуліся, але і ўсе адзнавалі, што не дарэчы: Нахімовіч быў праў у адносінах да Камякі і Шмуклера.

— Сілоўскі чакае нашага рашэньня...

У пакоі партколектыву сядзела яшчэ двaіх таварышоў, сяброў бюро, з якіх адзін быў старшыня заўкому, Алесь Грыцай, другі—сьлесар Зачапка. Грыцай перачытваў якіясьці паперкі і, відаць, вычытанае з іх перадаваў свайму суседу.

— Сядайце,—запрапанаваў Нахімовіч.

І калі ўсе селі, ён узяў з Грыцаёвых рук паперкі і адну з іх прачытаў:

„У заводакіраўніцтва „Сьцяг“. Сельсавет гэтым сьведчыць, што Хвядос Сілоўскі зьяўляецца членам сям'і Самуся Сілоўскага, які належыць да чырвоных партызанаў і пры бела-польскай акупацыі моцна пацярпеў, будучы чуць не растраляным карным атрадам легіянэраў. Двое сыноў Самуся Сілоўскага служылі ў чырвонай арміі і ўдзельнічалі ў бойках пад Перакопам... Самусь Сілоўскі першы падумаў думку аб заснаваньні ў вёсцы колгасу, але не паступіў у яго таму, што пакуль ён не заложаны.

Гэта сьведчыцца подпісамі.

Старшыня с/с А. Матузок.

Сакратар с/с Рапінскі.

— Другая даведка кажа пра маёмасьць Сілоўскіх і ў ёй зусім ня тое, што ў пераданай вамі,—дадаў Нахімовіч, гледзячы ў вочы Піню Шмуклеру.

— Што ты скажаш, таварыш Шмуклер?—праказаў Грыцай.

— Я лічу, што наша ячэйковая пастанова правідловая, таварышы,— адказаў Шмуклер.—Мы ўлічвалі ўсе абставіны і акалічнасьці і тры разы варочаліся да гэтае справы... Тут сельсавет віною... Дай адно сюды даведку.

А што ты скажаш пасьля гэтага?—паказваючы прачытаную даведку, запытаў Нахімовіч.

— Я лічу, што цяпер справа бярэ зусім іншы наварот... згодна якому... Вво-а, глядзеце, даведка падпісана новым старшынёю сельсавету...—прагукаў Шмуклер, тыкаючы пальцам у подпіс. Бачыце-э.—

Тут сабака закопана... Зразумела, што Сілоўскі павінен застацца на заводзе і трэба, каб партколектыў стварыў яму спрыяючыя ўмовы для працы...

— Майстрам?—справіўся Грыцай.

— Пры станку...

— Ён сам ня хоча майстрам,—паведаміў Перaклад:—Хлопец да таго блізка прыняў гэта, што хадзіў доўгі час, як пад зямлёю... Выпадкі з бракам цiскоў не давалі яму спакою... Накіраваць да станку...

— Ну, а ты што скажа-ш, Камяка?—абярнуўся да дырэктара Нахімовіч.

— Бачыце, ту мы маем справу з добракваліфікаваным, дысцыплінаваным і старанным рабочым: гэта сапраўдны ўдарнік. Мы не адмецім у яго ніводнага прагулу, ніводнага спазьненьня, жадных адзнак манкіраваньня працаю... Ён першым зьяўляецца на завод і апошнім яго пакідае... Прыбярэ, уладзіць усё, навядзе парадак... ...У абыходзінах з рабочымі—таварыш і дарадчык. І калі рэдкія асобы яго недалюбліваюць і дапушчаюць падобныя Шчупаку і Кудлу скандальныя выбрыкі, недапусьцімыя паклёпы, то іх трэба разглядаць, як шкодную зьяву з боку тэтых таварышоў, а не Сілоўскага... Я ведаю абоіх з іх і скажу, штоцкаваньне імі вартнейшага рабочага нябольш, як хітры манэўр, адвод удару ад сябе. Даравацъ гэтага ім ніколі нельга... З паданаю ў ячэйку даведкаю сельсавету ізноў ня зусім чыста... Адным словам, таварышы, з майго пункту гледжаньня тут справа цьмяная і прасычана шкадлівай напрасьлінай. Ужо, вось, гэты адносьнікі сьведчаць за тое, а калі мы ўглыбімся ў яе дэталі, то сумеем наткнуцца яшчэ на большыя неспадзяванкі. Та-ак!.. Але гэта на пасьля, а зараз... зараз Сілоўскага патрэбна пакінуць на заводзе і запрапанаваць ячэйцы рэабілітаваць яго, каб у рабочых не засталося жадных адмоўных поглядаў на свайго таварыша...

Камяка пастукаў пальцамі па сталу і ўглядзеўся праз адчынятую фортачку на заводзкі дзядзінец.

— Ізноў вароты зьбілі з завесак, вось ужо народзец, дык...—уткнуў ён нечакана для ўсіх.

— Ты скончыў па пытаньню Сакалоўскага?—пераняў яго сакратар колектыву.

— Не-э... Я хачу далучыцца да Шмуклеравай пропозыцыі ў тым сэнсе, што Сілоўскага, аднак, нельга пакінуць майстрам... Нельга... З гэтага боку Шмуклер праў. Як майстар, Сілоўскі сябе скомпромэтаваў... Майстру негадзіцца рабіць таго, што ён зрабіў... Гэтым Сілоўскі падарваў аўторытэт да сябе як майстра з боку рабочых... Кончана... Хоць шкада мне з ім, як з майстрам, раставацца, тым ня меней, трэба гэта зрабіць... Няхай ідзе да станку... Мне думаецца, што і радавым рабочым ён будзе каштоўным для цэху... Я кончыў...

— Хто больш мае сказаць?—запытаў Нахімовіч і, не чакаючы доўга, загутарыў: „Таварыш Камяка, фактычна, амаль ня цалкам выка-

маю думку. Вырашым мы справу Сілоўскага іначай, мы-б зрабілі вялікую памылку. Тэндэнцыі да гэтага відны ў першай частцы рэзолюцыі цэхавай ячэйкі, і добра тое, што яны...—Нахімовіч паглядзеў на Шмуклера—... не дадумаліся згадзіцца з тым таварышом, які ўносіў, з яго боку, вельмі „ясную“ пропозыцыю... Так... А, па-другое, трэба закінуць ячэйцы і наступнае: як гэта яна дагэтуль не магла мець спраў, паказаных, во, у гэтай даведцы? Сям'я Сілоўскага, як бачыце, мае вялікія заслугі перад рэволюцыяй і па свайму маемаснаму стану зусім не кулацкая. Выходзячы з гэтага, бязумоўна, што мы павінны прыняць прапанову таварыша Камякі... А ў адносінах Шчупака і Кубла даручыць ячэйцы высьвятліць усебакова іх паводзіны ў гэтай справе... Яшчэ хто мае сказаць?

— Я цалкам далучаюся да твае пропозыцыі,—абярнуўся да Нахімовіча Шмуклер, але хачу сказаць адно, што і таварыш Нахімовіч і таварыш Камяка, па-мойму, зрабілі неправідловыя закіды бюро ячэйкі. Няхай скажа таварыш Пераклад, ці мы да справы падышлі зьненацку, без усякай асьцярожнасьці, ці мы проаналізавалі ўсе довады за і супроць Сілоўскага? Менавіта, таварышы, мы аднесьліся да гэтае справы з усёй бальшавіцкай уважлівасьцю... Я не пасаромеюся сказаць, што сума даных, якія знаходзяцца ў нашым распараджэньні, не магла не пацягнуць за сабою першай паловы нашае рэзалюцыі. І мне, як сакратару, нельга было не згадзіцца з ёю, бо іначай большасьць аказалася-бы з Шамко... Такім чынам...

— Я лічу, што годзе спрэчак,—перабіў Грыцай:—Справа ясная.

— Так... Занатуй Зачапка,—падаў Камяка.

— Дыхтуй, таварыш Нахімовіч.

Сакратар парткалектыву пачаў дыктаваць:

„Бюро парткалектыву, разгледзяўшы справу майстра цэху Сілоўскага, пастанаўляе...“ Напісаў?

1. Абвінавачваньне т. Сілоўскага ў кулацкім пахаджэньні і ў неэтычных паводзінах у сябе на кватэры, у чым ён вінавāціўся згодна заявак у ячэйку і даведкі сельсавету, лічыць несапраўднымі, а паклёпнымі, накіраванымі да скомпромэтаваньня яго, як стараннага і дысцыплінаванага рабочага...“ Далей...

2. Абавязаць ячэйку цэху стварыць для таварыша Сілоўскага адпаведныя ўмовы ў цэху, каб як найхутчэй рэабілітаваць яго ў ваччу рабочых“. Напісаў?..

3. Прапанаваць ячэйцы цэху павясьці дасьледваньне ў адносінах выяўленьня асобаў Шчупака і Кубла і паставіць гэта на пасяджэньні бюро ячэйкі“... Далей...

4. Лічучы зьяўленьне т. Сілоўскага ў цэх у п'яным выглядзе, скуткам чаго было папсаваньне дваццаці пар цiскоў кавалём Косічам, і за грубае парушэньне ім працоўнае дысцыпліны і антырабочы ўчынак, зьняць яго з пасады майстра і накіраваць на працу пры станку...“ Напісаў?..

5. Прыняць на ўвагу прызнаньне т. Сілоўскім адмечанага ў папярэднім пункце ўчынку за грубую сваю памылку і абяцаньне пакрыць яе сваёй далейшай стараннай працай.

6. Гэту пастанову апублікаваць у заводзкім друку".

— Маюцца дадаткі? Зьмены?.. Няма!.. Квіта... Таварыш Шмуклер давядзе гэта да ведама таварыша Сілоўскага... Паседжаньне зачынена...

Нахімовіч падняўся з мейсца; ён заўважыў па настрою таварышоў, што вырашэньне справы Сілоўскага задаволіла іх усіх і ніхто не скажа, што яна вырашана неправідлова.

VI

Піня Шмуклер крануў да выйсьця з думкамі пра рэалізацыю ўскладзеных бюро колектыву на цэхавую ячэйку прапаноў:

„Гэта павінна як найхутчэй быць праведзена ў жыцьцё", заверыў ён самога сябе, пераступаючы парог.

„Шчупак і Кубел"...

— На адну хвілінку, таварыш Шмуклер!

Перад ім стаяў Сілоўскі. Яго твар выяўляў у сабе вострае жаданьне даведацца аб выніках разгляду яго справы.

— Пройдам,—пазваў Сілоўскага Шмуклер.

— Можна павіншаваць!—праказаў ён да Хвядоса, калі яны вышлі з памяшканьня.

— Што пастанавілі?—узрадавана запытаў Сілоўскі.

— Пастанова, фактычна, адказвае цалкам маім думкам і зусім правідловая. Ты астаешся на заводзе, ячэйка стварае для твае працы належныя ўмовы, справа аб тваіх „прыяцелях" Шчупаку і Кублу ідзе на дасьледваньне... А...

Сілоўскі абярнуўся ў напруджаную ўвагу і, не прараніўшы ні гуку чакаў апошняга сказу ад Піні.

— Але... сазнайся сам, што ты сам вінават у вядомых табе выпадках... з майстра здымаюць...

Шмуклер паглядзеў на Сілоўскага: зьняцьце з пасады майстра заварушыла яго верхнюю губу ды конвульсыўным цёкам прабегла па целу. Сілоўскі пасьпяшыў загладзіць свае хваляваньне прызнаньнем правідловасьці пастановы бюро колектыва.

— Так, я сам вінават, прызнаюся... Я казаў пра гэта і таварышу Пракладу, казаў і таварышу Нахімовічу... і ад цябе не хаваў... Здурнеў ды годзе... Слабасьць, браце... Не хваліць-жа, я думаю, за падобныя ўчынкі?... Нне-э... Каб і не пастанавіла гэтага бюро, я-б прасіў яго сам аслабаненьня ад майстра... Хоць можа майстрам і большую карысьць я прынёс-бы для заводу, ды ня можна аставацца... Папрацую з молатам... Сілы ёсьць і ёсьць ахвота... Ды я адзнаю, таварыш Шмуклер, для каго і на вошта я працую... не за пасаду, згодзішся, думаю... Здэцца-ж усім было відаць.

— Гэта мы адмецілі... Адмецілі і тваю работу і штурмавы тroхдзёньнік... На адносіны да цябе нельга скардзіцца... Ĭ цэхячэйка і цэхкамітэт і партколектыў і заводакіраўніцтва...

— Дзякую... я прыкладу ўсе патугі, каб гэты адносіны захаваць на заўсёды і захаваю...

Сілоўскі прачувана сказаў гэта, уклаўшы ў свае завярэньне моцную сілу пераканаьня...

— Але не ўтрымацца мне ад крыўды на „прыяцеляў", як ты кажа-ш... У іх ліку, бачыш, апынуўся і старшыня сельсавету... Го-а, хто ў нашай вёсцы ня ведае Карпука Рэпкі. Гэта ня рэпка, а самая чамярлівая рэдзька. Ён з многіх вачэй выціснуў сьлёзы і дабраўся да мяне, але не ўдалося... Заплакаў сам... Сукін сын, прахвост ён гэтакі, колькі ён паўхоўваў зямлі ў фальбаркоўцаў за хабары мёдам і салам, гарэлкаю ды грашыма... Панскі падлізьнік, ён хітрасьцю ды ашуканствам уцёрся ў даверра і каламуціў вёску цэлы год, шкодзячы савецкай уладзе... Зараз—скончана... Накіравалі раба божага за сваімі фальбаркоўскімі хаўрусьнікамі... Няхай і там ім пасабляе...

Каля варот у майстэрню Сілоўскі абарваў гутарку і спыніўся.

— Бывай! Заўтра выходжу на раняшнюю зьмену... Ведаеш Піня, муляецца ўпартая думка, каб гэта з'арганізаваць комуну...

— Пагаворым пра гэта... Бывай!

Шмуклер схаваўся за варотамі, з якіх шугнула струмень жалезных гукаў, праводзіўшых Сілоўскага да выхаду з заводзкага дзядзінцу...

## VII

У цаху пачыналася вытворчая нарада. На апарожняным ад продукцыі мейсцы, між горнаў з аднаго боку і пнеўматычнага молату—з другога, таўпілася да паўсотні кавалёў і малатабойцаў. Рэшта была яшчэ раськідана часткаю пры карытах з вадою, часткаю ў адзявальні, а двое, у тым ліку Сілоўскі, уладжвалі ў кастры вытвараныя ціскі.

Старшыня цэхкому, Паскрабеня, карыстаючыся гэтым, пільна падводзіў ітогі атрыманымі ад майстра і планавіка лічбамі. Ён хутка вадзіў агрызкам карандаша па зашмальцаваным, самятым лісьце паперы і разпо-разу сабе пад нос пераказваў суму колькасных паказьнікаў продукцыі і яе вагу. Ітогі аказаліся вартымі, каб імі праілюстраваць дадатныя тэмпы апошняга двухтыднёвіка, а пасьля пахваліцца імі партколектыву.

Паскрабеня не ўстрымаўся, каб не засьмяяцца ад задавальненьня і бадзёра адвярнуўся ад паперы:

— Даволі вам там марудзіць. Пачынаем!.. Я думаю, што старшынёю хай будзе таварыш Шмуклер?..

— Згодны-і!

Праз некалькі хвілін старшыня адчыніў нараду і даў слова для дакладу Паскрабеню.

Пасьля кароткага ўступу, прамоўца жывымі лічбамі, яскравымі прыкладамі абмаляваў становішча з выкананьнем пляну за апошнюю двухтыднёўку. Яно выявілася перад сходам дакладам старшыні цэхкому ў наступным: З пачатку месяцу ў цэху вызначыўся невялікі прарыў, які, аднак, рэзка дысгармонаваў з вынікамі штурмавога трохдзёньніка. К палове месяца адставаньне набыло досыць значнага памеру. Прышлося ізноў практыкаваць мобілізацыю грамадзкіх сродкаў, каб ня выйсьці з месяцу з прарывам. У рабочых, як і заўсюды, знашлося даных на тое, саб залатаць недаданае ў час прарыву, тым ня меней сама практыка частых ужыўкаў надзвычайных мер ня зусім цікавая ды пажаданая рэч. Цэх павінен увайсьці ў належнае русло і паказаць пролетарскія тэмпы бальшавіцкае працы. Усе дадзеныя на гэта ў наяўнасьці, і значная большасьць сьвядомых кавалёў даюць бліскучы прыклад адданых рабочых. Асабліва заслугоўваюць пахвальбы брыгада Хвядоса Сілоўскага і комуна Міхася Атосы. У апошні дэкаднік, дзякуючы іхняй сапраўды ўдарнай працы ўдалося падцягнуць процант выкананьня да васьмідзесяці. Не наглядайся лодырнічаньня з боку невялікае часткі рабочых, можна было-б нагнаць на ўсе сто процантаў. Але гэта частка таварышоў яшчэ не асазнала свайго доўгу перад пастаўленымі заводу заданьнямі... Разгільдзяйства, спазьненьні і манкіраваньні працаю з боку невялікае праслойкі адсталых рабочых працягаюць сядзець балячкамі на пераважна здаровым цэхавым організьме. Гэты зьявішчы трэба вымясьці жалезнаю мяцёлкаю, каб вылячыць, нарэшце, цэх і накіраваць яго па здароваму шляху. Гэта залежыць ад усяе цэхавай грамадзкасьці.

Нарэшце, Паскрабеня выказаў упэўненасьць, што наступная вытворчая нарада будзе мець справу са стопроцантным выкананьнем плянавага заданьня: увесь цэх падцягнецца да ўзроўню брыгады Сілоўскага і комуны Атосы.

У тым-жа напрамку, яшчэ глыбей закранаючы балючыя мясьціны ў цэхавым становішчы, казаў сакратар ячэйкі, Піня Шмуклер. Як і Паскрабеня, ён адмеціў у сваім выступленьні перадавікоў ударнікаў і абурыўся на тых, хто ўсё яшчэ не пакідаў насіць прозьвішча адсталых. Пасланыя іх адрас упікі былі даволі вострымі і калючымі.

Але іх поўнасьцю адобрыў у сваім выступленьні і Міхась Атоса. Ён выказаў зьдзіўленьне таму, што ў цэху маюцца людзі, якія астаюцца ў баку ад брыгад і комун. Яму ня верыцца, каб тут абмяжоўвалася простым не сузнаньнем.

„Папярэднія прамоўцы цалкам правы, жорстка вінавацячы некаторых знарочыстых зрыўшчыкаў пляну. Гэта нарада кладзе мяжу між мінулым і наступным: той, хто ня ўзьнімецца да ўяўленьня ўсёй адказнасьці бягучага моманту, той астанецца ў кандыдатах у адсунутыя з дарогі пераможнага набліжэньня да соцыялізму. Гэта трэба зразумець

і ўсім, як аднаму, перарадзіцца ў мужных ваяк на працоўным фронце соцыяліотычнага будаўніцтва“.

Атосу падтрымала пяцера ўдарнікаў з яго і з Сілоўскага брыгад. Кожны з іх у сваім кароткім, але моцным, як удары молата, слове даводзіў, што ім балюча канстатаваць наяўнасьць сваіх таварышоў, на якіх кладзецца віна ў невыкананьні пляну. Гэта вада, калі не хвароба, і яны—ударнікі, спадзяюцца, што гэту хваробу магчыма будзе вылячыць, можа і без нажа хірурга.

Апошнім казаў Сілоўскі. Яго слухалі з найбольшаю цікавасьцю. Бач зусім нядаўна яго імя малолася на дзесятках языкоў, і былі некаторыя з іх даволі злыбяднымі. Які-бы ён ня быў добрым чалавекам і харошым майстрам, знаходзіліся адзінкі, што для іх не пасавала яго дабрата. У скутку вынікла „справа Сілоўскага“, распапулярызаваўшы чалавека з адмоўнага боку. Тыя, каму ён не ўгадзіў цешыліся і пасьміхоўваліся ў кулак. Але яны прыгадалі: ячэйка цэху і партколектыў заводу сваімі пастановамі стукнулі па руках язычнікаў...

А сёньня выступленьні падмацавалі пастановы парторганаў жывымі прыкладамі. Дэкаднік як найлепш выявіў сутнасьць Сілоўскага, як адданага змагаьніка на фронце будаўніцтва соцыялізму. Усе маглі праканацца, што яму незалежна ад званьня, дорага праца. Званьне майстра, страчанае ім па сваёй віне, хутка замянілася ганаровым званьнем брыгадзіра, старасты ўдарнае брыгады. І, стаўшы брыгадзірам, Сілоўскі паранейшаму першым прыходзіў у цэх і апошнім яго пакідаў. У яго руках кіпіць работа і якасьць гэтае работы выклікае задавольненьне ў майстра і ў дырэктара заводу. Лічба выкананьня дзень-у-дзень супадае з заданьнем, а то і перавышае яго дзьвюма-трыма і пяцьцю парамі цiскоў. Чаму?

„Бо я трымаюся нашага бальшавіцкага лёзунгу: рабіць, як для сябе, як для нас усіх, рабіць з адзнаньнем, што ты будуеш вялікую справу—соцыялізм. Цяпер рабочы клас гаспадар краіны і ад яго аднаго залежыць ператварыць яе ў соцыялістычную. Нас партыя вядзе да комунізму, зрабем-жа ўсё, каб ён хутчэй быў ажыцьцёўлены. Хныканьне, гультайства, лодырнічаньне і нядбайнасьць, таварышы—гэта наш люты вораг. Гэта зло, з якім трэба бязьлітасна змагацца. Наш абавязак абярнуць усю нашу працу ў нясупыннае ўдарніцтва... Асабовыя крыўданьні, эгоістычныя капрызы, мяшчанская ўразьлівасьць, мусяць ганьбавацца намі... Перад намі, як маяк, сьвеціць агульная, адзіная справа—комунізм. Для яго мы жывем і за яго мы памрэм“...

Аплёдысмэнты да сотні чалавек былі адказнаю кляцьбою на нечаканую па сваёй моцы і захапленьню прамову Сілоўскага.

Гэта кляцьба заўразілася ў аднагалосна прынятай рэзалюцыі нарады, дзе было адведзена мейсца для адзначэньня прыкладнай брыгады Сілоўскага і яе старасты.

## VIII

Удары молату, што спрытна вагаўся ў руках Сілоўскага, заглушылі паданае яму Шмуклерам запытаньне. Сакратару ячэйкі прышлося пераказаць яго, каб стараста брыгады адхіліўся ад недаробленых ціскоў і адгукнуўся:

— Справа ідзе. Брыгада к абеду выканала сваю норму. Заўтрашні дзень цалкам пойдзе на перавыкананьне.

У вачох Сілоўскага гарэлі агеньчыкі ўцэхі. Ён ганарліва паглядзеў на стос вышаўшай з яго опэрацыі продукцыі і пахваліўся:

— Толькі ў пары ціскоў невялічкія з'яны—гэта з двухсоцен штук. Ды то, вось, я іх выпраўлю, як сьлед...

— Хвала табе за гэта... Я бачу, што напаткаўшая цябе прыкрасьць хутка выпарaецца... Нічога, Хвядос! І ячэйка і парткодектыў ацанілі твае стараньні... А ведаў-бы што рабочая грамадзкасьць кажа?

— А што я дрэннага каму зрабіў?

— Ня ў тым рэч... Дрэннае зрабіў. Справа ў тым, што зараз ты ў большай павазе, як-то было перад гэтым прыкрым выпадкам. Твая брыгада ўзорнаю не для аднаго нашага цэху, а ва ўсім заводзе... Нічога, браце, наступнае ў нашых руках... Ты паглядзі, як прыціхлі твае „прыяцелі“: як мышы пад мятлою. Ды там ім ня знойдзецца схову. Клубок разбэрхваецца... Ты, бок, насьценку праглядаў? Заўважыў, як здорава стукнулі па Шчупаку? Па некалькі разоў перачытваюць рэбяты...

— Так, гэта здорава вышла... Не здарма, калі я прайду паміж Кубла—адварочваецца.

— Паскудны тып... Я думаю, што яму хутка ня бываць у цэху... Ад яго можна чакаць усякае пакасьці... Куры!

Шмуклер працягнуў Сілоўскаму цыгарку, а другою прыткнуў да распаленых губак ціскоў.

— Першы раз ад раніцы закурваю... Як уцягнешся ў работу, ніяк хвілінкі ня вырвеш вольнае. І паказаць трэба, і трэба даглядзець, і ня хочацца астацца ад таварышоў. Ах, прыемна зацягнуцца...

— Я рад, ведаеш, за цябе... Ну, добра-а: прыходзь а восьмай на сход...

Шмуклер павярнуўся, каб ісці.

— Таварыш Піня,—спыніў яго Сілоўскі:—на адно слаўцо.

Сакратар абярнуўся да Хвядоса.

— Слухай, браток, я доўга думаў над тым і, нарэшце, рашыў табе сказаць: можа-б, калі з-за мяне толькі грозіць Шчупаку ды Кублу штолечы няпрыемнас вельмі, то, ня варта было-б таго рабіць... Мне думаецца, што пасьля ўсяго, што было, яны пераменяцца... Што-ж, ёсьцека яшчэ сярод нашага брата людзі адсталыя, з брыдкімі прызвычайкамі і

не таварыскімі паводзінамі... Але гэта часовая, прыносная... Хлопцы пераварацца... Як ты думаеш?

— Ячэйка, зразумела, усё ўлічыць, толькі...

Сілоўскі заўважыў на Шмукляравым твары гіранічны сьмяшок.

— ...толькі, Хвядос, ты не сантымэнтальнічай. Адкінь хрыстова ўсёпрашчэнства—гэта не гармануе з настроем ударніка-каваля.

Шмуклер атрымаў-бы ад Сілоўскага поўную згоду з яго думкамі, якія былі, не бяз таварыскай укоры, ды падбегшы да іх Атоса папярашкодзіў гэтаму.

Атоса, узбуджаны ад ахапіўшай яго лісьлівасьці, трымаў у руках разгорненым сьвежы нумар шматтыражкі і тыкаў пальцам у чорны малюнак.

— Можна прывітаць цябе, Хвядос. Во-а, глядзі!

Сілоўскі і Шмуклер падтрымалі апушчаную ў руках Атосы палавінку газэты і ўпёрліся вачыма ў радок портрэтаў ударнікаў. Першым зьлева, у кепцы з закасанымі рукамі сядзеў Сілоўскі, яго суседам ішоў Атоса, а далей—ударнікі іншых цэхаў. Пад портрэтамі буйнымі літарамі было надрукована:

„Лепшыя ўдарнікі заводу „Сьцяг“—змаганцы за соцыялістычнае будаўніцтва, прыстаўленыя да прэміяў за старанную працу па выкананьню пяцігодкі“.

— Ці чуў?

Шмуклер паглядзеў на Сілоўскага, які маўчаў, не знаходзячы слоў, каб выказаць ахапіўшае яго пачуцьцё.

Атоса-ж, не адгінаючыся ад газэты, цьвёрда вымавіў за дваіх:

— Мы гэта сумеем апраўдаць!

3-X—31 г.
Менск.

# ТЭМА КОЛГАСНАГА БУДАЎНІЦТВА Ў АСЬВЯТЛЕНЬНІ РОЗНЫХ КЛЯСАВЫХ НАПРАМКАЎ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Проф. М. М. Піотуховіч**

Мэтай данага нарысу зьяўляецца паказаць, як істотная і актуальнейшая тэма сучаснасьці—соцыялістычная рэконструкцыя вёскі—па-рознаму праламляецца ў розных літаратурна-клясавых стылях беларускай літаратуры.

Савецкая Беларусь зараз перажывае агромністы творчы ўздым гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Вялізарнейшыя посьпехі дасягнуты ў галіне індустрыялізацыі краіны і колектывізацыі ў ёй сельскай гаспадаркі. Беларусь, якая за часы царызму па сваёй адсталасьці была, па словах аднаго географа, найбольш „змрочнай плямай на мапе Эўропы“, зараз, дзякуючы Кастрычніцкай рэволюцыі, асьвятляецца яскравым прожэктарам соцыялізму... Нацыянал-дэмократы ў легендарнай прошласьці Беларусі шукалі нейкіх міфічных волатаў; у рэальнай былі сучаснасьці дзейнічае сапраўдны волат—пролетарыят і яго авангард комуністычная партыя. Магутнай энэргіяй гэтага не міфічнага, але рэальнага волату калісьці „змрочная пляма“ пераварачаецца ў краіну сьвятла і перамог. У нас растуць такія буйныя прадпрыемствы, як Асінбуд, Гомсельмаш, Бабруйскі комбінат і г. д. Адбываюцца агромністыя зрухі і ў вёсцы. Прадзедаўская саха-крывуля ўступае сваё месца трактару; праводзіцца рэконструкцыя сельскай гаспадаркі; асноўныя масы сялянства ў саюзе з бядняцтвам, пад кіраўніцтвам пролетарыяту і комуністычнай партыі, рашуча ўступілі на шлях соцыялізму; на шлях колгаснага будаўніцтва; у сучасны момант 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР увайшлі ў колгасы. У поўным сэнсе ажыцьцяўляюцца словы Леніна, сказаныя ім яшчэ ў 1918 годзе: „Перад трудящимся крестьянством сама жизнь ставит теперь в упор вопрос о переходе к общественной обработке земли, как единственному средству выйти из той темноты, забитости и подавленности, на которую всю массу деревенского населения осуждал капитализм“... (XV, 552)[1]). У процасе разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, гаворачы далейшымі словамі Леніна, „все яснее становится, что выходом действительно прочным, приближающим массу крестьян к культурной жизни, действительно ставящим их на положение, равное с другими гражданами—этим выходом является только общественная обработка земли“ (там же, 555).

[1]) Цытаты з Леніна ўсюды падаюцца па першым выд. яго твораў.

Па меры гаспадарчага росту шпаркімі, сапраўды бальшавіцкімі тэмпамі адбываецца і рост культурнага будаўніцтва ў БССР. У прошласьці клясычная краіна ваўкулакаў, лесавікоў і іншых нязьбежных змрочных спадарожнікаў гаспадарчага прымітывізму і культурнай цемры, Беларусь зараз пераварачаецца ў краіну суцэльнай пісьменнасьці: ваўкулакі і лесавікі адыходзяць у нябыт. Узьняцьце тэхнікі сельскай гаспадаркі, густая сетка навучальных устаноў розных тыпаў, якая нязьменна расьце ў нас, расьсейваюць гэтыя змрочныя зданьні мінулага. Беларусь зараз налічвае 23 вышэйшыя навучальныя ўстановы і 39 навукова-дасьледчых інстытуцый; расьце і шырыцца культура нацыянальная па форме і соцыялістычная па зьмесьце.

Ва ўмовах такога шпаркага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва магутнымі крокамі ідзе наперад і сучасная беларуская літаратура. Адбіваючы дынаміку напружанай клясавай барацьбы, гэта літаратура прадстаўлена рознымі клясавымі стылямі. Усё больш і больш мацнее пролетарскі напрамак літаратуры, шырока разьвіваецца літаратура сялянская, пераключаючыся на рэйкі калгасна-пролетарскага напрамку; адбываецца пэўная дыфэрэнцыяцыя ў шэрагах папутнікаў: частка іх пераходзіць у рады саюзьнікаў; адначасна выяўляецца пэўная варожая рэакцыя на соцыялістычнае будаўніцтва ў літаратуры буржуазнай плыні.

У кожным з даных напрамкаў знайшлі сваё адлюстраваньне процэсы колгаснага будаўніцтва. Гэтае адлюстраваньне мы прасочым, паступова ідучы ад плыні буржуазнай і дробнабуржуазнай, прадоўжаючы разглядам плыні сялянскай і канчаючы пролетарскім напрамкам: нам думаецца, што больш мэтазгодным будзе спачатку паказаць, як *ня трэба* абмалёўваць колгаснае будаўніцтва, і закончыць паказам таго, як *трэба* падыходзіць да данай тэмы.

Кіруючыся такім прынцыпам пабудовы нашага нарысу, спынімся ў першую чаргу на адпаведных творах Зарэцкага, зразумела, не таму, што адносная ўдзельная вага гэтых твораў найбольш значная, а выключна таму, што ў іх найбольш яскрава выяўляюцца негатыўныя паказчыкі.

Зарэцкі ў сваёй папярэдняй творчасьці на этапе абвостранай клясавай барацьбы быў яскравым прадстаўніком буржуазнай плыні ў беларускай літаратуры. У яго мастацкай прозе знайшлі сабе адлюстраваньне найбольш характарныя рысы буржуазнай накіраванасьці: упадніцкі романтызм, культ моцнай асобы, падмена клясавай барацьбы барацьбой чалавека з прыродай, стаўка на індывідуальную фэрмерскую гаспадарку, контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм—вось асноўныя ідэёвыя компонэнты, з якіх складваецца ў цэлым буржуазна-кулацкая тканка яго твораў. „Лісты ад знаёмага“, і фрагмэнты „Вясна 1930 году“ ўяўляюць сабой пэўны зваротны момант у яго творчасьці; гэта свайго роду „зьмена вех“. Зарэцкі ў даных творах прабуе падыйсьці да сучаснасьці, разабрацца ў тых агромністых процэсах соцыялістычнага будаўніцтва, якія

разгарнаюцца на нашых вачох. Але і тут „мёртвы хапае жывога“. Актуальная тэматыка не знайшла тут сабе належачага ідэолёгічнага праламленьня.

У абодвух творах Зарэцкага шырокае месца займаюць лірычныя выказваньні, якія прадстаўляюць сабой ключ да ўразуменьня агульнай накіраванасьці твораў. У адным месцы знаёмы, ад асобы якога вядуцца лісты, гавора аб сабе: „Я романтык... Мы ўсе романтыкі—усе, хто імкнецца да новага шчасьця, хто з захапленьнем і верай глядзіць наперад“ (стар. 23). У другім месцы той-жа знаёмы піша: „Адчуваньне сюжэту... ёсьць органічная ўласьцівасьць творчае індывідуальнасьці“. У гэтых словах Зарэцкі па сутнасьці дае сваю автохарактарыстыку. І сам пісьменьнік да тэмы колектывізацыі падыходзіць з романтычнай меркай эстэцкай сузярцальнасьці; для яго соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі ў першую чаргу матэрыял для „адчуваньня сужэту“. Замест таго, каб паказаць процэсы рэконструкцыі ва ўсёй іх складанасьці, замест таго, каб ускрыць рухаючыя сілы гэтых процэсаў, Зарэцкі, коўзаючыся па паверхні сучаснасьці, пераварачаецца ў лаўца трапнага сужэту. І ў гэтай „лавітве“ аўтар ня грэбуе ніякай здабычай: у сваю пісьменьніцкую кайстру ён у адну кучу звальвае і пошлы абывательскі анэкдот, і мяшчанскую мэлёдраму, і поўныя эпічнай велічы малюнкі героікі нашых дзён. Не выпадкова вуснамі таго-ж знаёмага Зарэцкі кідае фразу: „Наша сучаснасьць у сваім надворным выяўленьні гэта *парадоксальны* (курсіў наш.—*М. П.*) сплёт самых рознастайных эпох і станаў, гэта непарыўная чарада дзівосных контрастаў“ (74 стар.). У дробнабуржуазнай сьвядомасьці Зарэцкага, такім чынам, савецкая рэчаіснасьць ставіцца не як дыялектычнае адзінства процілегласьцяй, а як... парадокс. Імкнучыся раскрыць гэты „парадокс“, у першую чаргу шукаючы вострых сужэтных сітуацый, пісьменьнік з прагавітасьцю пераржоўвае розныя хадзячыя жарцікі адносна сучаснасьці. Напрыклад, у яго сяляне, праслухаўшы прамову агітатара, у якой былі ўжыты мэтафорычныя выразы аб выпальваньні калёным жалезам сорнай травы з поля і аб закалачваньні ў грабыўскіх, хто стаіць на дарозе, разумеюць мэтафоры ў простым сэнсе і задаюць недарэчныя пытаньні аб выпальваньні пачатак на целе і аб закалачваньні ў труну колгасьнікаў (стар. 50). Гэты танны жарцік аб малаверагодным агітатары, які ў Зарэцкага ў нашы дні на вёсцы гаворыць у стылю Кірылы Тураўскага альбо Анікея Галятоўскага, зьмяняецца вясёлым каламбурам аб тым, як у пастанове ЦВК слова „аднавіць“ было прынята за „адмовіць“, і якія смутныя вынікі вышлі з гэтай блытаніны. Клясавая барацьба на вёсцы ў сьвядомасьці пісьменьніка праламляецца пераважна як доўгая чарада мяшчанскіх мэлёдрам. У яго брыгадзір ад сваёй працы на вёсцы выносіць толькі нізку жахлівых гісторый, дзе бацька ў мэтах дасадзіць свайму сыну—колгасьніку канчае самагубствам, жонка навальваецца з тапаром на чалавека, дачка кідае бацькаўскі дом і г. д. Гэтыя жахлі-

выя гісторыі пісьменьнік суправаждае вядомым рэфрэнам: „Чым ня *сюжэты* для добрых бытавых апавяданьняў? А колькі асобных псыхолёгічных момантаў, поўных глыбокага драматызму (стар. 25)! У сваіх шуканьнях вострых сюжэтаў Зарэцкі ўдаецца нават у містыфікацыю: на гэткай глебе ў фрагмэнтах вырастае „новэля з жахамі ды крыміналам“, дзе мы маем жудасна крывавы пачатак: начная цішыня, рыдлёўка, закапваньне трупаў у зямлю, але з далейшага расчыняецца, што гэта быў толькі „труп“... падсьвінка.

Так хадульная романтыка, у сьвятле якой праламляецца ў Зарэцкага тэма колектывізацыі, помстуе за сябе. Замест дыялектычнага паказу сапраўднай рэчаіснасьці ў яе тыповых праявах даецца эмпірычная зарысоўка выпадковых і нават малаверагодных зьяў; замест аналізу складаных процэсаў будаўніцтва выступае толькі падкрэсьленае шуканьне вострых сюжэтаў: там дзе шугае полымя рэволюцыі, у Зарэцкага мігацяць бэнгальскія агні танных романтычных эфэктаў.

Пісьменьнік як-бы адчувае ўсю ілюзорнасьць гэтых агнёў, і ён імкнецца ўзмацніць іх траскучым фэйервэркам рыторычных дэклямацый аб шкоднасьці прыватнай уласнасьці, аб нявольніцтве ўласьніка і г. д. Але гэта толькі дэклямацыі. Калі пісьменьнік прабуе ў мастацкіх вобразах паказаць ломку псыхолёгіі гэтага ўласьніка, пераробку яго ў новага чалавека, то атрымліваецца тая-ж романтыка, якая выражаецца на гэты раз у форме глянцоўкі рэчаіснасьці. Малюнак жыцьця комуны і вобразы комунараў у Зарэцкага гэта суцэльная ідылія, ад якой павявае супакоем і згоднасьцю: там, дзе ў сапраўднасьці адыгрываецца вострая сутычка розных клясавых мэтаімкненьняў, дробнабуржуазны пісьменьнік бачыць нібы-та ўжо дасягнуты ідэал гармоніі, і комунары пад пяром Зарэцкага пераварачаюцца ў самаздаволеных мяшчан, якія „почылі на лаўрах“ сытасьці і іншых здабытых матэрыяльных посьпехаў. Зразумела, у комуне няма эксплёататараў і эксплёатаваных, але тут клясавая барацьба прымае іншыя формы, яна выяўляецца ў форме барацьбы паміж сялянскім індывідуалізмам і пролетарскім колектывізмам, на рэйкі якога пераходзяць пад кіраўніцтвам рабочай клясы ў процэсе разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва агромністыя масы сялянства, але гэты пераход далёка не такі гладкі і роўны, як малююць яго буржуазныя і дробнабуржуазныя глянцоўшчыкі рэчаіснасьці і ў тым ліку Зарэцкі. „Социализм есть уничтожение классов“, гаварыў Ленін. „Чтобы уничтожить классы—прадоўжае Ленін,—надо во-первых, свергнуть помещиков и капиталистов. Эту часть задачи мы выполнили, но это только часть и при том не самая трудная. Чтобы уничтожить классы, надо, во-вторых, уничтожить разницу между рабочим и крестьянином, сделать всех работниками. Ее (эту задачу) можно решить только организационной перестройкой всего общественного хозяйства, переходом от единичного, обособленного мелкого товарного хозяйства к общественному крупному хозяйству“ (XVI, 351—352). Ленін яскрава ставіць

см. стр. 155.

тут задачу, неадрыўную ад соцыялізму—задачу перапрабкі селяніна ў рабочага; ён намячае і конкрэтныя шляхі вырашэньня гэтай задачы праз колектывізацыю сельскай гаспадаркі. Але гэты процэс зьніштажэньня розьніцы паміж рабочым і селянінам—процэс, поўны супярэчнасьцяй, ломкі і барацьбы. Усяго гэтага глянцоўшчыкі рэчаіснасьці ня бачаць, яны становяцца ў позу хадульных одапісцаў там, дзе патрэбны дыялектычны падыход да рэчаіснасьці, пазнаньне яе як супярэчлівага процэсу. Для Зарэцкага ў комуне ўжо адразу існуе толькі „атмосфэра зладнага і сьветлага жыцьця“ (стар. 75) без усялякіх плям. Паміж тым „искусство рабочего класса, — зазначаецца ў лісьце сакратарыяту РАПП'у,—должно быть не мыльным пузырем и не пустой пеной на поверхности воды,—оно должно характеризоваться величайшей трезвостью познания, сочетаемой с величайшей страстностью борьбы за цели пролетарской рэволюции“ (стар. 43). У Зарэцкага ўласьне мы і маем альбо мыльныя бурбалкі романтыкі, альбо „пустую пену“, сабраную ў форме анэкдоту ці авантурнага сюжэту на паверхні сучаснасьці. Робячы выпад супроць савецкага друку, абвінавачваючы яго ў тым, што ў ім нібыта пішаць „адмысловай схэмай, матэматычнай формулай, сухім сылёгізмам“ (стар. 37), пісьменьнік сам дае вымучаную схэму замест жывога паказу.

Мыльныя бурбалкі ў Зарэцкага зьяўляюцца ня толькі ў форме дробнабуржуазнай глянцоўкі рэчаіснасьці, яны выступаюць у яго ў выглядзе „пранай“ эротыкі. Прырода скрозь падаецца ў пісьменьніка ў эротычных вобразах. У яго зямля гарыць родавым палам“... угрэтая шчырай ласкай веснавога сонца ляжала ў магутнай млосьці зямля, пыхала глыбокім жарам свайго многаплоднага улоньня. У далях курылася сінявая смага,—сонная павалока на вачох разамлелай зямлі.

Сонца горача песьціла пышнае цела зямлі, ласкатала яго тонкімі цурачкамі жаваранкавых сьпеваў.

Зямля гарэла родавым палам, зямля ў магутнай млосьці чакала свайго запладненьня“ (стар. 97).

Такім чынам, у астатніх творах Зарэцкага—„Лісты ад знаёмага“ і „Вясна 1930 году“—мы маем працяг дзьвёх істотных ліній папярэднай творчасьці пісьменьніка: і тут у наяўнасьці яго сусальная романтыка і згушчаны біолёгізм, уцёкі ў прыроду. Абедзьве гэтыя адзнакі па сутнасьці прадстаўляюць сабой уцёкі дробнага буржуа ў куток ілюзорнага харaства, у свой суб'ектыўны сьвет; гэта ёсьць выяўленьне эстэцкай сузярцальнасьці. Але ў даных творах ёсьць і пэўныя новыя якасьці дадатнага парадку. Пісьменьнік парывае з сваёй ідэалізацыяй моцнай асобы, ён ужо прыглядаецца да грамады, да яе жыцьця, імкнецца паказаць моц не індывідуума, а колектыва; яшчэ больш рашуча парывае Зарэцкі з сваёй устаноўкай на фэрмерскую гаспадарку, паказваючы, на якое нявольніцтва засуджае чалавека прывязанасьць да ўласнасьці, да свайго кута. Імкнецца ён адпіхнуцца і ад нацыянал-дэмократызму, але гэта

адпіхваньне параждае ў яго процілеглую крайнасьць. У нядаўнім прошлым палкі абаронца беларускай самабытнасьці і нацыяналістычнай абмежаванасьці Зарэцкі на гэты раз выступае з полярным лёзунгам... „Чурацца свайго“. Падаўшы вядомыя словы: „любеце чужое, але і свайго ня чурайцеся“, пісьменьнік рашуча протэстуе: „Ня праўда!.. Мана!.. Чурайцеся!.. Чурайцеся!.. Чурайцеся, калі хочаце жыць, калі хочаце ісьці наперад (стар. 46). Перад намі зноў „маятнікападобныя завіханьні“ дробнага буржуа.

Такім чынам, можна зрабіць агульны вывад: у творах „Лісты ад знаёмага“ і „Вясна 1930 году“ Зарэцкі яшчэ на раздарожжы,—ён перастае ўжо быць ідэолёгам беларускага кулацтва, робіць тут пераацэнку сваіх былых імкненьняў, але робіць гэта не да канца, не рашуча, выступаючы ў постаці тыповага дробнабуржуазнага пісьменьніка з яго палоўчатасьцю і хісткасьцю.

Вельмі блізкім да Зарэцкага ў асьвятленьні тэмы колектывізацыі зьяўляецца Зьмітрок Бядуля.

Адбіваючы ідэолёгічную няўстойлівасьць мяшчанства, творчы шлях Бядулі поўны зігзагаў і хістаньняў. Эстэцтва і містыка, адрыў ад соцыяльнай рэчаіснасьці, уцёкі яе ў галіну бязгрунтоўнай упадніцкай романтыкі, абстрактны псыхолёгізм, асабліва ў распрацоўцы цэнтральнага вобразу мастака—інтуітывіста—вось найбольш характарныя рысы творчага профілю Бядулі на этапе буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі. На этапе пролетарскай рэволюцыі у пэрыод грамадзянскай вайны Бядуля змыкаецца з контррэволюцыйнай беларускай буржуазіяй, адкрыта выступаючы з творамі, якія былі прасякнуты глыбокай нянавісьцю да пролетарыяту і савецкай улады. У аднаўленчы пэрыод пісьменьнік „мяняе вехі“, імкнучыся стаць у шэрагі папутнікаў і адбіваючы ў сваіх творах надзеі на буржуазнае перараджэньне савецкай улады. У астатнія часы ў процэсе разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва Бядуля прабуе наблізіцца да сучаснасьці, але ў гэтых спробах яго вельмі часта заўважаюцца зрывы ў бок буржуазнай ідэолёгіі.

Спробу тэматычна наблізіцца да сучаснасьці прадстаўляе сабой і яго твор „Нязвычайныя гісторыі“, дзе распрацоўваецца тэма клясавай барацьбы, якая адыгрываецца навокал колектывізацыі. Але і для Бядулі, як і для Зарэцкага, колектывізацыя пераважна матэрыял для пабудовы вострага сюжэту. Гэта тэма падаецца ў яго ў сьвятле романтычнага прыгодніцтва. Захапіўшыся прыгодніцтвам, пісьменьнік падае сапраўды „нязвычайныя гісторыі“, дзе ўваскрашаюцца ўсе нязьменныя атрыбуты авантурнага жанру. Тут мы бачым і пераапрананьне кулака, і нават грыміроўку яго (прыклейваньне чорнай барады), і фальшывае прытворства, з мэтай захаваць сваё інкогніто. Як заўвычай і ў іншых творах, Бядуля і ў сваіх „Нязвычайных гісторыях“ шырока ўжывае мэтод экспэрымэнту. Утвараючы штучную рэчаіснасьць, ён выдумляе сітуацыі, досыць эфэктныя ў сужэтных адносінах, але пазбаўленыя ўсякай бытавой

і псыхолёгічнай верагоднасьці: у Бядулі кулак—Рыгор, прыклеіўшы чорную бараду, пад відам пілігрыму ідзе агітаваць супроць колгасаў якраз у хату свайго суседа Сымона. У крытычны для сябе момант, калі празрыстае яго інкогніто раскрываецца, і прыклееная чорная барада засталася ў жмені Сымона „нібы пучок чорнага сіўца“, уяўны пілігрым енчыць: „Без вазэліну ня можна было зрываць—баліць“. Але зразумела, справа, як і зазвычай у авантурных творах, канчаецца боксам.

Так у Бядулі напружаная клясавая барацьба нашых дзён выступае ў форме таннай пінкертонаўшчыны; няздольны паказаць сапраўдны твар клясавага ворага дробнабуржуазны романтык, уцякаючы ад рэчаіснасьці, прападносіць нам кулака ў выглядзе мэлёдраматычнага „зладзея“; замест рэальнага малюнку, які павінен быў-бы абуджаць пачуцьці нянавісьці да ворага, атрымліваецца лубок, які зьбіваецца на лёгкі фарс.

І Зарэцкага, і Бядулю ў іх паказе колектывізацыі яднае адна рыса: нахіл да павярхоўнай романтыкі, да стварэньня эфэктных сцэн. Абодва пісьменьнікі імкнуцца выкарыстаць агромністыя процэсы рэконструкцыі сельскай гаспадаркі выключна як фон, каторы павінен даць „адчуваньне сужэту“; у абодвых аўтароў яскрава выступае творчы мэтод суб'ектыўнага ідэалізму. Замест раскрыцьця об'ектыўнай рэчаіснасьці ў яе дыялектычным адзінстве процілегласьцяй у таго і другога даецца ілюзія рэчаіснасьці; гэта ілюзія ні што іншае, як романтычнае ператварэньне сапраўднасьці пад пяром дробнага буржуа, які няздольны органічна падыйсьці да сучаснасьці і падмяняе яе сапраўдны паказ сваімі фантазмамі.

Бясспрэчна больш глыбокі падыход да тэмы колектывізацыі мы маем у творах Якуба Коласа і Кузьмы Чорнага.

Якуб Колас (Тарас Гушча) у данай тэме прысьвяціў досыць вялікі твор „Адшчапенец“ (Полымя, 1930 г., № XI—XII; 1931 г., №№ II, III, IV, V). У сваім творы пісьменьнік імкнецца паказаць тыя псыхолёгічныя зрухі, якія адбываюцца ў асноўных масах сялянства ў процэсе разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва. Пераробка серадняка з абмежаванага індывідуаліста ў новага чалавека з псыхолёгіяй колектывіста—гэта асноўны ідэёвы стрыжань аповесьці Коласа. Навокал гэтага стрыжаня групуецца досыць шырокая сыстэма пэрсонажаў, разгорнутая ў данай аповесьці. Пісьменьнік паказвае нам розныя пласты вёскі (серадняцтва, бядняцтва, кулацтва), накідвае фігуры рабочых, прабуе абрысаваць колгас і яго працаўнікоў.

Цэнтральны пэрсонаж твору серадняк Пракоп Дубяга. Даны вобраз абмаляваны ў дынамічным разрэзе; разгорнуты розныя этапы ў яго разьвіцьці. Першы этап—Пракоп—глыбокі індывідуаліст, прывязаны да свайго кута, да ўласнасьці; з вялікай эмоцыянальнасьцю перадана, напр., аўтарам „сялянская лірыка“ заміласаньня да цялушкі, шкадаваньне, што гэта цялушка хутка пойдзе ў колгас і г. д. Пракоп спачатку вораг колгаснага будаўніцтва, для яго колгас—паншчына. Другі этап—Пракоп

знаходзіцца на раздарожжы: у яго сям'і і дзеці і нават жонка за колектывізацыю; у вёсцы агромністая цяга да колектыўнай гаспадаркі; Пракоп адчувае сваю глыбокую ізоляванасьць ад грамады, ён сапраўдны „адшчапенец". У фабульным пляне аповесьці гэта асноўная сітуацыя адшчапенцтва Пракопа падана ў форме разгорнутага мотыву вандраваньня: Пракоп вандруе па вёсках, потым у якасьці самазванага дэлегата наведвае колгас „Хвалі рэволюцыі"; знаёмства з колгасным жыцьцём спыняе яго завіханьні і пачынае трэці этап у яго разьвіцьці. Пракоп робіцца гарачым прыхільнікам колектывізацыі і варочаецца ў родную вёску ўжо другім, абноўленым чалавекам,—варачаецца, па яго ўласных словах, як-бы з таго сьвету.

З даных трох этапаў Колас з глыбокай пранікліваасьцю, з уласьцівай яму тонкасьцю псыхолёгічнага аналізу здужыў абмаляваць першыя два. Тут Колас у сваёй прывычнай сфэры; тут ён прадоўжвае асноўную лінію сваёй папярэдняй творчасьці, абмалёўваючы звычайную псыхолёгію селяніна з яе прывязанасьцю да роднага кута, да сваёй уласнасьці. Перад намі як-бы зноў паўстае Міхал з „Новай Зямлі" з яго думамі і мэтаімкненьнямі, сконцэнтраванымі навокал уласнай сядзібы. Але Якуб Колас, здужаўшы з усёй мастацкай праканаўчасьцю давесьці свайго Міхала да хутара, ня змог разгарнуць ва ўсёй шырыні процэс пераробкі селяніна ў новага чалавека—колгасьніка. Перараджэньне Пракопа ў Коласа не атрымала глыбокага ўзгрунтаваньня і мотывіроўкі. Бясспрэчна, асноўныя масы сялянства ў сучасны момант рашуча павярнулі на шлях колектывізацыі, але гэты паварот ёсьць складаны процэс. „Среднее крестьянство,—гавора Ленін,—это такой класс, который колеблется. Он отчасти собственник, отчасти труженник. Он не эксплоатирует других представителей трудящихся. Ему десятилетиями приходилось с величайшим трудом отстаивать свое положение, он испытал на себе эксплоатацию помещиков и капиталистов, он вынес все, и в то-же время он собственник" (XVI, 147). У іншым месцы Ленін зазначае: „Дело переработки мелкого земледельца, переработка всей его психологии и навыков есть дело, требующее поколений. Решить этот вопрос по отношению к мелкому земледельцу, оздоровить, так сказать, всю его психологию может только материальная база, тэхника, применение тракторов и машин в земледелии в массовом масштабе, электрификации в массовом масштабе" (XVIII[1], 139). Колас даны процэс пераробкі серадняка надзвычайна ўпрашчае, нізводзіць яго да бледай схэмы. Ён не паказвае асноўных рухаючых сіл гэтага процэсу. Пракоп перараджаецца толькі таму, што ён на працягу некалькіх дзён пабыў у колгасе ў якасьці староньняга назіральніка. Там, дзе ў сапраўднасьці дзейнічаюць складаныя сілы, у Коласа атрымліваецца ўсё надзвычайна проста: серадняк Пракоп сытна паабедаў у колгасе, пасьля абеду смачна адпачыў, па словах аўтара, „пагладзіў тугі, як барабан, жывот", пазнаёміўся з шчасьлівым і сытым жыцьцём колгасьніка, папарыўся ў добрай лазьні,

пап'янстваваў у кулака разам з мяккацелым рабочым падкулачнікам і... зьвярнуўся ў вёску ўжо ў якасьці агітатара на карысьць колгаснага будаўніцтва: з Саўла зрабіўся Паўлам. Усё адбываецца надзвычай лёгка і гладка, паказваецца па сутнасьці адзін вагар пераробкі серадняка— „тугі, як барабан, жывот". У Коласа, такім чынам, абрысавана пэўная дыялектыка душы Пракопа, але гэта дыялектыка замкнёная; няўскрыта яе датэрмінаванасьць соцыяльна-клясавымі прычынамі.

Нязмогшы раскрыць процэс перараджэньня серадняка ва ўсёй яго паўнаце, Колас яшчэ вялікшыя хібы дапускае ў абмалёўцы іншых пластоў вёскі, у першую чаргу ў паказе кулакоў. „Кулаки,—кажа Ленін,— самые зверские, самые грубые, самые дикие эксплоататары, не раз восстанавливавшие в истории других стран власть помещиков, царей, попов, капиталистов... Эти кровопийцы,—прадоўжвае ён,—нажились на народной нужде во время войны, они скопили тысячи и сотни тысяч денег, повышая цены на хлеб и другие продукты: эти пауки жирели насчет разоренных войною крестьян, насчет голодных рабочих. Эти пиявки пили кровь трудящихся, богатея тем больше, чем больше голодал рабочий в городах и на фабриках. Эти вампиры подбирали и подбирают себе в руки помещичьи земли, они снова и снова кабалят бедных крестьян" (XX[2], 257).

Мы бачым, што, калі Ленін піша аб кулаках, то кожны радок у яго прасякнуты пачуцьцём вялікай ненавісьці да іх, як клясавых ворагаў. Характарнай зьяўляецца тут ужо сама па сабе вельмі мастацкая кумуляцыя эпітэтаў (кровопийцы, пиявки, пауки, вампиры); у Леніна, што ні слова, то ўдар мяча па ворагу. Кожны пісьменьнік павінен вучыцца гэтай вялікай нянавісьці да эксплёататараў, якая выцякала з вялікай любві да эксплёатаваных. У Коласа, наадварот, замест гэтай нянавісьці заўважаецца ў адносінах да кулакоў шкодная дробнабуржуазная мяккацеласьць. Пісьменьнік не паказвае нам кулака, як эксплёататара і драпежніка; ён рысуе нам прыстасаваньне кулака да новых умоў і асабліва падрабязна разгортвае „пакуты" яго ў часе раскулачваньня. У гэтых цэнах раскулачваньня ў Коласа адчуваюцца некаторыя налёты шкоднага гуманізму ў перавальскім дусе: залішне многа задушэўна-эмоцыянальнай лірыкі ўносіць пісьменьнік у гэтыя сцэны. У вусны кулака ён укладвае мэлёдраматычныя прамовы, якія рысуюць нам вобраз нібыта несправядліва пакрыўджанага „пакутніка". Праўда, Колас рысуе нам выбух помсты азьвярэлага „пакутніка", але і тут ён зноў зьбіваецца на мэлёдраму: кулак сякерай раніць свайго ўласнага сына.

Ухіл у бок шкоднага гуманізму тым больш яскрава тут выступае, што ў паказе вобразаў беднякоў пісьменьнік дапускае ўжо поўнае скажэньне рэчаіснасьці, якое мяжуецца з паклёпам на бедняка. Гаворачы аб тым, што зьнікненьне Пракопа выклікала панылы настрой у вёсцы, пісьменьнік дадае ад сябе: „Нават той „энтузіязм", з якім група затонцаў на чале з Марынічам і Нічыпаруком, першым падпісаўшым сваёю

лёгкаю рукою протокол аб пераходзе ў колектыўную гаспадарку, ужо гатова была рынуцца на заможнікаў кулакоў, каб паліквідаваць іх трохі, нават гэты „энтузіязм“ разьвеяўся, як дымок, выпушчаны ў паветра з марынічавай піпкі. Ды яно і зразумела: гэты „энтузіязм“ быў выклікаты неўсьведамленьнем інтарэсаў клясавых груп сялянства і ня ідэй колектывізацыі. Ён проста быў вынікам жаданьня кучкі затонскіх аматараў пагрэць свае рукі ў кулацкай шэрсьці“ („Полымя“, 1931, № 4, стар. 19—20).

Так у абмалёўцы Якуба Коласа першымі падпісваюць протокол аб пераходзе ў колгас звычайныя крымінальнікі, якія імкнуцца толькі парабаваць кулацкае дабро. Бядняцкі слой сялянства, на які галоўным чынам, апіраецца савецкая ўлада ў справе рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, Коласам проста скідваецца з рахункаў гісторыі.

Калі ў паказе бядняцтва пісьменьнік дапускае скажэньне рэчаіснасьці, то ў зарысоўках пролетарыяту ў яго атрымліваюцца крычачыя фарбы маламастацкага плякату. У аповесьці „Адшчапенец“ эпізодычна выступае фігура 25-тысячніка рабочага Брыля. Гэты вобраз—узор схэматычнасьці, якая зварачае нас да горшых прыкладаў „Кузницы“. Ужо па сваіх знадворных якасьцях Брыль—нейкі добры „віцязь“: ён „шырокаплечы, худашчавы і жылісты, *нібы зьбіты з чыгуну*“; погляд у яго абавязкова „сьмелы і ўпэўнены“; зразумела, і кулакі ён мае „*здаравенныя, мазолістыя*“. (Курсіў наш. *М. П.*). Па ўнутраных якасьцях Брыль перш за ўсё добры прамоўца, які „вельмі прыгожа і трапна даў малюнак жыцьця ў колектыве“. Гэта адна прамова і разьвязвае ў Коласа справу колектывізацыі ў вёсцы, робячы вялікі пералом у сялян. Сваёй прамовай рабочы адразу пераконвае іх у неабходнасьці ўступіць у колектыўную гаспадарку. Уся фальш такога падыходу да рэчаіснасьці раскрываецца ў наступных словах Леніна: „Нужно крестьянина убеждать и нужно убеждать практически. Словами они не дадут себя убедить и прекрасно сделают, что не дадут. Плохо было-бы, если-бы они давали себя убеждать одним прочтением декретов и агитационными листками. Если-бы так можно было переделать экономическую жизнь, вся эта переделка не стоила-бы ломаного гроша“ (XVI, 152).

Яшчэ больш бледым і схэматычным зьяўляецца ў Коласа малюнак колгасу „Хвалі рэволюцыі“. Гэты малюнак—сантымэнтальная ідылія, вытрыманая ў акварэльных танох сапраўднага „стиллевен“ („ціхае жыцьцё“). У колгасе, які рысуе Колас, няма барацьбы, колгасьнікі людзі, „в пределе земном, свершившие все земное“, і цяпер яны жывуць супакойным жыцьцём поўным сытасьці і задавальненьня. Падобна да Зарэцкага, Колас у сваім малюнку колгасу пабівае рэкорд глянцоўкі рэчаіснасьці: у яго ўсюды ў колгасе чыстата і парадак; сталоўка больш подобна на гарадзкі растаран; кватэры калгасьнікаў з трох пакояў; тут пануе патрыярхальная гасьціннасьць і г. д. Перад намі ва ўсіх сваіх характарных адзнаках разгортваецца дробнабуржуазнае падфарбоўваньне

рэчаіснасьці. РАПП у сваёй пастанове аб прамове Сталіна і задачах пролетарскай літаратуры правільна зазначае, што дробнабуржуазнае падфарбоўваньне сапраўднасьці выцякае па сутнасьці з недавер'я да пролетарскай рэчаіснасьці.

Партыя і савецкая ўлада ўжываюць рашучыя мерапрыемствы да падняцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, шырока выкарыстоўваючы для гэтага сродкі пропаганды праз друк. Колас даныя сродкі робіць об'ектам сваёй захаванай гіроніі. „Цяпер,—кажа пісьменьнік,—сьвінушнікаў няма, а ёсьць сьвінарнікі—такі вынік павароту тварам да сьвіньні: сама сьвіньня падвышана ў сваёй соцыяльнай кваліфікацыі, і яе далікатна называюць „сьвінаматкай". І зьнімаюць з яе фотографіі. Адпаведна з гэтай пашанай да асобы сьвіньні зьвернута ўвага і на яе памяшканьне... Справядлівасьць вымагае, прадоўжвае Колас, зьмяніць і.. назву кныр больш адпаведным імем—сьвінататка" („Полымя", 1931, III, стар 9).

Такім чынам, Якуб Колас рух колектывізацыі асьвятляе з пункту погляду дробнабуржуазнай ідэолёгіі: ён ня здольны ўскрыць процэс пераробкі селяніна, паказаць асноўныя рухаючыя сілы гэтага процэсу. Яго творчы мэтод—гэта мэтод об'ектыўнага ідэалізму. У творы „Адшчапенец", як мы бачылі, пакінута ўнутраная дыялектыка псыхолёгіі серадняка, але гэта дыялектыка паказана як мэтофізычная, абстрактная данасьць, не расчынена абумоўленасьць яе соцыяльна-клясавымі момантамі. Няздольны ўсьвядоміць законамернасьць адбываючыхся процэсаў соцыялістычнай рэконструкцыі Якуб Колас не пайшоў далей павярхоўнай эмпірыкі, якая прыводзіць яго да скажэньня рэчаіснасьці ў форме згушчэньня то адмоўных, то выключна дадатных рысаў.

Выяўляючы пэўныя тэндэнцыі ў бок шкоднага гуманізму, даючы дробнабуржуазнае падфарбоўваньне рэчаіснасьці, Якуб Колас тым самым паказвае, што пачаўшыся ў яго пералом у бок набліжэньня да пролетарыяту вельмі тармозіцца глыбокімі пачаткамі сялянскага індывідуалізму, якія канчальна яшчэ ня выкарчаваны з ідэолёгіі пісьменьніка, поўнае вызваленьне ад якіх прадстаўляе бліжэйшую задачу яго творчасьці. На даным этапе аповесьць „Адшчапенец" сьведчыць аб пэўных зрухах у накіраванасьці Коласа, але зрух не даведзены да канца.

Больш значныя зрухі заўважаюцца ў творчасьці Кузьмы Чорнага, найбольш таленавітага прадстаўніка папутніцкай плыні ў беларускай літаратуры. Да самага астатняга часу творчасьць Чорнага вярцелася ў зачараваным коле біолёгізму. Жыцьцё для пісьменьніка—гэта бязупынны біолёгічны паток, ігра цёмных інстынктаў, якія параждаюць пер жываньні, нязьменныя ў сваёй сутнасьці. Пісьменьнік дапускае, што думкі ідэолёгія можа мяняцца, але нутро жыцьця, свайго роду Берсонаўскі élan vital (жыцьцёвы парыў) прадстаўляе сабой стабільную велічыню. У адным з твораў Чорнага (роман „Зямля") асноўны пэрсонаж Алесь (сакратар партыйнай ячэйкі), захоплены моцным пачуцьцём каханьня,

развважае: „Гэта, мусіць, і дзед мой і бацька пераживаў. Думаў іначай, а пераживаў, мусіць, нешто падобнае. Усё падобна“. Антытэза „перажываньняў“ і „думак“—лейт-мотыў творчасьці Чорнага, які параждае ў яго рэакцыйныя ўстаноўкі. Напрыклад, названы роман „Зямля“, як і некаторыя іншыя творы пісьменьніка грунтуецца на тэй скрозь фальшывай ідэі, што рэволюцыя нібыта бездапаможна зьмяніць жыцьцё ў яго глыбінях: сяляне, знаходзячыся ва ўладзе зямлі, і пасьля рэволюцыі таксама, як і раней, кахаюцца, пераживаюць мукі зайздрасьці, паміраюць і нараджаюцца, пакутуюць і радуюцца зьмянілася нібыта толькі паверхня жыцьця, але не яго існасьць, якая засталася быццам такой-жа шэрай і аднастайнай.

З аднабокага біолёгізму ў Чорнага выцякае цягаценьне яго да распрацоўкі так званых „адвечных“ тэм (каханьне, сьмерць, матчын інстынкт і г. д.) у самых астатніх творах (роман „Ідзі“, аповесьць „Браты“ і інш.) пісьменьнік прабуе выйсьці з гэтага зачараванага кола біолёгічнай концэпцыі рэчаіснасьці. Найбольш рашучую спробу яго ў гэткім напрамку прадстаўляе аповесьць „Вясна“. Даны твор досыць шырока разгортвае антытэзу старога і новага ў жыцьці вёскі. Гэта антытэза паказана ў рознастайных плянах.

Адпаведна рэчаіснасьці Чорны накідвае агульны малюнак жыцьця вёскі ў прошлым. „У сьвятыя дні сядзелі пад прызбамі, у будзённыя—душыліся работаю; раджалі дзяцей, дзеці гэтыя рассьпіхалі бульбаю жываты і гадаваліся самапасам, бацькі пілі, людзелі за две капейкі на кірмашох, кожны мог пахваліцца, што трымае бога ў сэрцы, а бог іх усіх таксама за гэта не адкідаў: даваў ім права жыць у гнілых хатах, у анучах, у гразі і хваробах аж да самае сьмерці“ (стар. 64). Гэтаму змрочнаму прошламу Кузьма Чорны проціпастаўляе гаспадарчы і культурны ўздым вёскі ў сучаснасьці. Там, у прошласьці, абмежаваны індывідуалізм, прывязанасьць да свайго кута, тут рашучы зрух у бок колектывізму. Але стары сьвет, паказвае пісьменьнік, уступае сваё месца новаму ў схватках напружанай барацьбы. Адсюль у Кузьмы Чорнага ў яго аповесьці антытэза старога і новага разгорнута ў пляне барацьбы ў сучаснай вёсцы двух пачаткаў: індывідуалістычнага і колектывістычнага.

Напружанае змаганьне, як абрысоўвае аўтар, мае месца ва ўсіх галінах вясковага жыцьця. У галіне гаспадаркі і вытворчых процэсаў земляробскай працы, з аднаго боку, прымітыўная работа на вузкіх загонах, цапляньне за межы, бясконцыя спрэчкі і сваркі з-за паўсажня поплаву (гл. разьдзел „Дзядзькі касіць зьбіраюцца“), з другога боку, уздымная, поўная творчага энтузіязму праца на колгаскіх палёх, дзе замест аднастайнага пануканьня сіўкі чуецца бадзёры шум трактара... У галіне сям'і аповесьць Чорнага таксама абрысоўвае цяжкую колізыю старога і новага: сям'я, пабудаваная на дэспотызьме, на правох уласнасьці, раскідваецца і ўступае сваё месца новай сям'і, якая грунтуецца на

супольных інтарэсах і запатрабаваньнях пачуцьця. Пісьменьнік рысуе вобраз новай жанчыны ў вёсцы, якая вызваляецца з-пад улады традыцый, якой сям'я патрэбна для паўнаты яе шчасьця, каб жыць радасна, па-чалавецку. Досыць шырока накідваючы гэтую сутычку старога і новага ў галіне сельскай вытворчасьці і ў галіне сямейнага жыцьця, Чорны з асаблівай праніклівасьцю імкнецца ў сваёй аповесьці прасачыць барацьбу двух пачаткаў у самай псыхолёгіі селяніна. Яго твор, як і твор Якуба Коласа, у першую чаргу ставіць проблему пераробкі селяніна, нараджэньня ў вёсцы новага чалавека з іншым складам псыхікі, чым раней. Але ў Чорнага адсутнічае ідылічна-сузярцальны падыход да колектыўнай гаспадаркі, які ёсьць у Коласа. Чорны ўглядае супярэчлівыя тэндэнцыі ня толькі ў шэрагах аднаасобнікаў, але таксама і ў саўгасе і ў колгасе. У асноўным гэты паказ барацьбы супярэчлівых тэндэнцый даецца адпаведна соцыяльнай рэчаіснасьці. „Конечно,—гавора тав. Сталін,—в колхозах имеются противоречия. Конечно, в колхозах имеются индивидуалистические и даже кулацкие пережитки, которые еще не отпали, но которые обязательно должны отпасть с течением времени, по мере укрепления колхозов, по мере их машинизации". Высьвятляючы далей розьніцу паміж клясавай барацьбой у колгасах і па-за межах іх, тав. Сталін зазначае, што ў колгасах „дело идет о борьбе между членами колхозов, из коих одни не освободились еще от индивидуалистических и кулацких пережитков и пытаются использовать некоторое неравенство в колхозах в свою выгоду, а другие желают изгнать из колхозов эти пережитки и это неравенство" (прамова на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў). Чорны імкнецца паказаць гэтыя „индивидуалистические и кулацкие пережитки" і ў колгасах і ў саўгасах. Вось, напрыклад, у яго аповесьці выступае фігура загадчыка саўгасу: гэты загадчык і ў кіраўніцтва даручаным яму прадпрыемствам уносіць звычкі дробнага гаспадарчыка; для яго на першым пляне стаіць „сваё", потым „чужое"; у яго адсутнічае пачуцьцё солідарнасьці, гатоўнасьць прыйсьці на дапамогу суседняму колгасу толькі таму, што гэта „чужы" колгас. І ў абгаварэньні данага ўчынку і колгасьнікі і адзінаасобнікі рэзка раскалваюцца на два лягеры. Чорны мастацкі паказвае ў гэтым расколе „змаганьне" дзьвёх душ селяніна.

Але індывідуалізм і колектывізм, сутычка якіх адбываецца ў сучаснай вёсцы, у Чорнага не бяруцца як абстракцыі: носьбітамі іх у творы пісьменьніка зьяўляюцца пэўныя соцыяльна-клясавыя сілы, якія змагаюцца паміж сабой. У якасьці галоўнай апоры колектывізацыі ў аповесьці „Вясна" малюецца батрацкі і бядняцкі пласты вёскі. Чорным паданы праніклівы, шырока задуманы вобраз батрака Костуся, змаганьніка за колектывізацыю. Моманты соцыяльнай біографіі і клясавай практыкі Костуся высьвятляюць нам яго рэволюцыйна-пролетарскую накіраванасьць. Раньняе сіроцтва пасьля сьмерці маткі ад непасільнай працы ў кулака, уласная работа ва ўмовах эксплёатацыі і зьдзекаў у таго-ж кулака,

удзел у партызанскім руху ў пэрыод грамадзянскай вайны, актыўная і творчая дзейнасьць на савецкіх пасадах—усё гэта азначыла ў Костуся загартаванасьць рэволюцыянэра, паглыбіла яго сьвядомасьць, дало яму моцную зарадку энтузіязму ў правядзеньні колектывізацыі. У гэтай справе Костусь выступае супроць лявацкіх загібаў райвыканкомаўца, які ганяецца толькі за колькаснымі паказчыкамі колектывізацыі; Костусь упарта і настойліва перамагае індывідуалістычную абмежаванасьць загадчыка саўгасу, ня падае духам пры перашкодах і няўдачах, умеючы іх зламіць. Навокал Костуся групуецца найбольш актыўная частка беднаты і моладзі (Мікола, Міхалючок, Ілюк і інш.).

Беднаце процівастаіць у аповесьці „Вясна“ кулацкі слой. У творы раскрываецца эксплёататарская існасьць кулака, хоць, праўда, тут Чорны не пазбавіўся пэўнага схэматызму, абрысоўваючы „вусатага дзядзьку“ з Зялёнага Камня. Больш трапным зьяўляецца вобраз Банадыся з яга шкодніцтвам і затаенай нянавісьцю да колектывізацыі.

Досыць шырока пададзены ў аповесьці серадняцкі пласт вёскі. Мы бачым пэўную дыфэрэнцыяцыю сярод гэтага пласту. З аднаго боку, выступаюць прыхільнікі старога, носьбіты традыцый, якія моцна трымаюцца за свой кавалак зямлі, за сваю індывідуальную гаспадарку (Рыгор, Яўхім, Стрыгун); з другога боку, і ў гэтым асяродзьдзі, у працэсе соцыялістычнага будаўніцтва, выхоўваецца новы чалавек, актыўны змагаьнік за соцыялізм. Рост асобы серадняка Сымона Мікуця—адзін з галоўных момантаў твора. Мікуць, як і іншыя серадзякі, чапляецца спачатку за ўласнасьць, але паступова ў ім адбываецца „зжываньне“ ранейшага, вякамі прышчэпленага; ён усьведамляе правільнасьць шляхоў колектывізацыі, крытычна адносіцца да старога сямейнага ладу, да коснага быцьця старой вёскі. У постаці Сымона Мікуця Чорны асабліва яскрава паказвае, як у сучаснай вёсцы перамагае сьвежая і маладая рунь новага, як гэта вёска вызваляецца з-пад мёртвых сіл дробнай уласнасьці і пераключаецца на шлях соцыялізму.

Але да абрысоўкі працэсу гэтага пераключэньня пісьменьнік падыходзіць эмпірычна, ён не раскрывае данага працэсу ва ўсёй яго складанасьці і соцыяльна-клясавай абумоўленасьці. Па-першае, Чорны зусім не паказвае нам кіруючай ролі пролетарыяту. Праўда, ён ставіць проблему ўзаемаадносін горада і вёскі, але толькі ставіць, а не разьвязвае яе. У аповесьці абегла паказаны ўплыў сельскагаспадарчай выстаўкі на сялян і моцнае ўражаньне, атрыманае імі ад агляду заводу ў Менску. Зразумела, і тое і другое ня ёсьць яшчэ выяўленьне кіруючай ролі пролетарыяту. Дыктатура пролетарыяту перш за ўсё адыгрывае ролю організатара. „Тут перед нами,—кажа Ленін,—выступает значение диктатуры пролетариата в новом свете: пролетариат должен выступить в роли организатора. Мы должны организовать хозяйство на новых основах“ (XVII, стар. 102). Кузьма Чорны, як і іншыя дробнабуржуазныя пісьменьнікі, зусім не паказвае гэтай організатарскай ролі пролетарыяту

ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі. У яго сялянскае бядняцтва выступае як адзіна-актыўны і самастойны рухач колектывізацыі. Дапускаючы такое скажэньне ў расстаноўцы клясавых сіл, змазваючы па сутнасьці проблему гораду і вёскі, Кузьма Чорны сапраўдныя рухаючыя сілы колектывізацыі падменьвае ўяўнымі вялічынямі; момант соцыяльны ў значнай ступені ён падменьвае момантам біолёгічным. У аповесьці „Вясна" вельмі пуката выяўлена лінія сямейна-бытавых адносін, у якасьці аднаго з вагароў колектывізацыі падаецца... каханьне: Тэкля і Галена ідуць у колгас ня ў моц сваёй клясавай сьвядомасьці, а пад уплывам пачуцьця каханьня.

Так і ў даным творы пісьменьнік яшчэ ня зусім здужаў вызваліцца з кляшчоў адмежаванага біолёгізму. І на астатнім этапе сваёй творчасьці Кузьма Чорны выстаўляе інстынкт як асноўны штурхач паводзін чалавека, галоўную спружыну яго стыхійных учынкаў. І тут для пісьменьніка характэрна разьдзяленьне „перажываньняў" і „думак", проціпастаўленьне „сэрца" і „розума". Напрыклад, аўтар малюе пачуцьцё каханьня Міколы да Тэклі, як нешта стыхійнае і раптоўнае, што зараджаецца спачатку толькі ў глыбінях „сэрца" бяз удзелу „розуму". „Рыгор як прывёз сабе маладую жонку Тэклю,—зазначае пісьменьнік,—дык Мікалай адразу як убачыў яе, так і засмактаў яго смутак за сэрца. А пасьля, як выявілася, што робіцца ў Рыгоравай хаце, дык на дапамогу сэрцу прышоў розум" (стар. 54).

Творчы мэтод Кузьмы Чорнага на даным этапе ёсьць мэтод эклектыкі. Імкнучыся ў некаторых момантах наблізіцца да позыцый дыялектычнага матэрыялізму, пісьменьнік у большасьці выпадкаў усё-ж застаецца на сваіх старых позыцыях фізыолёгічнага матэрыялізму, ён шукае стымуляў чыннасьці чалавека пераважна ў інстынкце, а не ў соцыяльнай рэчаіснасьці. Чалавек бярэцца ў яго не як дыялектычнае адзінства процілегласьцяў, а звычайна як полярнасьць дабра альбо зла. Адсюль у Чорнага ў яго аповесьці „Вясна" вельмі згушчанае разьмеркаваньне сьвятла і ценяў, завіханьне паміж схэматыкай і крайняй індывідуалізацыі ў паказе пэрсонажаў. Напрыклад, батрак Костусь падаецца ў яго як увасабленьне толькі дадатных якасьцяй. Адзінаасобнікі, наадварот,—выключна адмоўных рысаў, прычым у падборы гэтых рысаў пануе эмпірыка, не адрыўная ад мэтоду фізыолёгічнага матэрыялізму, а гэта эмпірыка ў сваю чаргу прыводзіць да крайняй індывідуалізацыі пэрсонажаў: у якасьці лейт-мотыва пры характарыстыцы адзінаасобнікаў бярущца адзнакі ня істотныя для іх соцыяльна-клясавай прыроды. Напрыклад, для Яўхіма Стрыгуна такім лейт-мотывам зьяўляюцца слязьлівыя енкі і скаргі, для Рыгора—п'янства і калатня ў сям'і. У адным выпадку варта прыпомніць тое выказваньне адносна крайняй індывідуалізацыі пэрсонажаў, якое зрабіў Энгельс з поваду драмы Ласаля „Франц фон Зикинген". „Ваш Зикинген,—пісаў Энгельс Ласалю,—безусловно на верном пути: главные действующие лица являются представителями определенных классов и направлений, тем самым определенных идей своего времени и находят

свои мотивы не в мелких индивидуальных вождлениях, но именно в историческом течении, которое их несет... С полным основанием вы выступаете против господствующего сейчас скверного индивидуализирования, которое сводится ко всякога рода мелким выдумкам...“ У аповесьці Кузьмы Чорнага ёсьць нахіл да гэтага „скверного индивидуализирования“, ён у якасьці мотыву ўчынкаў сваіх пэрсонажаў выстаўляе не „гістарычную плынь“ эпохі, а якраз дробныя асабовыя імкненьні (каханьне, сквапнасьць, задзёрыстасьць і г. д.).

Мэтод эмпірыкі выяўляецца ў творы Кузьмы Чорнага ня толькі ў композыцыі вобразаў, але і ў самай сужэтнай пабудове аповесьці. Ня аўтар валодае фактамі рэчаіснасьці, а наадварот, гэтыя факты ім валодаюць і падпарадкаваюць яго сабе: пісьменьнік ня здольны разабрацца ў масе сваіх назіраньняў, адрозьніць у іх галоўнае і істотнае ад дробнага і выпадковага. Адсюль у яго перакрыжаваньне ломаных сужэтных ліній, эскізна-імпрэсыяніцкая манера, шматлікія адхіленьні, зьмяшчэньне плянаў сужэтнага і фабульнага, рэзкае і вельмі частае ўклініваньне момантаў прошласьці ў сучаснасьці і г. д., што робіць аповесьць „Вясна“ творам затруднёным, ня лёгкім для ўспрыяцьця і, значыць, не разьлічаным на шырокія масы, ня літаратурных гурманаў формы. У гэтых адносінах ёсьць істотная розьніца паміж Якубам Коласам і Кузьмой Чорным: калі ў першага пераважаюць простыя і яскрава выяўленыя сужэтныя лініі, то ў другога, як мы бачылі, выступаюць пераважна лініі ломаныя і перакрыжаваныя. Зразумела, што ў практыцы школьнага выкладаньня засваеньне вучнямі аповесьці „Вясна“ прадстаўляе вялікія цяжкасьці: вучнам ня лёгка разабрацца ў тых „прысмаках“ формы, якія прападнsocіць Чорны ў сваім творы.

Паданымі вышэй творамі ня вычэрпваюцца водгукі дробнай буржуазіі на колгаснае будаўніцтва. Але ўсе іншыя творы параўнальна мала чаго новага даюць у адносінах да разабраных аўтараў. Варта адзначыць, яшчэ толькі адзін твор: апавяданьне Гартнага „Зялёны шум“ („Полымя“, 1930, нумары 3 і 4).

Гартны ў сваім падыходзе да процэсаў колектывізацыі пабівае рэкорд схэматычнасьці. Калі ў іншых папутнікаў мы бачылі трохчленную схэму (бядняк цалкам за колектывізацыю, серадняк завіхаецца і кулак супроць колгасаў), то ў Гартнага гэтая схэма пераварачаецца ў двучлен: у яго выпадае нават завіханьне серадняка, і партыец Якаў у аповесьці піша пераможную „рэляцыю“: „Настрой у бядняцка-серадняцкага пласта *цалкам* за колектывізацыю... (курсіў наш.—*М. П.*). Бядняцка-серадняцкаму сялянству стала вочавіднай поўная нясталасьць і хісткасьць яго сучаснай формы зямлякарыстаньня...“ („Полымя“, 1930, № 3, стар. 32). У пачатку 1930 году, калі пісалася апавяданьне Цішкі Гартнага, у такім сьвятле імкнуліся прадставіць вёску левыя загібшчыкі, у якіх было „галавакружэньне ад посьпехаў“, і па якіх моцна ўдарыў т. Сталін у сваім вядомым артыкуле. Паміж тым Гартны свайго Якава, гэтага за-

гібшчыка і глянцоўшчыка рэчаіснасьці, скрозь малюе як нібыта дасканалы ўзор партыйнай вытрыманасьці і непахіснасьці; ён акружае яго нават арэолам геройскага пакутніка за ідэю колектывізацыі.

Углядаючы толькі ў кулацтве адзіную сілу выступаючую супроць соцыялізму, пісьменьнік самы процэс колектывізацыі малюе як *парадную ўрачыстасьць*—так! ні больш ні менш, як урачыстасьць. Досыць было аднэй прамовы гарадзкога агітатара і ў селян... „нядаўнія намеры перайсьці да пасёлкаў — зьніклі ў бурлівым разьбегу соцыялістычнага будаўніцтва“ (там-жа, стар. 21). „У чым-жа справа? прадоўжвае—аўтар:—колгасы, колгасы, колгасы...

На *прасьветленых ухмылкамі* тварах, у астоеных думках, у цьвёрдай апоры аголеных ног і выстраеных пры дварох булакоўцаў—гусьцілася *палкая* вера ў новае жыцьцё...

Пра яго звоняць *пераможную* песьню каморніцкія ланцугі.

Гаманліваю чарадой бягуць сярэдзінай вёскі булакоўскія дзеці і *ўрачыста* высьпеўваюць—Колгас!—там-жа, стар. 23. (Курсіў наш—*М. П.*).

Так Цішка Гартны, рысуючы гэтыя *ўрачыстыя* сьпевы нават дзяцей у гонар колектывізацыі, зьбіваецца на тон біблійнай легенды: „из уст младенцеў и ссущих совершил хвалу“.

Ня толькі дзеці, але і сама прырода падзяляе ў Гартнага гэтае *ўрачыстае* лікаваньне з поваду колектывізацыі. „У кожнай наглядной рэчы, гавора аўтар, вызначаліся яскравыя абразы новых формаў булакоўскага жыцьця. Гэтым абагуленым жыцьцём дыхала з пажатых ніў, з адчыненых гумен, з блізкага ды далёкага лесу, з пасьпелых аўсоў ды ячмянёў. Пра яго лепеталі лісьці на садовых дрэвах і скрыгіталі зачыненыя вешніцы“ („Полымя“, 1930, IV, стар. 20). У іншым месцы пісьменьнік прадоўжае той-жа мотыў лікаваньня прыроды: „Яскравае сонца ў раскіданах нітках белага павуціньня і рэзвае гонкае цвырканьне скакунцоў—пяюць *літаньні* маладой сябрыні. *Урачыстаючы* шчыгел,—пакроўнік над жоўтаю грушаю вабіць зайздросны х дзяцей. І жоўтыя пукі гвазьдзікі ў руках галасістых дзяўчат асалоджваюць салодкім пахам бабіна лета“ (там-жа, стар. 36. Курсіў наш—*М. П.*).

Зразумела, тут выяўляецца свайго рода licentia poetica (поэтычная вольнасьць), але ўжо варт увагі самы характар гэтай „вольнасьці“: дробнабуржуазны глянцоўшчык рэчаіснасьці ўпадае ў хадульны патос штучна нацягнутага сантымэнталізму: у Гартнага нават бедны шчыглік абавязкова *ўрачыстае* з прычыны колектывізацыі. У гэтым дзеланым сантымэнталізьме асабліва яскрава выяўляецца сузэрцана-пасыўны падыход аўтара да колектывізацыі.

У Гартнага ў яго твары дзейнічае па сутнасьці адзін вагар гэтай „параднай колектывізацыі“—голая агітацыя. Гаворачы аб камандыроўцы партыйца Якава ў вёску, пісьменьнік ад сябе тлумачыць мэты камандыроўкі: „Агітацыя за ўтварэньне колгасаў, кажа ён, была простаю зада-

чаю яго (Якава) у вёсцы. З гэтай мэтай ён пасылаўся ў раён“ („Полымя“, IV, 14). Апроч таго, даная агітацыя ў абмалёўцы пісьменьніка нібыта *выключна* апіраецца на волю зьверху. У яго той-жа партыец з гораду ў якасьці рашаючага доваду на карысьць колектывізацыі высоўвае ў сваёй прамове толькі адпаведную пастанову: „Савецкая ўлада, гавора ён, і комуністычная партыя пастанавілі на працягу бягучага году цалкам колектывізаваць Прыгайскі раён, у які ўваходзіць і ваш сельсавет. І гэты довад дастаткова праконвае сялян: „агалошаны прамоўцам лёзунг „няхай жыве колектывізацыя ўсяе краіны!“ узьняў моцны гоман сярод сялян—гоман адобрываньня пастановы“ („Полымя“ 1930 год, III, стар. 20).

Бясспрэчна, агітацыя адыгрывае пэўную дадатную ролю ў процэсе колектывізацыі, але гэта далёка не адзіны і выключны рухач соцыялістычнай перабудовы вёскі. „Кто воображает, что переход к социализму,—гавора Ленін,—будет таков, что один убедит другога, а другой—третьего, тот ребенок в лучшем случае, или политический лицемер (XVI, стар. 216).

Зусім памылковай і нават шкоднай зьяўляецца ў Гартнага паказ колектывізацыі, як руху, які нібыта ідзе выключна зьверху і апіраецца толькі на адпаведныя пастановы. Праўда, пісьменьнік гавора аб дзейнасьці вясковых актывістаў і камсамолу, але ён аб гэтым, па-першае, толькі гавора, а не паказвае ў вобразах, а, па-другое, і самае галоўнае, у яго абрысоўцы рашучы перадом у настроях сялян робіць толькі прамова гарадзкога агітатара; да гэтай прамовы была, ня гледзячы на дзейнасьць мясцовых актывістаў, цяга да пасёлкаў; пасьля прамовы, апіраўшайся на пастанову ўлады, адбыўся агромністы паралом у бок колектывізацыі.

У такой абмалёўцы ролі партыі толькі як агітатара, а не арганізатара і кіраўніка, у затушоўваньні самадзейных зрухаў сялянства ў напрамку соцыялістычнай перабудовы ў Гартнага выяўляецца ўжо поўнае скажэньне рэчаіснасьці. У супраўднасьці мы бачым у данай галіне якраз ажыцьцяўленьне ленінскага наказу: „Рабочий класс, рабочая коммунистическая партия,—гавора Ленін,—сознавая свою задачу, настойчиво, терпеливо, рядом постепенных переходов пробуждая сознание трудящейся части крестьянства и идя вперед лишь в меру пробуждения этого сознания, лишь в меру самостоятельной организации крестьянства, двигается по пути к новому социалистическому строительству“ (XV, 551).

Істотнай заганай твору Гартнага зьяўляецца гэтаксама паказ пэрсонажаў. Дзеючыя асобы аповесьці выяўляюць сябе ня столькі ў паводзінах, колькі галоўным чынам у прамовах. Адсюль—монолёг і дыялёг прадстаўляе сабой у даным творы галоўны прыём аўтара. Яго героі „ходзяць з адкрытымі чэрапамі“ і ў большасьці выпадкаў наперарыў сьпяшаюцца выявіць сваю ідэолёгічную вытрыманасьць, гаворачы кніжнай мовай элемэнтарнай палітграматы. „Саўгас—гэта тая-ж фабрыка... хлебная фабрыка савецкай улады... Сябрыня вялікая сіла... Колектывізацыя

ёсьць адзіны фактар перабудаваньня вясковага жыцьця“...—такімі і падобнымі да іх „афорызмамі“ начыняе сваіх сялян Гартны. Але не заўсёды гэтая „начынка“, ня гледзячы на ўсе натугі аўтара, аказваецца ідэолёгічна вытрыманай. Вельмі часта з-за постацьцяў яго герояў, прэтэндуючых на 100 проц. вытрыманасьць, выглядае сам аўтар. Фальшывым дысонансам, напрыклад, гучыць у вуснах вясковага рэволюцыянэра Юстына параўнаньне колгасаў з панскімі маёнткамі: „А мы, бывала, думалі, што толькі паном улучна гаспадарыць маёнткамі“,—гаворыць Юстын, любуючыся буйным колгасным жытам. Крыху ніжэй аўтар ужо ад сябе падае: „Здаровыя гладкія каровы нічым ня розьніліся ад ранейшых панскіх“ („Полымя“, III, 28).

Зразумела, гэты прыём паказу пэрсонажаў праз іх словы, а ня справы, ёсьць выяўленьне ўсё той-жа схэматыкі, якая ў сваю чаргу выцякае з таго, што дробнабуржуазны пісьменьнік, не валодаючы мэтодам дыялектычнага матэрыялізму, ня здольны ўспрыяць рэчаіснасьць ва ўсёй яе складанасьці і супярэчлівасьці,

У цэлым твор Цішкі Гартнага прасякнут антыленінскімі ўстаноўкамі: пісьменьнік затушоўвае ленінскае палажэньне аб двуіснасьці соцыяльнай прыроды селяніна і тым самым ён па сутнасьці сьцірае мяжу паміж рабочым і селянінам, робячы астатняга такім-жа палкім прыхільнікам соцыялізму, як і пролетарыят; роля дыктатуры пролетарыяту зводзіцца ў аповесьці „Зялёны шум“ да ролі агітатара, а не кіраўніка і арганізатара; спрашчаючы процэс колектывізацыі, даючы бязжыцьцёвыя схэмы замест мастацкіх вобразаў, Гартны выяўляе самую аголеную дробнабуржуазную глянцоўку рэчаіснасьці.

Мы можам цяпер зрабіць падагульненьне разгляду дробнабуржуазнага асьвятленьня колгаснай тэматыкі. У гэтым асьвятленьні мы знайшлі: шуканьне романтычна-прыгодніцкіх сітуацый; глянцоўку рэчаіснасьці эмпірычна-повярхоўны падыход да яе, няздольнасьць раскрыць усе; рухаючыя сілы колектывізацыі і зьвязаны з ёй процэс пераробкі асноўных мас сялянства. Але большасьць твораў данага напрамку сьведчыць аб пэўным пераломе ў шэрагах папутнікаў, аб іх імкненьні наблізіцца да пролетарскай літаратуры. Агромністыя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва і літаратурная палітыка партыі ўтвараюць спрыяючую глебу для іх перэтварэньня з папутнікаў у саюзьнікаў пролетарыяту.

Для сялянскага напрамку сучаснай беларускай літаратуры найбольш характарны і цікавы паказ процэсаў соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі мы маем у аповесьці „Межы“ (Менск, 1930), якая належыць маладому таленавітаму пісьменьніку Сымону Баранавых.

У творы Баранавых перакрыжоўваюцца ўвесь час дзьве роўніцы — роўніца колгаснага будаўніцтва і роўніца сямейна бытавых адносін (каханьне сьвёкра і нявесткі). Асноўнае ў разгортваньні першай роўніцы—паказ тых зрухаў, якія адбываюцца ў псыхолёгіі серадняцкага

слою вёскі. Пісьменьнік абмалёўвае глухі, закінуты ў багнах куток. „Вёска Брод з яе палоскамі-ўзрэхамі,—чытаем мы ў аповесьці,—абкружана балотам. Доўгім, імшарным, цягучым, як сама смычайка на гэтым балоце... Вуліца ў Бродзе заўсёды каравая. Ці пагода, ці дождж— усяроўна. Кажуць, што бродаўская зямля такая. Кажуць, што Брод на крынічным месцы, таму і гразь... Бродаўцы прывыклі да яе ліпкай,— густой, вечна ўзьмешанай цяжкімі панарадамі, конскімі капытамі, чарадою вострых каровіных капытоў, авечых капыцікаў і сьвіных, тупазавостраных лычоў“ (стар. 12—13.) Але бродаўцы і ў гэтай гразі бачаць сваяадменнае прыгаство. „У нас у бродзе, як у вяночку, кажуць яны. Жыў — жыў-бы здаецца і паміраць не хацелася: о то-ж бо харство!“ (стар. 13—14). Жывуць бродаўцы пад уладай традыцыйнага, вякамі складаўшагася быту, з якім яны моцна зьліты,—жывуць у кляшчох матэрыяльнай нэндзы і пакуты.

Але пісьменьнік паказвае, як і ў гэтае глухое вясковае зацішша прасякае жыватворчы подых новага жыцьця, як тут адбываецца вызваленьне з-пад улады гаспадарчага індывідуалізму, і людзі выходзяць на шырокі шлях соцыялістычнага будаўніцтва.

На гэтакі шлях становіцца Яўгень Бурцэлік, тыповы прадстаўнік вясковага серадняцтва, асноўны пэрсонаж у аповесьці „Межы“. У вобразе данага пэрсонажу пісьменьнік мастацкі паказаў „змаганьне дзьвёх душ“ селяніна, — змаганьне вострае і балючае: павольна, як цяжкадум, пасьля доўгіх завіханьняў, пасьля бяссоных начэй прыходзіць Яўген да ўсьведамленьня таго, што выйсьце для вёскі толькі ў колектыўнай буйнай гаспадарцы. Бурцэлік, як усе сяляне ў пісьменьніка, у першую чаргу ўтылітарыст і практык. Асноўны вагар усёй яго істоты—гэта шуканьне непасрэднай матэрыяльнай выгады, конкрэтнай і рэальнай да ашчуповасьці. „Крестьянину, который не только у нас, а во всем мире,—гавора Ленін,—является практиком и реалистом, мы должны дать конкретные примеры и доказательство того, что „комуния“ лучше всего“ (XVI, стар. 151). І ў іншым месцы Ленін зазначае: „Нужно сначала доказать... что такое об'единение (у колгасах) лучше... доказать, что это выгодно “(XVI, стар. 152). Адпаведна соцыяльнай рэчаіснасьці, і Баранавых у сваім творы паказвае, як Яўген увесь час разьвязвае проблемы, дзе выгадней селяніну працаваць, на індывідуальнай гаспадарцы альбо ў колгасе. У гэтым вузьле заблытваюцца ў Яўгена ўсе супярэчнасьці яго імкненьняў, тут—крыніца тэй цяжкай сутычкі, якую ён перажывае. Усьведамленьне непасрэднай выгады, практычныя, чыста ўтылітарныя меркаваньні таўхаюць Яўгена ў колгас. Але ўсьвядоміўшы, што „гуртам працаваць ня тое, што аднаму пэцкацца, марудзіць“, што „гуртам і ў кашы спорна“, Яўген ужо цьвёрдымі і ўпэўненымі крокамі ідзе па каляіне новага жыцьця.

Вобраз Яўгена паданы ў творы Баранавых вельмі шырока, мы бачым ня толькі яго сумненьні і завіханьні. сконцэнтраваныя навакол ломкі соцыяльнага быцьця,—даны пэрсонаж абрысаваны як чалавек, перажы-

ваючы цяжкую драму асабістага жыцьця, аўтар ускрывае інтымныя перажываньні Яўгена і паказвае ў іх глыбока людзкія струны. Вось, напрыклад, адзін з такіх малюнкаў, які характарызуе творчую манеру пісьменьніка даваць нам паглыбленыя і шырока задуманыя вобразы... Яўген у лесе, перавозіць шныпры; адна за другой розныя думкі зьмяняюцца ў яго перажываньнях; на момант Яўгена прыкоўвае да сябе пэрспэктыва мажлівага айцоўства, яго ўзварушваюць думкі аб будучых дзецях. „І сам сабе глыбей у сваіх думках.—Як будуць у мяне дзеці, ці спраўлюся я, ці не? цікава, якія будуць у мяне дзеці... Но-но!—пагнаў каня. Нібы засароміўся сам перад сабой, перад сваімі разважаньнямі аб дзецях. І от гэты патаемны сорам перайшоў у радасьць, зьліўся ў адзін камяк з мядзяным, срабрыстым днём, працёршым з-за хмар свае заспаныя вочы, нізка апаўшым сонцам. Таму і запеў Яўген і пеў, што раз вышэй і вышэй падымаючы голас“ (стар. 24).

У творы Баранавых ня мала такіх малюнкаў, якія рысуюць нам глыбока лірычныя пералівы ўнутраных перажываньняў. Перад намі вобраз селяніна, далёкі ад штампаванай схэмы; гэты вобраз дае нам складаную псыхолёгію серадняка ў працэсе яго пераробкі.

Іншыя вобразы зьяўляюцца больш бледнымі ў параўнаньні з вобразам Яўгена. Бядняк Анісь вызначаецца такім-жа вузка-гаспадарчым практыцызмам, як і Яўген. І для яго колгас—у першую чаргу ставіцца ў разрэзе матэрыяльных выгад; гэты гаспадарчы ўтылітарызм дыктуе Анісу нават параўнаньне колгасу з панскімі маёнткамі. „Калі тагды... у кішэню пана,—гавора ён,—ішло ўсё эканомленае, дык чаму-ж яго, гэтага эканомленага, не зьмяркаваць на ўвесь наш гурт, на хаўрус“ (стар. 47).

Данае фальшывае параўнаньне, зразумела, гучыць дысонансам у вуснах вясковага бедняка, але гэтае ўпартае падкрэсьліваньне вузкага і аднабокага практыцызму ва ўсіх пэрсонажаў аповесьці сьведчыць аб тым, што сам аўтар да проблемы колгаснага будаўніцтва падыходзіць з адмежавана-сялянскім крытэрыем яго ацэнкі: у гэтым падыходзе выразна адчуваецца сялянскі індывідуалізм і сялянская індывідуалістычная гаспадарлівасьць.

Тая-ж сялянская абмежаванасьць выяўляецца ў тым, што Баранавых па сутнасьці ня выходзіць за паркан вёскі; у яго процэс колектывізацыі—процэс замкнёны ў сабе, адарваны ад агульнага процэсу гаспадарчага ўздыму Беларусі ў цэлым, ад асноўных рухаючых сіл рэволюцыі. Пісьменьнік не раскрывае ўзаемаадносін вёскі і гораду; ён зусім не паказвае кіруючай ролі пролетарыяту і комуністычнай партыі ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Праўда, у аповесьці „Межы“ выступае эпізодычная і бледая фігура рабочага Гілера, якога, да рэчы сказаць, Баранавых надзяляе тым-жа вузкім практыцызмам як і сялян. Але Гіляр толькі „далучаецца да колгасу“, ён прыходзіць ужо на гатовае.

Баранавых дае такім чынам зусім няправільную, неадпаведную рэчасінасьці, расстаноўку клясавых сіл, якія дзейнічаюць у процэсе колгаснага будаўніцтва. У яго галоўнай апорай колектывізацыі зьяўляецца серадняк, які ідзе ў колгас пад уз‌ьдзейнічаньнем беднаты, але нібыта незалежна ад кіраўніцтва пролетарыяту.

Такое скажэньне соцыяльнай рэчаіснасьці—найбольш істотны ідэёвы правал у аповесьці „Межы“, які тлумачыцца тым, што дробнабуржуазны пісьменьнік яшчэ не пераключыўся на рэйкі пролетарскай ідэолёгіі, не авалодаў мэтодам дыялектычнага матэрыялізму і таму няздольны адлюстраваць соцыяльныя процэсы ва ўсёй іх складанасьці і супярэчлівасьці, ня здольны ўскрыць асноўных чыньнікаў гэтых процэсаў.

Сялянская накіраванасьць выяўляецца ва ўсёй сыстэме светаадчуваньня Баранавых. Для яго сусьвет—гэта агромністая вясковая гаспадарка. Адсюль, напрыклад, успрыяцьце прыроды ў пісьменьніка скрозь адзначаецца своеадменнай апэрцэпцыяй, якая грунтуецца на сялянскім рэчавым фэтышызьме. Вось некаторыя прыклады такой апэрцэпцыі: „Быў нявыбеленагага зрэб'я дзень. Пражаным бобам на скварадзе было неба... Выплываючы, зоры ўціраліся сваімі калматымі лапкамі — міргамі. Прыгледзіўшыся ляпей, яны былі падобны на чыста выпаласканыя расплясканыя цяжкім абухам малатка плешкі цалевых цьвікоў. Туга-туга былі ўвагнаны яны ў падмытую стольль чорнага неба... Сонца расплёхала сваё малако на стале Цімохавай хаты,—густою лужынаю... Сонца... пырскала—рассыпала свае праменьні, нібы хто шпурляў з ветрам жмені залацістае пшаніцы“...

Увесь лірычны пэйзаж Баранавых такім чынам гэта—проекцыя ў прыроду, у сусьвет пэўных адзнакаў гаспадарча-бытавой абстаноўкі сялянскага быцьця.

Прыродзе Баранавых адводзіць шырокае месца ня толькі ў сваіх насычаных павышанай эмоцыянальнасьцю лірычных пэйзажах; прырода ў яго ўрываецца і ў паказ сямейна-бытавых адносін. Уся лінія каханьня Пракопа і Макрыны, якая разьвіваецца ў аповесьці паралельна лініі колгаснага будаўніцтва і ў паасобных момантах настолькі разбухае, што засланяе сабой астатнюю, прадстаўляе сабой зрыў пісьменьніка ў роўніцу аголенага біолёгізму. Па-першае, натуралістычны малюнак каханьня старога дзеда Пракопа да сваёй маладой нявесткі ня зьвязаны з асноўнай ідэяй аповесьці, стаіць асобна ад яе, уклініваючыся ў агульную тканку твораў як чужародны элемэнт. Зразумела, што рэконструкцыя вёскі параждае сабой ломку і ў галіне сям'і, але Баранавых якраз узяў ня новыя праявы ў галіне сямейных узаемаадносін, а праявы глыбока-архаічныя, зьвязаныя з патрыархальнай вёскай: „снохачество“ зусім ня тыпова для сучаснай вёскі. Па-другое, і самае галоўнае, увесь малюнак каханьня Пракопа і Макрыны ёсьць смакаваньне падсьвядомых рухаў душы, поэтызацыя голага інстынкту. У душы Макрыны, паказвае пісьменьнік, ідзе барацьба паміж інстынктам, які цягне яе да „дужага“

Пракопа, і сузнаньнем свайго абавязку ў адносінах да Яўгена, але падсьвядомы інстынкт перамагае. Абмалёўка гэтай перамогі, як чагосьці фатальнага і няўхільнага, выяўляе досыць небясьпечныя сымптомы ў творчасьці Баранавых: пісьменьнік скатываецца ў роўніцу, якая нагадвае „Тайное тайных“ Усеволада Іванава.

Агульныя вывады: Сымон Баранавых—глыбока сялянскі пісьменьнік, і ў асьвятленьні тэмы колгаснага будаўніцтва мы знаходзім у яго характарныя рысы сялянскай ідэолёгіі. Такімі рысамі зьяўляюцца: няздольнасьць ускрыць соцыяльныя процэсы ва ўсёй іх паўнаце і складанасьці, індывідуалістычная гаспадарлівасьць, рэчавы фэтышызм, уцёкі ад соцыяльнай рэчаіснасьці ў галіну прыроды, у галіну біолёгізму і г. д.

У межах сучаснай беларускай літаратуры процэс соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі знайшоў сабе найбольш шырокае і глыбокае адлюстраваньне ў творы Галавача „Спалох на загонах“. Асноўная ўстаноўка пісьменьніка ў даным творы заключаецца ў тым, каб выявіць гэты процэс, як шмат складаны і супярэчлівы. Усім сваім творам Галавач радасна сьцьвярджае, што вёска выходзіць з кляшчоў мёртвага і коснага быцьця, што яна перажывае агромністы гаспадарчы і культурны ўздым, што ў ім наражджаецца новае і лепшае жыцьцё. Але адначасна пісьменьнік паказвае, што гэтае нараджджэньне адбываецца ў муках і пакутах напружанай барацьбы: у цэлым шэрагу сваіх вобразаў Галавач ускрывае, як абломкі спарахнеўшага капіталістычнага сьвету з яго драпежніцтвам, індывідуалістычнай абмежаванасьці даюць „астатні рашучы бой“ новаму сьвету соцыялізму, які будуецца. У поўнай адпаведнасьці соцыяльнай рэчаіснасьцю Галавач выяўляе, што гэты бой — пароксызм перадсьмяртэльных схватак агонізуючага капіталізму, але параксызм, які ацяжарвае нараджджэньне новага. Канчальны вынік барацьбы ясны для пролетарскага пісьменьніка: ён усьведамляе і ў сыстэме сваіх вобразаў раскрывае, што нязьбежная перамога забясьпечана за соцыялізмам.

Ленін у 1919 г. пісаў: „Такой труд, когда крестьянин работал на своем участке землі, на своем дворе, со своим скотом, птицей, бороной, сохой и пр.—мы видели много лет, много столетий; мы прекрасно знаем, что в России и в других странах из этого получается только крестьянская темнота, нищета, господство богатых над беднатой, потому, что в разброд одолеть те задачи, которые стоят перад сельско-хозяйственными пролетариями нельзя. Можно получить тольки опять старую нищету, при которой один из ста или может быть пять из ста выбиваются в богатенькие, а остальные живут в нищете. Вот почему сейчас наша задача—переход к общественной обработке земли, переход к крупному общему хозяйству“ (XX², стр. 319—320).

Гэтая ленінская ідэя, што вызваленьне сялянскіх мас ад жабрацтва і цемры заключаецца толькі ў буйнай колектыўнай гаспадарцы пакладзена ў аснову твора „Спалох на загонах“.

У яскравых, замацоўваючыхся ў памяці вобразах малюе пісьменьнік убоства мас пры капіталізьме. Са старонак яго твораў глядзяць на нас сваімі жудаснымі вачыма цені мінуўшчыны. Ажываюць смутныя мэлёдыі заўныўнай песьні, якой агалашаліся калісьці жабрацкія загоны дзедаўскіх ніў:

Эх ты доля мая,
Ты няўдалая
Калі-ж ты мяне
Аццураешся?

У тон гэтаму „смутку палёў“ чуюцца скаргі і енкі: „Мала зямлі ў нас, браце, каб хіба панскую, моб тады хапіла, там тысячы дзесяцін... А сваёй мала... Паны смачныя кавалкі пабралі, самыя лепшыя, а мужыка з воляй у багну“ (стар. 23—24).

Гэтыя енкі зьліваюцца з глухім гукам бразганьня меркі, якой брат стукнуў брата па галаве: ва ўсёй агіднасьці выступае перад намі малюнак сялянскай дзяліцьбы з яе зьвярынай сквапнасьцю і аголеным інстынктам драпежніка, які зубамі хапаецца за кожны кавалак сваёй дробнай уласнасьці.

Цені мінуўшчыны, як бледныя зданьні праклятай спадчыны, мітусяцца над адбудзіўшыміся загонамі і ў сучасным. І ў цяперашнім пісьменьнік раскрывае цяжкую колізыю розных клясавых сіл, якія зьяўляюцца носьбітамі процілежных мэтаімкненьняў. На адным баку барыкад — вясковая буржуазія, якая чапляецца за спарахнеўшую прошласьць, за індывідуальную гаспадарку; на другім баку—будаўнікі соцыялізму, якія руйнуюць гэтую прошласьць. Даўгой нізкай праходзяць у аповесьці вобразы кулакоў. Гэтыя вобразы пазбаўлены трафарэнасьці; мы бачым супраўды конкрэтна абмаляваных жывых людзей. У Галавача кулак не пінкертонаўскі пэрсонаж, прыклеіваючы сабе чорную бараду з мэтай захаваць сваё празрыстае інкогніто; гэта рэальны клясавы вораг, які ў сваёй барацьбе супроць соцыялізму ўжывае больш дзейныя сродкі, чым танны тэатральны грым (ды яшчэ без запасу вазэліны. Вось, напрыклад, досыць колёрытная фігура кулака Мышкіна. Гэта хітры дыплёмат, які прыкідваецца нават прыхільнікам колектывізацыі і на сходзе робіць двухсэнсоўную прамову нібыта на яе карысьць. Але за кулісамі ён разьвівае шалёную дзейнасьць супроць колектывізацыі. Навокал Мышкіна групуюцца ўсе контррэволюцыйныя элемэнты, якія вядуць барацьбу супроць соцыялістычнага будаўніцтва. І гэта далёка не опэрэтачная барацьба, якой малююць яе некаторыя дробнабуржуазныя пісьменьнікі. У гэтай барацьбе перакрыжоўваюцца далёка не картонныя рапіры, клясавы вораг імкнецца выкарыстаць у ёй усе сродкі змаганьня: у ход пускаюцца контррэволюцыйныя проклямацыя, усякія провокацыйныя чуткі, выкарыстоўваюцца часовыя цяжкасьці савецкай улады і г. д. Асабліва маляўніча Галавач паказвае, як кулацтва выка-

рыстоўвае традыцыйную апору ўсякай эксплёатацыі — рэлігію, кулакі на струнах рэлігійнай забабоннасьці культурна-адсталых пластоў вёскі разыгрываюць свае контррэволюцыйныя мэлёдыі: з мэтай напалохаць забабоннае вабражэньне сялян, яны наладжваюць „таемны“ звон у чыгунныя рэйкі, пасылаюць пад відам жабрака свайго агітатара, які з эвангельлем у руце падбухторвае сялян супроць колгасаў. Мы відавочна бачым і вынікі гэтай цёмнай справы варожых элемэнтаў; у аповесьці даецца малюнак разбурэньня ўжо наладжанага колгасу; гэта разбурэньне адбываецца пад уплывам кулацкага запугваньня. Мы бачым, да чаго даводзіць падагрэты папамі рэлігійны фанатызм: напалоханыя загоны абаграюцца крывёю лепшага актывіста Панаса. У фінале аповесьці, у яе сужэтнай разьвязцы не даецца малюнак перамогі колгасьнікаў; мы назіраем, наадварот, як-бы часовае лікаваньне цёмнай зграі. Тым ня менш, уся аповесьць у целым пакідае бадзёрае, оптымістычнае ўражаньне; аўтар у дастатковай ступені паказаў нам няўхільнасьць канчальнай перамогі колгасьнікаў; мы па ўсім ходзе шырока-разгорнутай у творы клясавай барацьбы пераконваемся, што сілы, выступаючыя супроць колектывізацыі, засуджаны гісторыяй, што іх боль сапраўды толькі перадсьмяртэльны пароксызм агонізуючага.

Цёмнаму сьвету кулацкай зграі Галавач проціпастаўляе бадзёры сьвет будаўнікоў соцыялізму ў вёсцы. Апорай гэтага будаўніцтва ў межах вёскі ў першую чаргу зьяўляюцца прадстаўнікі бядняцкага сялянства, але пролетарскі пісьменьнік далёкі ад глянцоўкі рэчаіснасьці, якая ўласьціва дробнабуржуазным аўтаром; ён не прадстаўляе сабе вёску па схэме, — звычайнай для гэтых аўтароў: кулак варожы, серадняк завіхаецца, бядняк цалкам на баку соцыялізму. Галавач бачыць пэўныя супярэчлівыя тэндэнцыі і ўнутры бядняцкага пласту; ён паказвае, як некаторыя беднякі яшчэ застаюцца політычна несьвядомымі і ідуць на паваду ў кулака. Бядняк Пётра, напрыклад, ідзе прасіць дапамогі ў Мышкіна; на сходах і некаторыя з беднякоў выступаюць супроць колгаснага будаўніцтва, але адначасна ў творы даюцца яскравыя малюнкі таго, якую ўпартую і напружаную працу, працу, поўную творчага ўздыму і энтузіазму праводзяць у галіне колектывізацыі лепшыя прадстаўнікі бядняцтва. Такімі прадстаўнікамі зьяўляюцца Ян Каськевіч і Камека. Каськевіч, вялікую загартаванасьць у барацьбе вынес з Чырвонай арміі, з грамадзянскай вайны. „Ідучы за плугам, ён успамінае полк свой, таварышоў і думае, як напіша ў полк таварышом ліст пра сябе і пра комуну. Бо зрабіў тое, што наказвалі таварышы ў палку, зрабіў, і ўжо працуе комуна, ужо жыць будзе“ (стар. 44).

Колектывізацыя ў Галавача ня носіць параднага характару, як прадстаўляецца яна ў асьвятленьні дробнабуржуазных пісьменьнікаў, якія за звычай малююць поўную перамогу ўжо ўсьлед за бліскучай прамовай гарадзкога агітатара. Галавач раскрывае нам як навокал колектывізацыі адбываецца вострая сутычка процілеглых клясавых сіл; на фоне такой

сутычкі ўпяршыню абрысоўваецца і постаць Яна Каськевіча, як змаганьніка за колектывізацыю. Пад напорам кулакоў і іх падпявал, якія патрабуюць, каб ім была зьвернута панская зямля, узятая пад комуну; вясковы актывісты ня падае духам; ён прыпамінае, што такія-ж вострыя моманты, таксама небясьпечныя для жыцьця, ён перажываў і на франтох грамадзянскай вайны". Успомніў даўнія, даўнія дні ў палку, як на фронце быў. Была ноч і ральля, грузкая ад дажджу і халодная. Трэба было падпаўзьці да пуні, зьняць вартавых белых і выратаваць сваіх палонных кулямётчыкаў, якіх праз 5 гадзін белыя павінны былі павесіць. Тады, акурат так вось моцна білася сэрца. Не ад страху перад сьмерцю, а ад страху за тое, што не пасьпеюць дапаўзьці і выратаваць таварышоў. Вось акурат так білася сэрца: ту-ту, ту-ту, ту-ту" (стар. 46).

Галавач падкрэсьлівае такім чынам, што барацьба за колектывізацыю супраўды баявы фронт: і тут патрэбна рашучасьць, упартасьць, мужнасьць. Усімі гэткімі якасьцямі валодае і Янка Каськевіч, у момант, небясьпечны для ўласнага жыцьця, ён кідае клясаваму ворагу адважныя словы:

„Скажэце таму, хто напаіў вас, і самі запомніце, што *комуна будзе жыць!*

Ідзе ён,—прадоўжвае пісьменьнік,—высокі, спакойны, цяжка ступае па ральлі вялікімі чырвонаармейскімі гамашамі. Спакой яго́ны палохае мужчын. Яны тулячыся адзін за аднаго кожны так, каб ня быць яму ўперадзе, шпарчэй пайшлі назад і нясьмелымі ўжо галасамі выкрыквалі:—ня маеш права араць! Наша зямля гэта, не па законе арэш ты яе!

І адыходзілі" (стар. 47).

Так у абмалёўцы Галавача супакойнае мужства сьвядомага будаўніка соцыялізму перамагае над цёмнымі інстынктамі разьюшанага натоўпу.

Але пісьменьнік паказвае, што посьпехі колектывізацыі на вёсцы ня ёсьць вынік выключна індывідуальных якасьцяй вясковых актывістаў. Ён выразна падкрэсьлівае, што за гэтымі актывістамі стаіць моц клясы, воля мас, якія пачалі ўсьведамляць, што выхад толькі ў буйнай аграмаджанай гаспадарцы. Псыхалёгію мас пісьменьнік маляўніча паказвае ў зарысоўках сходаў, колектыўнага ворыва і інш. І тут аўтар выяўляе барацьбу супярэчлівых тэндэнцый. Але, адпаведна соцыяльнай рэчаіснасьці ён намячае, што вядучая супярэчнасьць разьвіваецца ў напрамку колектывізацыі.

У аповесьці абмаляваны тыя агромністыя зрухі, якія адбываюцца ў асноўных масах сялянства. Вось, напрыклад, Клемс, тыповы серадняк, рашуча становіцца на шлях колектывізацыі, вытрымліваючы цэлую барацьбу з сваёй жонкай, якая чапляецца за ўласнасьць, за індывідуальную гаспадарку. Паказваючы падобныя зрухі ў асноўных сялянскіх масах, Галавач далёкі ад біолёгічнага прынцыпу распластаваньня гэтых мас па ўзростах (старыя—рэакцыонэры, моладзь—рэволюцыйная), альбо

па родах (мужчыны—больш стаяць за новае, жанчыны—за старое),—што так уласьціва дробнабуржуазным пісьменьнікам. У творы Галавача гэтае распластаваньне паказана выключна ў соцыяльна-клясавым, а зусім не біолёгічным разрэзе. Напрыклад, пісьменьнік малюе нам сярод энтузіястаў-комунараў старога дзеда Дыбуна; консэрватыўнай жанчыне ў постаці Клемсыхі ён проціпастаўляе новую жанчыну ў вобразе Галіны. Паступова, у процэсе разгорнутай барацьбы Галіна ўсьведамляе правільнасьць шляхоў колектывізацыі. Рашуча стаўшы на гэтыя шляхі, яна ва імя сваёй клясавай праўды становіцца вышэй асабістых сямейных сувязяй: яна дае адпор свайму чалавеку, які імкнецца захаваць частку збожжа ад абагульненьня; мужна пераносіць абразьлівыя закіды наконт асабістых паводзін. Гэтыя паводзіны яна падпарадкавае клясаваму доўгу; каханьне яе да Панаса ёсьць вынік яе цягі да новага жыцьця, а не наадварот, як напрыклад, у Кузьмы Чорнага. Галіна сама ў такіх словах тлумачыць сваё каханьне; „Ты-ж не такі, як іншыя, гавора яна Панасу, ты толькі абраз у нас на сходах наслухаўся, а свайго дамогся... Хочаш людзям ты шчасьця, усім нам, і ўсе ў нас цябе любяць. Нават і яны пра цябе ня так, як пра іншых гавораць“ (стр. 162).

Побач з лініяй паказу вёскі ў аповесьці Галавача разьвіваецца і лінія паказу гораду. У гэтым перакрыжоўваньні дзьвюх ліній ёсьць своя глыбокая ідэя. Пісьменьнік выразна выяўляе, што вёска ў сваёй барацьбе за новае жыцьцё не адзінока, што яна мае падтрыманьне і кіраўніцтва з боку гораду, рабочых мас і іх авангарда—комуністычнай партыі. Інакш кажучы, шчыльная ўвязка дзьвюх ліній ёсьць у Галавача выяўленьне ідэі змычкі гораду і вёскі.

У абрысоўцы горадзкога жыцьця ў Галавача таксама адсутнічае глянцоўка рэчаіснасьці, уласьцівая дробнабуржуазнаму стылю. І дзейнасьць гораду пісьменьнік паказвае ў яе супярэчнасьцях, і напружанай барацьбе. Пісьменьнік абмалёўвае, напрыклад, вялікія чаргі за хлебам, за мануфактурай, рысуе паніку абывателя, імкненьне яго зрабіць запасы; аўтар перадае нам нудныя абывацельскія гутаркі ў гэтых чаргах, розныя провокацыйныя плёткі і чуткі, на якія так падкі мешчанін-абыватель. І ў горадзе Галавач імкнецца перш за ўсё раскрыць барацьбу процілеглых клясавых сіл. Ён паказвае нам паасобных партыйцаў—опортуністаў і правых ухілістаў, якія робяцца рупарам клясавага ворагу і вядуць разбураючую работу. Фігуры Пацярухі і Асьцюка зарысаваны надзвычай жыцьцёва. Паказаны ўпадніцкія настроі гэтых опортуністаў, іх няверʻе ў соцыялізм, панікёрства перад цяжкасьцямі, гіпэрболічнае раздуваньне астатніх, паклёпы на партыйнае кіраўніцтва, смакаваньне пошлых анэкдотаў, змычка з абывателем, які прадстаўлен у постаці Панчошкіна, і г. д.

Але, разгортваючы малюнак абывацельскага багна і распады некаторых „партыйцаў“, Галавач адначасна абрысоўвае творчы энтузіазм шырокіх рабочых мас, вылучэньне імі ўдарных брыгад, якія пасылаюцца

ў колгасы для дапамогі: фігурам разлажыўшыхся „партыйцаў" ён процiпастаўляе вобразы сакратара парткому і Сёмчыка з іх правільнай партыйнай лініяй.

„Конечно, не выйдет никакого толку,—гавора Ленін,—если в деревне будут появляться скороподительные люди, которые порхнули туда с города, приехали, покалякали, учинили несколько интелигентских, а то и не интелигентских склок и, расплевавшись, раз'ехались" (XVI, 151). Дробнабуржуазныя пісьменьнікі, як мы бачылі, за звычай і малююць узаемаадносіны вёскі і гораду ўласьне ў такім выглядзе наездах з гораду часовых „гастралёраў". Галавач дае паказ змычкі гораду і вёскі ў зусім іншым асьвятленьні; ён, адпаведна соцыяльнай рэчаіснасьці, разгортвае сталае і сыстэматычнае кіраўніцтва і дапамогу, якія даюцца горадам вёсцы. Панас упарта і настойліва працуе ў галіне колгаснага будаўніцтва, ён нават думае аб тым, каб назаўсёды застацца ў вёсцы, але помста кулацкай зграі абрывае яго жыцьцё. Пісьменьнік паказвае, што пролетарыят ёсьць арганізатар (ня толькі дапаможнік) соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі. „Стары, сакратар парткому зазначае: „Наша задача організаваць гэты процэс (колектывізацыю) і ўсім магчымым, што залежыць ад нас, дапамагчы яго росту" (стар. 75). У аповесьці паказана ажыцьцяўленьне гэтай партыйнай дырэктывы на самай справе; у цэлым шэрагу вобразаў і малюнкаў выяўлена гэта організуючая і дапаможная роля пролетарыяту, абрысаваны тыя афяры, якія рабочая кляса нясе дзеля разьвіцьця соцыялізму ў вёсцы.

Такім чынам твор Галавача прадстаўляе сабой выразнае адпіхваньне ад дробнабуржуазнага паказу процэсаў соцыялістычнай рэконструкцыі: у Галавача соцыяльная рэчаіснасьць бярэцца ў яе складанасьці і супярэчлівасьці, у яго адсутнічае павярхоўная романтыка, ідылічны паказ колгасаў; наадварот, выяўлена напружаная клясавая барацьба і ў горадзе і ў вёсцы. У аповесьці „Спалох на загонах" ня мае месца дробнабуржуазная глянцоўка рэчаіснасьці, гэта рэчаіснасьць раскрываецца, як дыялектычнае адзінства процілегласьцяй; пролетарскі пісьменьнік дае правільную расстаноўку клясавых сіл, выяўляючых вядучую ролю пролетарыяту і компартыі; замест біолёгізму, у данага аўтара—прымат соцыяльнага моманту; псыхолёгізм Галавача ня ёсьць абстрактны псыхолёгізм—ён дэтэрмінаваны соцыяльна-клясавымі прычынамі.

У асноўным Галавач стаіць на позыцыях дыялектычнага матэрыялізму, але ў паасобных момантах яго твора ёсьць пэўныя адхіленьні ад гэтых позыцый.

На першым этапе творчасьці Галавача істотнай заганай яе зьяўляўся схэматызм. У зборніку „Дробязі жыцьця", напрыклад, пісьменьнік замест паказу рэчаіснасьці ў яе супярэчнасьцях даваў нам голыя і бледыя абстракцыі; у яго ўсюдых выступаюць схэматычныя фігуры, якія зьяўляюцца ўвасабленьнем выключна дадатных, альбо толькі адмоўных

якасьцяй. Асабліва паказальным для гэткай схэматыкі служыць апавяданьне „Рубанаўскі вузел“, дзе ўсе пэрсонажы выступаюць перад намі напарна, прычым кожная пара сумяшчае ў сябе полярнасьці „дабра“ і „зла“. Гэтую полярнасьць пісьменьнік раскрывае ў асяродзьзі партыйных працаўнікоў, савецкіх служачых і сялян: Мікалай—супраўдны партыец, правільна праводзячы генэральную лінію партыі, Якаўлеў—опортуніст, бюрократ, глыбокі індывідуаліст, з партыйным білатам у кішэні; з двух камо́рнікаў, якія фігуруюць у аповесьці, Шклярскі—шчыры работнік, сумленна і аддана бароначы інтэрэсы беднаты, Драздоўскі, наадварот, шкоднік і хабарнік; з вясковага асяродзьзя супроцьстаўлены схэматычныя вобразы бедняка Лявона і кулака Міколы. Характарна, што нават у сям'і папа пісьменьнік у творы „Рубанаўскі вузел“ ускрывае ўсю тую-ж полярнасьць „дабра“ і „зла“: побач з фігурай папа, п'яніцы і эксплёататара, Галавач зарысоўвае вобраз яго сваячніцы Турбоўскай, політычна-сьвядомай настаўніцы—актывісткі.

На пазьнейшым этапе сваёй творчасьці ў Галавача ўжо выяўляецца выразнае змаганьне з гэтай схэматычнасьцю. Але ў процэсе змаганьня пісьменьнік кідаецца часам у процілеглую крайнасьць: ён шукае залішняй складанасьці там, дзе яе па сутнасьці няма. Напр., у аповесьці „Вінаваты“ ў зусім фальшывым асьвятленьні падан вобраз провокатара і ахраньніка: Зубковіч, выдаючы рэволюцыянэраў на сьмерць, перажывае потым вялікія пакуты сумленьня; ён у начной цішы моліцца за сваіх афяр, яму мярэшчацца галюцынацыі, адным словам у творчасьці Галавача ў даным выпадку ажывае вядомы мотыў: „мальчики кровавые глаза“...; паказ гэтых „мальчиков“ прыводзіць Галавача на шлях шкоднага гуманізму: у вобразе клясавага ворага, самага агіднага і змрочнага, прыўносяцца рысы глыбокай чалавечнасьці, што гучыць ужо рэзкім дысонансам;—у шпега і провокатара паказваецца разрыў паміж яго сьвядомасьцю і ганебнай дзейнасьцю.

Другой заганай творчасьці Галавача на першым яе этапе,—заганай, неадрыўнай ад схэматычнасьці, зьяўляўся статычны падыход да рэчаіснасьці. Вобразы Галавача на даным этапе гэта—застыглыя да акамянеласьці маскі „дабра“ альбо „зла“. Пэрсонаж выступае ў яго як пэўная аформіўшаяся, раз на заўсёды даная катэгорыя; самы процэс гэтага аформленьня стаіць па-за межамі мастацкага ўспрыяцьця пісьменьніка. Калі аўтар прабуе паказаць нам дынаміку пэрсонажа, то гэтая дынаміка недастаткова ім узгрунтоўваецца. Напрыклад, у творы „Сьвежы вецер“ процэс пераробкі былога эсэра—эмігранта паказаны зусім ізолявана ад рэволюцыйнай практыкі рабочых мас Амэрыкі, з прычыны чаго гэты процэс зьяўляецца штучным і малапраконваючым нас.

Творчасьць Галавача ў раньняй фазе яе разьвіцьця нагадвае сабой асобны від малярства—гуаш: падаюцца то густыя, то вадкія фарбы, але гэтыя фарбы вадзяныя з прымесьцю бяліл. У пазьнейшых творах Галавача хварбы робяцца ўжо больш сакавітымі, мы ўжо неназіраем такога рэз-

кага разьмежаваньня сьвятла і ценяў. Бязумоўна, найбольш паказальныя дасягненьні ў даных адносінах мае твор „Спалох на загонах“. Мы бачылі, што ў аснову гэтага твору пакладзена ленінская ідэя колектывізацыі, як адзінага сродку вызваленьня сялянскіх мас ад матэрыяльнай нэндзы і культурнай адсталасьці; паказана рэалізацыя гэтай ідэі ў рэчаіснасьці ў процэсе напружанай клясавай барацьбы, адсюль у апавяданьні Галавача пераважае напорыстая дынамічнасьць, творчая актыўнасьць, патос змаганьня, яскравасьць вобразаў, лірыка ўздыму.

Але не ва ўсіх момантах пісьменьнік і ў данай аповесьці вызваліўся ад істотных заганаў сваёй папярэдняй творчасьці—схэматыкі і некаторых налётаў статычнасьці. Прынцыпы марксыцкай дыалектыкі яшчэ не знайшлі сабе тут поўнага і ўсебаковага ажыцьцяўленьня. „Раздвоение единого и познание противоречивых частей его,...—піша Ленін, есть *суть* (одна из „сущностей“, одна из основных, если не основная, особенностей или черт) диалектики“. („К вопроссу о диалектике“; цытую па кнізе „Материализм и эмпириокритицизм“. Изд. Инст. Ленина. 1931, стар. 301).

Галавач ускрывае нам двуіснасьць рэчаіснасьці; ён імкнецца выявіць яе супярэчнасьці. Але паказ гэтых супярэчнасьцяй у яго ажыцьцяўляецца ў большасьці выпадкаў шляхам супроцьстаўленьня розных пэрсонажаў з дыамэтральна процілеглымі якасьцямі. Не заўсёды чалавек бярэцца ў яго ў процэсе барацьбы супярэчлівых тэндэнцый; не заўсёды пісьменьніку ўдаецца дыалектыка паасобнага пэрсонажа. Галавач не да канца, думаецца нам, уясьніў сабе дыялектыку агульнага і адзінкавага. „Отдельное несуществует,—гавора Ленин,—иначе, как в той связи, которая идет к общему. Общее существует лишь в отдельном и через отдельное. Всякое отдельное есть (так или иначе) общее. Всякое общее есть (частичка или сторона, или сущность отдельного. Всякое общее лишь приблизительно охватывает все отдельные предметы. Всякое отдельное не полно входит в общее и т. д., и т. д. (там-жа, стар. 302—303). Галавач якраз недастаткова раскрывае нам, як агульнае праламляецца ў паасобным і як паасобнае „вядзе да агульнага“. Напрыклад, у творы „Спалох на загонах“ у асноўным правільна намечана ідэя партыйнага кіраўніцтва процэсам колектывізацыі. Але недастаткова шырока выяўлена, як гэта кіраўніцтва ажыцьцяўляецца шляхам дзейнасьці паасобных партыйцаў, якія фігуруюць у аповесьці. Галавач досыць сакавіта рысуе нам вобразы опортуністаў (Пацярухі і Асьцюка), але вобразы супраўдных партыйцаў, якія процістаўляюцца гэтым опортуністам, паданы досыць схэматычна: „Стары“, сакратар парткому, зьяўляецца ў аповесьці эпізодычна; зусім абегла паказана фігура Сямёнчыка; больш шырока, праўда, разгорнут вобраз Панаса, але адзін гэты вобраз, зразумела, не прадстаўляе сабой конкрэтызацыі ўсёй ідэі партыйнага кіраўніцтва. Таксама ня справіўся Галавач і з аадачай абрысоўкі рабочых брыгад: яны паданы вельмі эскізна, тут яскрава выступае ўсё тая-ж гуаш—вадзяныя фарбы, толькі з прымесьсю бяліл.

Статычны падыход да рэчаіснасьці асабліва яскрава выявіўся ў абрысоўцы Клемса, у гэтым вобразе серадняка не разгорнута дастаткова „супярэчлівая социяльная прырода“ селяніна. Мы бачым Клемса пераважна ўжо ў постаці новага чалавека, але гэта пераробка серадняка не прадстаўлена ў дынамічным разрэзе; мы назіраем вельмі хуткі скачок Клемса ад індывідуазіму да колектывізму; ад старых традыцый рэлігійнасьці да змаганьня з ёй, і г. д. Паказана новая якасьць у псыхолёгіі Клемса, але затушаваны процэс утварэньня гэтай якасьці. Адсюль фігура Клемса нагадвае нам першапачатковы прыём Галавача даваць нам застыглыя маскі.

Такім чынам там, дзе пісьменьнік цьвёрда стаіць на глебе дыялектычнага матэрыялізму (вобраз Каськевіча, Галіны, Мышкіна, і інш.), ён дае мастацкія зарысоўкі; там, дзе ён адыходзіць ад гэтай глебы, у яго ўтвараюцца пэўныя зрывы. Гэта лішні раз сьцьвярджае словы Леніна аб тым, што філёзофія марксызму ёсьць адзіна правільны мэтод як навукі, так і мастацтва. „Идя *по пути* марксовой теории,—пісаў Ленін,—мы будем приближаться к об‘ективной истине все больше и больше, никогда не исчерпывая ее; идя-же *по всякому другому пути*, мы не можем прийти ни к чему, кроме путаницы и лжи (X, стр. 115).

Мы можам цяпер зрабіць агульныя вывады.

Процэсы колектывізацыі знайшлі сабе далёка не аднолькавае адлюстраваньне ў розных клясавых стылях сучаснай беларускай літаратуры. У дробнабуржуазных пісьменьнікаў правага папутніцкага крыла, якое ў некаторых момантах змыкаецца з буржуазіяй, мы знайшлі пэўнае скажэньне рэчаіснасьцяй (Зарэцкі, Бядуля, Колас); у пісьменьнікаў левага папутніцкага крыла (Чорны, Гартны) таксама, як у сялянскім напрамку, істотнай заганай зьяўляецца павярхоўна-эмпірычны падыход да рэчаіснасьці, які прыводзіць да аднабаковага і няпоўнага яе адлюстраваньня, а ў некаторых момантах нават і да скажэньня яе. Наадварот, у пролетарскім напрамку, у творы Галавача дана параўнальна найбольш правільнае асьвятленьне процэсаў колектывізацыі.

## БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

### Сем дзён работы конфэрэнцыі МенАПП

Першыя-ж дні работы конфэрэнцыі МенАПП'у выявілі вялікую зацікаўленасьць да стварэньня беларускай пролетарскай літаратуры з боку партыйных і комсамольскіх організацый, з боку ўсёй пролетарскай грамадзкасьці.

Ударнікі соцыялістычнай індустрыі прад'яўляюць пролетарскім пісьменьнікам рахунак на больш хуткі і поўны паказ героізму вялікай эпохі будаваньня соцыялізму, на паказ герояў гэтай эпохі—лепшых ударнікаў.

Дэлегаткі Ўсебеларускага зьезду колгасьніц прад'яўляюць конфэрэнцыі свой рахунак. Так, ударніца-комунарка тав. Каваленка кажа:

— Пасьля работы мы часта яшчэ зацягваем старую нудную песьню. Чаму так? Чаму мы пяем старыя, забабонна-рэлігійныя песьні? У гэтым вінаваты вы, пролетарскія пісьменьнікі і поэты. Вы абавязаны напісаць нам цікавую кніжку пра організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў. Мы чакаем ад вас бадзёрай і вясёлай песьні!

Ударнік-курсант АБВШ т. Богуш прад'яўляе Беларускай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў свой рахунак: тэматыка пра Чырвоную армію, пра ўмацаваньне абараназдольнасьці краіны павінна заняць большае месца ў творчасьці пролетарскіх пісьменьнікаў.

Комсамол яшчэ раз паўтарае свой рахунак. Піонэры і школьнікі—свой.

Пролетарскі пісьменьнік. — гаворыць у сваім выступленьні Платон Галавач,—павінен працаваць так, як працуе савецкая краіна, як працуе наша рабочая кляса—ударная брыгада сусьветнага пролетарыяту.

Тав. Чарнушэвіч, загадчык культпропу ЦК КП(б)Б, у сваёй прамове кажа:

— Задача пролетарскай літаратуры — паказваць усю веліч будаваньня соцыялізму, узьнімаць энтузіязм, організоўваць волю і пачуцьці працоўных мас, якія пад кіраўніцтвам партыі выконваюць гістарычнай значымасьці работу.

Тав. Чарнушэвіч падкрэсьлівае вялікія дасягненьні, якія мае беларуская пролетарская літаратура. Пролетарская літаратура,—кажа тав. Чарнушэвіч.—значна прасунулася наперад і ўжо сёньня аказвае вялікую дапамогу партыі і пролетарыяту ў іх рабоце.

МенАПП, як аснова арганізацыі БелАПП'у, правяла вялікую работу па закліку ўдарнікаў у літаратуру. Але ўсё-ж гэтыя посьпехі і перамогі нас задаволіць і супакоіць ня могуць. Пролетарская літаратура яшчэ значна адстае ад размаху соцыялістычнага будаўніцтва.

Далей тав. Чарнушэвіч паказвае на неабходнасьць больш цеснай сувязі пролетарскага пісьменьніка з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва.

Спрэчкі па заслуханых на конфэрэнцыі МенАПП дакладах ператварыліся ў шырока разгорнутую творчую дыскусыю. Выступленьні на конфэрэнцыі тав. Шаранговіча, Гаўладзеда, Чарнушэвіча, Гарына, Кавальчука, Платуна, а таксама вялікая ўвага і зацікаўленасьць з боку партыйнай і пролетарскай грамадз-

касьці, далі магчымась узьняць абмеркаваньне творчых пытаньняў барацьбы за вялікае бальшавіцкае мастацтва на высокую прынцыповую вышыню.

Першага сьнежня ўвечары на заключным пасяджэньні выступіў сакратар Менскага Гаркому КП(б)Б тав. Кавальчук.

— Прачытаўшы першы зборнік творчасьці ўдарнікаў, закліканых у літаратуру,—кажа тав. Кавальчук,— сэрца радуецца за тыя новыя пролетарскія кадры, якія ідуць з нашых фабрык і заводаў тварыць вялікае мастацтва бальшавізму. У сувязі з гэтым перад намі стаіць задача вялікай важнасьці — разгарнуць шырокую выхаваўчую работу сярод закліканых ударнікаў, дапамагчы ім аўладаць „тэхнікай мастацтва“, аўладаць марксыцка-ленінскім сьветапоглядам.

У спрэчках па дакладах прымалі ўдзел т.т.: Лынькоў, Барашка, Баранавых, Гараўскі, Харык, Каваль, Кузьма Чорны, Шаўцоў, Стэльмах, Крапіва, Глебка, Ліхадзіеўскі і інш.

Пасьля заключнай прамовы т. Бэндэ адбыліся выбары новага бюро МенАПП'у. У склад бюро ўвайшло 15 таварышоў, сярод іх—Александровіч, Чарот, Швэйдэль (ударнік друкарні імя Сталіна), Шаўцоў (завод імя Варашылава), Броўка, Бранштэйн, Куніцкі і інш. Сакратарыят МенАПП'у выбран з 5 таварышоў. Адказным сакратаром асоцыяцыі выбран Андрэй Александровіч, другім сакратаром рабочы - ўдарнік тав. Швэйдэль.

Конфэрэнцыя МенАПП'у прайшла пад знакам разгорнутай бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі, пад знакам далейшага разгортваньня творчай дыскусыі. Конфэрэнцыя перарасла ў факт усебеларускага значэньня і паставіла перад белаппаўскімі організацыямі цэлы рад актуальных задач у іх далейшай рабоце.

Сем дзён работы конфэрэнцыі фактычна зьяўляецца пачаткам тэй шырокай творчай дыскусыі, якая павінна быць неадкладна разгорнута ў організацыях БелАПП'у.

## Дэкаднік Усесаюзнай Комуністычнай Акадэміі ў БССР

З 11-га па 22-е сьнежня ў БССР быў праведзены дэкаднік Комуністычнай Акадэміі СССР. Дэкаднік распачаўся ўрачыстым пасяджэньнем прэзыдыуму Камакадэміі СССР, на якім выступілі з прамовамі прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Наук т. П. О Горын і віцэ-прэзыдэнт Комуністычнай Акадэміі тав. Пашуканіс. Ва ўрачыстым пасяджэньні прымалі ўдзел: прэзыдыум Беларускай Акадэміі Наук, Калегія Наркамасьветы, Праўленьне асоцыяцыі навуковых таварыстваў, бюро сэкцыі навуковых работнікаў, сакратарыят БелАПП'у, партыйныя, комсамольскія і профсаюзныя організацыі.

На працягу дэкадніка ў Менску зроблены наступныя даклады работнікамі Комуністычнай Акадэміі.

12 сьнежня—тав. Варга—„Сусьветны крызіс і клясавая барацьба сусьветнага пролетарыяту“; 13-га сьнежня—тав. Гатаўскі—„Проблема грошай і рынычных адносін на новым этапе“; 14-га сьнежня—т. Дубыня — „Політычныя ўрокі ліста тав. Сталіна для гістарычных навук“; 15-га сьнежня—тав. Бутаеў—„Уступленьне ў пэрыод соцыялізму“; 16-га сьнежня—тав. Арцеяў—„Кандрацьцеўшчына і барацьба партыі супроць правага і „левага“ ўхілаў ў аграрным пытаньні“; 17-га сьнежня—тав. Бурдзянскі—„Шляхі бальшавіцкага аўладаньня тэхнікай“; 18-га сьнежня—тав. Кольман—„Становішча і задачы фронту прыродазнаўства“; 19 га сьнежня—т. Дыманштэйн — „Нацыянальная політыка СССР“; 20-га сьнежня—т. Рэзунаў—„Асноўныя пытаньні савецкай дзяржавы на даным этапе“; 21-га сьнежня—тав. Міцін—„Барацьба за ленінізм у філёзофіі“ і 22-га сьнежня—

тав. Вермінічаў—„Вынікі і пэрспэктывы колгаснага будаўніцтва“.

Усе адзінаццаць пасяджэньняў дэкадніка прайшлі з вялікай актыўнасьцю. Усе даклады і шырокае абгавараньне іх праходзілі пад кутом гледжаньня перабудовы тэорэтычнага фронту ў БССР на аснове паказаньняў тав. Сталіна.

Прэзыдэнт БАН т. Горын у гутарцы аб выніках дэкадніка Комакадэміі паведаміў наступнае:

— Дэкада Комакадэміі ў БССР, організаваная па ініцыятыве Беларускай Акадэміі Наук прайшла з вялізарным уздымам. Зараз яшчэ цяжка падвесьці вынікі гэтай дэкады, якая адыграла выключную ролю ў справе інтэрнацыянальнага выхаваньня мас, якая паставіла рад актуальнейшых навуковых проблем, узмацніла сувязь навуковых устаноў БССР з усесаюзным цэнтрам марксыцка-ленінскай навукі — Комакадэміяй. Аднак і сёньня ўжо можна зрабіць некаторыя вывады.

Дэкаднік прайшоў пад кутом разгортваньня бязьлітаснай барацьбы за марксыцка-ленінскую мэтодолёгію на ўсіх вучастках тэорэтычна навуковай работы.

Даклады Комакадэміі ахапілі самыя актуальныя пытаньні міжнароднага пролетарскага руху, проблемы соцыялістычнага будаўніцтва, гісторыі, філёзофіі і прыродазнаўчых навук. Трансляцыя пасяджэньняў дэкадніка па радыё адыграла асаблівую ролю, і дзесяткі тысяч рабочых і колгасьнікаў мелі мажлівасьць слухаць даклады.

У канцы гутаркі тав. Горын выказаў самую глыбокую падзяку Комакадэміі ад пролетарскай грамадзкасьці БССР за тое, што яна горача адгукнулася на прапанову Беларускай Акадэміі Навук організаваць дэкаднік у БССР, і падкрэсьліў, што неабходна, каб сувязь з Комакадэміяй, як цэнтрам марксыцкай навукі, у далейшым яшчэ больш расла і ўзмацнялася.

### Дзесяцігодзьдзе літаратурнай дзейнасьці Андрэя Александровіча

У сьнежні месяцы г. г. пролетарская літаратура Беларусі разам з усёй рабочай клясаю нашай краіны адзначае дзесяцігадовы юбілей творчасьці аднаго з лепшых сваіх прадстаўнікоў—Андрэя Александровіча. Тав. Бэндэ ў артыкуле ў „Зьвязьдзе“, прысьвечаным юбіляру, гаворыць:

— Творчасьць Андрэя Александровіча на пэўным этапе яе разьвіцьця ўваходзіць у рэчышча пролетарскае літаратуры, як сустаўная і неадлучная яе частка.

Дзесяцігадовы творчы шлях пр-эта—складаны. Рост і посьпехі пролетарскай літаратуры наогул, рост і перабудова творчасьці Андрэя Александровіча ў прыватнасьці, — зьяўляюцца яскравым выяўленьнем і ілюстрацыяй правільнасьці ленінскай нацыянальнай політыкі перамогі рабочае клясы, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, у справе барацьбы за беларускую культуру. соцыялістычную па зьмесьце і нацыянальную па форме.

У справе росту і перабудовы творчасьці Александровіча, як пролетарскага пісьменьніка, рашаючую ролю адыграла БелАПП, ідэйна вядучы атрад усёй савецкай літаратуры БССР, якая пад кіраўніцтвам партыі змагаецца за вялікае бальшавіцкае мастацтва, за гегемонію пролетарскай літаратуры.

Далейшы творчы рост Александровіча, як пролетарскага пісьменьніка, будзе зьяўляцца важнейшым фактарам у справе заваяв ньня творчай гегемоніі пролетарскаи літаратуры.

18-га сьнежня ў Менскім Дзяржаўным тэатры, пад старшынствам наркома асьветы тав. Платуна адбыўся ўрачысты вечар, прысьвечаны дзесяцігодзьдзю літаратурнай работы Александровіча. Поэта віталі шматлікія прадстаўнікі партыйных, савецкіх і профэсыянальных органі-

зацый. З вялікай прамовай выступіў тав. М. М. Галадзед.

19-го сьнежня ў Доме Пісьменьніка адбыўся вечар сустрэчы юбіляра з пісьменьнікамі, літгурткоўцамі і рабочымі-ўдарнікамі, заклікаными ў літаратуру.

Андрэем Александровічам быў атрыманы цэлы рад прывітаньняў— ад Наркамасьветы БССР, БелФАСП'у, сакратарыяту БелАПП'у, ДВБ, ад рэдакцыі „Чырвонаармейскай праўды", прэзыдыуму БелЛАЧАФ, Галоўмастацтва БССР і інш.

### Адкрылася Беларуская Дзяржаўная бібліотэка

У дні Кастрычніцкіх сьвят на фронце культурнай рэволюцыі атрымана новая вялікая перамога: у Менску адкрылася Беларуская Дзяржаўная бібліотэка. Будынак мае тры паверхі, у якіх зьмешчаны шматлікія аддзелы бібліотэкі.

Першы паверх заняты аддзеламі комплектаваньня, прыёмкі і інвэнтарызацыі кнігі. Вельмі добра абсталявана чытальня новых кніжак, куды паступаюць усе выданыя ў апошні час кнігі і часопісы. Тут-жа разьмешчана выстаўка кніжак і часопісаў, якія выдаюцца ў СССР.

Самым багатым і вялікім у бібліотэцы зьяўляецца аддзел тэхнікі. Гэты аддзел атрымлівае звыш 150 замежных часопісяй па розных галінах. Ён будзе абслугоўваць тэхнічнай літаратурай прадпрыемствы ВНУ і рабочых вынаходцаў.

Беларускі аддзел налічвае 34 тысячы томаў. Тут можна знайсьці ўсе кніжкі і часопісы па розных галінах літаратуры і навукі, якія толькі выдаюцца на беларускай мове. Побач—невялікі аддзел Заходняй Беларусі, багаты матэрыяламі для вывучэньня гэтай краіны, якая стогне пад пятой польскага імпэрыялізму.

У бібліотэцы адкрыты польскі і яўрэйскі аддзелы; яны сконцэнтравалі літаратуру, выданую на мовах нацменшасьцяй.

Нарэшце, бібліотэка мае вельмі прыгожую, вялікую залю для чытаньня. Першы чым трапіць у залю чытач праходзіць праз даведча-бібліографічны аддзел. Пры дапамозе консультантаў ён атрымлівае адказ на ўсё пытаньні, якія яго цікавяць. Заля можа абслужыць за дзень звыш тысячы чалавек. Побач з заляю ёсьць асобныя пакоі для аспірантаў і навуковых работнікаў.

Кнігасховы бібліотэкі разьлічаны на 600.000 томаў. З 1-га студзеня 1932 г., паводле пастановы СНК СССР, бібліотэка атрымлівае ў абавязковым парадку два экзэмпляры ўсіх кніг, якія выдаюцца ў Савецкім Саюзе.

Новая бібліотэка ў Менску зьяўляецца аднэй з лепшых і буйнейшых у Савецкім Саюзе.

### Усебеларуская партнарада па мастацтве

Усебеларуская партыйная нарада па пытаньнях мастацтва распачала сваю работу ў залі перапоўненай рабочымі, чырвонаармейцамі, акторамі і г. д. Гэтая ўвага да работы нарады, падкрэсьлівае вялізарную зацікаўленасьць шырокіх пластоў працоўных пытаньнямі далейшай барацьбы на адным з важнейшых вучасткаў соцыялістычнага будаўніцтва—на фронце мастацтва.

З уступнай прамовай выступіў загадчык культропу ЦК КП(б)Б тав. Чарнушэвіч. Ён адзначыў, што партыя ставіць перад мастацтвам надзвычай вялікія і адказныя задачы, што вырашэньне гэтых задач павінна нраходзіць у няпрымірымым змаганьні з клясава-варожымі плынямі на ідэолёгічным фронце, у наближэньні ўсяго мастацтва да рабочага гледача і слухача, у перабудове ўсяго мастацкага фронту ў адпаведнасьці з новай абстаноўкай, з новымі ўмовамі работы.

Тав. Чарнушэвіч у сваёй прамове аддаў шмат увагі становішчу буржуазнага мастацтва, прывёўшы шмат-

лікія факты аб патухаючай крывой мастацтва ў капіталістычных краінах.

Тав. Платун у сваім дакладзе аб задачах мастацтва ў рэконструкцыйны пэрыод падрабязна спыніўся на пытаньнях барацьбы КП(б)Б за стварэньне пролетарскага мастацтва, прааналізаваў работу тэатраў, Белдзяржкіно і зьвярнуў асаблівую ўвагу дэлегатаў нарады на неабходнасьць шырокага разгортваньня самадзейнага мастацтва.

На ранішнім пасяджэньні 8-га сьнежня нарада заслухала рапарт аккорскага колектыву БДТ2

З вялікім дакладам выступіў прадстаўнік Комуністычнай Акадэміі СССР, рэдактар часопісу „Литература и искусство" тав. Дынамаў аб „Лісьце тав. Сталіна і задачах тэорэтычнага фронту мастацтва". Потым нарада заслухала даклад т. Гурскага аб задачах плянаваньня мастацтва ў БССР.

На вячэрнім пасяджэньні 8-га сьнежня ў спрэчках выступіў т. Лібедзінскі Л.

Тав. Лібедзінскі падрабязна спыняецца на пытаньнях барацьбы з літфронтаўшчынай, паказвае на шкоднасьць „лявацкіх" загібаў у літаратуры і мастацтве, гаворыць аб тым, што літфронтаўшчына вядзе да схэматызму, да абязьлічкі ў паказе рабочага, да паказу яго адарванага ад масы і г. д.

— Патрэбна наладзіць конкрэтную работу па падтрыманьні маладых парасткаў у пролетарскай музычнай культуры,—зазначае т. Лібедзінскі. Ён ва ўсю шырыню ставіць задачу аб вырабе музычных інструмантаў, аб скарыстаньні спэцыялістаў па гэтай справе, якія ёсьць у БССР.

Да канца другой пяцігодкі ў кожным сельсавеце павінен быць організаваны музычны гурток! Дзесяткі тысяч працоўных павінны быць навучаны музычнаму мастацтву.

З прамовамі па дакладах т.т. Платуна, Дынамава і Гурскага выступілі т.т. Александровіч, Рафальскі, Шамшур і інш.

9-га сьнежня нарада заслухала даклады т.т. Вольскага і Канакоціна аб чарговых задачах тэатральнага мастацтва ў БССР.

Тав. Канакоцін у сваім дакладзе падрабязна спыніўся на пытаньнях барацьбы за творчы мэтод, за аўладаньне работнікамі мастацтва марксыцка-ленінскай тэорыяй.

— Толькі праз аўладаньне зброяй марксыцка-ленінскай тэорыі, — падкрэсьліў дакладчык,—магчыма правільна пазнаваць, правільна паказваць і выкрываць усю складанасьць клясавай барацьбы і будаўніцтва соцыялізму на даным этапе.

Пролетарская драматургія і тэатр павінны даць мастацкія творы аб героічнай барацьбе пролетарыяту і працоўных у барацьбе за соцыялізм, павінны сваім мастацкім паказам мобілізаваць шырокія масы працоўных на змаганьне за генэральную лінію партыі, супроць усякіх скажэньняў ленінскай нацыянальнай палітыкі.

10-га сьнежня на нарадзе з дакладам аб самадзейным мастацтве і ТРАМ'аўскім руху выступілі т.т. Шамшур і Клімковіч.

Нарада прайшла пад знакам разгорнутай барацьбы за стварэньне мастацтва, вартага вялікай эпохі будаўніцтва соцыялізму.

*Рэдакцыйная колегія*: Ал. Сянкевіч, А. Некрашэвіч, Р. Мурашка, П. Галавач, С. Рычкоў.

*Выдавец*: Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі

## ЗЬМЕСТ

